# ЛЕКСІКА ГАВОРАК БЕЛАРУСКАГА ПРЫПЯЦКАГА ПАЛЕССЯ

## *Атлас. Слоўнік*




Мінск, «Права і эканоміка», 2008

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа
і Янкі Купалы

БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОНД
ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

# ЛЕКСІКА ГАВОРАК БЕЛАРУСКАГА ПРЫПЯЦКАГА ПАЛЕССЯ

## АТЛАС

## СЛОЎНІК

МІНСК
ВТАА "Права і эканоміка"
2008

УДК 808.26-3
ББК 83.3
Л43

Укладальнікі:

Г.Ф. Вештарт, Ф.Д. Клімчук, У.А. Кошчанка, І.І. Лапуцкая, І.І. Лучыц-Федарэц

Пры падрыхтоўцы выдання былі выкарыстаны матэрыялы
Л.Ц. Выгоннай (па тэме “Земляробчая лексіка”),
А.С. Сакалоўскай (па тэме “Назвы адзення і абутку”),
Г.А. Цыхуна (па тэме “Назвы посуду”)

Рэдактары:

Ф.Д. Клімчук, У.А. Кошчанка, І.І. Лапуцкая

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук А.А. Акуленка
кандыдат філалагічных навук П.А. Міхайлаў

Рэкамендавана да друку
вучоным саветам Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

Л43 **Лексіка гаворак** Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. / Г.Ф. Вештарт, Ф.Д. Клімчук, У.А. Кошчанка, І.І. Лапуцкая, І.І. Лучыц-Федарэц; Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 353 с. – ISBN 978-985-442-618-1.

**УДК 808.26-3**
**ББК 83.3**



Праца выдадзена пры фінансавай падтрымцы Беларускага
рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў

**ISBN 978-985-442-618-1**

**ЗМЕСТ**

## ПРАДМОВА

Палессе прыцягвае пільную ўвагу вучоных з XIX ст. Мяркуецца, што гэтая зона ўнікальная, а ў плане мовазнаўчым – архаічная, паколькі, на думку вучоных, праз Палессе пралягалі шляхі першага масавага перасялення праславян на ўсход. Таму структурна-тыпалагічны аналіз семантычных зрухаў і перабудоў у лексіцы, які праводзіцца ў нашым даследаванні, набывае першараднае значэнне.

Як паказалі многія карты, што адлюстроўваюць архаічную лексіку, пучкі ізалекс дзеляць тэрыторыю Беларускага Прыпяцкага Палесся на дзве часткі – заходнюю і ўсходнюю. Мяжа паміж імі ўмоўна праходзіць па лініі рэк: Ясельды – Прыпяці – Гарыні.

Прыблізна такое ж дзяленне праследжваецца і ў археалагічных культурах. Коратка разгледзім іх.

Засяленне Палесся, якое пачалося пасля адступлення ледніка ў мезаліце, працягвалася таксама і ў неалітычны перыяд. Мезалітычныя стаянкі чалавека размяшчаліся на прыбярэжных дзюнах і радзей – на абалонах рэк. Абломкі гліняных сасудаў, знойдзеныя на пасяленнях, адносяцца да трох асноўных археалагічных культур: грабеньчатай керамікі, лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар. Найбольш праўдападобнае існаванне палескіх пасяленцаў з грабеньчатай керамікай адносіцца да IV–II тыс. да н. э.; пасяленні з лейкападобнымі кубкамі размяшчаюцца ў заходніх раёнах, суседніх з Польшчай – гэтая культура прыйшла на Палессе з захаду: яна склалася ў раёне паміж Эльбай і Віслай і недзе каля 2100 г. да н. э. была выцеснена прышлымі плямёнамі культуры шарападобных амфар.

У самым пачатку эпохі бронзы (бронзавы век прыпадае на другую палову III тыс. – сярэдзіну II тыс. да н. э.) на Палессі з’яўляюцца помнікі шнуравой керамікі, якія можна датаваць толькі прыблізна: усходнепалескія, як і помнікі сярэднедняпроўскай культуры, – да 2100–1500 гг. да н. э., а заходнепалескія звычайна датуюцца археолагамі перыядам 1800–1400 гг. да н. э. Большасць даследчыкаў мяркуе, што носьбіты культуры шнуравой керамікі – індаеўрапейцы (продкі славян, балтаў, германцаў і інш.).

Іх змяняюць помнікі дзвюх блізкіх культур: тшцінецкай (у заходніх раёнах), – яе помнікі можна датаваць перыядам з 1500 да 1200 гг. да н. э., і сасніцкай (усходнія раёны), помнікі якой адносяцца да перыяду з другой паловы II тыс. – да пачатку I тыс. да н. э. Пазней, перад пачаткам жалезнага веку (IX–VII ст. да н. э.) яны змяняюцца помнікамі мілаградскай культуры. Тшцінецкія помнікі дажылі на Палессі аж да паяўлення там помнікаў лужыцкай культуры; яны з’явіліся тут яшчэ ў бронзавым веку і існавалі да пачатку жалезнага веку. На самым поўдні Заходняга Палесся на мяжы з Валынню ўзнікаюць блізкія да лужыцкіх помнікі высоцкай культуры. І адны, і другія працягвалі існаваць яшчэ і ў пачатку жалезнага веку, а потым іх месца занялі помнікі паморскай культуры, тэрыторыя пашырэння якой на Палессі супадае з распаўсюджаннем тут помнікаў лужыцкай культуры (якая прасціралася ад Балтыкі да Дуная і ад Шпрэі ва ўсходняй Германіі да Валыні) у XV—IV стст. да н. э.

Археолагі мяркуюць, што помнікі лужыцкай культуры – гэта ўжо славянскія помнікі, а мілаградскія помнікі і помнікі культуры штрыхаванай керамікі (VII ст. да н. э. – V ст. н. э.) належалі балцкім плямёнам. Як і раней, назіраецца ўсё тая ж прывычная для Палесся карціна: яго заходнія раёны складаюць ўсходнюю ўскраіну сярэднееўрапейскіх культур, а ўсходнія з’яўляюцца ўскраінай прыдняпроўскіх культур, і мяжа паміж імі, як і раней, праходзіць па лініі рэк: Ясельда – Прыпяць (да Гарыні) – Гарынь.

У канцы II ст. да н. э. (да IV ст. н. э.) па ўсёй тэрыторыі Палесся на поўдзень ад Ясельды паяўляюцца помнікі зарубінецкай культуры (III ст. да н. э. – V ст. н. э.), якая – першая з часоў неалітычнай культуры грабеньчатай керамікі) – на нейкі час аб’яднала заходнія раёны з паўднёва-ўсходнімі ў адно цэлае. Археолагі мяркуюць, што зарубінецкая культура этнічна з’яўляецца славянскай.

Але ў II ст. н. э. з паўночнага захаду ўварваліся готы і роднасныя ім іншыя германскія плямёны. Пасоўваючыся да Чорнага мора, яны занялі заходнія раёны Палесся і на нейкі час прыпыніліся на Валыні і Падоллі, а самая паўночна-ўсходняя ўскраіна (басейн Случы і Пцічы) працягвала быць балцкай (культура штрыхаванай керамікі). Гота-гепідская культура праіснавала ў Заходнім Палессі да канца IV ст. н. э., калі готы былі разбітыя ў Прычарнамор'і. Нейкі час, прыблізна да другой паловы VI ст. заходнія раёны былі незаселеныя. Пасля гэтага на месцы зарубінецкай культуры паяўляюцца помнікі пражскага тыпу (V–VIII ст. н. э.) – дакладна славянскія. Яны не знікаюць бясследна, як зарубінецкія, а звязваюцца ў часе і прасторы з познімі славянскімі помнікамі VIII–X стст., а праз іх – са старажытнаўсходнеславянскімі наступнага перыяду. Помнікі пражскага тыпу на тэрыторыі Палесся і Валыні складаюць усходнюю ўскраіну познепраславянскай тэрыторыі. Яны, хутчэй за ўсё, належалі дулебам.

Пасля аварскага нашэсця ў VI ст. н. э. помнікі пражскага тыпу распаліся на дулебскую групу (заходняя частка) і на драўлянскую (усходняя частка). На поўнач, за лінію Ясельда – Прыпяць, помнікі пражскага тыпу не пашыраюцца. І балты ў V–VIII стст. сядзелі на тых жа самых месцах – на поўнач ад Прыпяці, – што і плямёны культуры штрыхаванай керамікі. У пачатку X ст. дулебы разам з драўлянамі і іншымі славянскімі плямёнамі ўваходзілі ў Кіеўскую дзяржаву і нават удзельнічалі ў паходзе Ігара на Царград. Пасля гэтага часу іх назва знікае з нашых летапісаў, уступіўшы месца валынянам і бужанам, якія ў X–XIII стст. займалі тую ж тэрыторыю, што і дулебы ў папярэдні перыяд.

Аднак назва *дулебы* сустракаецца ў гістарычных помніках на іншых славянскіх тэрыторыях. Так, у географа Баварскага і арабскага гісторыка аль-Масудзі (X ст.) згадваецца пра горад Dudleby і племя Dulaba; адзін раз у чэшскага храніста Космы згадваецца пра горад Dudlebi ў паўднёвай Чэхіі. Тэрыторыя ду(д)лебаў размешчана ў верхнім басейне р. Влтавы.

Наступная тэрыторыя, дзе адзначаны яе жыхары як Dudleipa, Dudleipin – гэта Панонія (у дакументах зальцбургскага архібіскупа Людвіка з 860 г.), а таксама пасяленне Du(d)lieb у заходняй Карынціі. Адносна апошніх Л. Нідэрле меркаваў, што гэтую назву сюды прынеслі панонскія дулебы.

Гэтыя чатыры лакалізацыі назваў, звязаных з дулебамі, ілюструюць шлях міграцыі славянскіх плямёнаў з Заходняга Палесся, які праходзіў ад р. Буг праз паўднёвую Чэхію ў Ніжнюю Панонію і далей – у заходнюю Карынцію (G. Labuda. Starożytności Słowiańskie. T. 1 C–D. Wrocław—Warsawa–Kraków. C. 399–401).

З X ст. н. э. (а, магчыма, яшчэ раней – з VIII ст.) у раёнах на поўнач ад Прыпяці, занятых калісьці балтамі, паяўляюцца помнікі славянскіх плямёнаў дрыгавічоў. Усё Палессе стала славянскім.

Такім чынам, к пачатку II тысячагоддзя н. э. Палессе поўнасцю стала славянскім: знікае рэзкае дзяленне Палесся на дзве гістарычна-культурныя вобласці – заходнюю і ўсходнюю. Гэтае дзяленне, выклікане наяўнасцю рознага паводле этнічнай прыналежнасці насельніцтва робіць немагчымым сцвярджаць, што Палессе было прарадзімай славян. Мы прытрымліваемся думкі, што прарадзіма славян знаходзілася на захад ад Палесся – на тэрыторыі паміж Одэрам і Віслай, і што Палессе і суседняя Валынь былі ўсходняй ускраінай гэтай прарадзімы.

Трэба, аднак, падкрэсліць, што славяне з Палесся хадзілі на поўдзень яшчэ раней. Частка іх разам з готамі пасля іх разгрому гунамі ў 375 г. уваходзіла ў гунскі племянны саюз, які ўзнік у басейне Дняпра ў IV ст. н. э. У VI ст. частка ўсходнепалескіх славян пайшла разам з гунамі ў Прычарнамор'е, другая частка – у VII ст. – з булгарамі (цюркскімі дружынамі) на тэрыторыю сучаснай Усходняй Балгарыі. Мяркуецца таксама (Бязлай, 1969), што адбывалася перасяленне ўсходнепалескіх насельнікаў у Славенію. Гэтым можна растлумачыць шэраг палеска-балгарскіх, палеска-славенскіх і літоўска-славенскіх ізалекс, якія нельга растлумачыць як праславянскія архаізмы. З візіготамі славяне дайшлі аж да Іспаніі.

Блізкасць рассялення балтаў і праславян спрыяла таму, што да вылучэння праславянскай мовы як самастойнай недзе на пачатку II тыс. да н. э. існаваў кароткі перыяд балта-славянскага адзінства. Балта-славянская група – самая цесная ў індаеўрапейскай сям'і група з пункту гледжання блізкасці і падабенства моў пасля індаіранскай.

Першы, асноўны перыяд праславянскай мовы працягваўся да V ст. н. э. да вялікіх міграцый праславян на ўсход, захад і поўдзень. Каля IV ст. н. э. праславянская мова ўжо займала тэрыторыю паміж Одрай і Віслай і Сярэднім Дняпром, на поўначы – да Балтыйскага мора і Мазурскага Прыазёр'я, Падляшша і басейна Прыпяці, на поўдні – да Карпат і Судэтаў. У V ст., як гаварылася, гэтыя тэрыторыі пашырыліся ў кірунку Верхняга Дняпра і на поўнач ад Прыпяці, на былыя балцкія землі. Пасля 500 г. н. э. славяне перайшлі Карпаты і Судэты. У VI–VII стст. яны запаланілі ўвесь Балканскі паўвостраў, пранікаючы нават у Пелапанес і на астравы Эгейскага мора.

У VI ст. славянамі былі заселены Усходнія Альпы (цяперашняя Ніжняя Аўстрыя, Штырыя і Карынцыя).

Да X ст. славяне занялі вялізныя абшары ад поўдня Ютланскага паўвострава да Фінскага заліва і вытокаў Акі і Волгі (на поўначы) да Сярэдняга Дняпра (на ўсходзе) і да Ніжняй Лабы, Чэшскага Лесу і ўсходніх Альпаў – на захадзе.

Як доўга працягваўся перыяд праславянскай мовы? Як паказваюць меркаванні вучоных, X век быў важным перыядам канчатковага распаду праславянскага адзінства, аддзялення паўночных славянаў ад паўднёвых. Гэтаму спрыяў прыход мадзьяраў у IX ст. у Панонію. З дыялектна-дыферэнцыраванай праславянскай мовы паступова вылучаюцца асобныя славянскія мовы (F. Sławski. Języki indoeuropejskie, II. Warszawa, 1988, PWN. C. 908–914).

Аднак асобная палеская мова не ўзнікла – не спрыялі гістарычныя абставіны. Як ускраінная тэрыторыя, Палессе заўсёды ўваходзіла ў вялікія і моцныя тэрытарыяльныя ўтварэнні. Нягледзячы на гэта палескія гаворкі выяўляюць архаічны характар, хоць і з'яўляюцца вельмі разнастайнымі. Калі на іншай беларускай тэрыторыі гаворкі больш-менш блізкія паміж сабой, аднастайныя, то на Палессі гаворкі суседніх вёсак значна адрозніваюцца адна ад адной. Гэты факт можа тлумачыцца як шматлікімі міграцыямі на працягу гістарычнага перыяду, так і прытокам суседняга насельніцтва (у асноўным – з украінскай тэрыторыі), які неаднаразова меў месца пасля разбуральных і знішчальных войнаў, што неаднаразова пракочваліся праз Палессе і Беларусь.

Актыўнае вывучэнне гаворак Беларускага Палесся пачалося ў 60-х гадах мінулага стагоддзя пасля прыняцця рэзалюцыі Першай усесаюзнай каардынацыйнай нарады па актуальных праблемах славяназнаўства, якая адбылася ў Маскве ў студзені 1961 г. Галаўной установай па распрацоўцы і даследаванні палескіх гаворак быў зацверджаны Інстытут славяназнаўства АН СССР. Кіраўніком тэмы быў прызначаны ст. нав. супрацоўнік Інстытута Мікіта Ільіч Талстой. Вывучэнне палескіх гаворак было ўключана ў сямігадовы навуковы план Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Інстытут вызначыў агульныя задачы даследаванняў, быў распрацаваны дэтальны план будучых работ. Кіраўнік тэмы прапанаваў свой метад збірання і апрацоўкі сабранага дыялектнага матэрыялу. Галоўная ўвага звярталася на метады і тэхніку збору, а таксама на семантыку слоў. Дакладнае выяўленне ўсіх значэнняў слова давала магчымасць для ўстанаўлення семантычных мікрапалёў з пэўнымі дыферэнцыяльнымі прыкметамі.

З 1962 г. пачаўся збор дыялектнага матэрыялу на тэрыторыі Палесся. У экспедыцыях прымалі ўдзел таксама супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Яны ў асноўным праводзілі апытанні ў вёсках Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Менавіта ў гэтай своеасаблівай лінгвістычнай вобласці інтэнсіўнасць моўных кантактаў ніжэйшая, чым у іншых зонах Беларусі, што дало магчымасць выявіць рэальную карціну першасных узаемаадносін гэтых гаворак. Важнасць палескага дыялектнага матэрыялу ў сувязі з гэтым павышаецца пры рэканструкцыі папярэдніх этапаў развіцця славянскіх моў.

Беларускімі вучонымі была сабрана лексіка па наступных тэмах: ганчарная тэрміналогія, тапаніміка, назвы адзення (В.Л. Вярэніч), назвы ежы (Г.Ф. Вештарт), сельскагаспадарчая тэрміналогія (Л.Ц. Выгонная), рыбалоўная і ганчарная тэрміналогія (А.А. Крывіцкі), назвы адзення і абутку (А.С. Сакалоўская), назвы посуду (Г.А. Цыхун), будаўнічая тэрміналогія (М.С. Шушкевіч, Н.Д. Корань).

Маскоўскімі даследчыкамі быў сабраны матэрыял па тэрміналогіі ткацтва (Н.Г. Уладзімірская), па тэрміналогіі транспарту (Л.І. Масленікава), па тэрміналогіі пчалаводства (В.В. Анохіна і ўкраінскі вучоны М.В. Ніканчук), па батанічнай тэрміналогіі (Д.А. Бейліна), па назвах птушак (М.В.Ніканчук).

Папярэднія матэрыялы і вынікі даследавання на іх аснове былі апублікаваны ў зборніках “Лексіка Палесся. Матэрыялы для палескага дыялектнага слоўніка” (Выд-ва “Наука”. М., 1968 г., 476 стар.) і ў зборніку “Полесье” (Лингвистика. Археология. Топонимика) (Выд-ва “Наука”. М., 1968 г., 304 стар.).

Далейшы збор дыялектнага матэрыялу і яго апісанне працягвалі ў II палове 60– пач. 70-х гг. мінулага стагоддзя Л.Ц.Выгонная, Г.Ф.Вештарт, А.С.Сакалоўская па ўказаных вышэй тэмах. Назвы дома і гаспадарчых збудаванняў па новай праграме збіраў І.І. Лучыц-Федарэц.

Пэўная частка сабранай лексікі была даследавана імі ў падрыхтаваных і абароненых дысертацыйных працах на атрыманне ступені кандыдата філалагічных навук. Другая частка выкарыстана ў прапануемым даследаванні (пры складанні атласа і слоўніка лексікі Беларускага Прыпяцкага Палесся). Акрамя таго пры падрыхтоўцы выдання “Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся” улічваліся матэрыялы, апублікаваныя ў выглядзе як асобных слоўнікаў (Л.Ф. Шаталава. “Беларускае дыялектнае слова”. Выд-ва “Навука і тэхніка”, Мн., 1975; Т.С. Янкова. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны, Мн., 1982; Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча, т. 1–5, Мн., 1979–1986; Тураўскі слоўнік, т. 1–5, Мн., 1982–1987; І.М. Кучук, А.К. Малюк. Палескі слоўнік: Лельчыцкі раён. Мазыр, 2000 г.; Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989 г.; “Матэрыялы для слоўніка Гомельшчыны” ў “Беларуская мова і мовазнаўства”, вып. 3–4, Мн., 1975–1976, і ў “Беларуская мова”, вып. 5–10, Мн., 1977–1982 гг.), так і з падборак дыялектнага матэрыялу, якія змешчаны ў дыялектных зборніках: “З народнага слоўніка” (Мн., 1975 г.), “Народнае слова” (Мн., 1976 г.), “Народная лексіка” (Мн., 1977 г.), “Жывое слова” (Мн., 1978 г.),

Выданне “Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся” складаецца з дзвюх звязаных паміж сабой раздзелаў (атласа і слоўніка), у якіх прадстаўлены некалькі груп палескай лексікі: “назвы дома і гаспадарчых збудаванняў”, “земляробчая лексіка”, “назвы ежы”, “назвы адзення і абутку”, “назвы посуду”.

Карты атласа складзены на аснове матэрыялу слоўніка і вышэй названых крыніц. Тэма кожнай карты раскрываецца ў яе назве.

У слоўніку, які налічвае больш за 3500 слоўнікавых артыкулаў, прадстаўлены наступныя групы лексікі: “назвы дома і гаспадарчых збудаванняў”, “земляробчая лексіка”, “назвы ежы”, “назвы адзення і абутку”. Кожная група прадстаўлена асобным падраздзелам.

Рэестравым словам слоўнікавага артыкула ўзята адпаведнае слова беларускай літаратурнай мовы. У выпадках, калі ў літаратурнай мове няма адпаведніка, рэканструяванае слова пададзена ў квадратных дужках ([ ]). Адразу за рэестравым словам даюцца фанетычныя варыянты лексемы з указаннем месца запісу. Пры наяўнасці некалькіх значэнняў слова лічбы пунктаў прыводзяцца пасля кожнага з іх, а таксама пасля кожнага з прыкладаў. Далей падаецца значэне (або значэнні) лексемы; пасля кожнага значэння лексемы ставіцца нумар населенага пункта, у якім зафіксавана дадзеная лексема ў гэтым значэнні. Калі значэнне вядома ва ўсіх населеных пунктах, нумары іх за значэннем адсутнічаюць. Значэнне большасці лексем праілюстравана прыкладамі

ўжывання. Кожны фанетычны варыянт лексемы артыкула мае асноўныя граматычныя пазнакі (род, лік, трыванне і г. д.).

Лексемы ў слоўніку дадзены ў спрошчанай фанетычнай транскрыпцыі (*ы – і, э – е, а – а, о – о, у – у* абазначаюць (адпаведна) галосныя ў парах з цвёрдымі і мяккімі зычнымі). Мяккасць зычных перадаецца значком ’, падоўжаныя зычныя – падваеннем, графема *ґ* абазначае *г* выбухное, а *г – г* фрыкатыўнае, *й – і* нескладовае і йот.

У некаторых слоўнікавых артыкулах прыводзяцца фразеалагічныя злучэнні, у якія ўваходзіць рэестравае слова. Злучэнні падаюцца пасля значэння і аддзяляюцца ад яго ромбам ◊.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

*гл.* – глядзі
*дзеясл.* – дзеяслоў
*ж. р.* – жаночы род
*зак.* – закончанае трыванне
*зборны* – зборны назоўнік
*зневаж.* – зневажальнае
*м. р.* – мужчынскі род
*мн.* – множны лік
*н. р.* – ніякі род
*незак.* – незакончанае трыванне
*памянш.* – памяншальнае
*параўн.* – параўнай
*прым.* – прыметнік
*прысл.* – прыслоўе
*рэдк.* – рэдкае
*трад.* – традыцыйнае

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

**Брэсцкая вобласць**

***Камянецкі раён:***

1 –- Камянюкі, 2 – Бярозаўка, 3 – Бародзічы, 4 – Расна, 5 – Войская (Вайская), 6 – Замосты, 7 – Воўчын, 7а – Баршчэва (Баршчова), 7б – Ставы, 8 – Відамля.

***Брэсцкі раён:***

9 – Лышчыцы, 10 – Астрамечава, 11 – Трасцяніца, 12 – Малая Курніца, 13 – Нэплі, 14 – Хабы, 15 – Страдзечы (Страдзічы), 16 – Ляплёўка (Ліплёўка), 16а – Прыбарава, 17 – Камароўка, 20 – Радванічы, 20а – Міхалін (Міхаліны).

***Жабінкаўскі раён:***

18 – Абрамавічы (Абрамовічы), 18а – Крыўляны, 19 – Стрыганец, 19а – Ракітніца, 20, 20а – *гл.* Брэсцкі раён, 21 – Азяты.

***Маларыцкі раён:***

22 – Чарняны, 23 – Малінаўка, 24 – Вялікарыта, 25 – Гусак, 26 – Лукава, 27 – Забалацце (Забалоцце), 28 – Гвозніца, 29 – Макраны, 30 – Збураж, 31 – Радзеж, 32 – Олтуш, 33 – Навалессе, 34 – Арэхава.

***Пружанскі раён:***

35 – Брады, 35а – Перадзельск (Перадзейск), 36 – Харава (Харэва), 36а – Смаляніца, 36б – Мурава, 36в – Андрыянаўка, 37 – Гарадняны, 37а – Шарашова.

***Кобрынскі раён:***

38 – Тэўлі, 39 – Агароднікі, 40 – Запруды (Запруда), 41 – Залессе, 42 – Грушава, 43 – Чыжэўшчына, 44 – Пецькі, 45 – Гірск, 46 – Мяфёдавічы, 47 – Верхалессе, 48 – Добрае, 49 – Воса (Оса), 49а – Дзівін, 50 – Павіцце (Павіць, Повіць), 51 – Карталісы Ратненск. (Украіна).

***Бярозаўскі раён:***

52 – Сялец, 53 – Агароднікі, 54 – Малеч, 55 – Шылін, 56 – Нівы, 57 – Хрысы, 58 – Пузі, 59 – Здзітава (Здытава), 60 – Спорава, 61 – *гл.* Драгічынскі раён, 62 – Падкраічы, 63 – Боркі, 64а – Лясковічы.

***Драгічынскі раён:***

61 – Какорыца, 64 – Дзераўная, 64а – *гл.* Бярозаўскі раён, 65 – Сычы, 66 – Асаўляны, 66а – Акропна, 67 – Сіманавічы, 67а – Пікачы (Пыкачы), 68 – Хомск, 69 – Застаўе, 70 – Валавель, 70а – Падлессе, 71, – Ляхавічы, 71а – Зарэчка, 71б – Вялікі Лес, 72 – Сварынь,

72а – Радастава (Радастаў).

***Іванаўскі раён:***

73 – Опаль, 74 – Асаўніца (Асноўніца), 74а – Тышкавічы, 75 – Моладава, 75а – Буса, 75б – Дастоева, 76 – Сычэва, 77 – Вярхусце, 77а – Рудск, 78 – Варацэвічы, 79 – Яечкавічы, 79а – Вулька, Махро, 79б – Сулавы, 80 – Адрыжын.

***Івацэвіцкі раён:***

81 – Жытлін, 82 – Святая Воля, 83 – Горталь, 83а – Краглевічы, 83б – Амяльная, 84 – Рудня.

***Ляхавіцкі раён:***

85а – Мазуркі, 85б – Падлаззе.

***Пінскі раён:***

85 – Бобрык, 86 – Ліпнікі, 86а – Чухава, 87 – Пласкінь (Плоскінь), 87а – Чамля, 88 – Лышча, 88а – Мокрая Дуброва, 89 – Табулкі, 90 – Парэчча, 91 – Крыўчыцы, 92 – Выжлавічы, 93 – Ермакі (Выгонная), Заазер'е (Вештарт), 93а – Селішча (Сялішча), 94 – Велясніца, 95 – Жытнавічы, 95а – Ізін, 96 – Плешчыцы, 97 – Чорнава, 98 – Лапацін, 99 – Сямехавічы, 99а – *гл.* Іванаўскі раён: 72а – Махро; 100 – Хойна, 101 – Ласіцк, 102 – Барычавічы, 117а – Гальцы (Гольцы) (да 1987 г. у складзе Столінскага раёна).

***Ганцавіцкі раён:***

103 – Задуб'е, 103а – Хатынічы, 104 – Малькавічы (Малькевічы).

***Лунінецкі раён:***

105 – Велута, 105а – Чучавічы, 105б – *гл.* Салігорскі раён Мінскай вобласці, 106 – Грыбок, 107 – Бастынь, 108 – Лоўча (Лобча), 109 – Лунін, 110 – Дзятлавічы, 111 – Вулька II, 111а – Засценак, 112 – Красная Воля, 113 – Дварэц-Вічын (Вітчын), (Дварэц), 114 – Азярніца, 114а – Обруб, 115 – Кажан-Гарадок – Дрэбск, 115а – Лахва, 116 – Пясчанікі (Пяшчанікі, Пясчанкі), 116а – Любань, 121а – Сітніца, 134а – *гл.* Салігорскі раён Мінскай вобласці.

***Столінскі раён:***

117 – Кораб'е (Кароб'е), 117а – *гл.* Пінскі раён, 118 – Лядзец, 119 – Асавая (Асава), 119а – Стахава, 120 – Харомск, 121 – Альшаны, 121а – *гл.* Лунінецкі р-н, 121б – Рамель, 122 – Вялікае Малешава (Вялікі Малешаў), 122а – Цярэблічы, 123 – Аздамічы, 123а – Кароцічы (Карочычы), 124 – Рубель, 125 – Радчыцк (Радчыск), 126 – Гарадная, 127 – Дзераўная, 128 – Белавуша, 128а – Беражное, 129 – Манькавічы, 130 – Струга, 131 – Кашара Альманская (Кашара, Кашары), 132 – Альманы, 133 – Вялье, 133а – Рубрынь, 165а – Мярлін (Мэрлін), 171а – Колкі.

**<u>Гомельская вобласць</u>**

***Жыткавіцкі раён:***

134 – Мілевічы (Мілавічы), 134а – *гл.* Салігорскі раён Мінскай вобласці), 134б – Залюцічы, 135 – Грычынавічы, 136 – Юркевічы, 137 – Дзякавічы, 138 – Хвойка, 139 – Пухавічы, 140 – Навуць, 141 – Буда, 142 – Грэбень, 143 – Буразь (Буразі), 144 – Запясочча, 145 – Азяраны, 146 – Бечы (Беч), 147 – Хваенск (Хвоенск), 148 – Хлупін, 149 – Зябонь, 150 – Бярэжцы (Беражцы), 164 – Млынок-Пераpоўскі.

***Петрыкаўскі раён:***

151 – Яўсеевічы (Яўсевічы), 152 – Колкі, 153 – Залессе, 153а – Курыцічы, 154 – Вялікія Сялюцічы, 155 – Глінка, 156 – Аголічы, 157 – Галубіца, 157а – Дарашэвічы, 158 – Белка, 159 – Пціч, 159а – Конкавічы, 160 – Шастовічы (Шаставічы), 162а – Свіднае.

***Лельчыцкі раён:***

161 – Астражанка (Астрожанка), 162 – Замошша, 163 – Новае Палессе, Ударная (Ударнае), 164 – *гл.* Жыткавіцкі раён, 165 – Тонеж, 165а – *гл.* Столінскі р-н, 166 – Злодзін, 167 – Буйнавічы, 168 – Буда-Сафіеўка, 169 – Дуброва, 170 – Стадолічы, 171 – Дзяржынск, 171а – *гл.* Столінскі р-н, 172 – Мілашэвічы, 173 –Баравое, 174 – Гушкавічы, 175 – Запясочнае.

***Мазырскі раён:***

176 – Балажэвічы, 177 – Белая, 178 – Прудок, 179 – Бібікі, 180 – Мялешкавічы, 181 – Міхалкі.

***Ельскі раён*:**

182 – Вішанькі (Вішанька), 183 – *гл.* Нараўлянскі раён, 183а – Казловічы, 184 – Дабрынь (Добрынь), 184а – Кочышчы (Кочышча), 185 – Валаўск, 186 – Засінцы, 186а – Скароднае.

***Калінкавіцкі раён*:**

187 – Казловічы, 188 – Кротаў, 189 – Фабіянаўка, 190 – Дудзічы, 191 – Міхнавічы, 192 – *гл.* Рэчыцкі р-н, 192а – Вязавіца, 193 – Муціжар.

***Хойніцкі раён*:**

194 – Слабажанка.

***Нараўлянскі раён*:**

183 – Галоўчыцкая Буда (Буда Галаўчанская), 195 – Калінічы, 196 – Канатоп, 197 – Галоўчыцы, 198 – Вербавічы, 198а – Тульгавічы, 199 – Антонаў, 200 – Грушаўка, 201 – Лубень, 202 – Дзёрнавічы, 203 – Кіраў (Кірава), 204 – Даўляды, 205 – Хаткі.

***Рэчыцкі раён:***

192 – Глінная (Глінная Слабада).

**Мінская вобласць**

***Салігорскі раён:***

105б – Гаўрыльчыцы (да 1979 г. у складзе Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці), 134а – Хорастаў (да 1965 г. у складзе Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці).

**Украіна**

***Валынская вобласць:***

Ратнаўскі раён: 50а – Самары, 51 – Карталісы (Карталысы).

## КАМЕНТАРЫІ ДА КАРТ

Атлас ўключае 159 карт. Асновай 115 карт сталі матэрыялы кандыдацкіх дысертацый І.І. Лучыца-Федарца, Г.Ф. Вештарт і Л.Ц. Выгоннай:

– Вештарт Г.Ф. Лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя Прыпяцкага Палесся (на матэрыяле назваў ежы): Дыс. канд. філал. навук. Мінск, 1969.

– Выгонная Л.Ц. Палеская земляробчая лексіка (тыпалагічная і арэальная дыферэнцыяцыя): Дыс. канд. філал. навук. Мінск, 1969.

– Лучыц-Федарэц І.І. Лінгвагеаграфічнае размеркаванне і рэканструкцыя адной групы лексікі (жыллё і гаспадарчыя будынкі): Дыс. канд. філал. навук. Мінск, 1973.

Карты перапрацаваны з улікам дасягненнняў сучаснай беларускай і славянскай лінгвістычнай картаграфіі.

У Атласе захавана сетка, прынятая І.І. Лучыцам-Федарцом, Г.Ф. Вештарт, Л.Ц. Выгоннай да карт у сваіх дысертацыйных працах. Гэтая ж сетка прынята да карт у калектыўнай манаграфіі “Лексіка Палесся ў прасторы і часе” (Мінск, 1971), аўтарамі якой з’яўляюцца І.І. Лучыц-Федарэц, Г.Ф. Вештарт, Л.Ц. Выгонная, а таксама В.У. Мартынаў (ён жа – рэдактар манаграфіі). У нашым выданні сетка карт некалькі пашырана за кошт новых лексікаграфічных матэрыялаў, выдадзеных пасля выхаду манаграфіі. Сетка ўключае каля 250 населеных пунктаў. Кожнаму населенаму пункту адпавядае нумар на карце. Каля нумароў пастаўлены значкі. Кожны значок абазначае лексему ці словаформу, занатаваную ў дадзеным населеным пункце ці ў суседніх пунктах.

43 карты распрацаваны Ф.Д. Клімчуком спецыяльна для дадзенага выдання. Асноўны матэрыял для іх узяты з кандыдацкай дысертацыі А.С. Сакалоўскай “Лексічная тыпалогія гаворак Прыпяцкага Палесся (на матэрыяле назваў адзення і абутку” (Мінск, 1967) і артыкула Г.А. Цыхуна “Палескія назвы посуду, бочак, кошыкаў і іншых ёмістасцей” (у зборніку “З народнага слоўніка”. Мінск: Навука і тэхніка, 1975, с. 184—203).

Пры складанні карт аўтары даследавання прытрымліваліся наступных агульнапрынятых прынцыпаў картаграфавання лексічных з’яў:

- корань слова звычайна абазначаецца фігурай (круг, трохвугольнік, квадрат і інш.);
- суфікс часцей за ўсё абазначаецца запаўненнем знака (поўнае запаўненне, палова, штрыхоўка);
- прыстаўка часцей за ўсё абазначаецца дадатковым значком звонку асноўнай фігуры;
- складанае слова абазначаецца ўпісваннем фігуры ў фігуру (трохвугольнік у крузе, трохвугольнік у квадраце і інш.);
- словазлучэнні абазначаюцца фігурай у фігуры;
- адзінкавыя назвы пераважна абазначаюцца спецыяльным простым сімвалам;
- моўныя асаблівасці іншага характару адлюстроўваюцца значкамі ўнутры знака ці звонку яго;
- азначэнні могуць картаграфавацца значкамі звонку знака або невялікімі дадатковымі значкамі каля асноўнага знака;
- націск можа быць абазначаны дадатковым простым значком звонку асноўнай фігуры.

Паводле гэтых прынцыпаў складзены ўсе карты, апрача 10 карт з раздзела “Назвы ежы”, пабудаваных з улікам сістэмы мікрапалёў. Ніжэй падаецца характарыстыка і структура мікрапалёў.

### Характарыстыка мікраполя (каментар да картаў мікрапалёў)

Па мікрапалях картаграфуюцца семантычна ўскладненыя лексемы з поўным аб’ёмам значэнняў і ў суадносінах з іншымі лексемамі ( назвы прыёмаў ежы, назвы прадуктаў і

некаторых страў, некаторых працэсаў прыгатавання ежы). Пад семантычна ўскладненымі лексемамі маюцца на ўвазе лексемы, якія ў розных гаворках абазначаюць розныя члены аднаго семантычнага проціпастаўлення: ‘прыём ежы раніцай – прыём ежы ў полудзень’ можа ў розных гаворках мецць адну семантычна ўскладненую назву абед; семемы ‘кавалак хлеба наогул – тоўсты кавалак хлеба – першы кавалак хлеба ад новай буханкі’ ў розных гаворках могуць называцца *акрушак*. З вызначэння поўнага набору семем або дыферэнцыяльных прыкмет (ДП)у адной лексіка-семантычнай групе пачынаецца пабудова семантычнага мікраполя. ДП лічыцца рэлевантнай, калі яна выражаецца асобнай лексемай або семантычнымі проціпастаўленнямі сінанімічных дыялектных назваў пры іх паралельным ужыванні. Паводле наяўных семантычных проціпастаўленняў вызначаецца набор ДП – клетак мікраполя. Межы атрыманага такім чынам мікраполя практычна супадаюць з аб’ёмам значэнняў апорнай, семантычна найбольш развітай лексемы, часам пераўзыходзячы яго за кошт рэальных ДП. Мікраполе ўключае ў сябе максімальную колькасць ДП, з якіх не ўсе могуць рэалізавацца ў асобных гаворках. Мікраполе фактычна з’яўляецца той сеткай-мадэллю, па якой праводзіцца параўнанне асобных гаворак або моў у межах адной лексіка-семантычнай групы.

Пасля пабудовы мікраполя на атрыманую сетку-мадэль накладваецца канкрэтны лексічны матэрыял гаворак, выдзяляюцца тыпы і падтыпы мікраполя. Пры адрозненні хаця б у адной клетцы мікраполя, як правіла, гаворкі адносяцца да розных тыпаў. У выпадках, калі назвы вызначаюцца значнай сінанімічнасцю або прыкмета няўстойлівая на Палессі, пры адрозненні ў падобных клетках і тоеснасці ў астатніх гаворкі адносяцца да розных падтыпаў аднаго тыпу. Кожнаму тыпу можа быць прыпісаны асобны знак, а затым усе яны картаграфуюцца. У такім выпадку на карце адлюстроўваюцца не толькі семантычны аб’ём кожнай лексемы ў тым або іншым пункце, але і суаднесенасць паміж лексемамі.

**Структура асобных мікрапалёў**:

**Карта № 63**
Мікраполе ‘прыёмы ежы’

| Тыпы мікра поля | Назвы ранішняга прыёму ежы | Назвы сяроддзённага прыёму ежы | | Назвы прыёму ежы перад вечарам | Назвы вячэрняга прыёму ежы | Назвы памінальнага прыёму ежы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дома (поўны) | Не дома (не поўны) | | | |
| Іа | *абе́д* | *по́лудзень* | | – | *вячэра*, | *абе́д* |
| Іб | *абе́д* | *по́лудзень* | | – | *вячэра*, | *вячэра* |
| ІІ | *сне́данне* | *по́лудзень* | | *падвячо́рак* | *вячэра* | *абе́д* |
| ІІІа | *сне́данне* | *абе́д* | | *по́лудзень* | *вячэра* | ? |
| ІІІб | *сне́данне* | *абе́д* | | *по́лудзень* | *вячэра* | *вячэра* |
| ІІІв | *сне́данне* | *абе́д* | | *по́лудзень* | *вячэра* | *по́мінкі* |
| ІV | *сне́данне* | *абе́д* | *по́лудзень* | *падвячо́рак* | *вячэра* | ? |

**Карта № 64**
Мікраполе ‘сыр – тварог’

| Тыпы мікраполя | Назвы сыру | Назвы тварагу | Назвы розмінкі |
|---|---|---|---|
| Іа | *сыр* | *твaро́г* | *твaро́г*<br>*твaро́г са смята́най* |
| Іб | *сыр* | *твaро́г* | *мача́нне* |
| Ів | *сыр* | *твaро́г* | *ро́змінка* |

| II | *сыр* | | *тварóг* |
|---|---|---|---|
| IIIа | *сыр* | | |
| IIIб | *сыр* | | *смятáна* |
| IV | *сыр* | *вóдкідка* | – |

**Карта № 65**
Мікраполе ‘верх – смятана’

| Тыпы мікраполя | Назвы смятаны | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Знятая | | Не знятая | |
| | Кіслая | Не кіслая | Кіслая | Не кіслая |
| I | *смятáна* | | *верх* | |
| II | *смятáна* | *верх* | *смятáна* | *верх* |
| III | *верх* | *смятáна* | *верх* | *смятáна* |
| IV | *верх* | | | |
| V | *смятáна* | | | |

**Карта № 66**
Мікраполе ‘буханка – пірог’

| Тыпы мікраполя | Назвы буханкі | |
|---|---|---|
| | Жытняй | Пшанічнай |
| I | *бухáнка* | *пірóг* |
| II | *бухáнка* | *бýлка* |
| II | *бýлка* | *пірóг* |
| IV | *кулíдка* | *пірóг* |
| V | *малáй* | *пірóг* |
| VIа | *кулíдка* | *бýлка* |
| VIб | *кулíдка, паляніца* | *бýлка* |
| VII | *кулíдка* | *паляніца* |

**Карта № 67**
Мікраполе ‘юшка — расол – квас’

| Тыпы мікра поля | Вадкае наогул | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | У вараным | У квашанай, соленай гароднiне | | | У селядцы |
| | | У капусце | У агурках | У бураках | |
| I | *шчóлак* | *расóл* | | | *ляк* |
| II | *шчóлак* | *расóл* | | *квас* | *ляк* |
| II | *юшка* | *расóл* | | | *ляк, слядзíўка* |
| IV | *юшка* | *расóл* | | *квас* | *ляк* |
| V | *юшка* | *юшка* | *расóл* | *квас* | *прасóл* |
| VI | *юшка* | *ляк* | *расóл* | *квас* | *ляк* |
| VII | *юшка* | *расол* | *расóл* | *квас* | *юшка* |
| VIII | *юшка* | *расол* | *расóл* | *квас* | *рапа расóл* |

| IX | *юшка* | *рапа* | *расóл* | *квас* | *рапа* |
|---|---|---|---|---|---|

**Карта № 68**
Мікраполе ‘галоўка – качан’

| Тыпы мікра поля | Назвы галоўкі | Назвы палавіны галоўкі | Назвы храпкі | Назвы капусты |
|---|---|---|---|---|
| Іа | *галóўка* | *палавіна* | *качáн* | *капýста* |
| Іб | *галóўка* | *палютка* | *качáн* | *капýста* |
| Ів | *галóўка* | *скрыль* | *качáн* | *капýста* |
| ІІа | *качáн* | *палавіна* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІІб | *качáн* | *плáшка* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІІІв | *качáн* | *палютка* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІІІг | *качáн* | *плітка* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІІІд | *качáн* | *палóйка* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІУ | *качáн* | *палавіна* | *хрáпка* | *капýста* |
| ІІ | *палютка* | *палавіна* | *качáн* | *капýста* |

**Карта № 69**
Мікраполе ‘сала – здор – затаўка’

<table>
<tr><th rowspan="2">Тыпы мікра поля</th><th colspan="3">Верхняе сала</th><th colspan="3">Нутраное сала</th></tr>
<tr><th>Тоўстае</th><th>Наогул</th><th>Тонкае</th><th>Тоўстае</th><th>Наогул</th><th>Тонкае</th></tr>
<tr><td>Іа</td><td colspan="3">сáла, саланіна</td><td colspan="3">сáла</td></tr>
<tr><td>Іб</td><td>сáла, саланіна</td><td colspan="5">сáла</td></tr>
<tr><td>ІІ</td><td colspan="5">сáла</td><td>здор</td></tr>
<tr><td>ІІІа</td><td colspan="3">сáла</td><td colspan="2">сядрó, мел, сáла</td><td>сáла</td></tr>
<tr><td>ІІІб</td><td colspan="3">сáла</td><td>здор, сáла</td><td colspan="2">сáла</td></tr>
<tr><td>ІІІв</td><td colspan="3">сáла</td><td>зáтаўка сáла</td><td colspan="2">сáла</td></tr>
<tr><td>IV</td><td colspan="3">шпéрка</td><td>здор сáла</td><td colspan="2">сáла</td></tr>
<tr><td>V</td><td>саланіна</td><td>сáла</td><td>шпéрка</td><td colspan="3">сáла</td></tr>
<tr><td>VI</td><td colspan="3">сáла</td><td colspan="3">здор</td></tr>
<tr><td>VII</td><td colspan="3">сáла</td><td colspan="2">зáтаўка</td><td>атóчыны</td></tr>
<tr><td>VIII</td><td colspan="3">сáла</td><td colspan="2">зáтаўка</td><td>здор атóчыны</td></tr>
<tr><td>IX</td><td colspan="3">сáла</td><td>здор зáтаўка</td><td colspan="2">зáтаўка</td></tr>
<tr><td>X</td><td colspan="3">сáла</td><td colspan="2">здор</td><td>атóчыны</td></tr>
</table>

**Карта № 70**
Мікраполе ‘пячы – пражыць’

| Тыпы мікра поля | Пячы сала | Пячы на тлушчы | Пячы без тлушчу | Пражыць гарох |
|---|---|---|---|---|
| I | *сква́рыць* | *сма́жыць* | *пячы* | *пра́жыць* |
| IIa | *пячы* | | | *пра́жыць* |
| IIб | *пячы* | | | ? |
| III | *пячы* | *сма́жыць* | *пячы* | *пра́жыць* |
| IV | *п р а́ ж ы ц ь* | | *пячы* | *пра́жыць* |
| V | *пра́жыць* | *сма́жыць* | *пячы* | |
| VI | *с м а́ ж ы ц ь* | | *пячы* | |
| VII | *жа́рыць* | *сма́жыць* | *пячы* | *пра́жыць* |

**Карта № 71**
Мікраполе ‘лупіць – шкрэбці’

| Тыпы мікраполя | Чысціць бульбу | | |
|---|---|---|---|
| | Маладую | Старую | Вараную |
| I | *скаблі́ць* | | *лупі́ць* |
| II | *скраба́ць* | *скаблі́ць* | *абіра́ць* |
| III | *скрабта́ць* | *абіра́ць* | |
| IV | *скраба́ць* | *абіра́ць* | *лупі́ць* |
| V | *скаблі́ць* | *абіра́ць* | *лупі́ць* |
| VI | *скаблі́ць* | *абіра́ць* | |
| VII | *скаблі́ць* | *абраза́ць* | *лупі́ць* |
| VIII | *скрэбці* | *абраза́ць* | *лупі́ць* |
| IX | *скрэбці* | *лупі́ць* | |
| X | *скрэбці* | | *лупі́ць* |
| XI | *чохаць* | *шкрэбці* | *лупі́ць* |
| XII | *скаблі́ць* | *лупі́ць* | |

**Карта № 72**
Мікраполе ‘свежы – салодкі – прэсны’

| Тыпы мікра поля | Свежы (нядаўні) | Свежы (не квашаны) | Недастаткова кіслы | Без закваскі |
|---|---|---|---|---|
| I | *све́жы* | *сало́дкі* | *прэсны* | *прэсны* |
| II | *све́жы* | *сало́дкі* | *прэсны, сало́дкі* | *прэсны* |
| III | *све́жы* | *сало́дкі* | *сало́дкі* | *прэсны* |
| IV | *све́жы, прэсны* | *прэсны, сало́дкі* | *сало́дкі* | *прэсны* |

Пры дапрацоўцы карт для “Атласа лексікі Палесся” выкарыстаны дадатковыя матэрыялы, якія часцей за ўсё адсутнічаюць у названых вышэй дысертацыйных працах. У тых выпадках, калі гэта палявыя матэрыялы, яны прыводзяцца ніжэй. Калі ж гэта матэрыялы, узятыя з апублікаваных крыніц, яны ў нашай працы за рэдкімі выключэннямі не прыводзяцца (акрамя знакаў на картах).

## Дадатковы матэрыял, выкарыстаны пры стварэнні карт па тэме "Назвы ежы"

**Архіў Ф.Д. Клімчука**

У дужках падаецца нумар карты, на якой адпаведная лексема картаграфуецца.

Вёска **Сіманавічы** Драгічынскага раёна: *молокó с-пуд (од) корóвы* (72), *кы́слэ молокó* (73), *пырэ́пычок* (74), *лу́ста* (75), *скы́бка* (75), *окру́жчык* (76), *окрáйчык* (77), *пáрыш* (78), *затíрка* (79), *зáтырка* (79), *соломáха* (79), *галушкы́* (80), *лóкша* (81), *тю́ра* (82), *каплу́н* (82), *картóплі* (83), *солё́нці* (84), *картóплі з лупяйкáмы* (85), *пычóнці* (86), *крышаны́* (87), *товчэ́ня* (88), *бáбка* (89), *блін* (90), *картопля́ный блін* (91), *кыпятóк* (92), *квáшылына* (93), *юць* (94), *юць з мня́сом* (94), *салтісóн* (94), *скалкы́* (95), *кровянáя кубасá* (96), *тэ́рты* (97), *крáяты* (98), *гы́ркэ* (99), *зжóвклэ* (99), *осу́шчык* (100), *ґу́ля* (100), *лыпэ́нык* (101), *крыша́н* (102), *коржí* (103), *кóржыкы* (103), *скоры́нка* (104), *голóвка* (105), *палю́тына* (106), *шкваркы́* (107), *тлу́ста* (108), *прíсный* (109), *лупы́ты* (110), *обрíзуваты* (111), *скрыптáты* (112), *лупяйкы́* (113), *шкаралю́па* (114), *кру́пнык* (115), *кулíш*, устарэлае (115). Матэрыял картаграфуецца пад № 67 сеткі атласа.

Вёска **Асаўляны** Драгічынскага раёна: *пырэ́пычок* (74). Матэрыял картаграфуецца пад № 66 сеткі атласа.

Вёска **Заверша** Драгічынскага раёна: *млынэ́ць* (90), *картоплё́вый млынэ́ць* (91). Матэрыял картаграфуецца пад № 69 сеткі атласа.

Вёска **Заяленне** Драгічынскага раёна: *млынэ́ц* (90). Матэрыял картаграфуецца пад № 68 сеткі атласа.

Вёска **Опаль** Іванаўскага раёна: *палю́тына* (106). Матэрыял картаграфуецца пад № 73 сеткі атласа.

Вёска **Пяркі** Кобрынскага раёна: *крáяты* (98). Матэрыял картаграфуецца пад № 43 сеткі атласа.

Вёска **Радастава** Драгічынскага раёна: *палё́шкэ* (80), *пудпáлокь* (90). Матэрыял картаграфуецца пад № 72а сеткі атласа.

Вёска **Смаляніца** Пружанскага раёна: *крóіці* (98). Матэрыял картаграфуецца пад № 36а сеткі атласа.

Вёска **Субаты** Драгічынскага раёна: *шкваркэ́* (107). Матэрыял картаграфуецца пад № 165 сеткі атласа.

Вёска **Церабяжоў** Столінскага раёна: *блінéц* (90). Матэрыял картаграфуецца пад № 130 сеткі атласа.

## Дадатковы матэрыял, выкарыстаны пры стварэнні карт па тэме "Назвы дома і гаспадарчых збудаванняў"

**Архіў Ф.Д. Клімчука**

У дужках падаецца нумар карты, на якой адпаведная лексема картаграфуецца.

Вёска **Сіманавічы** Драгічынскага раёна: *буды́нок* (1), *ку́чка* (2, 12), *двир, пудвúр'е* (3), *зáгородка* (4), *гумнó* (5), *хлів* (6, 7, 8), *хлíвчык, хлывэ́ць* (151), *свыны́нэць* (152), *сты́йло* (153), *клу́ня* (155), *сылны́к* (156), *зымня́* (157), *сторонá* (158), *пры́сторонок* (17), *вы́шкы* (18), *стэ́ля* (19), *на хáты* (20), *сцё́пка* (21), *комóра* (21), *скопэ́ць* (23), *бурт* (24), *я́рус* (24), *рэ́я* (24), *лёх* (25), *пудлóга* (26), *пудру́ба* (28), *колэ́шня* (29), *сíны* (30), *горóджа* (31), *плыт* (33), *баля́скы* (34), *штахэ́ты* (36), *баркáн,* устарэлае (36). Матэрыял картаграфуецца пад № 67 сеткі атласа.

Вёска **Спорава** Бярозаўскага раёна: *клю́ня* (13). Матэрыял картаграфуецца пад № 60 сеткі атласа.

Вёска **Асаўляны** Драгічынскага раёна: *сíны* (30). Матэрыял картаграфуецца пад № 66 сеткі атласа.

Вёска **Субаты** Драгічынскага раёна: *склеп* (25). Матэрыял картаграфуецца пад № 65 сеткі атласа.

## Дадатковы матэрыял, выкарыстаны пры стварэнні карт па тэме “Назвы адзення”

**І. Архіў Ф.Д. Клімчука**

У дужках прыводзіцца нумар карты, на якой пракартаграфавана лексема.

Вёска **Відзібар** Столінскага раёна: *облямýвка* (116), *волóкы* (117), *óбув* (119), *óбуй* (119), *обýток* (119), *одэ́жа* (120), *вдэ́жа* (120), *плáтте* (120), *опы́начка* (121), *домоткáн* (122), *чóботы* (123), *вáлёнкы* (124), *пацюркы́* (125), *раднó* (126), *кудэ́ляна радю́жка* (127), *ґарýнкы* (128), *кусны́к* (129), *кумнíр* (130), *воротнíк* (новае) (130), *клынóк* (131), *нáволочка* (132), *нáволока* (132), *намíтка* (133), *плáтте* (адзенне) (134), *пóяс* (125), *крáйка* (135), *пíрнач (одывáтыса)* (136), *пыры́на (под бук)* (136), *рóспорка* (137), *солóмнянык* (140), *сукэ́нка* (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 119 сеткі атласа.

Вёска **Дружылавічы** Іванаўскага раёна: *облямíвка* (116), *волóкы* (117), *óбув* (119), *óбуй* (119), *óбуя* (119), *одэ́жа* (120), *опы́начка* (121), *чóботы* (123), *вáлінкы* (124), *вáлёнкы* (рэдк.) (124), *радю́га* (127), *ґарýнкы* (128), *косны́к* (129), *комнíр* (130), *воротнíк* (новы крой) (130), *клын* (131), *свы́голь* (рэдк., звычайна ў кашулі) (131), *нáволока* (132), *нáволочка* (малая) (132), *нáмытка* (133), *пóяс* (135), *пáзушка* (137), *солóмнянка* (140), *сукэ́нка* (141), *плáтте* (новае, рэдк.) (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 77 сеткі атласа.

Вёска **Камянюкі** Камянецкага раёна: *волóкы* (117), *óбув* (119), *óбуй* (119), *удэ́жа* (120), *одэ́жа* (120), *óдяга* (120), *вылíка хýстка* (121), *чóботы* (123), *вáлянкы* (124), *пацё́ры* (125), *пóстылка* (127), *бры́жы* (128), *кытáйка* (129), *кумны́р* (130), *воротнíк* (новае) (130), *клінóк* (131), *нáволочка* (132), *пóяс* (135), *рóспорка* (137), *сы́ннык* (140), *каптáн* (141), *плáтте* (рэдк., новае) (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 1 сеткі атласа.

Вёска **Ласіцк** Пінскага раёна: *облямíвка* (116), *волóкы* (1172), *óбуй* (119), *одэ́жа* (120), *чóботы* (123), *вáлянкы* (124), *пацёркы́* (125), *раннó* (126), *радю́жка* (127), *карýнкы* (128), *лéнта* (вузкая) (129), *косны́к* (шырокі) (129), *ковнíр* (130), *ля́стка* (у штанах) (131), *вýставка* (наогул) (131), *нáволочка* (132), *нáволока* (132), *плáтте* (бялізна) (134), *пóяс* (135), *крáйка* (135), *прóрэзка* (137), *солóм’янка* (140), *сíлнык* (рэдк.) (140), *сýкня* (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 101 сеткі атласа.

Вёска **Пяркі** Кобрынскага раёна: *облямíвка* (116), *волóкы* (117), *óбув* (119), *обýвка* (119), *óбуй* (119), *одэ́жа* (120), *охы́лянка* (121), *вылы́ка хýстка* (121), *чóботы* (123), *вáлянкы* (124), *пацё́ры* (часцей) (125), *пацёркы́* (рэдк.) (125), *раднó* (126), *радю́шка* (127), *корýнкы*; *однá корýнка* (128), *кытáйка* (129), *косны́к* (вузенькі) (129), *комнíр* (130), *воротнíк* (новае) (130), *цвы́гэль* (наогул) (131), *лáстовка* (у штанах) (131), *нáволочка* (132), *нáволока* (вылыка) (132), *плат* (133), *плáтте* (жаночая сукенка) (134), *пóяс* (135), *рóспорка* (137), *сíнных* (140), *плáтте* (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 43 сеткі атласа.

Вёска **Радастава** Дагічынскага раёна: *нáшывка* (116), *вулóкэ* (117), *вóбуй* (119), *óбуй* (рэдк.) (119), *вдэ́жа* (120), *накрывнáя хýстка* (121), *чóбутэ* (123), *вáлінке* (124), *пацюркэ́*; в Пóвіті – *пацё́рэ* (125), *радю́шка* (127), *карýнка* (128), *пíдяшка* (129), *кытáйка* (129), *кумíр* (130), *лáстка* (131), *клэн* (131), *нáвулука* (132), *нáмэтка* (133), *плáте* (жаночая сукенка) (134), *крáйка* (шырокая) (135), *пóяс* (вузкі) (135), *рóспурка* (у штанах) (137), *сулóмнянык* (140), *плáте* (141), *пустулэ́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 72а сеткі атласа.

Вёска **Сіманавічы** Драгічынскага раёна: *облямы́ва* (116), *волóкы* (117), *насты́лнык* (118), *óбуй* (119), *одэ́жа* (120), *гóпынка* (121), *гандарáк* (122), *чóботы* (123), *вáлінкы* (124), *пацёркы́* (125), *раднó* (126), *радю́шка* (127), *карýнкы* (128), *пудвы́чка* (129), *кумíр* (трад.) (130), *воротнíк* (новае) (130), *цвы́хэль* (131), *клынóк* (131), *клын* (131), *нáволока* (132), *нáволочка* (малéнька) (132), *нáмытка* (133), *плáтте* (жаночая сукенка) (133), *пóяс* (135), *пíрнач* (136), *рóспорка* (прарэх у спадніцы і ў штанах колішняга крою; у штанах новага крою – рэдк.) (137), *рубáшка* (верхняя мужчынская кашуля) (139), *сорóчка* (ніжняя

мужчынская і жаночая кашуля) (139), *соло́мнянка* (140), *сі́ннык* (называюць у г. Драгічыне) (140), *пла́тте* (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 67 сеткі атласа.

Вёска **Спорава** Бярозаўскага раёна: *воло́кы* (117), *о́буй* (119), *одэ́жа* (120), *чо́боты* (123), *ва́ленкы* (124), *радно́* (126), *отрэ́пляна радю́шка* (127), *кумні́р* (130), *клыно́к* (131), *на́волока* (132), *пла́тте* (бялізна; жаночая сукенка) (134), *по́яс* (135), *шыру́нка* (у штанах) (137), *соло́мнянка* (140), *пла́тте* (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 60 сеткі атласа.

Вёска **Субаты** Драгічынскага раёна: *воло́кэ* (117), *настэ́лнык* (118), *о́буй* (119), *ода́жа* (120), *сае́н* (122), *чо́ботэ* (123), *ва́лінкэ* (124), *радно́* (126), *радю́шка* (127), *кару́нкэ* (128), *кута́ся* (1129), *на́мытка* (133), *пла́тте* (сукенка) (134), *по́яс* (135), *ро́спорка* (137), *пла́тте* (141), *постолэ́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 65 сеткі атласа.

Вёска **Сушыцк** Пінскага раёна: *обляму́ўка* (116), *воло́кы* (117), *о́буй* (119), *одэ́жа* (120), *опы́ночка* (121), *чо́боты* (123), *ва́лёнкы* (124), *патёркы́* (125), *радю́ш*$^{ж}$*ка* (127), *ґару́нкы* (128), *косны́к* (129), *ле́нта* (новае) (129), *ковні́р* (130), *клыно́к* (131), *ху́сточка* (131), *ла́сточка* (132), *на́волока* (132), *на́волочка* (132), *на́мэтка* (133), *пла́тте* (бялізна) (134), *кра́йка*, *по́яс* (135), *ро́спорка* (137), *сі́лнык* (140), *сукэ́нька* (141), *пла́тте* (новае) (141), *постолы́* (142). Матэрыял картаграфуецца пад № 93 сеткі атласа.

**II. Запісы, зробленыя рознымі выканаўцамі ў асобных вёсках**

Падаецца слова і (у дужках) нумар карты, у якой яно картаграфуецца.

Вёска **Мокрая Дуброва** Пінскага раёна (выканаўца – В.М. Шарая): *радно́* (126), *радю́жка* (127), *руба́шка* (верхняя мужчынская) (138). Матэрыял картаграфуецца пад № 88а сеткі атласа.

Вёска **Смаляніца** Пружанскага раёна (выканаўцы – А.А. Босак, В.М. Босак): *насто́льніца* (118), *одэ́жа* (120), *пацёркі́* (125), *радно́* (126), *гару́нкі* (128), *пэры́на* (136). Матэрыял картаграфуецца пад № 36а сеткі атласа.

Вёска **Старышова** Камянецкага раёна (выканаўца – В.М. Філосаф): *насту́льнык* (3), *удэ́жа* (120), *пацё́ры* (125), *радно́* (126), *дыру́жка* (127), *ґару́нкі* (128), *пыры́’на* (136). Матэрыял картаграфуецца пад № 6 сеткі атласа.

Вёска **Чухава** Пінскага раёна (выканаўца – В.А. Саланевіч): *радно́* (126), *радю́жка* (127), *руба́шка* (верхняя мужчынская) (138). Матэрыял картаграфуецца пад № 86а сеткі атласа.

## Дадатковы матэрыял, выкарыстаны пры стварэнні карт па тэме “Назвы посуду”

**I. Архіў Ф.Д. Клімчука**.

У дужках прыводзіцца нумар карты, на якой пракартаграфавана лексема.

Вёска **Відзі́бар** Столінскага раёна: *бу́йка* (143), *ба́нька* (144), *ча́рка* (145), *маку́тра* (146), *дойны́ца* (147), *пля́шка* (150), *ско́вородь* (151), *сковорода́* (151), *ночо́вкы* (152), *бо́чка на ва́рыво* (153), *збано́к* (154), *ку́бок* (155), *сыльні́чка* (157), *ополо́нык* (158), *чырпа́к* (новае) (158). Матэрыял картаграфуецца пад № 119 сеткі атласа.

Вёска **Дружылавічы** Іванаўскага раёна: *бі̋йка* (143), *збано́к* (144), *бу́нька* (рэдк.) (144), *по́рцыя* (145), *клі́шок* (145), *вэ́ртяга* (146), *макі̋тра* (146), *дойны́ца* (147), *пля́шка* (150), *пытэ́льня* (151), *сковорода́* (новае) (151), *бо́чка* (153), *соля́нка* (157), *ополо́нык* (158), *чырпа́к* (1158). Матэрыял картаграфуецца пад № 77 сеткі атласа.

Вёска **Камянюкі** Камянецкага раёна: *быя́нка* (143), *бу́нька* (144), *кылі́шок* (145), *вэ́ртяха* (146), *дойны́ця* (147), *на́бырка* (149), *пля́шка* (150), *пытэ́льня* (151), *сковорода́* (новае), (151), *ночо́вкы* (152), *бо́чка* (153), *соляны́ця* (157), *сту́пка* (157), *поло́нык* (158). Матэрыял картаграфуецца пад № 1 сеткі атласа.

Вёска **Ласіцк** Пінскага раёна: *бі́йка* (143), *ба́нька* (144), *по́рція* (145), *макі́тра* (146), *дойны́ца* (147), *набы́руха* (149), *пля́шка* (150), *ско́вородь* (151), *ночо́вкы* (152), *бо́чка* (153),

11, 13, 15, 18. остр’ішуванік *м.* 59. остр’ішўан’ік *м.* 36. остр’ішўаньік *м.* 60. остр’ішына *ж.* 75. остр’ішынньік *м.* 1. ôстр’ішок *м.* 4, 29. кулік, звязаныя пучкі саломы, якімі пакрываецца ніз страхі, першы рад.

**АСЦЯЖОРАК** асц’ажóрак *м.* 152. апоўзіны на стозе, у выглядзе жэрдкі з суччам. *гл.* **апоўзіны, астравец**.

**АЎЧАРНІК** аўчáрн’ік *м.* 152. говчáрн’ік *м.* 77. аўчáрн’ік *м.* 113, 114, 115, 183, 186. *гл.* **авечнік**.

**АЎЧАРНЯ** оўчáрн’а *ж.* 74, 75, 91, 144. авечнік. *гл.* **авечнік**.

**АХЛАПА** охлáпа *ж.* 87. охл’áпа *ж.* 117а. **1.** ачэп 117а. **2.** суцэльнае бервяно над вокнамі 87. *гл.* **ашлапа 2**.

**АХЛАПУН** охлапýн *м.* 17. ачэп.

**АЧЭП** ачэ́па *ж.* 103. ашчэ́п *м.* 151, 194, 204. ашчэ́па *ж.* 177. оўшчэ́па *ж.* 203. óчап *м.* 73, 82, 112, 144, 182, 195. очáпа *ж.* 65, 70. óч’іп *м.* 118. очóп *м.* 139. очэ́п *м.* 45, 80, 81, 136, 186. óчэп *м.* 113, 114, 121, 154, 161, 185. очэ́па *ж.* 1, 2, 4, 5, 6, 7, 8, 10, 11, 12, 14, 16, 17, 20, 25, 27, 28, 32, 35а, 36, 37, 49, 50, 54, 59, 64, 64а, 65, 66, 68, 69, 72а, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 83, 84, 87, 88, 89, 90, 91, 92, 93а, 99, 100, 104, 117а, 134, 163, 168. очóпа *ж.* 18. óшчып *м.* 170. ôчэ́па *ж.* 9, 13, 15, 29. учэ́п *м.* 72. ўчэ́п *м.* 69. ўшчэ́па *ж.* 119. шчып *м.* 158, 169. шчы́па *ж.* 169. шчэ́па *ж.* 185, 196, 201, 202, 204. ўчэ́па *ж.* 29. **1.** апошняе бервяно ў сцяне хаты, на якое кладуцца бэлькі 1, 2, 35а, 36, 59, 60, 64, 64а, 65, 68, 69, 72, 72а, 73, 77, 81, 87, 99, 103, 113. **2.** ачэп, які ляжыць пад бэлькамі (пераважна ў халодных будынках) 7, 8, 9, 10, 11, 12, 16, 18, 25, 27, 29, 32, 37, 45, 49, 50, 54, 59, 66, 73, 76, 80, 82, 83, 84, 87, 89, 90, 91, 92, 93а, 108, 119, 128, 144, 151, 169, 177, 185, 201. *гл.* **бервяно**. **3.** ачэп, які ляжыць на бэльках 4, 5, 6, 10, 11, 13, 14, 15, 17, 20, 25, 29, 32, 49, 70, 74, 75, 79, 83, 88, 92, 96, 100, 101, 103, 104, 117а, 118, 119, 128, 134, 163, 170, 194, 203, 204. **4.** ахлупное бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма 77, 78, 80, 108, 114, 128, 158. **5.** бервяно на сохах 15, 20, 60, 92, 118, 151. *гл.* **солам’е 1. 6.** доўгі хлеў на шулах 139. *гл.* **шулы**. **7.** вочапка ў каша 168, 186. **8.** вага ў студні з жураўлём 113, 121, 136, 154, 182, 185. **9.** вочап у студні з жураўлём 112, 114, 161, 195. **10.** драўляны шып 69, 185. *гл.* **тэбель**. **11.** ключыны ў гумне на сохах 169. **12.** драніца 196, 202, 204.

**АШАЛЁЎКА** ошал’óўка *ж.* 1, 29, 136. **1**. плінтус 29. **2.** шаляванне сцен хаты 1, 8, 17, 29, 36, 68, 77, 101, 118, 121, 182. **3**. шалёўка (у акне) 136.

**АШАЛЯВАННЕ** ашал’авáн’н’е *н.* 144. шалёўкі (дошкі).

**АШВАК** ошвáк *м.* 27, 34. óшваньік *м.* 92. ôшвáк *м.* 44. **1.** вушак 27, 34. **2.** шула ў сцяне 44, 92.

**АШЛАПА** ашлáп *м.* 158, 188, 191, 194, 195. ашлáпа *ж.* 181. ашлáпіна *ж.* 103. ашлáпіць *ж.* 180. ашлапнóе палéна 187. ошлáп *м.* 118, 170. ошлáпа *ж.* 169. ошлáпка *ж.* 161. ошлáпіць 198. шлап *м.* 128, 191. шлáп’іна *ж.* 177. **1.** ачэп 103, 118, 128, 139, 169, 170, 180, 181, 191. **2.** суцэльнае бервяно ў сцяне, якое кладзецца над прасценкамі (над вокнамі, дзвярамі) 103, 118, 161, 177, 181, 190, 194, 195, 198. *гл.* **ахлуп**. **3.** кладзь на шулах, якая звязвае ўсю сцяну 118, 169, 180, 194, 198.

**БАБА** бáба *ж.* 35а, 37. саха ў студні з жураўлём 35а, 37. *гл.* **стоўб**.

**БАБКІ** бáбк’і *мн.* 36, 52, 54. снапкі з саломы, з якіх складаецца саламяная страха (не ніжні край, а вышэй). Яны пакрываюцца коласам уніз. *гл.* **кýлік**.

**БАГРАК** баграќ *м.* 13. тоўстае бервяно, якое клалася на сохах; слемя. *гл.* **солам’е 1**.

**БАЙРАК** байрáк *м.* 103, 104, 110, 113, 144, 154, 158, 164, 165, 168, 181. **1.** зямлянка зімняя, будан у лесе, на балоце 103, 104, 158, 165, 181. *гл.* будка**. 2.** казармы, баракі ў рабочых 110, 113, 154, 164, 168. **3.** будан з загнутых дубцоў.

**БАЙСТРУК** байстрýк *м.* 29, 59, 176. **1.** малое бервяно, якім даточваецца іншае бервяно ў сцяне 59. **2.** кароткія бярвенні, якія кладуцца ў прасценках і міжаконню 176. **3.** адлегласць паміж бэлькамі 29.

**БАЛАГАН** балагáн *м.* 2, 4, 5, 10, 13, 14, 15, 17, 18, 38, 44, 50, 59, 64, 70а, 72, 76, 78, 81, 93а, 98, 101, 104, 108, 110, 113, 115, 116, 117а, 118, 119, 125, 128, 134, 139, 151, 153, 158, 159, 161, 163, 168, 170, 171, 181, 182, 185, 187, 191, 195, 198. балаѓáн *м.* 1, 5, 6, 7, 8, 9, 11, 12, 16, 25, 29, 35, 37, 45, 60, 76, 79, 121. балахóн *м.* 194. **1.** непарадак у хаце 6, 18, 117а, 119. // Тут нымá порáтку, сáмы балаѓáн 117а. **2.** спрэчка, крыкі, лямант 7, 9, 12, 13, 18, 37, 52, 128. **3.** ілгун, балбатун 153. **4**. *зневаж*. хата 8, 11, 44. *гл.* **хата**; *зневаж*. хлеў 60. **5.** будан з адным бокам страхі 83, 163, 170, 171. **6.** нязграбна зроблены будан 44. **7.** кашара 64. **8.** пастаўнік; загарадзь для коней 14. *гл.* **загарадзь**. для іншай жывёлы 2, 50, 72. **9.** будан з дошак на сенажаці 17. **10.** будан з галінак у лесе для пастуха 15, 78, 104. *гл.* **камарнік**. **11.** зямлянка для рабочых на лесараспрацоўках 25, 29. *гл.* **курэнь**. **12**. старожка 81. **13.** вялікі будан 4, 16, 110. *гл.* **будан**. **14.** сяльнік на балоце 8, 37. *гл.* **сяльнік**, **абарог**. **15.** павець для дроў 10, 12, 76, 79. **16.** для жывёлы тымчасовы хлеў з дошак 1, 10. **17.** павець ля хлява ці ў

садзе для сена, саломы, воза і іншага сельскагаспадарчага начыння 2, 12, 35, 45, 198. **18.** склеп для бульбы, пакрыты саломай 59. **19.** цыганскі шацёр, палатка 92, 93а, 98, 101, 108, 113, 115, 118, 121, 125, 139, 151, 158, 181, 185, 187, 191, 194, 195. **20.** месца, дзе расстаўляюцца цыганскія шатры 38. **21.** паўкруглая будка на возе 116. **22.** будан ля хлява 38. **23.** назва ўрочышча 161. **24.** буданчык з посцілкі на калочках 5, 7, 159, 182. *гл.* **халабуда**. **25.** посцілка з тычкамі над дзіцячай калыскай 11. **26.** мізэрны хлеўчык з плятня 5. **27.** будан з дошак ля хаты 88. **28.** нешта старое 70а. **29.** нешта недабудаванае 76.

**БАЛАГАНІСКА** балага́н’іско 111. зямлянка, будан на хутары, дзе гаспадар жыве цэлае лета.

**БАЛЕЧКА** ба́л’êчка *ж.* 55. ба́л’ічка *ж.* 35, 44, 128. ба́л’очка *ж.* 72а, 74, 76, 79, 99, 125. **1.** жэрдка ў хаце пад столяй ад печы да папярочнай сцяны, на якой вешалі адзенне 35, 44, 55, 72а, 74, 76, 79, 99, 128. *гл.* **градка**. **2.** жэрдка пад падстрэшкам у франтоне 125. *гл.* **дармавес**.

**БАЛЬ** ба́л’ *м.* 65, 92. **1.** бэлька 65. *гл.* **балька**. **2.** тоўстае, доўгае бервяно 92. *гл.* **дыль**.

**БАЛЬКА** ба́лка *ж.* 121, 159, 164, 183, 197. ба́л’ка *ж.* 6, 8—12, 14—18, 20, 25—28, 29, 35, 35а, 36, 37, 38, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 64—66, 68, 69, 70, 70а, 74, 76, 77, 78, 79, 80—84, 88—93а, 96, 99, 100, 102—104, 108, 110, 112—115, 117а, 118, 119, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 151—154, 158, 160—163, 168, 169, 173, 180—182, 187, 188, 190, 191, 195, 196, 198, 202—204. ба́л’ок *м.* 1, 2, 29, 31. бэ́л’ка *ж.* 4, 5, 7, 13. **1.** бэлька 1, 2, 4, 5—18, 20, 25, 26, 27, 29, 31, 32, 35а, 36, 37, 38, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 64, 65, 66, 68, 69, 70, 70а, 71, 72, 73, 74, 76, 77, 79, 80, 81, 82, 83, 84, 87, 88, 89, 90—92, 96, 99, 100, 102—104, 108, 110, 112—114, 115, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 152—154, 158, 159, 164, 168, 169, 170, 173, 180, 181—183, 187, 188, 190, 191, 196, 197, 198, 202, 203, 204. **2.** ачэп 9, 103, 113, 128, 144, 152, 154, 168. **3.** трама 8, 66, 81, 93а, 163, 195. **4.** бэлька на сохах 6, 17, 44, 73, 103, 104, 125, 128, 161, 191. **5**. жэрдка пад столлю, якая служыць для вешання адзення 35, 80, 96, 160, 191; ці для калыскі 73. **6.** брусы, на якіх ляжыць падлога 59. ◊ ***подоўжн’а –*** 50, 55. ◊ ***пуд саму ба́л’ку*** 125.

**БАЛЯСКІ** бал’а́сікі *мн.* 2. бал’а́ск’і *мн.* 52, 119, 125. бал’а́скы *мн.* 5, 20, 25, 29, 38, 44, 45, 74, 76, 78, 80, 89. бал’а́скэ *мн.* 50. бал’е́скэ *мн.* 45, 64, 66, 70, 70а. **1.** плот 52, 66, 70, 89, 119. **2.** агароджа, частакол 5, 20, 25, 29, 45, 50, 64, 70, 70а, 74, 76, 125. **3.** балясы, якія аддзяляюць амбон 2. **4.** поручні на мосце 38, 44.

**БАНТА** бант *м.* 9, 70. ба́нта *ж.* 15, 16, 31. бантíна *ж.* 31. банты́на *ж.* 5. бантíвка *ж.* 10, 11. банту́вка *ж.* 2, 4, 7. папярочнае бервяно паміж кроквамі; пояс, які злучае пасярэдзіне дзве кроквы паміж сабою. // Кл’уч’í йду́т’ ты́л’ко до банту́укы. *гл.* **пояс.**

**БАРАБАН** бараба́н *м.* 152. падстрэ́шак. *гл.* **шчыток**.

**БАРАК** бара́к *м.* 191, 201. барак. // Жывэ так у бараку 201.

**БАРАХЛО** барахло́ *н.* 114, 115, 121. *зневаж*. хата.

**БАР’ЕР** барйе́р *м.* 45 (новае слова), 76. **1.** загарадзь у полі, на двары, куды заганяюць цялят. **2.** завярэйка 76. (*гл.*)

**БАР’ЕРКА** барйе́рка *ж.* 89. плот з адной жэрдкі (па вышыні).

**БАРКАН** барга́н *м.* 79. барка́н *м.* 14, 81, 113—115, 118, 121, 125, 128, 136, 139, 144, 148, 154, 159, 160—162, 164, 168—173, 176, 177, 180—182, 185, 186, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. борка́н *м.* 165. **1.** паркан 14, 60, 81, 114, 115, 121, 136, 139, 144, 148, 154, 161—165, 168—171, 173, 176, 177, 180—182, 185, 186, 190, 191, 195, 198, 201, 203. *гл.* **плот**. **2.** плот 125. *гл.* **плот**. **3.** плот-штахеты 79, 113. *гл.* **плот**. **4.** высокі плот з дошак 160. *гл.* **плот**. **5.** загарад у хляве для жывёлы 115. **6.** перагародка ў хляве, за якой знаходзіцца сена 118, 128. **7.** засек у гумне 118, 168, 194. *гл.* **прыстаранак**. **8.** байструк 159. **9.** слуп, у які закладалі бярвенні 185.

**БАРКАНЕЦ** баркан’е́ц *м.* 136, 148, 163, 194. **1.** перагародка ў гумне, якая аддзяляе ток ад стараны 136, 148. **2.** паркан 163, 194.

**БАТАРЭЯ** батар’э́йа *ж.* 73, 78. доўгі плыткі капец бульбы.

**БАЦЬКАЎШЧЫНА** ба́т’куўшчына *ж.* 28. сядзіба.

**БАШНЯ** ба́шн’а *ж.* 70а. абарог.

**БЕРВЯНО** барв’іно́ *н.* 115. б’арв’ано́ *н.* 159. берв’ано́ *н.* 116, 148, 158. б’ервано́ *н.* 104. бэрв’іно́ *н.* 112, 114. бэ́рв’е́ *н.* 104. **1.** абчасанае бервяно, якое кладзецца ў сцяну 104, 112, 114, 115, 116, 148, 158. *параўн.* **дыль**. **2.** ачэп 114. *гл.* **ачэп**. **3.** парэнчы пры кладцы на рацэ 104.

**БІЛА** б’íла *ж.* 190. б’íло *н.* 187, 203. б’іло́ *н.* 194. было́ *н.* 1. **1.** рама ў вакне. *гл.* **шапка**. **2.** верхні вушак у дзвярах, у хляве. *гл.* **шапка** 194. **3.** жэрдка пад столлю, на якой вешалі адзенне 190. *гл.* **градка**. **4.** бэлька на сохах 187, 203. *гл.* **солам’е**.

**БОК** бок *м.* 60, 93а, 148. адзін бок, адзін схіл страхі.

**БОЎДУР** бо́вдур *м.* 80. бо́ндор *м.* 31. комін. *гл.* **комін**.

**БРАМА** бра́ма *ж.* 1, 5, 7, 8, 13—16, 18, 25, 35, 37, 38, 45, 49, 50, 52, 54, 63, 65, 66, 69, 70а, 75, 76, 79, 82, 89, 90, 91, 98, 103, 110, 118, 121, 125, 128, 129, 139, 144, 151, 152, 154, 158, 161, 164, 165, 170, 177, 180—182, 186, 188, 191, 194, 198, 203. **1.** дашчаная брама ў плоце 7, 13, 14, 15, 25, 63, 66, 69, 74, 75, 79, 90, 91, 121, 128, 161. *гл.* **вароты**. **2.** высокая прыгожая брама ў плоце на дзве форткі 73, 76, 77, 98, 103, 118, 144, 152, 154, 182, 194. **3.** неашаляваныя дзверы ў гумне ці складзе на дзве форткі 177, 186, 191. **4.** вялікія вароты 16, 35, 54, 82, 89, 92, 129, 165, 181. **5.** моцныя вароты 18. **6.** прыгожыя вароты 5, 38, 70а, 139, 151, 164, 203. **7.** брама з аркай у панскай ці царкоўнай сядзібе 8, 45, 50, 103, 125, 158, 180, 188, 198. **8.** весніцы ў канцы вёскі 49, 52, 170. *гл.* **весніцы**. **9.** фортка ў двор, праз якую ходзяць людзі 1, 65. *гл.* **брамка**.

**БРАМКА** бра́мка *ж.* 4, 6, 15, 20, 28, 36, 40, 52, 63, 64, 70, 70а, 73, 90, 91, 92, 100, 118, 128. бр'а́мка *ж.* 79. фортка ў двор, праз якую ходзяць людзі. *гл.* **брама** 9.

**БРАЎНО** браўно́ *н.* 161, 190, 151. броўно́ *н.* 168, 169, 180, 204. брэўно́ *н.* 139, 144, 182, 184, 196, 197, 202. **1.** бервяно, з якога клаліся сцены 139, 144, 161, 168, 182, 184, 196, 197, 202, 204. *гл.* **дыль.** // Поклаў чатêр'і брэўна – вот і в'êно́к 197. **2.** *гл.* **прыстаранак** 169. **3.** круглае нячэсанае бервяно, з якога клаліся сцены 180, 190. *гл.* **кругляк**. **4.** вага ў студні з жураўлём 139. *гл.* **брус**.

**БРУС** брус *м.* 32, 36, 59, 60, 69, 73, 74, 75—77, 78, 79, 80, 82, 83, 84, 91, 92, 101, 108, 110, 111, 113, 115, 116, 128, 136, 139, 144, 151, 152—154, 158, 160—165, 168—171, 173, 176, 177, 180, 182, 184, 185, 188, 191, 194, 196, 202, 204. брусо́к *м.* 112, 152, 164. **1.** бервяно, якое кладзецца ў сцяну, звычайна абчэсанае 32, 36, 59, 74, 75—77—79, 80, 89, 108, 110, 111, 113, 116, 128, 139, 151, 154, 168, 170, 196, 202, 204; новае (115, 116). *гл.* **дыль**. **2.** матэрыял, падрыхтаваны на дошкі 83, 84. **3.** бервяно, у якога абчасана два бакі 69, 82. **4.** брус, абрэзанае бервяно таўшчынёй да 6 цаль 73, 91, 92. **5.** падваконняе бервяно 92. **6.** падруба 144, 152, 164—165, 169, 173, 187, 188. **7.** падваліна 112, 162, 163—165, 168, 169, 170. *гл.* **легар**. **8.** бэлькі папярочныя 158, 160—164, 168, 170, 171, 176, 177, 184, 188, 191, 194. *гл.* **балька**. **9.** трама 115, 136, 144, 153, 158, 173, 164, 168, 180, 182, 185, 188. **10.** асялок, брусок 64, 65, 101. **11.** балёчка – жэрдка над столлю ад печы да папярочнай сцяны, дзе вешалі адзенне 152.

**БРЫК** брык 29. *гл.* **абарог**. // Пуд бро́ком добрэ схнэ́ 29.

**БУДА** бу́да *ж.* 2, 4—9, 11—13, 15—18, 25, 29, 37, 38, 44, 49, 52, 54, 64, 76, 144, 158, 164, 165, 170, 177, 194. буда́ *ж.* 36, 37, 40, 52, 55, 63, 81. **1.** будан для касцоў на балоце, сенажаці ці для пастухоў у лесе 6, 7, 8, 9, 13, 18, 25, 29, 36, 37, 40, 44, 49, 52, 54, 55, 64, 81; для паляўнічых 165; ці ў садзе 17. **2.** будан з галін выгнутай формы ад камароў 165. **3.** месца і збудаванні на ім, дзе рабілі паташ 170. **4.** маленькая прыбудовачка да хлява для курэй, дроў 38. **5.** будка для сабакі 2, 4, 6—9, 12, 16, 17, 18, 37, 38, 40, 55, 20. *гл.* **шалаш**. **6.** крытыя вазы ў цыганоў ці анучнікаў 5—9, 11, 12, 15—18, 35, 37, 52, 55, 63, 76, 81, 144, 158, 177, 194. **7.** маленькая хата 164. *гл.* **хата**. *зневаж.* 6, 12, 15, 17. // Ха́та, йак бу́да стоіт 6.

**БУДАН** буда́н *м.* 75, 86, 103, 104, 108, 110, 112, 114, 116, 129, 134, 152, 154, 187, 188, 190. **1.** будан у лесе, у полі, на сенажаці, дзе касцы ці паляўнічыя адпачываюць, унутры можа гарэць касцёр 75, 86, 103, 104, 129, 134, 139, 187, 188; зямлянка 112. **2.** тымчасовы будан з загнутага галля 108, 110, 114, 116, 152. **3.** будка на возе, крыты воз у цыганоў 154, 190.

**БУДАЧКА** бу́дачка *ж.* 139, 158, 195. бу́дочка *ж.* 26, 128, 169, 180, 183. **1.** буданчык з хвойніку для паляўнічых 195. **2.** будка для сабакі 128, 139, 158, 169, 180. **3.** прыбудовачка да хлява для курэй 26. **4.** буданчык з лазы ад камароў 169. **5.** мякіннік 183.

**БУДКА** бу́дка *ж.* 1, 2, 5, 7, 9, 12, 14, 17, 20, 28, 29, 35, 35а, 50, 59, 60, 64, 65, 66, 68, 69, 70, 70а, 72—79, 80, 82, 83, 84, 86, 87, 88, 89—93а, 96, 99, 100, 101, 103, 104, 108, 110, 111—116, 118, 119, 121, 125, 128, 136, 139, 144, 148, 151, 154, 161, 163, 164, 168, 169—171, 177, 180—182, 185, 186, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203, 204. бутка *ж.* 45, 50, 98, 117а. **1.** будан у лесе, у полі для пастухоў ці касцоў, зроблены з галін у выглядзе шалаша, без агню, каб схавацца ад непагоды ці пераначаваць 1, 2, 5, 14, 17, 20, 28, 35, 35а, 45, 50, 59, 60, 63, 64, 65, 66, 68, 69, 70, 70а, 72, 73—77, 78, 80, 82, 83, 84, 86, 87, 88, 89, 90, 91, 92, 93а, 96, 98, 99, 100, 103, 104, 110, 115, 117а, 119, 136, 139, 148; з саломы на плыту 118. **2.** будан з лазы і травы без агню, зроблены пераважна на балоце для 2—3 чалавек касцоў 70, 79, 96, 108, 111—115, 128, 139, 161. **3.** будан з галін для паляўнічых, якія палююць на цецерукоў 103, 118, 121, 125, 154, 168, 169, 180—182, 185, 186, 188, 194, 198, 201, 188. **4.** вартоўня на чыгунцы 7, 9, 12, 116, 139, 191; памяшканне з дошак для рачнікоў на беразе ракі 203, 204. **5.** будан з галля на солам'і, які нагадвае палову страхі (там начуюць касцы) 144, 163. *гл.* **солам'е**. **6.** будка для сабакі 29, 63, 76, 111, 113, 118, 121, 148, 151, 164, 168, 170, 171, 177, 182, 185, 188, 190, 194, 195, 201. **7.** будка на возе ў цыганоў 78, 79, 100, 117а, 180, 169, 181. халабуда. **8.** *зневаж.* хата 45.

**БУДОЎЛЯ** будíўл’а *ж.* 76, 78, 99. будóўл’а *ж.* 80, 134, 153, 162, 163. будо̂́ўл’а *ж.* 154, 184, 188, 194, 198, 203. будýўл’а *ж.* 173, 201. буду̂́ўл’а *ж.* 4, 8, 70а, 171. **1.** усе будынкі, разам узятыя 4, 8, 134, 162, 163, 171, 173. **2.** халодныя будынкі, хлявы 188, 194, 198, 201, 203. **3.** будоўля 76, 78, 80, 99, 153, 154.

**БУДЫНАК** буды́нак *м.* 100, 117а, 153, 163, 204. будíнок *м.* 9, 32, 59, 60, 79, 91, 125, 128, 165, 197. буды́нок *м.* 4, 6, 11, 12, 20, 49, 68, 69, 70а, 73—75, 76, 77, 78, 80, 82, 83, 84, 89, 90, 92, 96, 98, 99, 103, 110, 112, 115, 119, 144, 168, 182. будэ́нок *м.* 65, 70. **1.** прыгожая вялікая хата ў замкі (“чысты вугал”) 59, 64, 65, 68, 69, 70, 70а, 73—75, 76, 77, 79, 80, 82, 83, 84, 89, 91, 96, 98, 99, 100, 103, 115, 117а, 119, 125, 128, 163, 165; хата на дзве палавіны 78. **2.** усе будынкі ўвогуле 6, 9, 11, 12, 32, 49, 92, 93а, 110, 112, 144, 182, 204. **3.** любы будынак, асобна ўзяты 4, 20, 60, 90, 197. **4.** хата, хлеў і істопка 153.

**БУДЫНКІ** буды́нкі *мн.* 8, 17, 185. буды́нк’і *мн.* 1, 37, 121, 148, 164. буды́нкы *мн.* 15, 25, 29. будэ́нкы *мн.* 18. **1.** усе будынкі ўвогуле 1, 8, 14, 15, 17, 18, 25, 29, 37, 148. **2.** халодныя будынкі, хлявы 121, 164, 185.

**БУНДОР** бýндор *м.* 15. комін. *гл.* **комін**.

**БУРТ** борт *м.* 8, 16, 50, 96, 98. бôрт *м.* 55. бурт *м.* 2, 6, 9, 13, 14, 35, 52, 54, 59, 63—65, 78, 81, 83, 86, 88, 90, 110, 116, 128, 136, 144, 148, 151, 152, 158, 161, 163, 165, 168, 190, 191. **1.** доўгая плыткая яма, капец для бульбы 2, 6, 8, 9, 13, 14, 16, 35, 50, 52, 54, 55, 59, 63—65, 78, 81, 83, 86, 88, 90, 96, 98, 110, 116, 128, 136, 148, 151, 152, 158, 161, 165, 168, 190, 191. **2**. паз 144.

**БЯГУН** бáгýн *м.* 115. багун’éц *м.* 183. б’агýн *м.* 182, 184. богýн *м.* 101. быгýн *м.* 70а. галіна ў выглядзе V, вось, на якой бегаюць дзверы, вароты. // У хлыв’і двэр’і б’ігайут’ на богунáх, а ў хат’ê – на зав’íсах 101.

**ВАДАНОС** ваданóс *м.* 103. вочап у студні з жураўлём.

**ВАДЗЯНІК** водз’áн’ік *м.* 162, 173. куток у хаце, дзе стаіць вада, а над лаўкай з вадою знаходзіцца паліца з посудам.

**ВАЗОЎНЯ** вазóўн’а *ж.* 163. возóвн’а *ж.* 2. возóўн’а *ж.* 9, 54, 60, 74, 93а, 165. вôзóўн’а *ж.* 38, 186. гаспадарчы будынак, дзе стаялі вазы, часам сані.

**ВАЛОЎНІК** валóўн’ік *м.* 151, 152, 159, 163, 181. воло̂́ўн’ік *м.* 125, 177, 182. волóўн’ік *м.* 89, 168, 169. волýўн’ік *м.* 186. вôлýўн’ік *м.* 185, 190. валоўня.

**ВАЛОЎНЯ** валóўн’а *ж.* 104, 204. волóвн’а *ж.* 7. волóўн’а *ж.* 2, 100, 119. воло̂́ўн’а *ж.* 84, 139, 154. волýўн’а *ж.* 161. волу̂́ўн’а *ж.* 91. волы́ўн’а *ж.* 72а, 75. валоўня.

**ВАРОТНІЦА** варатн’íца *ж.* 194. варо̂́тн’іца *ж.* 181. варуóтн’іца *ж.* 187. ворóтн’іца *ж.* 203. ворóтн’іцы *мн.* 203. воро̂́тніца *ж.* 201. **1.** падваротня (у гумне, у плоце) 181, 187, 201, 203. **2.** дошкі ў варотах, калі вароты яшчэ не зроблены 194, 203.

**ВАРОТЦЫ** варóтца *мн.* 153. варо̂́тца *мн.* 187, 188. ворóточка *мн.* 54. ворóтычка *мн.* 1, 2, 8. вор’íтца *мн.* 49, 64, 65, 70, 72а, 73, 74, 77. вор’íтц’а *мн.* 29, 40, 45, 77, 78. ворóтце 12. воро̂́тца *мн.* 6, 136, 148. ворýтца *мн.* 36, 59, 60, 68, 84, 164, 177. ворутэ́чка *мн.* 37, 63. ворý̂тц’а *мн.* 5, 7, 12, 13, 38, 40, 44, 69, 70а, 91. **1.** фортка ў плоце, праз якую ходзяць 1, 2, 5, 7, 8, 12, 13, 29, 36, 37, 44, 45, 49, 54, 59, 60, 63, 64, 69, 72а, 74, 77, 78, 91, 101, 136, 153, 164, 177, 188. **2.** вароты ў загарадзе ў хляве, праз якія выходзіць жывёла з загародкі 6, 12, 38, 40, 60, 65, 68—70, 70а, 73, 77, 78, 148, 187.

**ВАРОТЫ** *гл.* **брама 1**. варóта *мн.* 116, 148, 158, 162, 173, 187, 188, 190, 191, 194. варо̂́та *мн.* 159, 180, 181, 194, 195. варóты *мн.* 81, 136, 151, 153, 163, 188, 190. ворóта *мн.* 1, 2, 4—9, 12, 13, 18, 20, 25, 29, 35, 36, 37, 38, 40, 45, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 64, 65, 66, 69, 70, 70а, 72а, 73—75, 76, 77, 78, 80, 82, 83, 84, 87, 89, 90, 91, 92, 96, 98, 99, 100, 101, 103, 104, 108, 111, 113, 115, 117а, 121, 125, 134, 136, 139, 144, 154, 161, 163—165, 170, 176, 177, 184—186, 196, 198, 202, 204. вôрóта *мн.* 60, 115, 119, 128, 144, 158, 168, 169, 171, 186, 198, 201. вôро̂́та *мн.* 168, 181, 182. вôр[у]óта *мн.* 63. ўóрóта *мн.* 110. **1.** вароты, брама ў плоце 1, 2, 4—9, 12, 13, 18, 29, 35, 36, 37, 38, 40, 45, 50, 52, 55, 59, 60, 63—65, 70, 73, 74, 77, 81—84, 87, 89, 90, 96, 101, 103, 104, 108, 110, 111, 113, 115, 116, 117а, 119, 121, 125, 128, 134, 136, 144, 148, 151, 153, 154, 158, 159, 161, 163—165, 168—171, 177, 180—182, 185—188, 190, 191, 194, 195—196, 202, 204. **2.** вароты, зробленыя з жэрдак (“горшыя, як брама”) 54, 59, 60, 66, 69, 70а, 75, 76, 91, 118, 163, 194. **3.** фортка, праз якую ходзяць 80. **4.** вароты ў загарадзе ў хляве, праз якія выходзіць жывёла з загародкі 12, 18, 36, 59, 92, 159, 181, 184, 188, 201. **5.** адзінарныя дзверы ў хлеў 129, 154, 162, 173, 176, 184, 187, 190. **6.** дзверы ў гумне або ў хляве (на 2 палавіны) 115, 116, 119, 121, 136, 144, 151, 158, 161, 163, 164, 168, 169, 170, 171, 186, 187, 190, 194, 195, 196, 198, 201, 202, 204. **7.** весніцы ў канцы вёскі 88, 98, 99, 100, 139. **8.** месца, уезд у сядзібу 20; а вароты называюцца кóворот.

**ВАРОЎНЯ** варвэ́н'ка *ж.* 92. варовэ́н'ка *ж.* 45. варо́ўн'а *ж.* 49, 76, 139. вароўн'а́ *ж.* 170, 182, 185, 186, 198. вароўн'е́ *ж.* 45. варывэ́н'ка *ж.* 35, 38, 44. варыўн'а́ *ж.* 1, 40, 134, 136, 151, 152, 164, 168, 177, 181, 194. варыўн'е́ *ж.* 79, 80. варыўны́ца *ж.* 79. варэ́ўн'а *ж.* 154. варыўня, цёплы будынак, дзе зберагаюцца зімою бульба і іншая гароднiна (ззаду або збоку хаты).

[**ВАСТРАКОЛ**] гострокў́л *м.* 18. острокóл *м.* 13, 14, 25, 29. острокốл *м.* 129. острокў́л *м.* 2, 4, 8, 12. ôстрокốл *м.* 78. **1**. плот з дошчачак ("штахеты") 2, 4, 8, 12, 18. *гл.* **штахет**. **2.** плот з калоўкаў 14, 78, 129. *гл.* **плот**. **3.** загородяно на военных фортах 13. **4.** …вырубáйêш дэ́рêво (стоубá) з сучкáмы і пол'із на дэ́рêво, опырайучыс' на острокóл… 25. **5**. калы ў плятні, завостраныя зверху і знізу 29.

**ВАШУЛДЫК** вошу́лдык *м.* 70. слуп у сцяне, шула, якое сточвае бярвенні ў сцяне.

**ВЕРАНДА** ара́нда *ж.* 182. вара́нда *ж.* 110. варэ́нда *ж.* 158. в'ера́нда *ж.* 36, 162, 183, 196, 202, 204. вера́нда *ж.* 60, 159. вêра́нда *ж.* 20, 89, 159, 173, 176, 203. в'іра́нда *ж.* 4, 50, 65, 76, 91, 112, 128, 151, 194. выра́нда *ж.* 70. вырэ́нда *ж.* 16. ф'іра́нда *ж.* 20. хв'іра́нда *ж.* 184, 186. веранда.

**ВЕРАНІЦЫ** в'ер'ен'іцы *мн.* 154. в'ерэн'іцы *мн.* 139. засаўкі, дошкі, якія выконваюць функцыю варот пры адсутнасці апошніх: а) у плоце 139; б) у загарадзе ў хляве 154.

**ВЕРАЯ** вырыйа́ *ж.* 2, 12. шула ў дзвярах у гумне, хляве.

**ВЕРХ** варшо́к *м.* 110. в'ерх *м.* 144, 151, 181, 183, 184. вэрх *м.* 15, 17, 28, 29, 45, 60, 73, 80, 115, 119. **1.** вільчык 15, 17, 28, 29, 45. **2.** салома на вільчыку пад козламі 60, 73, 80, 110, 115, 119, 144, 151, 181, 183, 184. // Завйôў в'ерх 144. В'е́рх задз'êлвайецца с'êном, соло́мойу 183.

**ВЕСНІЦЫ/ ВЕШНІЦЫ** в'е́шн'іца *ж.* 83, 114, 115. в'е́шн'іцы *мн.* 82, 104, 112, 113, 116, 128, 163, 198. в'ếшн'іца *ж.* 84, 103, 110, 125, 144. в'íшніці *мн.* 79. в'íшныца *мн.* 88. в'íшныц'а *ж.* 86. **1.** весніцы ў канцы сяла ці адной вуліцы 83, 110, 114, 125, 163, 198. **2.** вароты ў двор з вуліцы 79, 88, 112, 113, 115, 116. (звычайныя вароты з жэрдак) 84, 86, 104. вароты круціліся на 1 слупу. **3.** заднія вароты з двара 84; або прымітыўныя вароты з жэрдак у загарадзе на выгане 82, 128. **4.** варотцы, дзверцы ў загарадзе ў хляве 103, 115, 144.

**ВЕТКА** в'е́тка *ж.* 164. амяла́.

**ВЕТРААДБОЙ** в'êтроодбо́й *м.* 116. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона. *гл.* **ветрагон**, **ветранік**.

**ВЕТРАВІК** в'етрав'íк *м.* 163. падстрэшак.

**ВЕТРАГОН** в'етрагóны *мн.* 163, 196, 202, 204. ветрагóні *мн.* 59. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона. *параўн.* **ветранік**, **ветраніца**, **ветраадбой**.

**ВЕТРАНА** вітріна *ж.* 80. вытр'е́на *ж.* 45. *параўн.* **ветранік**, **ветраадбой**, **ветрагон**, **ветрак**.

**ВЕТРАНІК** в'е́тран'ік *м.* 52, 110, 118, 125, 151, 188, 196, 202. в'ếтран'ік *м.* 36, 186. в'íтранык *м.* 11, 13, 15, 17, 18, 20, 25, 26, 59, 65, 66, 68, 70, 70а, 74, 76, 79, 92, 96, 99, 101. в'íтр'анык *м.* 29. в'íтреных *м.* 27. **1.** дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона; гэтыя дошкі скрыжоўваюцца ўверсе, утвараючы вільчак 15, 18, 20, 29, 36, 52, 65, 68, 70, 70а, 73, 79, 92, 96, 101, 110, 118, 151, 188, 196, 202. **2.** пояс у крокве 11, 17, 20, 27, 29. **3.** дошкі, якія падтрымліваюць франтон (прыбіваюцца адным канцом да франтона, другім – да ачэпы 59, 66, 74, 76, 93а, 99, 125. **4.** дошкі пад шыфер пры пакрыцці даху 186. **5.** апоўзіны на стозе 13. **6.** козлы на страсе 26. **7.** злом у вугле, каб вецер не дзьмуў у хату 70.

**ВЕТРАНІЦА** в'е́тран'іца *ж.* 52, 55, 114, 115. в'ếтран'іца *ж.* 100, 112, 139, 148, 154, 187. в'íтраніца *ж.* 2. в'íтраныц'а *ж.* 5, 40. **1.** дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона і, скрыжоўваючыся ўверсе, утвараюць вільчак 2, 5, 40, 52, 55, 100, 139, 148, 154, 187. **2.** плашка, якая прыбіваецца адным канцом да кроквы, а другім – да ачэпы і падтрымлівае крокву ў вертыкальнай плоскасці 112, 114, 115.

**ВЕТРАНКА** в'ếтранка *ж.* 6, 36, 37, 54, 80, 83, 144. в'íтранка *ж.* 4, 44, 68, 71, 82, 84. в'íтр'а́нка *ж.* 38. вйêтра́нка *ж.* 4. **1**. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона і скрыжоўваюцца ўверсе, утвараючы вільчак 6, 36, 37, 54, 71, 82, 83. **2.** пояс у крокве 4, 38, 44, 80. **3.** дошка, якая падтрымлівала крокву (прыбівалася да кроквы і да ачэпу) 4, 68, 84. **4.** падстрэшак (з адной дошкі) 144.

**ВЕХАЦЬ** в'е́хаць *м.* 81, 116, 139, 177, 181, 190, 195. в'е́хоть *м.* 125. в'е́хоць *м.* 37, 52, 82, 112, 114, 115, 118, 121, 161, 168, 170, 185, 186. в'е́хц' *м.* 113, 182, 186. в'е́хц'ік *м.* 113. в'ếхот' *м.* 35, 54, 55, 84. в'ếхоц' *м.* 36, 128. в'іэ́хот' *м.* 63. в'íх *м.* 9. в'íхт'ік *м.* 16, 91, 70а. в'íхот' *м.* 2, 6—8, 11—15, 17, 18, 38, 40, 44, 45, 65, 69, 70, 77, 87, 96, 101, 201. в'íхт' *м.* 29, 76, 119, 159. в'íхтычок *м.* 76. **1.** ануча, пучок сена, саломы для мыцця посуду, для шаравання лавы, стала, падлогі 2, 6, 7, 8, 11, 12, 13, 15, 16, 17, 18, 29, 35, 36, 37, 40, 52, 63, 65, 70, 70а, 76, 77, 81, 87, 91, 101, 113, 159, 168, 170, 177, 181, 182, 185, 186, 190, 195, 201. **2.** пучок саломы для выцірання чаго-небудзь 9, 44, 119, 121, 125.

**3.** пучок саломы падпальваць дровы 52, 96. **4**. паходня ў выглядзе пучка саломы 116, 128. **5.** жменя саломы расціраць каню ці карове жывот 7. **6.** жменька саломы затыкаць банкі 45. **7.** жменя саломы на вусцілку ў боты 6. **8.** пучок саломы на тычцы, які папярэджвае, каб тут не пасвілі 114, 168, 186. **9.** вяха ля калодзежа [у выглядзе веніка на тычцы], якая служыць для таго, каб у час пажару змятаць іскры са страхі 112. **10.** стары венік 84; стары венік, якім трасуць сажу коміна 128; якім шаруюць лавы, падлогу 115. **11.** рэшткі з лазы, каб шараваць што-небудзь 82. **12.** галіны з елкі вымятаць попел з печы 15. **13.** галінкі з лісцем, каб крапіць пчолы 161. **14.** у праклёнах: … каб і на ц'ебэ в'е́хоц' 118; каб і ты звар'яцеў! 118, 139.

**ВЕШАЛКА** в'е́шалка *ж.* 151, 153, 158, 163, 164, 171, 182. в'ếшалка *ж.* 17, 63, 159, 161, 168, 169, 170, 177, 180, 181, 186, 195. в'і́шалка *ж.* 7, 18. в'і́шалныца *ж.* 76. жэрдка ў хаце пад столяй ад печы да папярочнай сцяны, на якой вешалі адзенне. *гл.* **градка**.

**ВЕШКА** в'е́шка *ж.* 1, 112, 152, 163, 177, 188, 191. в'ếшка *ж.* 164. в'і́шка *ж.* 6. **1.** тычка з накручаным сенам на ёй для адзначэння простай лініі на сенажаці 112, 152, 163, 164, 177, 188. **2.** вяха на маяку 6. **3.** *старое* альтанка 1. **4.** венік ля хлява 191.

**ВІЛЬЦЫ** в'іл'цы *мн.* 168. вастраколы, злучаныя парамі кароткія жэрдкі, якія прыціскаюць салому, кастрыцу на вільчыку. *параўн.* **козлы**; збітыя накрыж дручкі, якія кладуцца на канёк страхі для таго, каб вецер не ўздзіраў саломы і не знёс дошак, якімі прыкрыты канёк страхі.

**ВІЛЬЧЫК** в'іл'чык *м.* 79, 82—84, 91, 93а, 96, 103, 104, 110—114, 116, 118, 121, 128, 129, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 158, 160—165, 170, 173, 176, 177, 180—182, 183, 186, 188, 190, 191, 194, 195, 196, 198, 201, 202, 203, 204. віл'ч'ік *м.* 171. вы́льчык *м.* 87, 88, 117а, 119, 170. ўіл'чык *м.* 139, 195. **1.** вільчык, верхняя грань, утвораная ад перасячэння двух бакоў страхі 82—84, 87, 88, 89, 93а. 96, 103, 104, 110—114, 116—119, 121, 136, 148, 151, 152, 158, 160—165, 169—171, 176, 177, 180—182, 186, 188, 190, 191, 194, 196, 198, 201, 202, 203, 204; вільчык у хаце 164, 165, 171. **2.** верх страхі, даху, зроблены з гліны 91, з круглай чарапіцы 79, 183, са збітых дошак 84, 144, 173, 183. *параўн.* **карыта**. **3.** вільчак 128, 129, 139, 195. ◊ ***пуд самы в'іл'чык*** 82—84, 108, 113, 114, 125, 128, 161, 164, 169. ***пыд в'ýл'чык*** 110. пад самы вільчык, верх на гары, дзе сходзяцца два схілы страхі. ***ў самы віл'чык*** 152. ***пôд самы ўіл'чык*** 139, 195. ***пôд выл'чык*** 101, 170. // Пташычка зробыла кобы́лцэ у самому вы́л'чыцэ 101.

**ВІНЧЫК** в'і́нчык *м.* 70а. верх з чарапіцы.

**ВІТКА** ві́т'ка *ж.* 17. апоўзіны на стозе.

**ВІТНІК** в'і́тн'ік *м.* 184. бярозавыя або вярбовыя віціны, якімі прымацоўваецца салома, чарот да паплёту, калі робіцца страха.

**ВОР, ВОР'Е, ВАРЫНА** во́рйе *зборны* 111. воры́на *ж.* 7. вўр *м.* 5. плот з доўгіх двух або трох жэрдак. *параўн.* **плот**.

**ВОРАТА** во́рата *н.* 173. во́рото *н.* 104, 110, 113, 136, 144, 148, 162, 173, 176. драўлянае дубовае шула з галінай, на якой трымаюцца дзверы ў хляве, у гумне, рабілася тады, калі не было завесаў.

**ВОСЕЦЬ** во́с'ац' *ж.* 187, 192, 194. во́с'êц' *ж.* 129, 151, 191. о́с'ац' *ж.* 188. **1.** асець для жыта, ільну 129, 187, 188, 191, 192, 194. **2.** асець толькі для льну 151.

**ВОЧАП** *м.* 134, 152, 153, 177, 180, 181, 188, 191, 204. во́чэп *м.* 139. **1.** вага ў студні з жураўлём 134, 152, 153, 177, 181, 191, 204. **2**. вочап у студні з жураўлём 139, 180, 188.

**ВУГАЛ** вýгал *м.* 81, 102, 104, 114, 134, 144, 152, 153, 158, 159, 160, 180, 187, 188, 190, 191, 194, 195. вýг'ел *м.* 181. вугло́ *н.* 1, 2, 4, 8, 9, 14, 17, 25, 27, 29, 38, 64—66, 72а. вýгол *м.* 96, 112, 113, 115, 117а, 121, 154, 162—164, 168, 169, 173, 182, 183, 185, 197. вуго́л *м.* 52, 60, 75, 90, 93а, 99, 100, 101, 116, 118, 119, 128, 165, 176, 186, 193, 198. гуло́ *н.* 20, 20а, 28, 31. ýгал *м.* 151. угло́ *н.* 13, 15, 16, 20, 26, 29, 32, 35, 36, 40, 44, 45, 50, 63, 70а. ýгол *м.* 37, 69, 125, 170, 196, 204. уго́л *м.* 59, 68, 70, 71, 74, 76, 77, 78, 84, 91, 148, 151. ўýгал *м.* 139, 177. ўýгол *м.* 79, 161, 171. **1.** кут у хаце (унутры) 37, 163, 173, 176, 181. // Вýгол на п'êчк'ê 173. У ха́ц'ê ў вугл'і́ л'ажыц' 176. Вуг'ел на полý 181. кут ў запечку. **2.** вугал 1, 2, 4, 8, 9, 13, 14, 15, 16, 17, 20, 20а, 25, 26, 27, 28, 29, 29, 31, 32, 35, 36, 38, 40, 44, 45, 50, 52, 59, 60, 64—66, 68, 69, 70а, 70, 71, 72а, 74, 75, 76, 77, 78, 79,81, 84, 90, 91, 93а, 96, 99, 100, 101, 102, 104, 112, 113, 114, 115, 116, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 134, 139, 144, 148, 151, 151, 152, 153, 154, 158, 159, 160, 161, 162—164, 165, 168, 169, 170, 171, 177, 180, 182, 183, 185, 186, 187, 188, 190, 191, 193, 194, 195, 196, 197, 198, 204. ◊ ***– гла́дк'і*** 84. нямецкі. ◊ ***– кра́сны*** 151. покуць. ◊ ***– крýглы*** 162, 170, 173. просты (калі два бервяны заструганы з двух бакоў). ◊ ***– н'ам'е́цк'і*** 1, 54, 66, 108, 113, 116, 118, 121, 136, 139, 148, 151—154, 158, 161, 162, 176, 177, 181, 188, 190, 195, 197, 202, 204. ◊ ***– просты*** або ***ў вугла*** 9, 13, 17, 18, 20а, 29, 35, 45, 50, 54, 65, 66, 68, 70, 71, 79, 84, 91, 92, 108, 113, 116, 118, 121, 134, 136, 139, 144, 148, 151—154, 158, 160, 161, 162, 168, 169, 173, 176, 177, 180—182, 184—188, 190, 194—197, 198, 201—204. ◊ ***– паўкрýглы*** 163. кожнае палена зачэсваецца

на ромб. ◊ *– у замк'і* 13, 17, 44, 45, 50, 55, 59, 68, 69—71, 74, 80, 93а, 96, 118, 114, 184, 198. ◊ *– у ка́н'у* 1, 25, 27, 29. ◊ *– у ла́пу* 170. ◊ *– у слыпойе вугло* 25. ◊ *– у ча́шк'і* 144, 180, 181. = прасты вугал. ◊ *– у шы́п* 163, 168. просты, чысты. ◊ *– францу́ск'і* 9, 44, 79, 91. у замкі. ◊ *– чы́сты* 52, 116, 118, 134, 136, 139, 144, 148, 152—154, 158, 161—163, 168, 170, 180—182, 184—187, 190, 194, 196—198, 201—204.

**ВУГОЛЬНІК** вуго́л'н'ік *м.* 101. уго́л'н'ік *м.* 27, 29, 65. уго́л'нык *м.* 89. **1.** металічны вугольнік, прыбіты на вугле аконнай рамы 27, 29, 65, 101. **2.** каліпцёр, вільчыкавая чарапіца 89.

**ВУЛІЦА** гу́лыца *ж.* 15. падворак перад хатай.

**ВУЛКА** ву́лка *ж.* 111, 119, 191. **1.** правулак паміж двума агародамі 111. **2.** праежджы двор 119, 191.

**ВУХА** вухо́ *н.* 73, 79, 148. ўухо́ *н.* 55. **1.** вуха ў ачэпе, у якое ўстаўляецца палец шула 79, 148. **2.** вуха ў шуле, у якое закладваецца ачэп 55, 73.

**ВУШАК** вуша́к *м.* 1, 7, 14, 16, 27, 49, 59, 60, 63, 64, 72а, 80, 81, 93а, 99, 100, 104, 110—115, 117а, 118, 121, 128, 129, 134, 136, 153, 159, 160, 163, 168, 170, 177, 180, 182, 184, 185, 195, 197, 198, 201. вуш'е́к *м.* 72. вушн'а́к *м.* 152, 191, 194. вшак *м.* 8. лушн'а́к *м.* 187, 190. гуша́к *м.* 13, 28, 31, 73, 76. гуш'е́к *м.* 65, 70, 80. ошва́к *м.* 27, 34. ôшва́к *м.* 44. уша́к *м.* 2, 5, 6, 9, 11, 13, 15, 17, 18, 20, 25, 35—38, 40, 44, 45, 52, 54, 55, 59, 68—70а, 71, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 89, 90, 91, 92, 96, 108, 116, 119, 125, 129, 139, 144, 148, 151, 154, 158, 161, 162, 164, 165, 168, 169, 171, 173, 176, 177, 181, 182, 185, 186, 188, 196, 197, 202—204. ушва́к *м.* 32. уш'е́к *м.* 16, 50. ўшн'ак *м.* 152. ўуша́к *м.* 103, 161. шва́к *м.* 29. **1.** шула ў сцяне 29, 50, 59, 60, 77, 80, 110, 112, 114, 116, 125, 128, 129, 136, 144, 161, 164, 165, 169, 195. **2.** вушак у дзвярах (збоку) 1, 2, 5—9, 12—18, 20, 25, 27—28, 29, 31, 32, 35—38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 55, 59, 60, 63, 65, 68—70, 70а—76а, 78, 79, 81, 89—93а, 96, 99, 100, 103, 104, 108, 110, 111, 113—119, 121, 125, 128, 129, 136, 139, 148, 151—153, 158, 159, 161—163, 165, 168—170, 173, 176, 180, 181—186, 188, 191, 194—197, 201—204. **3.** шапка, вушак зверху 1, 6—9, 13—18, 20, 25, 32, 45, 70а, 76, 75, 79, 92, 113—115, 128, 129, 168. **4.** вушакі ў вакне (збоку) 49, 81, 93а, 134, 148, 151—154, 159—161, 163, 169, 176, 177, 180—188, 190, 191, 194—198, 201—204. **5.** паз у вушаку 50. **6.** вушакі зверху і з бакоў 16.

**ВЫПУСТ** ву́пуст *м.* 165. ачэп на бэльках.

**ВЫХАД** вы́хôд *м.* 38. палец, які заходзіць у паз.

**ВЫШКІ** в'і́шк'і *мн.* 118, 125, 201. ві́шк'і *мн.* 60, 168. ві́шкі *мн.* 27, 29, 31, 59, 72, 102, 185. ву́шк'і *мн.* 144, 148, 154, 158, 162, 164, 165, 169, 170, 173, 187, 188, 190, 191, 195, 198. вў́шкі *мн.* 4, 8, 69. вы́шка *ж.* 49, 80. вы́шк'і *мн.* 6, 10, 13, 14, 35а, 36, 37, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 74, 81, 87, 88, 93а, 103, 104, 108, 111, 115, 116, 117а, 144, 163, 203. вы́шкы *мн.* 1, 2, 3, 7, 11, 12, 15, 18, 25, 28, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 50, 68, 70а, 72а, 76, 77, 78, 89, 90, 91, 96, 98, 99, 100, 101. вы́шк'і *мн.* 86, 148. вэ́шке *мн.* 9. вэ́шк'і *мн.* 5, 16. вэ́шкы *мн.* 17. вэ́шкэ *мн.* 64, 65, 66, 70. ўы́шк'і *мн.* 83. ўу́шк'і *мн.* 136, 139, 188. ўэ́шкэ *мн.* 73. **1.** вышкі ў халодных будынках 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 25, 27, 28, 29, 31, 35а, 35, 36, 37, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 59, 60, 63, 64, 65, 66, 68, 69, 70а, 70, 72, 72а, 73, 74, 76, 77, 78, 80, 81, 83, 86, 87, 88, 89, 90, 91, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 108, 111, 115, 116, 117а, 118, 125, 136, 139, 144, 148, 154, 158, 162, 163, 164, 165, 168, 169, 170, 173, 185, 187, 188, 190, 191, 195, 198, 201, 203. **2.** гара ў хаце 76, 79, 92, 99. **3.** гара над сенцамі 59. **4.** вышкі ў навесе (для сена і саломы) 144.

**ВЯЗАНКА** вйа́занка *ж.* 84. вехаць з саломы.

**ВЯЛЬМОЖНА** вэл'мо́жна *ж.* 50. кавалачак дрэва, які закладваецца ў кань, каб было шчыльней.

**ВЯНЕЦ** в'ан'е́ц *м.* 187, 188, 195, 197. в'ен'е́ц *м.* 121. вінэ́ц *м.* 16. вэн'е́ц *м.* 118. вянок у зрубе. // Ру́бяц' в'ан'е́ц 188.

**ВЯНОК** вано́к *м.* 110, 115, 182, 185. в'ано́к *м.* 81, 104, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 153, 159, 161, 163, 164, 169, 170, 177, 180, 181, 186, 190, 191, 194, 195, 198. вено́к *м.* 80. в'ено́к *м.* 36, 37. в'êно́к *м.* 82, 114, 116, 125, 165, 168, 171, 183, 201, 203. в'іно́к *м.* 6, 26, 35, 154. віно́к *м.* 2, 20, 25, 31, 112. выно́к *м.* 1, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 15, 17, 18, 29, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 54, 65, 68, 70, 72а, 74—77, 78, 84, 88, 89, 91, 92, 93а, 96, 99, 100, 101, 103, 119, 128. вэно́к *м.* 52, 55, 59, 60, 70а, 72, 98, 113, 117а. **1.** вянок у зрубе (4 доўгія бярвенні, звязаныя ў вуглах) 2, 6, 7, 11, 12, 15, 17, 18, 20, 25, 26, 29, 31, 35, 36, 37, 38, 40, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 65, 68, 70, 70а, 72а, 74—77, 78, 80, 81, 84, 88, 89, 91, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 103, 104, 110, 112, 113, 114, 115, 116, 117а, 139, 144, 151, 152, 153, 154, 159, 161, 164, 165, 168, 169, 170, 171, 180, 181, 182, 185, 186, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. // Кругом обуйдэ дырвынойу 29. Кол'цо по 1 дыл'у 6. Зруб'іл'і на 3 в'анк'і 177. В'ано́к ўкруга палажыў 144. **2.** першы вянок, які пакладзены на падрубе 72, 92, 163. **3.** кожны з падаконных

вянкоў 82, 119—136, 148, 177. **4.** ачэпы, апошні вянок у сцяне, на які кладзецца бэлька 1, 8—10, 13, 44, 82, 183. *параўн.* **ачэп**. **5.** амяла на дрэве 119.

**ВЯРОВАЧКА** в’аро́вачка *ж.* 195. воро́ўчына *ж.* 201. вяровачка, якую ўжывалі ў варотцах замест клямкі. // Зак’і́нуў в’аро́вачку 195.

**ВЯРХНЯК** вырхн’а́к *м.* 28. падстрэшак.

**ВЯРШНЯК** в’ершн’а́к *м.* 82. шапка, верхні вушак у дзвярах.

**ВЯРЭЙКІ** вар’е́йк’і *мн.* 194. засаўка (дошкі) замест варот у плоце.

**ВЯРЭЙЦЫ** вэр’е́йці *мн.* 171. падваротня ў гумне (складаецца з 2—4 дошак).

**ВЯТРАК** в’атра́к *м.* 68, 69, 191. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона.

**ВЯХА** ваха́ *ж.* 115. в’аха́ *ж.* 35а, 81, 139, 151, 152, 154, 158, 159, 161, 164, 168—170, 177, 180—182. в’ех *м.* 171, 187, 188, 190, 191, 195, 198. в’е́ха *ж.* 6, 52, 118, 165, 204. в’еха́ *ж.* 37, 83, 91, 110, 114, 121, 128, 129, 161, 185. в’ êха́ *ж.* 54, 63, 82, 116, 125, 201, 203. в’іха́ *ж.* 13, 16, 17, 28, 29, 49, 68. в’і́ха *ж.* 60. ві́ха *ж.* 10. віха́ *ж.* 2, 5, 9, 17, 36, 50, 79, 92. выха́ *ж.* 7, 8, 11, 12, 14, 15, 17, 18, 25, 35, 38, 40, 44, 45, 59, 60, 66, 69, 70, 73, 74, 80, 84, 86, 87, 88, 89, 93а, 96, 100, 101, 108, 113, 119. вэ́ха *ж.* 75, 77, 100. вэха́ *ж.* 55, 112, 117а, 186. ўаха́ *ж.* 111. уеха́ *ж.* 171. **1.** вяха на сенажаці ці ў полі (тычка з накручанай на яе саломай, сенам, або завязаная галіна (бярозы, лазы) ці маладое дрэва з завязаным верхам), якая паказвае дзялянку, або пры яе дапамозе адзначаецца простая лінія 2, 5, 6, 10, 12, 13, 14, 17, 18, 35а, 37, 40, 44, 45, 50, 52, 54, 60, 69, 73, 75, 77, 79, 81, 82, 84, 86, 87, 89, 91, 92, 93а, 96, 100, 101, 108, 110, 111, 113, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 129, 139, 154, 161, 169, 170, 171, 177, 181, 186, 190, 191, 195, 198. **2.** вяха на стозе абазначае, што работа закончана для касцоў і людзі павінны збірацца ля яе (на балоце, на вяселлі) 15, 66, 73, 77. **3.** вяха на дарозе (заснежанай) 2, 7, 8, 17, 66; або на возеры, рацэ ля палонкі 6, 139; ці на мелкаводдзі 100, 115, 158. **4.** вяха папераджае, каб не ездзілі на пасеяным полі, ці каб не пасвілі на сенажаці пасля дня св. Міколы 7, 9, 11, 12, 15, 16, 17, 18, 25, 28, 29, 35, 38, 49, 50, 79, 80, 87, 88, 108, 116, 118, 128, 151, 164, 180, 203, 204. **5.** Там, дэ па́слос’’а бэ́дло і похвор’і́ло, то доп’і́ро па́сты ны мо́жна і став’ат в’і́ху 17. **6.** маяк, трыангаляцыйны пункт 6, 8, 180. **7.** стары венік, мятла 10, 63; венік… шчо ко́мына тэрты 40, 45, 55. **8.** апоўзіны на стозе 17. **9.** венік на высокай тычцы, якая стаіць ля калодзежа і служыць для змятання іскраў са страхі 8, 13, 16, 18, 36, 38, 45, 55, 60, 69, 70, 75, 79, 83, 87, 88, 101, 118, 139. **10.** паказальнікі дарог у лесе. // Шо тут кал’ба́сы (= калдобіны) або тут тольк’і ехат’ 35. **11**. амяла на дрэве 66, 112, 114, 139, 151, 152, 154, 161, 168, 169, 177, 185, 188, 190, 191, 195, 201. **12.** высокае дрэва 92. **13.** высокі нязграбны чалавек 44, 77, 89. **14.** Чалавек то́нкі йак выха́… 12. **15.** Уткн’о́на лозы́на, і на йе́йі наложано шо-ныбуд’ 59. **16.** калі што-небудзь … накруц’і́лос’ на йал’і́н’е, на хваін’е (напрыклад, снег) 37. **17.** дз’е́раво, йак в’ерб’і́на (лоза); расц’е тол’к’і на Пры́п’ац’і 114, 159. **18.** галіны дрэў 165. // В’ал’і́к’ійа в’е́тк’і ігрушы спл’ал’іся в’ахо́йу 177. **19.** "кветка" з галінак, якая прыбіваецца ў вільчаку, сімвалізуючы заканчэнне будавання хаты 115. **20.** цыкута, атрутная трава на балоце, ад якой здыхаюць каровы 152, 168, 177, 181, 182, 186, 187, 190, 191, 195, 198. **21.** гронка вінаграду. // Йагоды, йак в’êха 168. Ўродз’іло, йак в’êха. Жолуд уродз’іў – прамо вэха́ 186. **22**. начны вартаўнік 74, 91. **23.** зялёны вянок (в’ех).

**ГАЛАВАЧ** голова́ч *м.* 7, 70, 88. гôлова́ч *м.* 15. гôлôва́ч *м.* 29. **1.** некалькі пучкоў саломы, звязаных перавяслом ля калосся, якімі пакрываецца ніз страхі і рогі 7, 15, 29, 70. **2**. шапка, верхні вушак у дзвярах 88.

**ГАЛАВАЧЫНА** голова́чына *ж.* 12. звязаныя ля ўздра пучкі саломы, якімі пакрываюць страху. *параўн.* **галавач 1**, **кулік**.

**ГАЛЁЎКА** гал’о́вочка *ж.* 76. гал’о́ўка *ж.* 52, 78, 125. вяровачка, якая закідаецца на слуп, калі прычыняюцца варотцы, фортка. *параўн.* **пута**.

**ГАЛОЎНЯ** голо́ўн’а *ж.* 84, 86. ґло́ўн’а *ж.* 74, 83, 88. шапка, верхні вушак у дзвярах.

**ГАЛЬВЕТКА** гал’в’ӯтка *ж.* 4. галёўка з лазы на двух слупах, паміж якімі кладуцца жэрдкі ў плоце.

**ГАНАК** га́нак *м.* 134. га́нок *м.* 26, 117а, 163, 173. га́нэк *м.* 102. **1.** масток перад парогам (са сходцамі або без іх) 102, 117а, 134, 163, 173. **2.** ганак са стрэшкай і слупамі 26.

**ҐАНАК** ґа́нак *м.* 152, 159, 188, 190, 194, 195, 203. ґа́нок *м.* 1, 5, 7–9, 13–18, 20, 27, 29, 32, 35–37, 38, 40, 44, 45, 49, 52, 54, 55, 60, 65, 68–70, 70а, 73–75, 76, 78, 79, 82, 87, 88, 89, 90, 91, 93а, 96, 98, 104, 108, 110, 114–119, 121, 125, 128, 136, 139, 144, 148, 153, 154, 158, 161, 162, 164, 165, 168–171, 176, 177, 181–183, 185, 196, 198, 201, 202, 204. ґа́ночок *м.* 63, 77, 128, 129, 186, 191. **1.** масток перад парогам (са сходцамі або без іх) 52, 54, 55, 60, 67, 68, 81, 87, 88, 91, 96, 101, 104, 108, 110, 114, 115, 116, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 152, 159, 161, 162, 163, 169, 170, 171, 173, 188, 190, 191, 203. **2.** ганак са стрэшкай і слупамі 1, 5, 7, 8, 9, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 20,

26, 27, 28, 29, 32, 35–37, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 63, 65, 69, 70, 70а, 73–75, 76, 77, 78, 79, 82, 87, 88, 89, 90, 93а, 164, 165, 168, 171, 176, 177, 181–183, 185, 186, 194, 195, 198, 201, 202. **3.** веранда 158. **4.** сені, карыдор 154. // Ґáнок с крыл'цóм 154.

**ГАРА (на гары)** гарá *ж.* 35а, 81, 103, 134, 152, 153, 159, 180, 181, 184, 188. горá *ж.* 1, 2, 5—18, 25, 27—29, 31, 34—38, 40, 44, 45, 52, 54, 63—65, 68, 70, 70а, 72, 72а, 77—78, 84, 87, 88, 90, 91, 102, 104, 108, 111, 112, 115, 118, 119, 128, 136, 139, 144, 148, 151, 154, 158, 160, 161, 163—165, 168—171, 173, 176, 177, 180—182, 185—187, 190, 191, 194, 196, 198, 201—204. гôрá *ж.* 29. гара ў жылых будынках. // У саму гóру наклаў жыта 119.

**ГАРАДЗЬБА** гарóдз'ба *ж.* 180. город'бá *ж.* 17. агароджа (агульная назва).

**ГАРБА** горбá *ж.* 35. грамада бульбы, скапец.

**ГАРБЫЛЬ** горбы́ль *м.* 128. аполак.

**ГАРБЫЧ** горбы́ч *м.* 79. аполак на столі (закрывае прамежак паміж дзвюма дошкамі).

**ГАРЛІНА** гарлы́на *ж.* 49. ґарлíна *ж.* 35. ґарлы́на *ж.* 25. ґ'ірлы́нка *ж.* 16. ґырлы́на *ж.* 20. 3—5 пучкоў саломы, звязаныя ля ўздра, якімі пакрываюць страху. *параўн.* **кулік**.

**ГАРЛІЦА** ґарлíц'а *ж.* 8. *параўн.* **гарліна**.

**ГАРОД** горóд *м.* 1, 5, 13, 16, 20, 25, 28, 35, 37, 50, 60, 65, 70, 84, 136, 185. горо̂́д *м.* 79. гôрóд *м.* 113. гурóд *м.* 72. **1.** агароджа вакол сядзібы 84, 185. агароджа ўвогуле 25. **2.** сядзіба 13, 72. **3.** загарадзь для свіней ля свінушніка 1, 20, 25, 28. **4.** агарод 5, 50, 60, 65, 70, 113, 136. **5.** кветнік перад хатай 20, 35, 37, 79. **6.** месца ля хаты (дзе не сеюць, а толькі косяць траву) 16.

**ГАРОДЗЕЦ** горóдз'ец *м.* 83. гор'íдыц' *м.* 29. гор'íдэц *м.* 75. горóдыц *м.* 25. горýдэц *м.* 88. горýдзэц *м.* 125. кветнік перад хатай ад вуліцы.

**ГАРОДЗІНА** горóдіна *ж.* 5, 7, 38. горóдына *ж.* 2, 13, 15—18, 44, 92, 144. **1.** агарод 2, 5. **2.** гародніна 7, 15—18, 38, 44, 92, 144.

**ГАРОДЧЫК** гарóдчык *м.* 81, 153. гаро̂́дчык *м.* 195, 198. гарýтчык *м.* 103, 177, 181, 187. гор'íдчык *м.* 28, 45, 70, 72а, 76, 78, 99, 110. гор'íтчык *м.* 17. горóдчык *м.* 52, 134, 163. горо̂́тчык *м.* 1. горýдчык *м.* 68, 115, 128, 203. горýтчык *м.* 35, 84, 92, 93а, 104, 111—113, 136, 139, 154, 164, 168, 170, 186. горуóдчык *м.* 63. гору̂́тчык *м.* 5, 13, 38, 44, 69, 70а. горы́дчык *м.* 90. горы́тчык *м.* 117а. **1.** агародчык, кветнік перад хатай ад вуліцы 1, 5, 13, 17, 28, 35, 38, 44, 45, 52, 63, 68, 69, 70, 70а, 72а, 76, 78, 81, 90, 92, 93а, 99, 103, 104, 110, 112, 113, 115, 117а, 128, 134, 136, 139, 153, 154, 163, 164, 168, 177, 181, 186, 195, 198, 203. **2.** агароджаны кавалак загону ў агародзе для расады, расаднік 84, 170. **3.** агародчык для трускалак 187. **4.** нізкі плоцік 111.

**ГАРЫШЧА** горы́шчэ *н.* 17, 59, 129. гара жылога будынка.

**ГАСПАДАРКА** господáрка *ж.* 63. сядзіба, месца, дзе стаіць хата і іншыя гаспадарчыя будынкі.

**ГАТ** гат *м.* 84, 103, 114, 116, 128, 177, 191. пляцень у стаўку, які затрымліваў рыбу.

**ГАТОК** гатóк *м.* 125. пераход на грэблі (з памостам).

**ГАЦІНА** гацíна *ж.* 198. адно бервяно, з якога складаецца гаць.

**ГАЦЬ** гáт' *ж.* 171. гаць.

**ГВОЗД** гвузд *м.* 165. дубовыя калочкі, якімі збіваюцца і замацоўваюцца бярвенні ў сцяне. // Гвузд прытóблуйе. *параўн.* **тэбель**.

**ГЕТА** ґ'éта *н.* 35а. ґ'éто *н.* 14, 35, 70, 118. **1.** загарадзь ля хлява для свіней 35а, 70, 118. **2.** загарад у хляве для кароў 14, 35а, 70. **3.** лагер для ваеннапалонных 35.

**ГЛАБІНА** глабы́на *ж.* 70а, 112. лесвіца. *параўн.* **драбіны**.

**ГЛІНЯНКА** гл'ін'áнка *ж.* 170. глінабітная хата.

**ҐЛЫЦЫ** ґлы́цы *мн.* глы́ц'а *ж.* лёсткі ў драбінах.

**ГНЯЗДО** гн'êздó *н.* 82, 162, 173, 184. гн'іздó *н.* 29, 72. **1.** выруб у ачэпе, у які кладзецца бэлька або ўстаўляецца кроква 29, 72, 162, 173, 184. **2.** вуха, у якое заходзіць палец вушака 82.

**ГОНТ** гóнда *ж.* 154. гонт *м.* 168, 196, 202, 204. ґóнта *ж.* 29, 160. ґóнты *мн.* 4, 17, 31, 148, 144. гонты.

**ГРАБЁНКА** гр'êб'óнка *ж.* 152, 196, 204. прылада, пры дапамозе якой раўняюць салому пры пакрыванні хаты. ◊ ***пôд гр'êб'óнку*** – 129. спосаб пакрыцця будынкаў. // Розв'азуйут' кýл'ік'і і прыжымайут'.

**ГРАДКА** грáдка *ж.* 49, 119, 136, 148, 168. гр'áдка *ж.* 44, 45. гр'éдка *ж.* 48, 50. **1.** жэрдка пад столлю ад печы да процілеглай папярочнай сцяны, на якой вешалі адзенне, калыску 44, 45, 49, 50. **2.** градка ў агародзе 136, 148, 168. **3.** агародчык для расады, кветак 119.

**ҐРАДКА** ґрáдка *ж.* 55, 65, 76. адна дошка ў плоце-штахетніку 55, 65, 76.

**ГРЭБЕНЬ** гра́бын' *м.* 70. грэ́б'ê̂н' *м.* 203. грэ́бін' *м.* 6, 13, 17. грэ́б'ін' *м.* 2, 4, 5, 9, 10. грэ́бын' *м.* 1, 7, 15, 16, 45. грэ́бэн' *м.* 6, 7. **1.** вільчык 7, 9, 15—17, 45, 54. **2.** салома на вільчыку пад козламі 1, 2, 4, 5, 6, 8, 10, 13, 70, 203. // Грэ́бын' нат'агну́ў 1. На грэ́бын' счын'а́йут счы́нкамы соло́му = нат'ага́йут грэбін' 13.

**ГРЫВА** гры́ва *ж.* 14, 18, 20, 25, 26. вільчык. // Трэ́ба накры́ты гры́ву вышáром 2.

**ГУДУН** гуду́н *м.* 169. слемя (солам'е).

**ГУЖВА** гужва́ *ж.* 196, 202. гу́жва *ж.* 71. **1**. прывязка для замацавання саломы ў працэсе пакрывання будынка 196, 202; **2**. для прывязвання дрэва 71.

**ГУМЕННІЦА** гумэ́нныца *ж.* 66. частка двара ля гумна.

**ГУМНІСКА** гу́мныско *н.* 7. частка двара перад гумном.

**ГУМНО** гомно́ *н.* 71, 77. гумло́ *н.* 70. гумэ́нцэ *н.* 87. гумно́ *н.* 2, 7, 8, 14, 18, 35, 35б, 36, 37, 38, 45, 60, 63—65, 68, 69, 70а, 72—76, 78, 81, 84, 86, 89, 90, 91, 96, 97, 98, 101, 104, 112, 113, 114, 116, 117а, 121, 125, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 151—154, 158—161, 163—165, 169—171, 173, 177, 180—182, 183—188, 190, 191, 194, 195, 197, 198, 203, 204. **1.** гумно (складалі, сушылі, малацілі збожжа) 14, 35, 60, 104, 112, 114, 116, 121, 134, 136, 139, 148, 151—154, 158—161, 163—165, 168—171, 173, 177, 180—182, 183—188, 190, 191, 194, 195, 197, 198, 203, 204; гумно на 6 вуглоў 180. *гл.* **адрына 3**. **2.** вялікая восець, дзе сушылі снапы 129. **3.** цэлы комплекс гаспадарчых будынкаў з дваром унутры – "круглы двор" – 8, 72а, 144. **4.** будынак, які змяшчаў хлеў і гумно 90, 93а. **5.** прыгуменне, дзе стаялі стагі сена ці збожжа, дзе сушылася сена 2, 7, 8, 35, 35б, 36, 37, 54, 68—72, 73, 74, 76, 77, 81, 84, 89, 92, 101, 113. **6.** частка двара ля гумна і хлявоў, "паўкруглы двор" 38, 70, 78, 96, 98, 99, 117а, 125. **7.** месца ля хлява, месца, дзе стаіць хлеў 18, 45, 63, 64, 65, 70а, 76. **8.** загарадзь ля хлява для быдла ці свіней 45, 86, 87, 88.

[**ГУСЦЕ**] гу́сце *н.* 118. верх чалеснікаў у печы.

**ГУСЯТНІК** гу́с'атнык *м.* 60. гусятнік.

[**ДАЛОЎКА**] дало́ўка *ж.* 144. доло́ўка *ж.* 129, 196, 204. долу́ўка *ж.* 164. **1**. падлога ў хаце 129, 164, 196, 204. **2.** зямля (ток) у хаце 144.

**ДАМАВІНА** домов'іна *ж.* 118, 164. склеп, магіла.

**ДАМАКУРКА** домоку́рка *ж.* 185. курная хата.

**ДАМОК** дамо́к *м.* 194. домо́к *м.* 165, 177. **1.** прыгожы домік (зроблены ў чатыры сцяны) 165, 177. **2.** вальма 194.

**ДАМОЎКА** домо́ўка *ж.* 144. родны дом, сям'я.

**ДАРМАВЕС** дармав'е́с *м.* 158, 163, 180. дармов'е́с *м.* 82, 87, 121, 125, 144, 196. дармов'іс *м.* 66, 69, 70, 73. **1.** навісь страхі 70, 163, 180, 196. **2.** трама 121. **3.** жэрдка пад столяй ад печы да папярочнай сцяны на адзежу 87. **4.** ачэп 69; край ачэпа, які выступае над сцяной 158. **5.** бервянцо над дзвярыма пад ачэпам 66. **6.** паветка з адной сцяной для дроў, вазоўня 82. **7.** кароткая бэлька ад папярочнай сцяны да першай бэлькі 125. **8.** Йек р'і́жут' да́рво, до стыл'угэ прыв'йе́зуйут' дармов'іс 73. **9.** бервяно, якое ляжыць на падоўжных бэльках пад падстрэшкам у бакавой сцяне 144.

**ДАЎГАК** даўга́к *м.* 152. ачэп, верхняе бервяно ў падоўжнай сцяне, на якім стаяць кроквы. // Ба́лка шла́п'іц' даўга́к 152.

**ДАЎГАЛЬ** даўга́л' *м.* 184, 186. **1.** ачэп, на якім кладуцца бэлькі 184. **2.** ачэп, які кладзецца на бэлькі 186.

**ДАХ** дах *м.* 2, 5, 6, 11, 12, 13, 15, 16, 25, 29, 44, 45, 49, 54, 55, 70а, 73, 79, 80, 93а, 99, 100, 125, 139, 148, 153, 154, 159, 161, 170, 180—181, 190, 194, 195, 198. здах *м.* 182. **1.** гара 93а, 159, 170, 180, 181, 190, 198. вышкі 60. **2.** вільчык 139, 153, 154, 198. (калі адна дошка выходзіць з-пад другой) 139. **3.** вільчык у будынках, у склепе 125, 194. **4.** франтон 55. **5.** агульная назва для страхі 26, 29, 44, 49, 73, 80, 100, 161, 182, 195. **6.** дах 6, 11, 12, 13, 15, 25, 37, 54, 70а, 148. **7.** ніз страхі 16, 45, 79. **8.** паветка 2, 45. шопа пад страхой 20. **9.** прыбудоўка да хлява для снапоў, сячкарні 2. **10.** у гумне стрэшка над уваходам 5. **11.** столь 99. // Скоты́на од дошчу́ схавалася под дахом 79. ◊ ***ло́маны [дах]*** 20. страха з усечаным зверху франтонам. **12.** дах (па-польску 'страха') 38. **13.** верхняя частка страхі (без нізу) 182а.

**ДАШОК** дашо́к *м.* 4, 7, 16, 55. **1**. паветка 4, 7, 16. // Пô̂д дашком в'із стояв 16. **2**. падстрэшак 55.

**ДАШЧАТКА** дашча́тка *ж.* 194. дошча́тка *ж.* 154, 176, 196, 202, 204. дошкі, шырэйшыя за драніцы, якімі пакрываюць страху.

**ДВАРЭЦ** дворэ́ц *м.* 185. дворэ́ц' *м.* 17. **1**. падворак 17. **2**. загарадка для скаціны ў хляве 185.

**ДВОР** дв'ір *м.* 11, 15, 17, 20, 28, 38, 44, 45, 49, 64, 65, 71, 72, 73, 75, 76, 77, 98, 117а. двор *м.* 14, 16, 32, 35а, 36, 52, 54, 71, 81, 82, 116, 121, 134, 153, 163, 164, 176, 191, 194, 198, 204. двôр *м.* 6, 13, 25, 29, 37, 55, 59, 79, 104, 111, 112, 118, 125, 128, 136, 139, 148, 152, 154, 159, 162, 169, 173, 180, 181, 182, 184, 185, 186—188, 190, 195, 201, 203. двур *м.* 35, 35б, 63, 68, 84, 86, 87, 108, 114, 115, 158, 161, 165, 168, 177. двуор *м.* 59, 93а, 103, 151, 170. двўр *м.* 1, 4, 8, 9, 12, 18, 40, 69, 74, 79, 92, 96, 110, 171. двэр *м.* 83. **1.** двор, прастора паміж будынкамі 6, 11, 14—18, 20, 25, 28, 29, 32, 35б, 40, 52, 55, 63, 64, 68, 73—74, 79, 81—84, 86, 92, 93а, 101, 103, 104, 111, 117а, 118, 121, 125, 128, 134, 136, 139, 148, 151, 152, 153, 158, 161, 163—165, 168—171, 181, 182, 185, 188, 190, 191, 195, 198, 201, 203, 204. **2.** частка двара ля хаты, ад вуліцы да ўваходу ў хату 1, 35—38, 44, 45, 49, 59, 65, 69, 72, 76, 77, 87, 96, 110, 112, 114, 115, 116, 162, 173, 176. **3.** агароджаная частка двара ля свінушніка 108, 115, 159, 164, 177, 180. **4.** прастора ад хаты да хлявоў 54, 154, 184, 186, 187. **5.** сядзіба 74, 79, 108, 136, 204. **6.** панскі маёнтак 4, 8, 9, 12, 13, 18, 71; калгасны 75, 98. ◊ ***– ц'óмны*** 194. двор ля хлява. ◊ ***– св'éтлы*** 194. двор ля хаты. ◊ ***– с'в'ін'н'ачы*** 177. загарадзь ля хлява для свіней.

**ДВОРЫК** двóрык *м.* 17, 198. загарадзь для свіней каля хлява 17, 198.

**[ДЗВЕРАЧКІ]** двэ́рочка *мн.* 89. двэ́рочкі *мн.* 84. двэ́рчыкы *мн.* 55. фортка ў плоце.

**ДЗВЕРЦЫ** двэ́рца *мн.* 75, 88, 93а, 96, 99, 101, 119, 125. дв'ếрца *мн.* 196, 204. д'в'éрцы *мн.* 125. двóрцы *мн.* 134. двэ́рца *мн.* двэ́рцы *мн.* 17, 25, 50, 52, 63, 76. двэ́рцэ́ *мн.* 65. дз'в'éрыка *мн.* 154. дз'в'éрца *мн.* 113, 139, 151, 152. дз'в'éрцы *мн.* 82, 87, 113, 121, 148, 159, 163, 187. дз'вэ́рца *мн.* 103, 104, 112. дз'в'óрка *мн.* 183. **1.** фортка ў плоце 25, 50, 52, 63, 82, 87, 88, 93а, 96, 99, 103, 104, 112, 113, 119, 121, 125, 134, 139, 148, 152, 159, 163, 187. **2.** варотцы ў загарадзе ў хляве 17, 50, 65, 75, 76, 93а, 101, 113, 125, 139, 151, 154. **3.** дзверцы ў склепе 196, 204. **4.** дзверцы ў печы 183.

**ДЗВЕРЫ** два̋рі *мн.* 2. два̋рэ *мн.* 64, 65, 70, 73. двéра *мн.* 119. двéрі *мн.* 29, 31, 32, 59, 72, 72а. д'вэ́р'і *мн.* 84, 128, 176, 184, 203. двэ́ра *ж.* 75, 87—89, 96, 100. д'вэ́ра *ж.* 117а, 125. двэ́рі *мн.* 2, 6, 12, 13, 15, 17, 29, 36, 40, 52, 54, 55, 59, 93а, 101, 108, 129, 173. двэ́ры *мн.* 1, 5, 7, 16, 18, 20, 25—27, 44, 45, 69, 70а, 72, 74, 75, 77, 78, 79, 87, 90—92, 113, 119. двэ́рэ *мн.* 50, 66. дз'в'éра *ж.* 111, 139. дз'в'éрі *мн.* 196, 201, 202, 204. дз'вэ́ра *ж.* 83, 103, 104, 112, 114, 115. дз'вэ́ры *мн.* 37, 113. дзвéры *мн.* 188, 190. дз'в'éры *мн.* 81, 82, 116, 121, 136, 144, 148, 151, 152, 154, 158, 159, 162, 163, 169, 170, 171, 177, 181, 183, 185, 187, 191, 194, 197. дзвэ́рі *мн.* 118. **1.** дзверы ў хаце 16, 20, 36, 50, 52, 55, 66, 69, 72, 75, 77, 82, 84, 87, 90, 92, 96, 101, 103, 104, 112, 114, 116, 119, 128, 139, 144, 148, 151, 154, 158, 162, 163, 170, 173, 176, 177, 184, 185, 187, 191, 196, 197, 202, 204. **2.** вароты ў хляве 20, 36, 52, 67, 72, 75, 84, 90, 92, 101, 103, 112, 119, 139, 148, 177. **3.** вароты ў гумне 16, 54, 59, 69, 77, 82, 87, 96, 104, 114, 128, 136, 151. **4.** вароты ў плоце 88, 93а, 100, 112, 113, 117а, 119, 136, 139, 152, 159, 177, 191. **5.** прыгожыя вароты ў плоце (са стрэшкай) 151. **6.** варотцы ў загарадзі ў хляве 121, 201. **7.** дзверы ўсюды (хата – хлеў – гумно) 1, 2, 5, 6, 7, 12, 13, 15, 17, 18, 25, 26, 27, 29, 31, 32, 35, 36, 37, 40, 44, 45, 50, 52, 55, 65, 59, 66, 70, 70а, 72а, 73, 74, 78, 79, 81, 83, 89, 91, 93а, 108, 113, 115, 121, 169, 171, 181, 183, 188, 190, 203. **8.** шчыльна зробленыя дзверы 194. **9.** фортка ў плоце 111. **10.** вешніцы (у канцы вёскі) 75. **11.** дзверы двухстворчатыя 129.

**ДЗЕД** д'êд *м.* 125. д'ід *м.* 84. дз'ед *м.* 144. **1**. трама, на якую кладуць папярочныя бэлькі 125, 144. **2.** бервяно з пазам знізу, якое накладалі наверх на вільчык гонтавага даху 84.

**ДЗЕРАВА** дéрево *н.* 59, 71, 72. д'éрэво *н.* 125, 128. дэ́рво *н.* 2, 9, 40, 65, 77, 79, 92, 93а, 101. дэ́рэво *н.* 50, 84, 88, 91, 96, 108, 119. дз'éраво *н.* 115, 136, 144. дз'éрыво *н.* 103. дз'éрэво *н.* 118, 121, 128. **1.** будаўнічы матэрыял 2, 9, 40, 59, 65, 77, 79, 91, 92, 93а, 101. // Прыв'із дэ́рва на хату 9. **2.** абпілаванае бервяно ў сцяне 50, 71, 72, 84, 88, 96, 103, 108, 115, 118, 119, 121, 125, 128, 136, 144. // Пôд гýкна дэ́рэво 88. **3.** дубовыя плашкі, з якіх зроблены зруб калодзежа над зямлёй 128.

**ДЗЕРАВІНА** дервíна *ж.* 59. деревíна *ж.* 27. дерев'íна *ж.* 55, 60, 128. дырвы́на *ж.* 69, 73, 74. дырвэ́на *ж.* 64, 65, 76. дырывы́на *ж.* 54, 75, 100, 111. дэрывы́на *ж.* 108. дэрэв'íна *ж.* 36, 52. дэрэвы́на *ж.* 63, 87, 90. дз'ерав'íна *ж.* 81. дз'ерэв'íна *ж.* 83. абпілаванае бервяно ў сцяне.

**ДЗЯДЗІНЕЦ** д'ад'íнец *м.* 125. дз'адз'íнец *м.* 194. дз'едз'íнец *м.* 118, 121, 198. **1.** вялікі двор (саўгасны, панскі) 118, 125, 194. **2.** месца, дзе стаялі гумно і такі аднаго гаспадара 198. **3.** скрыня на дне калодзежа 121.

**ДЗЯДОК** дз'адóк *м.* 180. паз у шуле.

**ДНО** дно *н.* 28, 37, 52, 70а, 81, 99, 100, 117а, 118, 134, 139, 153, 163, 171, 181, 188, 195, 204. памост з дошак, які кладзецца на дне калодзежа, каб не наплываў пясок.

**ДОЛ** дол *м.* 173, 176. дôл *м.* 113, 114, 121, 136, 139, 148, 162. дул *м.* 115. дыл *м.* 110. **1.** зямля, гліняная падлога ў хаце 113—115, 121, 136, 148, 162, 173, 176. **2.** памост, падлога з дошак у хаце, у сенцах 110, 139.

**ДОМ** дом *м.* 1, 2, 4, 5, 7, 17, 29, 52, 70, 70а, 77, 78, 80, 81, 98, 118, 121, 148, 151—154, 159—161, 163, 171, 177, 181—188, 190, 191, 195, 198, 201, 203, 204. дôм *м.* 139, 162, 165, 169, 176, 194. дуом *м.* 59, 63. **1.** дом вялікага памеру, зроблены ў чысты вугал; у доме некалькі пакояў; план дома пераважна квадратны, страха – тып "вальма" 118, 121, 139, 148, 151—154, 159, 161—165, 169, 171, 176, 177, 181—188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203, 204. // До́м'ік – б'ёз ус'а́к'іх прыдз'елак 148. **2.** цагляны гарадскі дом 1, 2, 4, 5, 7, 17, 29, 32, 52, 59, 65, 70, 77, 79, 80, 81. ◊ ***муро́ваны–*** 20. цагляны.

**ДОМІК** до́м'ік *м.* 148, 163. **1.** хата ў чатыры сцяны (квадратны план) 32, 148. **2.** франтон 163.

**ДОШКА** до́ска *ж.* 2, 4, 9, 11, 13, 36, 37, 65, 76, 78, 79, 90, 93а, 101, 125, 148, 152, 158, 159, 165, 168, 170, 180, 184, 187, 188, 201. до́шка *ж.* 1, 7, 8, 14, 35, 38, 40, 44, 50, 54, 59, 63, 64, 68, 69, 70, 74, 86, 92, 104, 148, 164, 168, 171, 177, 185, 194. до́шчка *ж.* 29. **1.** адна дошка ў падлозе 1, 2, 4, 7, 8, 9, 11, 13, 29, 35—37, 38, 40, 44, 50, 54, 59, 64, 65, 68, 69, 70, 70а, 74, 78, 79, 86, 90, 92, 93а, 101, 104, 125, 148, 152, 158, 159, 164, 165, 168, 171, 177, 184, 185, 187, 188, 194. **2.** адна дошка ў столі 14, 29, 63, 76, 79, 90, 125, 170. **3.** дошкі, шырэйшыя за драніцы, якімі крылі будынкі 168, 180**. 4.** падваротня 70. **5.** доскі – дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона, каб вада не зацякала на гару 201. ◊ ***пуд доску*** 118. спосаб пакрыцця.

**ДОШЧАЧКІ** до́шчачкі *мн.* 181. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат збоку франтона і, скрыжоўваючыся ўверсе, утвараюць вільчак.

**ДРАБІНА** глаб'і́на *ж.* 70а 112. драб'і́на *ж.* 54, 87, 93а, 104, 116, 136, 139, 148, 170, 177. драбы́на *ж.* 20, 31, 119. **1.** драбіны – лазіць на гару 31, 70а, 87, 93а, 112, 119, 170, 177. **2.** драбіны, лесвіца лазіць на страху 20, 116, 148, 177; частка лесвіцы, якая ляжыць на страсе 104. **3.** драбіны ў калёсах 20, 54, 93а, 112, 139, 144, 170.

**ДРАБЫ** драбцы́ *мн.* 112. драбу́ *мн.* 161. др'а́бы *мн.* 121. **1.** азярод, на якім сушылі проса 161. **2.** драбіны 112, 121.

**ДРАВАРНІК** дрова́рн'ік *м.* 18. паветка для дроў.

**ДРАВАРНЯ** дрова́рн'а *ж.* 12, 38. дрôва́рн'а *ж.* 6. месца на двары, дзе рэзалі і секлі дровы.

**ДРАВЕШНЯ** драв'е́шн'а *ж.* 158. паветка для дроў.

**ДРАНІЦА** дран'і́ца *ж.* 103. драніца.

**ДРАНКА** дра́нка *ж.* 4, 164, 165, 168. **1.** драніца 164, 165, 168. **2**. дранка для тынку 4.

**ДРАНЬ** дран' *ж.* 136, 154, 159, 160, 164, 171, 194. драніца.

**ДРАЎНІК** дровны́к *м.* 4. дроўн'ік *м.* 163. месца на двары, дзе складвалі дровы, рэзалі і сяклі іх.

**ДРАЧКА** дра́чка *ж.* 20, 91, 136, 151, 197. паз у бервяне, куды закладаюць мох, каб шчыльней прылягалі бярвенні. // Дз'е́рці дра́чку 197. адзначыць знешнюю лінію ніжняга бервяна на верхнім пры дапамозе драчкі, каб пасля падагнаць яго.

**ДРУК** друк *м.* 25, 36, 60, 70, 144, 177. **1**. вочап у студні з жураўлём 25. **2**. жэрдка пад столлю ад печы да папярочнай сцяны, дзе вешалі адзенне, калыску 25. **3**. жэрдка, якой закладалі ў загарадцы праход 36, 70. **4**. дручок (прыстасоўваецца як рычаг) 144, 177. **5**. кол 60.

**ДРУЧКІ** дручк'і́ *мн.* 170. дручкы́ *мн.* 15, 16, 25. дручкэ́ *мн.* 45. **1.** плот з жэрдак 15, 16, 25, 45. **2.** калы, дручкі 170.

**ДРУЧОК** дручо́к *м.* 15, 16, 28, 40, 70, 74, 92, 101. **1**. *гл.* **друк 2** 16, 28, 40. **2**. падоўжняя жэрдка ў драбінах 92. **3**. заварэйка ў хляве, у загарадцы 70. **4**. жэрдка 15, 74, 93а, 101.

**ДРУЧЧА** дру́ччэ *зборны* 16, 20, 25, 29, 44, 45, 50. **1**. плот з жэрдак 16, 20, 29, 45, 50. **2.** жэрдкі, парэзаныя на латы. **3.** жэрдкі на козлах 16, 25, 45.

**ДРЫБЫЗДЗЕ** дрыбы́з'дз'е *н.* 82. галлё, лаза, якой прывязвалі салому да прыміцы.

**ДРЫВАНІК** дрываны́к *м.* 20. месца на двары, дзе складвалі дровы (бярвенне), рэзалі і сяклі іх.

**ДРЫВОТНІК** дров'і́тнык *м.* 11. дрову́тн'ік *м.* 185. дровэ́тн'ік *м.* 81. паветка для дроў.

**ДРЫВОТНЯ** драво́тн'а *ж.* 163, 198. дров'і́тн'а *ж.* 16, 17, 20, 25, 27—29, 44, 45, 73, 77, 78, 80, 100, 101, 117а. дрово́тн'а *ж.* 52, 104, 111, 134, 160. дрово̂́тн'а *ж.* 170. дрову́тн'а *ж.* 7, 84, 88, 93а, 99, 113, 118, 119, 125, 128, 148, 164, 165, 168, 169, 182, 186, 203, 204. дровўтн'а *ж.* 2, 13, 25, 79, 91, 92, 96, 171. дроўы́тн'а *ж.* 75. дрôво́тн'а *ж.* 54, 144. друво́тн'а *ж.* 6. друву́тн'а *ж.* 136. друвў́тн'а *ж.* 8. дрыво́тн'а *ж.* 14, 72а, 76, 129, 152, 191. дрыво̂́тн'а *ж.* 116, 154, 180, 187, 188. дрыву́тн'а *ж.* 139, 151, 159, 177, 190, 194, 195. дрывў́тн'а *ж.* 1, 5, 40. дрэ́вот'ін' *ж.* 64, 65. дрэ́вотн'а *ж.* 35, 66. дрэ́вутн'а *ж.* 31, 103, 181. **1.** месца на двары, дзе ляжаць дровы (бярвенне), дзе іх рэжуць і сякуць 1, 5, 7, 8, 13, 14, 16, 17, 20, 25, 28, 31, 35, 40, 44, 45, 52, 54, 65, 66, 72а, 75, 76, 77, 79, 80, 91, 92, 93а, 96, 99, 100, 101, 103, 111, 116, 117, 118, 119, 125, 128, 129, 134, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 159,

160, 163—165, 168—171, 180—181, 186—188, 190, 194, 195, 198, 203, 204. **2.** паветка на дровы 2, 6, 25, 27—29, 73, 76, 78, 84, 88, 99, 104, 113, 136, 177, 191.

**ДУБЕЦ** дуб’éц *м.* 184. дубец, якім салома прывязваецца да лат.

**ДЫЛЬ** дäл’ *м.* 65, 70. д’іл’ *м.* 125. дыл *м.* 45. дыл’ *м.* 1—9, 12—18, 20, 25—29, 35, 36, 37, 38, 40, 41, 44, 45, 49, 50, 54, 55, 56, 63, 64, 65, 68, 69, 70а—73, 76, 82, 84, 86, 88, 89, 92, 93а, 96, 99, 103, 108, 110, 113—116, 119, 121, 125, 128, 136, 139, 144, 148, 151, 154, 169, 187, 188, 194, 195, 198, 204. ды́л’а *ж.* 71, 76, 116, 148. дэ́л’ *м.* 41, 65. **1.** бервяно ў сцяне, абпіленае з двух або з чатырох бакоў 1—9, 12—18, 20, 25—29, 35—41, 44, 45, 49, 50, 54, 55, 56, 59, 63—65, 68—70, 70а, 71—73, 76, 82, 116, 136, 139, 204. **2.** брусы 10х10, 8х6 см 144, 148, 154, 165, 187. **3.** тоўстыя бярвенні, на якія разрэзваецца дрэва ў лесе 194, 195, 198; доўгае палена 2—9 м 151. **4.** крывое бервяно 114. **5.** прыгожае тоўстае зрэзанае дрэва 103, 115. **6.** камель дрэва 113. **7.** аполак 128. **8.** дылёўка для падаконніка, вушакоў 121, 144, 169. **9.** загарад у хляве 84, 93а, 108, 110, 119, 125. **10.** высокая агароджа з дошчачак (вертыкальна пастаўленых) 92. **11.** паркан, агароджа з гарызантальных дошак, дылёўкі 84, 86, 88, 89, 93а, 96, 99, 108, 125. **12.** пароша, лёгкі сняжок 188, 194. **13.** шапка над вушаком 17.

**ДЫМНІК** ды́мнык *м.* 16. комін.

**[ДЫРЛІНА]** дырлы́на *ж.* 28. 3—5 пучкоў саломы, звязаныя ля ўздра, якімі пакрываюць страху. *гл.* **кулік, гарліна.**

**ЖАРДЗЯ** жêрд’á *ж.* 60.

**ЖОЛАБ** жалабóк *м.* 31, 168, 197. жóлаб *м.* 194. жóлуб *м.* 65. збітыя дзве дошкі, якія кладуцца на верх страхі ці даху, каб праз вільчык не зацякала вада 65, 194.

**ЖОРДКА** жóрдка *ж.* 82, 88, 103, 136, 154, 188. жэрдка.

**ЖОРДОЧКА** жóрдочка *ж.* 76, 78, 83, 87. жырдэ́нка *ж.* 65.

**ЖУРАВЕЛЬ** журав’éл’ *м.* 108, 111, 114, 121, 144, 153, 168, 170, 182, 185, 186, 195, 198. журавэ́ль *м.* 7, 14, 16, 17, 25, 27, 38, 40, 45, 50, 59, 64, 70а, 72, 80, 83, 92, 93а, 112, 113, 201. **1.** вага ў студні з жураўлём 7, 14, 16, 17, 25, 38, 40, 45, 50, 59, 64, 70а, 72, 80, 83, 92, 93а, 108, 111, 112, 114, 144, 168, 170, 186, 195, 201; соха + вага 70а. **2.** вочап у студні з жураўлём 113. **3.** вага + вочап 121, 153, 182, 185, 198. **4.** прыстасаванне, на якім бегалі дзверы, калі яшчэ не было жалезных завес 27.

**ЖУРАЎКА** жура́вка *ж.* 44. вага ў студні з жураўлём.

**ЖЫЛІНА** жыл’íна *ж.* 158, 160, 177. жыл’íно *н.* 151. **1.** ачэп, які ляжыць на сцяне 160. **2.** жэрдкі або маленькая бэлька пад столлю, дзе сохне лён 151, 177. **3.** папярочная бэлька 158.

**ЖЭРДЗІ** жэ́рд’і *мн.* 12, 40, 52. // Господар жырд’мы оп’йаўся 40. жэрдзе.

**ЖЭРДКА** жэ́рдка *ж.* 1, 2, 7, 8, 13, 118, 134, 153, 163, 187, 194, 198, 201, 203. жэ́ртка *ж.* 37, 83, 115, 148, 165. жэрдка.

**[ЖЭРДЫ]** жэ́рды *мн.* 8, 14, 15, 17, 20, 25, 29, 38, 44, 49, 50, 55, 72а, 77, 79, 92. жэ́рдэ *мн.* 65, 66, 68, 70. у жэ́рд’і 84. **1.** плот з жэрдак 2, 7, 12, 14, 17, 20, 25, 37, 38, 44, 49, 50, 52, 55, 60, 65, 72а, 77, 84, 92. **2.** адгародка ў хляве 13, 15, 20, 25, 29, 38, 50. **3.** вочап з вядром у студні 13. **4**. жэрдка пад столлю ад печы да папярочнай сцяны, на якой вешалі адзенне 1, 2, 8, 13, 65, 70, 76, 78, 82, 83, 87, 88, 92, 103, 115, 118, 134, 148, 153, 154, 163, 165, 187, 188, 194, 198, 201, 203. **5**. латы 79. **6**. прыклады на козлах 66.

**ЗАБОР** забóр *м.* 5, 9, 18, 35, 77, 84, 89, 92, 96, 144, 148, 187. забốр *м.* 139, 158, 162, 180, 186, 194, 203. **1**. плот-штахетнік 5, 18, 35, 77, 84, 89, 92, 96, 148, 187; *гл.* **штахеты**. **2**. плот з дошчак, калі дошкі шчыльна прыбіты адна ля адной 139, 144. **3.** *(новае)* плот з жэрдак 9, 158, 194. **4.** частакол 203. **5.** паркан 162, 180, 186. **6.** адгародка ў хляве (аддзяляе катух) 139, 194. // Пры́городы заборам’і аддзел’óны 139.

**ЗАБОЧЫНЫ** забóчыны *мн.* 152. дошкі, якія прыбіваюцца па краях саламянай страхі, каб салома не раскідалася.

**ЗАБУДАВАННЕ** забудува́н’н’а *н.* 27, 31. усе гаспадарчыя будынкі разам з хатай.

**ЗАБУДОЎЛЯ** забудóўля *ж.* 98. забудốўл’а *ж.* 184. усе будынкі разам з хатай.

**ЗАВАЛАК** зава́лак *м.* 194. варотцы ў адгародцы ў хляве.

**ЗАВАЛІНА** зава́л’іна *ж.* 75, 76. зава́л’інка *ж.* 168, 202. зава́лына *ж.* 117а. зава́л’анка *ж.* 31. **1.** прызба 31, 76, 117а, 202. **2.** кавалкі бярвенняў між штандарамі 169. **3.** падваліна 75. **4.** ачэп (падоўжны) на бэльках 168.

**ЗАВАЛКА** за́валка *ж.* 104, 118, 121, 128, 197. засаўка.

**ЗАВАРАТКА** за́воротка *ж.* 50. закрутка.

**ЗАВАРОТНІЦА** завôрóтн’іца *ж.* 158. закрутка.

**ЗАВЕРТКА** за́в’ертка *ж.* 125, 148, 163. за́вэртка *ж.* 60. закрутка.

**ЗАВЕРЫНЫ** завэ́рыны *мн.* 78. **1.** плот з жэрдак 78. **2.** адгародка ў хляве 78.

**ЗАВЕСЫ** зав’е́сы *мн.* 148, 177, 197. зав’е̂ск’і *мн.* 103. зав’і́сы *мн.* 59, 60, 74, 89, 92, 173. зав’у̂сы *мн.* 69. завесы.

**ЗАВЕТРАНІК** зав’і́транык *м.* 16. зав’і́тренік *м.* 31. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат і перакрыжоўваюцца ў вільчаку.

**ЗАВОКАНКІ** зао̂конк’і *мн.* 139. аканíцы.

**ЗАВОКАННІЦЫ** заоко́н’н’іцы *мн.* 60, 90. зао̂кон’н’іцы *мн.* 139. зако́нныцы *мн.* 50. заоко́нныцы *мн.* 75. аканіцы.

**ЗАВОРКІ** заво̂рк’і *мн.* 168, 170, 185. заву́рк’і *мн.* 161, 177. дошкі ў плоце замест варот.

**ЗАВОРНІЦА** заво̂рн’іца *ж.* 186. падваротня ў плоце.

**ЗАВЯРЭЙКА** зав’арэ́йка *ж.* 164. падваротня.

**ЗАВЯРЭЙКІ** зав’ерэ́йк’і *мн.* 164, 169. завыр’е̂йкі *мн.* 165. дошкі замест варот у плоце. *гл.* **варотніцы**.

**ЗАГАРАД** за́гарад *м.* 190. за́город *м.* 25, 29, 37, 52, 59, 110, 169, 171. **1.** пастаўнік у полі 110, 190. **2**. загарадзь ля свінушніка 37, 52, 169. **3.** агульная назва агароджы 25. **4.** катух у хляве для каровы 29, 37. **5**. адгародка ў хляве 171.

**[ЗАГАРАДА]** за́гарада *ж.* 152, 154, 187, 188. за́города *ж.* 49, 83, 103, 104, 111, 112, 116, 161, 185. **1.** агульная назва агароджы 187. **2.** агароджаны сялянскі двор 49, 116. **3.** загарадзь ля свінушніка 112, 161. **4.** загарадзь ля хлява для кароў 83, 111, 112. **5.** пастаўнік для скаціны 104, 152. **6.** адгародка ў хляве 188. **7.** катух у хляве 103, 154, 185.

**ЗАГАРАДЗЬ** за́гарадз’ *ж.* 81, 103, 181, 204. за́город’ *ж.* 2, 4, 5, 6, 8, 9, 12, 13, 15, 16, 18, 28, 29, 44, 50, 54, 59, 64, 65, 66, 69, 72а, 74, 78, 79, 80, 86, 88, 92, 93а, 99, 100, 117а, 134. за́городз’ *ж.* 104, 143, 203. **1.** загарадзь ля свінушніка 4, 5, 6, 15, 28, 50, 59, 64—66, 69, 72а, 80, 81, 88, 99, 117а, 134, 204. **2.** загарадзь ля хлява для кароў 44, 50, 78, 81, 86, 181, 203, 204. **3.** пастаўнік у полі, у лесе 15, 29, 54, 65, 74, 79, 88, 92, 93а, 103, 148. **4.** загарадка ў хляве 2, 11, 12, 16, 18, 65, 104. **5.** катух 8. **6.** агароджа, плот (агульная назва) 12, 68, 100. **7.** плот з жэрдак 4, 5, 6, 13. **8.** частакол 2. **9.** паркан 9, 13.

**ЗАГАРАДЗЬБА** за́город’ба *ж.* 17. агульная назва агароджы.

**ЗАГАРАДКА** за́гарадка *ж.* 181. за́городка *ж.* 6, 20, 64, 83, 86, 104, 125, 163. загоро́дка *ж.* 63. **1**. загарадзь ля свінушніка 20, 163. **2.** пастаўнік 64, 83, 86. **3.** загарадка ў хляве 6, 104, 181. **4.** паркан 63. **5.** агародчык на кветкі 125.

**ЗАГАРНІЦЫ** заѓа́рн’іцы *мн.* 115. дзве дошкі, якія прыбіты да лат у канцы страхі і, перакрыжоўваючыся ўверсе, утвараюць вільчак.

**ЗАГАРОДДЗЕ** загору́дз’дз’е *н.* 36. загуменне.

**ЗАГАРОДЖА** за́героджа *ж.* 70а, 115; загоро́джа *ж.* 8, 9, 65, 73, 74. **1.** пастаўнік 9, 65, 73. **2.** агароджа 70а, 74, 115. **3.** агароджа з жэрдак 8.

**ЗАГАТА** зага́т *м.* 139. зага́та *ж.* 1, 2, 4, 5, 7, 8, 9, 11, 12, 13, 15—18, 36, 37, 40, 54, 55, 70, 73, 75, 76, 78, 91, 118, 121, 144, 151, 153, 163, 170, 188, 194. зага́тка *ж.* 169, 171. ога́та *ж.* 25, 68, 69, 59. **1.** загата 35, 110, 112, 113, 115, 118, 121, 139, 148, 151, 163, 169, 170, 171, 194, 203. **2.** гаць (з галля, ламачча) 139, 151. **3.** уцяпленне сцен будынкаў (аж да страхі) 1, 2, 4, 7, 8, 9, 11, 13, 15—18, 25, 36, 37, 55, 59, 69, 70, 73, 75, 121, 144, 153. **4.** уцяпленне сцен хаты да вакон 5, 12, 54, 76, 77, 78, 91. пляцень, абмазаны глінай 40. **5.** нячысты двор, завалены ламаччам, трэскамі 188. **6.** ахова з галля, ламачча вакол стога 144.

**ЗАГОН** заг’ін *м.* 29, 54, 64, 65, 70, 74, 76, 78, 88, 117а. заго́н *м.* 4, 14, 25, 36, 45, 52, 68, 69, 81, 82, 93а, 103, 104, 113, 114, 119, 163, 187. заго̂н *м.* 37, 125, 128, 136, 151, 154, 180, 182, 191, 203. загу́н *м.* 68, 108, 115, 116. загу̂н *м.* 2, 12, 13, 79, 96. **1.** загон поля, агароду 13, 14, 25, 29, 36, 37, 45, 54, 64, 65, 68, 69, 70, 74, 79, 93а, 96, 103, 108, 113, 115, 116, 128, 136, 151, 154, 158, 163, 168, 180, 182, 186, 187, 191, 203. **2.** пастаўнік, дзе жывёла стаіць ноччу або апоўдні 2, 4, 12, 52, 68, 76, 78, 81, 82, 104, 108, 113, 114, 116, 119, 125, 128. // Ста́ток стойаў у загон’ê. йак була гоноза́ (авады) 128. **3.** паша 114. **4.** месца ля ракі, куды ранняй вясной у час паводкі заганяюць кароў 115, 117а. **5.** засек у стопцы, свірне 88.

**ЗАГОНЧЫК** заг’інчык *м.* 78. заго̂нчык *м.* 12. **1.** загарадзь ля свінушніка 12. **2.** загарадзь для скаціны 78.

**[ЗАГРАДА]** за́град̆а *ж.* 156. хлеў, памяшканне для кароў. // Заган’і скарэ́й каро́ву ў за́граду 156.

**ЗАГУМЕНІШЧА** загум’е́н’ішча *н.* 116. месца ля хлявоў.

**ЗАГУМЕННЕ** загум’е́н’н’е *н.* 204. загумэ́н’н’е *н.* 4, 50, 63, 65, 73, 96. **1.** загуменне 4, 50, 63, 65, 73, 204. **2.** выган, папас ля сяла 96.

**ЗАКАКОШКА** закако́шка *ж.* 188. загнутае карэнне, галіны, на якіх ляжалі закрыліны – дошкі, якія трымалі драніцавую страху.

**ЗАКАТУШАК** закату́шак *м.* 104, 194. катушок. // Нааткутваў закатушкаў 194.

**ЗАКІДКА** зак’і́дка *ж.* 158. **1.** паркан. **2.** кавалкі бярвенняў, якія закладваюцца пад падрубай паміж калодкамі.

**ЗАКЛАД** ◊ ***под закла́д*** 44. ***пôд закла́д*** 2, 18. ***пуд закла́д*** 20, 29, 50. ***у закла́д*** 4. **1.** спосаб сточкі двух бярвенняў усторч, калі частка аднаго заходзіць пад другое 2, 18, 20, 29, 44. **2**. такім жа чынам спалучаныя дошкі ў падлозе 2, 4, 18, 29, 44, 50.

**ЗАКЛАДЗІНЫ** закла́дз’іны *мн.* 187. дошкі, якія закладаюцца за слупы ў калодзежы, утвараючы яго корпус.

**ЗАКЛАДКА** за́кладка *ж.* 4. падваротня ў гумне.

**ЗАКОТ** зако̂т *м.* 180, 187, 194. закот, франтон, утвораны з бярвенняў, якія кладуцца ад першага вянка аж да вільчака.

**ЗАКОЦІНЫ** закры́ліны. // Хаты крылі доскамі а зако́ц’іны – знізу досак 101, 152.

**ЗАКРАМ** закра́м *м.* 72. засек.

**ЗАКРУТКА** закру́та *ж.* 68. за́крутка *ж.* 1, 6—8, 11—18, 20, 25, 28, 32, 35—38, 40, 44, 45, 52, 54, 55, 59, 64, 65, 69, 70, 70а, 72а, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 83, 87, 90, 93а, 96, 99, 100, 101, 103, 104, 108, 110—113—117а, 121, 125, 128, 129, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 158, 161, 162, 164, 168—171, 176, 177, 180—182, 185—188, 191, 194, 195, 198, 201, 203. за́крут’ка *ж.* 2, 5. за́крутн’а *ж.* 84. закрутка (пераважна ў сенцах).

**ЗАКРЫЛІНЫ** закрі́ліні *мн*. 60, 70, 80. закрі́л’іны *мн*. 84, 102, 144. закры́вьіны *мн*. 60. закры́ла *мн*. 76. закры́л’іны *мн*. 35, 86, 89, 118, 121, 125, 136, 139, 151, 152, 165, 169, 171, 181, 182, 185, 186, 188, 190. закры́лыны *мн*. 72а, 74, 75, 78, 91, 117а, 119. закры́ўл’іны *мн*. 170. **1.** дзве дошкі, прыбітыя да лат, якія, перакрыжоўваючыся ўверсе, утвараюць вільчак 35, 60, 70, 72а, 74, 75, 76, 78, 80, 84, 86, 88, 89, 91, 102, 117а, 118, 119, 121, 125, 144. **2.** дубовыя дошкі, якія падтрымлівалі драніцы (дошкі) страхі, дзякуючы закрылінам уся страха рабілася без адзінага цвіка; за гэтыя дошкі можна было класці гарбузы 136, 139, 151, 152, 165, 169, 170, 171, 181, 182, 185, 186, 188, 190.

**ЗАКУТАК** заку́так *м.* 129. катух.

**ЗАКУТАЦЬ** заку́таць *зак.* 190. загарадзіць.

**ЗАЛОМ** зало́м *м.* 139, 180. страха з усечаным зверху франтонам**ЗАМЁТ** зам’о́т *м.* 181. замйо́т *м.* 177, 186, 188. замйо̂т *м.* 139, 151, 158, 164. замйу́т *м.* 148, 154, 191. замн’у́т *м.* 60. **1.** паркан 139, 151, 154, 158, 164, 177, 188, 191. **2.** прыстаранак, нізкі паркан, які аддзяляе ток ад стараны 60, 148. **3.** засек у гумне для мякіны 181. **4.** назва ўрочышча 186.

**ЗАМЕЦІНА** замэ́тына *ж.* 96. прыстаранак, бярвенне, якое аддзяляе ток ад стараны.

**ЗАМОК** замо́к *м.* 25, 26, 27, 29, 32, 59, 69, 72—79, 80, 87, 90, 93а, 102, 110, 112, 115, 117а, 125, 128, 153, 154, 158, 159, 176, 177, 180, 182, 184—187, 196, 198, 202, 204. замо̂к *м.* 139, 173. **1.** драўляны замок для замыкання хаты. **2.** *гл.* **вугал**.

**ЗАНОЗА** зано́за *ж.* 86, 93а, 115, 118, 121. сноз *м.* 89. вушачок у вокнах.

**ЗАПАДНЯ** за́падка *ж.* 72. за́падн’а *ж.* 165, 169. западн’а́ *ж.* 83, 113, 114, 125, 136, 148, 198. **1.** клямка драўляная або жалезная ў варотах, якая паднімаецца з дапамогай вяровачкі. **2.** клямка як частка клямкі 72.

**ЗАПАРАЖНЯ** за́порожн’а *ж.* 112, 128. падваротня ў гумне.

**ЗАПАРОЖНІЦА** запор’і́жніца *ж.* 117а. за́пôро́жн’іца *ж.* 113. запору́жныц’а *ж.* 70а. **1.** падваротня ў гумне 113, 117а. **2.** прыстаронак, нізкая адгароджа, якая аддзяляе ток ад стараны 113, 70а.

**ЗАПЕРЫНА** зап’е̂рына *ж.* 144. прыстаранак, нізкая адгароджа, якая аддзяляе ток ад застаронка.

**ЗАПЛІСКА** за́пл’іска *ж.* 110. падваротня ў гумне.

**ЗАПОЛІНЫ** запо́лыны *мн.* 17. прыстаранак, адгароджа ў гумне на чатыры брусы, якая аддзяляе ток ад стараны.

**ЗАПЯСОЧНІК** запасо́чн’ік *м.* 104, 110, 111, 112, 113—115, 153, 187. зап’асо́чн’ік *м.* 129, 148, 151, 152, 154, 158, 159, 163, 164, 168—171, 177, 181, 188, 190, 191, 194. зап’есо́чн’ік *м.* 103. зап’êсо́шн’ік *м.* 84, 173, 176. зап’ісо́чн’ік *м.* 119. запысо́чн’ік *м.* 88, 96, 108, 165. запэсо́чн’ік *м.* 125, 161. **1.** падоўжаны ачэп, які ляжыць на бэльках у хаце і на якім стаяць кроквы 88, 148, 151—154,

158, 165, 169, 171, 173, 176, 177, 181, 187, 190, 194. **2.** папярочны ачэп, які ляжыць на бэльках у хаце і на якім могуць стаяць крокввы 148, 159, 168, 188. **3.** ачэпы, на якіх ляжаць бэлькі 161, 163, 164, 170. **4.** апошняе бервяно на папярочнай сцяне, якое затрымлівае пясок на гары 84, 96, 103, 104, 108, 110, 111—113, 114, 115, 119, 125, 129.

**ЗАПЯСОЧНІЦА** запасо́чн'іца *ж.* 185. зап'асо́чн'іца *ж.* 118, 182, 195, 196, 202, 203. зап'асо́шн'іца *ж.* 180. зап'ê со́шн'іца *ж.* 184. запэсо́чн'іца *ж.* 186, 197. **1.** апошняе бервяно на папярочнай сцяне, якое затрымлівала пясок 186. **2.** ачэп у падоўжнай сцяне, які ляжыць пад бэлькай 184. **3.** падоўжны ачэп, які ляжыць на бэльках і на ім стаўляюцца крокввы 118, 180, 182, 195, 196, 197, 202, 203.

**ЗАПЯСОЧЫНА** зап'есо́чына *ж.* 128. запясо́ччына *ж.* 121. **1.** ачэпы на бэльках вакол хаты 128. **2.** ачэп, які затрымліваў пясок (ляжаў на бэльках) 121.

**ЗАРАДА** за́рода *ж.* 114. **1.** загарадзь ля хлява для кароў. **2.** пастаўнік у полі.

**ЗАСАД** заса́д *м.* 182. катух, дзе стаіць вяпрук.

**ЗАСАЎ** за́саў *м.* 134. засаўка.

**ЗАСАЎКА** за́саўка *ж.* 144, 151, 152, 159, 190, 194. за́совка *ж.* 14, 17, 27, 29, 31. за́соўка *ж.* 5, 6, 8, 11, 12, 16, 18, 28, 35—37, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 63—65, 68, 70а, 72а, 73, 80, 83, 90, 93а, 99, 112, 113, 116, 117а, 118, 121, 125, 128, 129, 144, 151, 153, 158, 161, 163—165, 168, 169, 177, 180—182, 185, 188, 190, 201, 203. за́сôўка *ж.* 7, 15, 25, 29, 38, 84, 115, 136, 139, 148, 162, 170, 171, 180, 182, 186, 188, 191, 195, 203. за́сулка *ж.* 70. за́суўка *ж.* 1, 2, 4, 13, 20, 32, 40, 44, 72, 154, 173. **1.** засаўка (пераважна ў дзвярах хлява ці гумна, ці ў варотах) 1, 2, 4, 5, 6, 7, 8, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 20, 25, 27, 28, 29, 31, 32, 35—37, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 63—65, 68,70, 72, 72а, 73, 80, 83, 84, 90, 93а, 112, 115, 116, 117а, 129, 136, 139, 144, 148, 152, 153, 154, 158, 159, 161, 162, 163—165, 168, 169, 170, 171, 173, 177, 181, 185, 190, 191, 194, 201. **2.** некалькі жэрдак ці дошчак, якія служаць замест варот у плоце 113, 118, 121, 125, 128, 151, 177, 180—182, 185, 186, 188, 195, 201, 203.

**ЗАСЕКА** зас'е́к *м.* 111, 142. зас'е́ка *ж.* 151, 177, 203. зас'ếк *м.* 36, 83, 115, 136, 184, 186. зас'ếка *ж.* 125, 148, 152, 170. зас'ік *м.* 2, 4, 27, 29, 31, 44, 59, 65, 68, 70, 86, 110. зас'іка *ж.* 60, 72, 74, 96, 101. **1**. засек у склепе для бульбы ці іншай гародніны 4, 27, 29, 36, 70, 74, 83, 86, 184, 203. **2.** загарадка ў хляве, катух 60. **3.** яслі ў кутку катуха 72, 152, 184. **4**. засек у свірне, ці ў клеці для змалочанага збожжа 4, 31, 44, 59, 60, 65, 68, 72, 136, 148, 151. **5.** засек у гумне, вароўні, у застаронку для мякіны 70, 110, 125, 152, 169, 170, 180. **6**. старана ў гумне 96, 101, 111, 177. **7.** засек у гумне ў старане (для сена) 115, 142. **8.** адгародка ў хляве (для каровы) 177.

**ЗАСЛАНКА** за́слонка *ж.* 80. засаўка ў дзвярах.

**ЗАСМЫЧКА** за́смычка *ж.* 60, 72а. за́см'ічка *ж.* 125. за́смŷчка *ж.* 113, 114. за́смычка *ж.* 55, 63, 64, 76, 78, 79, 81, 82, 88, 96, 100, 101, 103, 104, 108, 110. **1.** засаўка 55, 60, 63, 64, 72а, 76, 78, 79, 81, 82, 88, 96, 100, 101, 103, 104, 108, 110, 113, 114. **2.** некалькі жардзін, якімі закладзены ўваход на двор, калі ў плоце няма варот 125.

**ЗАСТАВЕНЬКА** застаўэ́н'ка *ж.* 18. падваротня ў гумне.

**ЗАСТАРОНАК** застаро́нак *м.* 144, 148, 153, 170, 194, 203, 204. застарốнак *м.* 195. застор'і́нок *м.* 117а. засторо́на *ж.* 26. за́сторонок *м.* 4, 70, 100. засто́ронок *м.* 31. засторо́нок *м.* 2, 4, 5—9, 11—18, 20, 25, 27—29, 31, 35, 38, 44, 45, 49, 50, 70а, 78, 111, 118, 121, 128, 136, 144, 161—165, 168, 169, 181—184, 186, 191, 198, 201. застору́нок *м.* 3, 119. застыро́нок *м.* 1. зашторо́нок *м.* 27. **1.** старана, частка гумна збоку тока, дзе зложаны снапы або сена 1, 2, 3, 4, 5—9, 11—13, 15, 17, 18, 20, 25, 29, 31, 37, 44, 45, 49, 50, 70, 70а, 100, 117а, 118, 119, 121, 128, 136, 144, 148, 153, 161—165, 168—170, 181—184, 186, 195, 203. **2.** прыстаранак, нізкі парканчык, які аддзяляе ток ад стараны 1, 16, 35, 37, 38, 78, 191, 194, 198. **3.** месца на таку для зберагання збожжа (зерня) 27. **4.** засек у каморы 27. **5.** старана з падлогай, засек у гумне 26, 29**. 6.** засек у старане для мякіны 201.

**ЗАСТАЎКІ** за́стаўкы *мн.* 86, 87. заста́ўк'і *мн.* 103. **1.** некалькі жэрдак, якімі закладваецца ўваход у двор, калі няма ў плоце варот 87. **2.** варотцы ў загарадзе ў хляве, якія не зачыняліся, а застаўляліся 103.

**ЗАСТАЎНІ** за́стаўн'і *мн*. 201. за́стаўн'і *мн*. 38. аканіцы.

**ЗАСТРЭХА** застр'ếха *ж.* 170. франтон.

**ЗАСТРЭШША** застр'і́шшэ *н.* 2. ніз страхі, які звісае за сцяной.

**ЗАСЦЕНАК** заст'і́нок *м.* 27, 29. частка сцяны паміж вокнамі ці між вуглом і дзвярыма.

**ЗАТЫЛАК** заті́лак *м.* 187. франтон.

**ЗАХАД** за́ход *м.* 72. за́хўд *м.* 91. **1.** летні лагер для жывёлы, пастаўнік 72. **2.** прыбудоўка ля варыўні, дзе спалі старыя 91.

**ЗАХІСТ** захы́ст *м.* 45. высокая прызба з саломы, якая ўцяпляе хату.

**ЗАЦЁН** зат'о́н *м.* 35. паз, у які закладаецца палец.

**ЗАШАЛЯВАННЕ** зашал'ава́н'н'е *н.* 151. зашал'ова́н'н'е *н.* 168, 182а, 201. франтон.

**ЗАШЧАПКА** за́шчапка *ж.* 104, 110, 116, 153. за́шчепка *ж.* 72. за́шчупка *ж.* 4. за́шчіпка *ж.* 27, 29, 31. за́шч'іпка *ж.* 162, 173, 176. за́шчыпка *ж.* 2, 20, 32, 37, 38, 65, 70, 75, 100, 108, 119, 136, 144, 148. за́шчэпка *ж.* 103, 104, 112, 197. зашчапка.

**ЗАШЧЫТ** зашч'іт' *ж.* 29, 31. зашчі́т *м.* 139, 148. франтон.

**ЗАШЧЫТА** зашчі́та *ж.* 154, 164. зашчы́та *ж.* 111, 112, 114, 153. франтон.

**ЗАШЧЫТАК** зашчы́ток *м.* 113, 115. франтон.

**ЗАШЧЫТНІК** зашчы́тн'ік *м.* 184. франтон.

**ЗАШЧЫТНІЦА** зашчы́тн'іца *ж.* 35а. падстрэшак.

**ЗВАНІЦА** дзвонэ́ца *ж.* 66. прыстасаванне з чатырох слупоў і пад'ёмнай стрэшкі для ўкладання сена, снапоў. *параўн.* **абарог**.

**ЗВОД** дзв'ід *м.* 78, 80. зв'ід *м.* 15, 16, 28, 45, 50, 70, 71, 72, 73, 77. зв'ід' *м.* 29. звод *м.* 71. звôд *м.* 55, 79. звуд *м.* 35, 35а, 59, 60, 125. звӯд *м.* 8, 12, 18, 38, 40, 44, 69, 70а. **1.** саха ў студні 38, 44, 45, 50. **2.** вага ў студні 8, 12, 15, 18, 28, 29, 35, 35а, 40, 55, 60, 70, 70а, 71, 73, 77, 78, 125. **3.** агульная назва для сахі, вагі і вочапа ў студні 16, 72. **4**. кут паміж кроквамі 71. **5.** вочап у студні з жураўлём 59, 78, 80.

**ЗВОДАЧ** зво́дач *м.* 25. саха ў студні.

**[ЗВЯЗЬ]** зв'аз' *ж.* 4, 18, 38, 84, 89. з'в'аз' *ж.* 65, 103, 104, 169. звйаз' *ж.* 11. зйаз' *ж.* 2. с'в'аз' *ж.* 13, 70а, 169, 182, 183, 197. **1.** ахлуп, бервяно паверх вакон 65, 84, 89, 104, 182. **2.** спалучаныя ачэпы, кладзі, якія звязваюць усю сцяну 2, 4, 11, 13, 18, 38, 70а, 169, 183, 197. **3.** пояс паміж дзвюма кроквамі 158. **4.** доўгія ніжнія бярвенні, якія кладуцца ў першы вянок на штандарах 76; тое ж у печы 183.

**ЗВЯНО** зв'êно́ *н.* 31. адлегласць, прастора паміж бэлькамі.

**ЗРУБ** зруб *м.* 1, 2—10, 12—18, 20, 25—29, 31, 32, 35—38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 59, 60, 63—65, 68—71, 72а, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81, 84, 88, 90, 92, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 104, 110, 113—115, 117а, 125, 129, 134, 136, 144, 148, 151, 152, 153—158, 159—165, 168—171, 173, 176, 177, 181, 182, 184—188, 190, 191, 194—198, 201—204. ўзруб *м.* 108, 180. **1.** зруб у хаце і іншых будынках 1, 2, 4—9, 12—18, 20, 25—29, 31, 32, 35—38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 59—60, 63—65, 68—71, 72а, 75, 76, 77—79, 80, 81, 84, 88, 90, 92, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 104, 110, 113—115, 117а, 125, 129, 134, 136, 144, 148, 151—154, 158—165, 168—171, 173, 176, 177, 181, 182, 184—187, 188, 190, 191, 195—198, 201—204. **2.** зруб у калодзежы (у зямлі) 7, 10, 13, 14, 17, 18, 28, 35 (раней так называлі); 37, 44, 49, 50, 52, 60, 63, 74, 78, 81, 90, 98, 100, 108, 129, 152—154, 159, 161, 163, 170, 171, 177, 180, 181, 185, 187, 188, 190, 194, 195, 198, 201, 203, 204. **3.** скрыня ў калодзежы на паверхні замлі 4, 5, 8, 35. **4.** шырокі калодзеж у балоце 45. (у адрозненне ад малога рэвыня).

**[ЗЫКЗАКІ]** зыкза́к'і *мн.* 114. фігуры, аздоба, выразаныя на верхняй шалёўцы акна знадворку.

**ЗЯМЛЯ** зямля́ *ж.* 186. зымл'а́ *ж.* 9, 44, 45, 54, 72а, 75, 101, 111. зымн'е́ *ж.* 65, 73, 76. зэмл'а́ *ж.* 128. зэмн'а́ *ж.* 54, 63, 75, 76, 77. гліняная падлога ў хаце; ток у сенцах.

**ЗЯМЛЯНКА** з'амл'а́нка *ж.* 104, 113—115, 134, 136, 148, 151, 153, 154, 159, 163, 164, 168, 169, 181, 185, 187, 190, 191, 194, 195. зімл'а́нка *ж.* 8, 27. з'імл'а́нка *ж.* 2, 32. земл'а́нка *ж.* 82, 162, 173. земн'а́нка *ж.* 31. з'емл'а́нка *ж.* 60, 110, 112, 128, 196, 202, 204. з'êмл'а́нка *ж.* 54, 117а, 144, 171, 173, 184, 197. зымл'а́нка *ж.* 4, 6, 17, 20, 29, 38, 44, 45, 75, 77, 84, 101. зымл'е́нка *ж.* 70. зымн'е́нка *ж.* 65, 73. зэмл'е́нка *ж.* 50. **1.** зямлянка (новае слова, якое прыйшло пасля I і II сусветных войн) 2, 4, 6, 8, 17, 20, 27, 29, 31, 32, 38, 44, 45, 50, 54, 60, 65, 70, 73, 75, 77, 82, 84, 101, 104, 110, 112, 113—115, 117а, 128, 134, 136, 144, 148, 151, 153, 154, 159, 162, 163, 164, 168, 169, 171, 173, 181, 184, 185, 187, 190, 191, 194, 195, 197, 196, 202, 204. **2.** будан 75, 112, 168, 181. **3.** старая хата, якая ўсела ў зямлю 195.

**ІЗБА** ізба́ *ж.* 100, 136, 144, 151, 153, 195, 204. йізба́ *ж.* 98. маленькая хатка, у якой жывуць, будынак меньшага памеру (як "хата").

**ІЗБУШКА** ізбу́шка *ж.* 144, 169, 204. *зневаж*. хатка

**КАВАРОТЧЫК** коворо́тчэк *м.* 49. фортка ў плоце.

**КАВАРОЦЕЦ** ко́воротыц' *м.* 16. кôворотэ́ц' *м.* 15. фортка ў плоце.

**КАГАН** кага́н *м.* 65, 70. вочап з вядром у студні з жураўлём.

**КАГАТ** кага́т *м.* 45. доўгі капец для бульбы, бурт.

**КАДОЎБ** кадо́ўб *м.* 148. выдзеўбаная скрыня на дне калодзежа.

**КАДУШКА** каду́шка *ж.* 191. скрыня ў калодзежы на дне.

**КАЖУХАВАЦЬ** кожухýваты *незак.* 4. шаляваць.

**КАЖУХОЎКА** кожухỳвка *ж.* 2, 4. **1.** сухі тынк 2. **2.** шаляваная сцяна 4.

**КАЗЫРОК** казырóк *м.* 134, 177. кóзыр *м.* 191. козырóк *м.* 29, 31, 45, 49, 86, 100, 101, 111, 114, 117а, 119, 125, 136, 185. **1.** падстрэшак 29, 31, 45, 49, 86, 100, 101, 111, 114, 117а, 119, 125, 134, 177, 185, 191. **2.** адзін бок страхі на вільчыку большы, чым другі 136.

**КАКАШЫНА** какашы́на *ж.* 180. дошка, якая прымацоўваецца па краях саламянай страхі да лат.

**КАКОРА** кокóра *ж.* 117а, 118, 121. **1.** будан з галін вербалозу, загнутых і звязаных, пераплеценых пáплескамі 118, 121. **2.** выгнутае дубовае палена, якое злучае ў лодцы дно з бакавой часткай 117а. **3.** нізкі разгалісты дуб, на які складалі сена (да 5 ц) 117а.

**КАЛАСНІК** калас’н’íк *м.* 194. мякіннік. // У застарóнку здз’éлана вýлка і там аддз’ал’айецца калас’н’ік 194.

**КАЛАСОЎНІК** каласóўн’ік *м.* 187, 190. **1.** мякіннік 187, 190. **2.** старана ў гумне 187.

**КАЛАСОЎНЯ** каласóўн’а *ж.* 152. засек у гумне.

**КАЛДУПЦЫ** колдýпц’і *мн.* 29. дзве дошкі, збітыя пад прамым кутом, якія кладуць на вільчыку.

**КАЛЕШНЯ** кал’éс’н’а *ж.* 177, 191. кал’éшн’а *ж.* 158. колáшн’а *ж.* 73. кол’éсн’а *ж.* 169. кол’éшн’а *ж.* 1, 139, 154, 170. кол’ȇшн’а *ж.* 37. колэ́шн’а *ж.* 2, 7, 8, 12, 25, 38, 44, 45, 49, 50, 66, 69, 74, 76, 78, 88, 93а, 101, 117а. кôл’éшн’а *ж.* 6. кôлэ́шн’а *ж.* 29. кул’éчн’а *ж.* 4. кул’éшн’а *ж.* 8, 72. кулэ́шн’а *ж.* 13, 44. **1.** розныя хлеўчыкі, будынкі для сена, саломы, мякіны 1, 4, 7. **2.** паветка для калёс, плуга, бараны 2, 6, 8, 12, 13, 29, 93а, 101, 117а. **3.** прыбудоўка, дзе была майстэрня на колы, калёсы 25, 37, 38, 45, 78, 88, 139, 154, 158, 169, 170, 177, 191. **4.** паветка для дроў, дрывотнік 29, 44, 49, 50, 66, 69, 72, 73, 74, 76. **5.** клець 44.

**КАЛЁЎКА** кал’óўка *ж.* 162, 176. шалёўка (у акне) з узорамі.

**КАЛІДОР** кал’ідóр *м.* 77, 92, 104, 115, 116, 128, 136, 148, 151, 152, 153, 158, 162—165, 169, 171, 185, 186, 191. кал’ідȏр *м.* 112. кол’ідóр *м.* 204. **1.** веранда 112, 128, 158, 163, 186. **2.** калідор – сені паміж дзвюма палавінамі хаты 77 (новае), 115, 116, 136, 169, 191, 204. **3.** стрэшка пры ўваходзе ў склеп 162. **4.** загарадка-праход у хляве 92. **5.** сені збоку хаты, зробленыя з дошак (новае слова) 104, 148, 151—153, 164, 165, 168, 171, 185. // Йак с’ен’і, но н’іжэ́й, прыробл’аны прыхл’ýпом 171.

**КАЛІТКА** кал’íтка *ж.* 7, 13, 14, 18, 35, 36, 38, 40, 45, 52, 54, 76, 77, 81, 100, 116, 148, 151, 152, 170, 191. **1.** фортка ў плоце (у пунктах 7, 13, 14, 18, 35, 36, 38, 40, 45, 52, 54, 76, 77, 81, 100, 116, 148, 170 – гэта новае значэнне). **2.** саламяныя снапкі, звязаныя ля ўздра 35.

**КАЛОВАРАТ** кол’éворот *м.* 148. колóвэрэт *м.* 101. колóворот *м.* 117а, 128, 144. кôлóворотô *н.* 115. **1.** вага ў студні 101, 115, 117а, 128, 148. **2.** калаўрот у студні 144.

**КАЛОВЕР** колóв’ер *м.* 171. колóвор *м.* 165. колóвэр *м.* 118. **1.** вага ў студні 165. **2.** саха і вага 171. **3.** саха, вага і вочап 118.

**КАЛОДА/ КАЛОДКА** калóда *ж.* 158. калóдка *ж.* 81. колóда *ж.* 74, 112, 115. колóдка *ж.* 13, 17, 44, 45, 82, 83. кôлóдка *ж.* 36. колýдка *ж.* 203, 28. колỳтка *ж.* 40, 44. **1.** калода пад падрубай 13, 17, 28, 36, 40, 44, 45, 81, 82, 83. **2.** кругляк, неабчасанае бервяно 74, 112, 115, 158, 203.

**КАЛОДЗЕЖ** калóдз’еж *м.* 153. калóдз’аз’ *м.* 112. калóдз’ез’ *м.* 103, 104, 134, 148, 158, 177. колóд’аз *м.* 2, 7, 17, 35, 40, 60, 68, 69, 72, 75, 76, 77, 78, 86, 91, 93а. колóд’аз’ *м.* 84, 111, 128, 165. колóд’ез’ *м.* 29, 71, 102. колóдз’еж *м.* 163. колóдз’аз’ *м.* 37, 83, 113, 136, 139, 168, 170, 171. колóдз’êз’ *м.* 55, 115. кол’óдаз *м.* 70а. колóдэз *м.* 88. кôлóдз’аз’ *м.* 144. кулóд’аз *м.* 3. **1.** зруб у хаце 144. // Хáта зрóбл’ана кôлóдз’аз’ом. **2.** студня 2, 3, 7, 17, 29, 35, 37, 40, 55, 60, 68, 69, 70а, 71, 72, 75, 76, 77, 78, 83, 84, 86, 88, 91, 93а, 102, 103, 104, 111, 112, 113, 115, 128, 134, 136, 139, 148,153, 158, 163, 165, 168, 170, 171, 177.

**КАЛОЧКІ** колóчк’і *мн.* 35, 54. колóчкы *мн.* 15, 17, 18, 38, 40. плот-частакол.

**КАЛЬЦО** кал’цó *н.* 158, 177. цэментаваныя кругі ў калодзежы.

**КАМАРНІК** камáрн’ік *м.* 148. комáрнік *м.* 144. **1.** будан з лазовых галін. // Н’íз’ен’кайа бýдка: гн’óш лозóвыйа кусты́, травȏй закладайêш 148. **2.** будан з палатна 144.

**КАМЕННЕ** кам’ȇн’н’е *зборны* 37. кам’íн’н’е *зборны* 12, 40, 44, 69, 73. кáмын’ *м.* 5, 6, 15, 17, 35, 36, 45. **1.** каменне пад падрубай (замест падмурку) 5, 6, 12, 15, 17, 35, 36, 37, 40, 44, 45, 69, 73. **2.** камень на месцы ганка, памоста 15.

**КАМОРА** камóра *ж.* 151—153, 158, 159, 173, 177, 180, 181, 187, 188, 190, 191, 195, 203, 204. комóра *ж.* 1, 2, 5—12, 14, 16—18, 27—29, 31, 32, 35, 38, 40, 45, 49, 52, 54, 55, 59, 60, 63—65, 68—72, 74, 75, 78, 79, 80, 90, 92, 111а, 115, 119, 121, 129, 136, 139, 148, 154, 163, 164, 168, 170, 171, 181,

182, 196, 201—204. кôмóра *ж.* 13, 25, 45, 50, 165, 186. **1.** камора побач з сенцамі для харчоў, адзення, мукі 1, 2, 5—8, 10, 11—14, 16—18, 27—29, 31, 32, 35, 38, 40, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 63—66, 68—72, 75, 80, 90, 92, 111а, 121, 125, 129, 136, 139, 148, 151—154, 163—165, 168, 170, 171, 173, 177, 180, 182, 186, 187, 188, 190, 191, 195, 196, 202—204. **2.** мякіннік 45. **3.** клець для прадзіва 170. **4.** варыўня 25, 119. **5.** склеп 79. **6.** клець 2, 74, 158, 159, 181.

**КАМОРКА** камóрка *ж.* 146, 176. камо̂рка *ж.* 194. ком'íрка *ж.* 29, 98, 100, 101, 117а. комо̂рка *ж.* 161, 185, 198. комýрка *ж.* 26, 128. кому̂рка *ж.* 4, 96. комы́рка *ж.* 17. **1.** камора 4, 26, 29, 98, 101, 128, 146, 161, 176, 185, 194, 198. **2.** мякіннік, дзе стаяла сячкарня 17. **3**. варыўня 96, 100, 117а.

**КАМУШ** камýш *м.* 112. веранда.

**КАМЯНІЦА** кам'ан'íца *ж.* 163. камын'ы́ц'а *ж.* 17, 98, 99. камэн'íца *ж.* 52. **1.** камяніца, цагляны дом 17, 52. *гл.* **дом 2**. **2.** зямлянка, дзе людзі хаваліся ў вайну 163.

**КАНЁК** кан'óк *м.* 112, 151, 177, 183, 191, 194. кон'óк *м.* 20, 26, 27, 29, 32, 54, 75, 76, 78, 115, 118, 136, 148, 161, 169, 184, 186, 204. **1.** вільчак 26, 27, 29, 32, 76. **2**. дзве дошкі, збітыя пад прамым кутом і пакладзеныя на вільчык 112, 148, 151, 161, 169, 177, 183, 184, 186, 191, 194, 204. **3**. паўкруглая чарапіца, якою пакрываецца вільчык 20, 54, 75, 76, 78, 115, 118, 148. **4**. козлы (папарна накрыж збітыя дручкі на вільчык страхі) 136.

**КАНЁЎКА** кан'ýўка *ж.* 72. дошкі (ветраніцы), якія закрываюць латы з боку шчыта і ўтвараюць уверсе вільчак.

**КАНЮШНЯ** кан'ýшн'а *ж.* 152, 153, 187, 190, 194, 195. кон'ýшн'а *ж.* 18, 20, 28, 52, 59, 70, 79, 91, 100, 104, 112, 139, 144, 154, 158, 161, 169, 182, 185. будынак, дзе знаходзіліся працоўныя коні.

**КАНЬ** кан' *ж.* 1, 5, 7, 9, 13—15, 20, 36, 37, 54, 64—66, 70, 72а, 73—75, 76—79, 82—84, 88, 89, 91—93а, 96, 101, 104, 108, 110, 112, 116, 119, 125, 151, 170, 181, 186, 191, 194, 197, 201. кáн'а *ж.* 1, 2, 4, 16, 17, 38, 40, 44, 45, 50, 71, 78, 117а, 118, 121, 128, 136, 139, 144, 148, 163, 164, 170, 177, 182, 196, 198, 202, 204. **1**. паз у сцяне, у які ўпускаецца перпендыкулярна перагародка 2, 5, 9, 36, 37, 38, 52, 54, 64, 65, 66, 70, 72а, 73, 75, 76—79, 82—84, 89, 91—93а, 96, 101, 104, 110, 112, 116, 118, 121, 128, 136, 148, 151, 163, 164, 177, 181, 186, 191, 194, 196—198, 201, 202, 204. **2.** французскі замок, або спалучэнне бярвенняў у вугле, пры якім вырэзваецца спецыяльна палец, у выніку чаго бярвенні шчыльна і моцна спалучаюцца 2, 5—16, 17, 20, 44, 50, 116, 117а, 119, 125, 144. **3.** спосаб спалучэння бярвенняў у сцяне адно на адным, які палягае ў тым, што ў ніжнім робіцца жолаб, каб верхняе шчыльна прылягала 7, 45, 92, 108. **4.** прамавугольны выруб у ачэпе ці мурлаце, у які ставіцца кроква 1, 13, 71, 88, 91, 96, 139, 182. **5.** паз у слупе (у вушаку) 4, 40, 74. **6**. паз у "стаўцы" (заноза ў акне) 5, 198. **7.** лісіцы, слупы, скручаныя гвінтамі, каб выправіць сцяну 1, 91, 139. **8.** выруб у сасе, куды кладзецца слемя (солам'е) 1. **9**. бочка для гуркоў 170, 190.

**КАНЯВАНКА** кан'авáнка *ж.* 72. сцяна, якая перагароджвае хату на дзве часткі.

**КАПАР** кáпар *м.* 169. вага ў студні з жураўлём.

**КАПЕЖ** кап'éж *м.* 35а, 52, 79, 80, 90, 114, 115, 128, 134, 144, 153, 154, 160, 163, 177, 198. кап'е̂ж *м.* 12, 36, 37, 49, 54, 83, 87, 103, 113, 118, 136, 148, 151, 159, 161, 164, 165, 170, 180, 181, 190, 194. кап'íж *м.* 1, 2, 5, 6, 8, 9, 11, 12, 18, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 50, 60, 65, 66, 68, 69, 70, 73, 74, 75, 76, 80, 82, 89, 91, 92, 93а, 99, 100, 108, 117а, 119, 121, 125, 171. капэ́ж *м.* 139, 168, 169, 195, 201, 203. крап'éж *м.* 191. **1.** ніжні край страхі 2, 8, 12, 29, 35, 37, 44, 50, 60, 66, 68, 70, 73, 74, 80, 82, 83, 89, 90, 91, 100, 103, 125, 136, 144, 148. // Стаў пуд кап'іж, а в'ін малэй, і дошч забывáйе 73. **2.** адведзеная страха, навіс над уваходам 5, 12, 37, 38, 45, 65, 67, 69, 115, 119. **3**. дождж, расталая вада, якая капае са страхі 1, 2, 8, 35, 38, 52, 54, 75, 79, 87, 99, 108, 113, 114, 121, 125, 139, 148, 153, 154, 160, 161, 163, 165, 168, 169, 170, 171, 177, 180, 181, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **4**. лужа, месца, куды падае вада са страхі 6, 66, 67, 70а, 75, 76, 78, 79, 92, 93а, 121, 153, 194. **5.** абарог, страха на чатырох слупах 40, 49. **6.** падстрэшак 9, 11, 18, 35а, 36, 37. **7.** ледашы 8, 151, 153, 154, 159, 164, 170, 181, 191, 195, 203. **8.** прамежак паміж дзвюма садзібамі (утвораны слядамі ад капель са страхі) 6, 117а, 118, 128, 134.

**КАПЕЦ** кап'éц *м.* 152, 159, 171, 177, 180, 181, 188, 190, 191, 195. коп'éц *м.* 87, 104, 108, 111а, 169, 182, 185, 186, 198, 201, 203. кóпыц *м.* 16. **1.** капец (плыткі і большы за яму), дзе зберагаецца гародніна 16, 108, 152, 159, 169, 171, 177, 180, 181, 182, 185, 186, 188, 190, 191, 195, 198, 201, 203. **2.** зямля, насыпаная на капец 87, 104, 111а.

**КАПЫНАЗ** капынáз *м.* 60. паветка без сцен. // З колк'ів, дэ дрова рубайут', або шчос' постáвыты, положыты косц'óр дроў.

**КАРАТЫШ** караты́ш *м.* 162. короты́ш *м.* 2, 84, 144. кароткае бярвенне, якое кладзецца ў прасценкі паміж вокнамі.

**ПАДПАВЕЦЬ** пôдпов'е́ц' *ж.* 83, 190. пôдпов'і́т' *ж.* 6, 59, 60, 73. пудпов'êц' *ж.* 112. **1.** павець (для калёс, дроў) 59, 60, 73, 83, 112, 190. **2.** адведзеная страха над уваходам у гумно, каб дождж не забіваў 6.

**ПАДПАРОГ** пудпор'і́г *м.* 28. масток, некалькі пален, якія ляжаць перад уваходам у хату.

**ПАДПАРОЖАЦ** потпору́жэц *м.* 35. *гл.* **падпарог**.

**ПАДПАРОЖНІК** подпоро́жнык *м.* 17. *гл.* **падпарог**.

**ПАДПЕЧАК** пôдп'е̂́чок *м.* 82, 83, 115, 128. путпі́чок *м.* 13, 73, 75, 88. падпечак (дзе былі куры).

**ПАДПЕЧНІЦА** подп'е́чэн'іца *ж.* 114. подп'е́чн'іца *ж.* 111. падпечак.

**ПАДПЕЧЧА** падп'е́чча *н.* 158, 187. подп'е̂́ч *м.* 113. подп'е̂́чча *н.* 176. подп'е̂́ччэ *н.* 160, 196. подп'і́ч *м.* 18, 76, 80. подп'і́чча *н.* 71. подп'і́ччэ *н.* 70а, 78, 99. пôтп'і́ччэ *н.* 2, 4, 6, 10, 28, 65, 183. пудп'і́ч *м.* 31. пудп'і́ччэ *н.* 27, 29, 45, 63, 184, 202, 204. падпечак (дзе зімою знаходзіліся куры).

**ПАДПЛЫТАК** пôдплы́ток *м.* 10. падпечак.

**ПАДПОЛЛЕ** пôдпо́л'л'е *н.* 195. склеп у хаце пад падлогай.

**ПАДРУБ** падру́б *м.* 81, 163, 177. по́друб *м.* 86, 148, 151, 154, 158, 165, 170, 181, 194, 195. пốдруб *м.* 191. пудру́б *м.* 139, 164. **1.** падруба 86, 139, 148, 151, 154, 158, 163, 164, 165, 170, 177, 181, 191, 194, 195. **2.** падваліна 81.

**ПАДРУБА** падру́ба *ж.* 134. підру́ба *ж.* 83, 110. п'ідру́ба *ж.* 84, 128, 171. подру́ба *ж.* 1, 36, 52, 55, 59, 60, 63, 65, 68, 71, 72а, 76, 77, 79, 82, 88, 98, 104, 108, 111—114, 121, 129, 136. пôдру́ба *ж.* 54, 60, 70, 78, 91, 93а, 101, 119, 125, 198. пыдру́ба *ж.* 103. пудру́ба *ж.* 35, 69, 72—74, 76, 80, 89, 92, 96, 99, 100, 117а, 118. падруба.

**ПАДРУБАК** подру́бок *м.* 79, 196. **1.** падруба 196. **2.** падваліны 79.

**ПАДРУБІНА** падру́б'іна *ж.* 180. падруба.

**ПАДСЕННЕ** пôдс'і́н'н'е *н.* 16. сені.

**ПАДСТАВЫ** пудста́вы *мн.* 90. тоўстыя дубовыя калодкі, на якіх стаіць будынак.

**ПАДСТАЎКА** пудста́ўка *ж.* 88. *гл.* **падставы**.

**ПАДСТРЭХА** пудстр'е́ха *ж.* 55. ніжні край страхі.

**ПАДСТРЭШАК** пудстэ́шак *м.* 181. падстрэшак.

**ПАДСТРЭШКА** пудстр'і́шка *ж.* 78. каробка пад страхой, шаляванне.

**ПАДСТРЭШКІ** пôдстрэ́шк'і *мн.* 181. прыбудоўка да гумна на салому, на мякіну.

**ПАДСТРЭШНІК** подстр'і́шнык *м.* 76. пôдстр'і́шнык *м.* 8. ніжні край страхі.

**ПАДСТРЭШША** пудстры́шйа *н.* 173. месца пад страхой, ніз страхі.

**ПАДСЦІЛКА** подсц'і́лка *ж.* 77. масток, некалькі пален (бярвенняў), якія ляжаць перад уваходам у хату.

**ПАДУШКА** паду́шка *ж.* 103, 194. по́душка *ж.* 31, 136, 148. **1.** падаконнік 103, 194. **2.** шапка над дзвярыма паміж вушакамі 31, 136, 148.

**ПАДШАЛЁЎКА** пôдшал'о́ўка *ж.* 89, 90. пудшал'о́ўка *ж.* 73. дошкі, прыбітыя над нізам страхі.

**ПАДШОПКА** потш'і́пка *ж.* 18. павець (для калёс).

**ПАДШТАНДАРКІ** патштанда́рк'і *мн.* 194. кароткія дубовыя калодкі, якія ўкопваюць па вуглах хаты і на якія кладуцца першыя вянкі хаты.

**ПАД ШТРЫХА** пуд штрыха́ 125. спосаб пакрыцця.

**ПАД ШТРЫХАЛКУ** пôд штрыха́лку 93а. спосаб пакрыцця [чаротам].

**ПАД ШТРЫХОЎКУ** под штрахо́ўку 116. пôд штрыхо́ўку 121. пуд штрых'у̂́ўку 79. спосаб пакрыцця. // Пасля першага раду кул'і соло́мы клал'іса пôд штрыхо́ўку. Ўн'із колосом… прыв'азвал'і да прын'іцы 116.

**ПАДШУРАК** пôдшу́рок *м.* 1, 6, 29, 31. путшу́рок *м.* 28. паветка.

**ПАДШУР'Е** пôдшу́рйе *н.* 12, 18. паветка без сцен ці са сценамі, прыбудаваная да гумна.

**ПАД ШЧОТКУ** пад шчо́тку 181, 188, 191. пôд шчо́тку 36, 170. пуд шчо́тку 87, 185, 195, 198, 201. пуд шчôтку 186. пуд шчу́тку 169, 177. спосаб пакрыцця, калі пасля падстрэшанага снапкамі першага раду коласам уверх кладзецца салома і падбіваецца шчоткай (драўляным прыстасаваннем).

**ПАДШЧЫТНІК** падшчы́тн'ік *м.* 81. патшчы́тн'ік *м.* 153. подшчі́тн'ік *м.* 14, 59, 128. подшчы́тн'ік *м.* 20. потшчы́тн'ік *м.* 1, 10. потшчы́ток *м.* 44. пôтшчы́тн'ік *м.* 2, 5, 6, 8, 25, 38, 40, 59. пудшчы́тн'ік *м.* 55. путшчы́тн'ік *м.* 11. падстрэшак.

**ПАДШЫЎКА** подшэ́ўка *ж.* 60. дошкі, прыбітыя знізу да страхі – падстрэшка знізу франтона.

**ПАДШЫЎНАЯ СТОЛЯ** подшыўнайа стốл'а 196, 204. столя, падрыхтаваная пад тынк.

**ПАДЭШВА** подо́шва *ж.* 72, 102, 117а. пудо́шва *ж.* 50. **1.** падруба (пад хату) 72. **2.** падваліна (пад падлогу) 50, 102, 117а. *гл.* **падашва**.

**ПАЗ** паз *м.* 2, 4, 6, 7, 9, 13, 15, 18, 20, 25, 27, 29, 31, 32, 36, 38, 40, 45, 50, 52, 59, 60, 63, 65, 68, 70, 72а, 76, 78, 79, 80, 82, 88, 89, 90, 92, 93а, 101, 104, 113, 118, 139, 151, 153, 158, 159—163, 165, 168, 170, 171, 173, 176, 177, 180—188, 190, 191, 194—198, 201—204. па́за *ж.* 125. па́зочка *ж.* 115. паз у шуле, у вушаку, у бервяне (каб шчыльней прыставала да ніжняга бервяна), у сцяне (куды закладаюць перпендыкулярную перагародку), у шуфлядзе, каб шчыльней прыставала рама. // У ра́мя для шыбкі робіцца паз, а шпар – стары спосаб 184.

**ПАЗУХА** па́зуха *ж.* 188. вуха ў ачэпе, якое надзяваецца на палец шула.

**ПАКОТ** пако́т *м.* 81, 103а. паку́т *м.* 35а. пок'íт *м.* 71, 73, 76, 77, 78, 80, 89, 98, 99, 101, 102, 109, 117а. поко́т *м.* 116. поко̂т *м.* 112. поку́т *м.* 36, 52, 55, 59, 60, 79, 86, 114, 115. покўт *м.* 69, 82, 83, 110. **1.** столя 35а, 36, 52, 55, 59, 60, 69, 71, 76, 77, 78, 79—82, 99, 110, 112, 114, 115. **2.** гара (у хаце) 71, 73, 80, 83, 86, 89, 98, 101, 102, 103, 109, 116, 117а. ◊ ***на поко́ц'ê*** 111, 113, 128 на гары. ◊ ***на пок'íт*** 75. ***на поко́т*** 113. ***на поко̂т*** 55. ***на поку́т*** 36, 84, 93а, 114, 115, 125. ***на пок'ӯт*** 82, 96, 110. на гару.

**ПАКОЦІНА** пако́ц'іна *ж.* 81. пок'íтына *ж.* 99. пôко́ц'іна *ж.* 55. адна дошка ў столі.

**ПАКРЫЦЦЁ** пакрыц'ц'é *н.* 163. покрыт'т'é *н.* 50, 70. **1**. салома, накладзеная на вільчык пад козлы 163. **2.** дах (несаламяны) (агульная назва) 50, 70.

**ПАЛАВІНКА** полові́нка *ж.* 20, 29, 80. полов'íнка *ж.* 162, 173, 176, 196, 202, 204. створка акна.

**ПАЛАВІНЧЫК** полов'íнчык *м.* 37. полові́нчык *м.* 1, 5, 13, 15, 18, 25, 35, 37, 54, 63, 80. половэ́нчык *м.* 65, 70. плашка, напалавіну расколатае бервяно.

**ПАЛАТКІ** пала́тк'і *мн.* 159, 161, 163, 180, 181, 182, 184, 186, 194, 203. пала́ц'і *мн.* 152, 154. пола́тк'і *мн.* 185. пола́ц'і *мн.* 139, 152. **1.** вышкі ў хляве 139, 152, 159, 161, 163, 180—182, 184—186, 194. **2.** насціл вышынёй каля 20 см ад зямлі ў застаронку, дзе ляжалі снапы 152, 154. **3.** гара ў лазні 203.

**ПАЛЕНА** пал'éна *н.* 151, 180, 181, 187, 188, 190, 191, 194, 198, 204. пал'éно *н.* 152, 153, 159, 177, 182, 195. пол'éно *н.* 154, 160, 161, 163, 170. пол'ếно *н.* 164, 165, 169, 171, 185, 197, 201, 203. пôл'ếно *н.* 148, 162, 176, 186. **1.** ачасанае бервяно ў сцяне 148, 151—154, 159—161, 163—165, 169, 171, 177, 180—182, 185—188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203, 204. **2.** кругляк, неачасанае бервяно ў сцяне 170, 180, 191. **3.** ачэп пад бэлькай 162, 176. **4.** солам'е ў гумнах "на сохах" або ў куранi 152, 154, 164, 165, 188. **5.** вага ў студні з жураўлём 161.

**ПАЛЕПА** пол'éпа *ж.* 10. ток, зямля ў хаце, у хляве.

**ПАЛЕЦ** па́л'ац *м.* 187, 194. па́л'ец *м.* 36, 52, 55, 82, 84, 92, 121, 148, 158, 161—163, 171, 173, 176, 177, 180, 183, 184, 186, 188, 195, 196, 197, 202, 204. па́л'êц *м.* 9, 63, 91, 93а, 104, 110, 118, 139, 144, 154, 164, 165, 169, 170, 181—182, 185, 203. па́л'іц *м.* 2, 5, 16, 25, 35, 37, 65, 70, 77, 92. па́л'іц' *м.* 7, 18, 44, 45, 54, 80. па́лыц' *м.* 17, 29, 38, 50, 75, 76, 79. па́лэц *м.* 96, 125, 128, 201. па́лэц' *м.* 13, 20, 27, 29, 31, 73, 78. зарэзаны канец бервяна, які ўстаўляецца ў паз у шуле, зарэзаны канец (штыль) шула, вушака, які ўстаўляецца ў падрубу або на які надзяваецца ачэп, штыль у вугле (у замок).

**ПАЛІСАДНІК** паўса́дн'ік *м.* 190. пол'іса́дн'ік *м.* 6, 148. поўса́дн'ічок *м.* 76. агародчык.

**ПАЛІЦА** пол'íца *ж.* 52. пол'íц'а *ж.* 6. полы́ц'а *ж.* 4. пôл'íца *ж.* 84. **1.** жэрдка пад столлю, на якую вешалі адзежу 4, 6. **2.** дошка, якая калісьці прыбівалася замест падстрэшка 52.

**ПАЛОЎНІК** пало́ўн'ік *м.* 158. поло́вні́к *м.* 18, 29. поло́вн'ік *м.* 18, 111а. поло́вные *м.* 13, 25. поло́ўн'ік *м.* 1, 12, 40, 54, 70а, 168. поло́ўнык *м.* 6. поло́ўнычок *м.* 35. мякіннік, прыбудаваны каля гумна або адгароджаны ў кутку ў застаронку.

**ПАЛОЎНЯ** поло́ўн'а *ж.* 93а, 96. будынак для сена, адрына.

**ПАЛЬ** пал' *м.* 16, 25, 29, 49, 50, 52, 55, 72. тоўстыя дубовыя слупы, якія закопваюцца ў зямлю пад падрубы.

**ПАМАСНІЦА** памас'н'íца *ж.* 81, 151, 153, 177, 188, 191, 194. помас'н'íчына *ж.* 163, 182а. помос'н'íца *ж.* 139, 203. помос'н'íчына *ж.* 154, 161, 168. помо̂с'н'íца *ж.* 186. помо́с'ц'іна *ж.* 121. адна дошка ў падлозе.

**ПАМЕТНІК** пом'éтн'ік *м.* 144. тонкія жэрдкі або галіны, якія кладуцца і прывязваюцца да ключыцы, выконваючы ролю лат у будынках "на сохах".

**ПАМЕЦІНА** пом'éц'іна *ж.* 182. жэрдачка, да якой прывязваецца салома, калі пакрываюць страху спосабам "пад шчотку".

**ПАМОСТ** памóст *м.* 103, 104, 153, 181, 194. памо̂́ст *м.* 151, 180. паму́ст *м.* 194. помíст *м.* 75. пом’íст *м.* 98, 119. помóст *м.* 1, 56, 60, 92, 93а, 113, 125, 129, 163. помостóк *м.* 27, 36, 52, 55, 63, 72. помóстык *м.* 73, 89. помостóчок *м.* 16, 31. помо̂́ст *м.* 112, 164, 182а, 198. по̂мо̂сто́к *м.* 29. пому́ст *м.* 35, 84, 86—88, 118, 121, 125, 139, 154, 161, 169, 170. помустóк *м.* 50. пому̂́ст 83. пому̂́шч’ік *м.* 69. помы́ст *м.* 82. **1.** памост перад парогам 1, 16, 27, 29, 31, 36, 50, 52, 55, 56, 63, 69, 72, 73, 89, 92, 93а, 125. **2.** падлога ў сенцах або ў хаце 35, 60, 75, 82, 83, 84, 86, 87, 88, 103, 104, 112, 121, 129, 139, 151, 153, 154, 161, 163, 164, 169, 170, 180—182, 194, 198; у клеці 98. **3.** старана, засек у гумне, дзе ляжыць збожжа (снапы і зерне) 113, 125. **4.** дно ў калодзежы 194, 198. **5.** памост перад уездам у гумно 16. **6.** памост на дрэве, на якім стаялі вуллі 119. **7.** на пароме, у лодцы, або на бульбу пры паводцы // Хáта калынóва, с’íны на помóсты, с’аду да й пойíду до д’íўчыны ў гóсты 75. Хата на помо̂с’ц’ê 194 = падлога ў хаце.

**ПАПЛЁТ** папл’óт *м.* 181, 194, 198. пераплеценыя лазовымі дубцамі ключыны (у хлявах "на сохах").

**ПАПЛЕЦІНА** папл’éц’іна *ж.* 187, 196, 202. папл’óц’іна *ж.* 195. лазовыя дубцы, якімі перавязваліся ключыны (у хлявах "на сохах").

**ПАПЯРОЧКА** попарэ́чка *ж.* 25. поп’е̂рэ́чка *ж.* 173. попэрэ́чка *ж.* 111. **1.** пояс, папярочнае бервянцо, якое злучае дзве кроквіны 25, 173. **2.** солам’е 111.

**ПАРАХНО** порохнó *н.* 4, 52, 63, 72а, 99, 115, 117а, 163. порохн’íца *ж.* 113. *зневаж.* старая хата.

**ПАРКА** пáрка *ж.* 5, 11, 59, 91, 92. пучок саломы, звязаны ля калосся. Такімі паркамі пакрываюць верхнюю частку страхі.

**ПАРКАН** паракáнт *м.* 104. паргáн *м.* 117а. парѓáн *м.* 13, 59, 66, 69, 73, 76, 78, 91, 92, 98, 102, 119, 128. паркáн *м.* 2, 4—7, 12, 15, 25, 35а, 38, 40, 83, 96, 103, 108, 151, 152, 187. пархáн *м.* 35. **1.** агульная назва агароджы 66. **2.** шчыльная агароджа з дошак (каля царквы, у горадзе каля турмы) 2, 4, 6, 7, 13, 73. **3.** плот з трох жэрдак і прасунутых паміж імі галінамі дрэў, або малодзенькімі дрэўцамі 5, 35, 35а, 59, 69, 92, 117а. **4.** агароджа з дошчачак – "штахеты" 38, 76, 78, 83, 91, 96, 98, 102, 152, 187. **5.** нізкі "штахет" – агароджа ля агародчыка 40, 103, 151. **6**. агароджа ў прызбе, каб пясок не з’язджаў 128. **7.** брама на могілках 15 (шчыльна з дошак). **8**. ганак 12. **9.** загарадка ў хляве 119. **10.** агароджа (па-польску) 25, 108. **11.** агароджа з адной жэрдкі ўздоўж вуліцы сяла 104. **12.** парэнча ля кладкі, на мосце 104. **13**. агароджа з трох жэрдак. // Пэрэву́йныком пэрэпл’утвайут’ да жэрды закладайут’ 119. **14**. паркан 66.

**ПАРОГ** парóг *м.* 81, 134, 153, 158, 159, 163. паро̂́г *м.* 180, 181, 188, 190, 191. пару́г *м.* 177, 195. пор’íг *м.* 17, 20, 28, 29, 32, 34, 44, 50, 64—66, 70, 71, 72, 72а, 73, 76, 77, 78, 80, 99, 101, 102. порóг *м.* 6, 14, 52, 59, 60, 82, 100, 154, 160. поро̂́г *м.* 13, 90, 110, 112, 129, 182. поруóг *м.* 31, 36, 55, 161, 201. пору́г *м.* 26, 37, 63, 112, 114, 119, 144, 148, 168, 169, 182, 186. пору̂́г *м.* 1, 2, 4, 5, 7, 25, 40, 69, 70а, 79, 83, 92. поры́х *м.* 117а. по̂р’íг *м.* 27. по̂ро̂́г *м.* 162, 198. по̂ру́г *м.* 54, 60, 148, 165. пурóг *м.* 173, 176. **1.** масток перад парогам 32, 55, 81, 112, 119, 129, 134, 148, 153, 154, 160—162, 165, 168, 169, 176, 177, 180—182, 186, 188, 191, 195, 198, 201. **2.** парог 1, 2, 4, 5, 6, 13, 14, 17, 20, 25—29, 31, 34, 36, 40, 50, 52, 54, 60, 63—65, 69—72а, 76, 77, 79, 80—90, 93а, 99, 100—102, 112, 114, 117а, 144, 148, 153, 158, 159, 162, 163, 173, 176, 180—182, 191, 201. **3.** падваротня 7, 36, 37, 59, 66, 73, 76. **4.** папярочкі паміж слупамі ў калодзежы, каб слупы не стуліліся 44, 78, 110. **5.** пералаз у плоце 190.

**ПАРОЖНІЦА** пор’у̂́жныц’а *ж.* 70а. падваротня.

**ПАРУБІНЫ** порýбыны *мн.* 4. зруб у калодзежы.

**ПАРЫЎНЯ** парыўн’á *ж.* 158. будыначак, у якім распарваюць бярозавыя ці лазовыя дубцы, каб прывязваць імі салому да прыміц.

**ПАСЕЛА** пос’éл’а *ж.* 118, 121, 128. посэ́ла *ж.* 50, 72. сядзіба.

**ПАСЕЛІНКА** посыл’íнка *ж.* 80. сядзіба, месца, дзе стаіць хата і іншыя будынкі.

**ПАСЕЛІШЧА** пас’éл’ішча *н.* 163. пос’éл’ішчэ *н.* 115. сядзіба.

**ПАСТАВЕНЬ** пастовэ́н’ *ж.* 25, 111а. пастувэ́н’ *ж.* 29. вялікі пастаўнік, агароджаная паша.

**ПАСТАРОНАК** пастарóн’н’ік *м.* 190. посторóнок *м.* 185. засек, старана, частка гумна (убок ад тока), дзе ляжаць снапы, збожжа.

**ПАСТРОЙКА** пастрóйка *ж.* 103, 110, 151—153, 154, 159, 187, 191, 201. пастро̂́йка *ж.* 180, 181. пастру́йка *ж.* 177, 190. пострóйка *ж.* 2, 4, 8, 9, 12, 13, 16, 25, 29, 35, 37, 38, 40, 52, 59, 65, 66, 68—70, 73, 74, 77, 79, 80, 83, 84, 87, 90, 91, 92, 93а, 96, 98, 100, 101, 108, 110, 112, 113, 115, 125, 163, 170, 176. постро̂́йка *ж.* 114, 116, 121, 169, 186. постру́йка *ж.* 55, 112, 118, 139, 161, 164, 165, 168, 171, 182, 185, 195. постру̂́йка *ж.* 70а. по̂стрóйка *ж.* 15, 50, 115. **1.** будынак 2, 4, 8, 9, 12, 13, 15, 16, 25, 29, 35, 37, 38, 40, 50, 52, 55, 59, 65, 66, 68—70, 70а, 73, 74, 77, 79, 80, 83, 84, 87, 90, 91, 92,

93а, 96, 98, 100, 101,103, 108, 110, 112, 113, 114, 115, 116, 118, 121, 125, 139, 151—153, 154, 159, 161, 163, 164, 165, 168, 169, 170, 171, 176, 177, 180, 181, 182, 185, 186, 187, 190, 191, 195, 201. **2.** будынак увогуле 68, 96, 115, 165. **3.** калі ўжо ўсё пабудавана – якая добрая пастройка! 153, 195. **4.** добрая пастройка (далікатней) 9. **5.** новае, толькі што збудаванае памяшканне 80. **6.** незакончаны будынак 100. **7.** пабудова хаты 163.

**ПАТАЛОК** потоло́к *м.* 76, 80, 93а. пôтоло́к *м.* 1, 92. столя. ◊ ***на паталк’е́*** 204; ***на паталку́*** 158, 187. на гары.

**ПАЎКЛЮЧНІК** поўкл’у́чнык *м.* 8. кароткая кроква ў маленькім франтоне.

**ПАХАДУНКА** походу́л’ка *ж.* 2. походу́нка *ж.* 4, 7, 9, 11, 163. склеп, абкладзены зямлёю, у які ходзяць па бульбу кожны дзень. // Походу́нка – накры́та йа́ма з вэрху на два рокі 4. *гл.* **паходушчы**, **пограб**, **ямка**.

**ПАХОДНІ** пахо́дн’і, *мн.* 195. сходы.

**ПАХОДНЯ** пахо́дн’а *ж.* 195. похо́дн’а *ж.* 144, 148. **1.** 1 дошка ў падлозе, памаснічына 195. **2.** лесвіца, па якой лазяць да коміна 144, 148.

**ПАЦЫЯТ** ас’ійа́т *м.* 180. ахв’іцыйа́т *м.* 194. охв’іцыйа́т *м.* 186, 197. ац’ійа́т *м.* 177. пас’ійа́ш *м.* 92. паційа́т *м.* 60, 86, 96, 100, 102, 125. пацыйа́т *м.* 68, 69, 72а, 74–77, 79, 87, 89, 90, 91, 93а, 99, 101, 102, 108, 113. пацыйа́ш *м.* 92. сацыйа́т *м.* 190. спацыйа́т *м.* 88. пацыйе́т *м.* 66, 70, 71, 73, 78, 80. фацыйа́т *м.* 153. ф’êцыйа́т *м.* 196, 204. ф’іцыйа́т *м.* 158, 160–163, 168, 176, 180, 182, 191, 195. хваційа́т *м.* 79, 181, 184. **1.** вальма ў чатырохсхілавай страсе 194. **2.** франтон 60, 66, 68, 69, 70, 71, 72а, 73, 74–77, 78, 79, 79, 80, 86, 87, 88, 89, 90, 91, 92, 93а, 96, 99, 100, 101, 102, 108, 113, 125, 153, 158, 160–163, 168, 176, 177,180, 181, 182, 184, 186, 190, 191, 195, 196, 197, 204. ◊ ***лама́ны пацыйа́т*** 89. страха з вальмай.

**ПАШЫЦЦЁ** пошыт’т’е́ *н.* 50, 65, 70а, 72. матэрыял (салома, чарот), якім пакрываецца страха.

**ПАШЭЎЛЯ** пошэ́ўл’а *ж.* 114. хіб, салома, накладзеная на вільчык пад козлы.

**ПЕРАВОЙ** перевуо́й *м.* 31. лазовыя дубцы, якімі прывязваецца салома да прыміц.

**ПЕРАГАРОД** п’ерэ́горôд *м.* 165. катух, загарадка ў хляве.

**ПЕРАГАРОДКА** парэ́горотка *ж.* 110. п’арэ́гаратка *ж.* 114, 128, 151, 182. п’ерагаро́тка *ж.* 170, 177. п’ерагару́тка *ж.* 159, 181. п’ер’егôро́дка *ж.* 121. п’ерêгоро́дка *ж.* 173. п’ерêгоро́дка *ж.* 173. п’ерôгôру́тка *ж.* 148. п’ерэ́гарадка *ж.* 180. п’ерэ́городка *ж.* 161, 169. п’êрэ́городка *ж.* 144. пыра́́горотка *ж.* 70, 73, 76. пырыгоро́дка *ж.* 7, 9, 17, 35, 70а. пырэ́гарутка *ж.* 103. пырэ́горотка *ж.* 38, 40, 44, 45, 59, 60, 64, 66, 69, 75, 76, 77, 84, 86, 87, 88, 96, 113, 119. пырэ́горутка *ж.* 68. пэрэ́горотка *ж.* 20, 83. пэрэгоро́дка *ж.* 9, 125. пэрэгоро́дка *ж.* 203. пэрэгору́тка *ж.* 112. **1.** перагародка, якая раздзяляе хлеў на катухі, загарадкі 7, 9, 17, 20, 35, 40, 44, 59, 60, 63, 65, 68, 69, 70а, 73, 75, 76, 77, 96, 103, 110, 112, 113, 119, 128, 148, 186, 203**. 2.** катух, загарадка, адгароджаная перагародкай 38, 45, 55, 66, 84, 86–88, 114, 121, 144, 151, 159, 161, 169, 170, 173, 177, 180, 181, 182. **3.** прыстаронак, нізкая сценка, якая аддзяляе ток ад застаронка 9, 125, 180.

**ПЕРАДКУЧЧА** пырыку́ччэ *н.* 2. праход паміж загарадкамі ў хляве.

**ПЕРАДЫЛЛЕ** пэрэды́л’ле *н.* 108. загарадзь перад хлявом, перад свінушнікам.

**ПЕРАДРЫННЕ** п’ерэдры́н’не *н.* 115. п’ерэды́н’йе *н.* 113, 115. загарадзь ля хлява і свінушніка. // Дз’е хл’евы́ – той подву́рочок 113.

**ПЕРАДХЛЕЎЕ** пырыдхл’і́ўе *н.* 20. пэрэдхл’і́ўе *н.* 119, 128. **1.** загарадзь ля свінушніка 20. **2.** месца перад хлявом і гумном 119, 128.

**ПЕРАКЛАД** парэ́клад *м.* 110, 115. перекла́д *м.* 4. п’арэ́клад *м.* 114, 116, 136. п’ерakла́д *м.* 134. п’ерaкла́дз’ *ж.* 170. п’ерaкла́дз’іна *ж.* 153, 180, 181, 191, 204. п’ере́клад *м.* 121. п’ерэ́клад *м.* 118, 136, 144, 171. п’ерэ́кладка *ж.* 151. п’ерэ́клад *м.* 6, 171. пыры́клад *м.* 1, 2, 5, 8, 9, 12, 20, 28. пырыкла́дына *ж.* 11, 45. пырэ́клад *м.* 113. пэрэ́клад *м.* 112. пэрэкла́д *м.* 12. пэрэкла́дына *ж.* 70. пэрэкла́дз’іна *ж.* 82, 88, 148. **1.** солам’е на сохах 1, 2, 4, 5, 6, 8, 9, 11, 12, 82, 88, 112, 113, 115, 116, 118, 121, 134, 136, 144, 151, 153, 170, 171, 180, 181, 191, 204. **2.** слой саломы, накладзены на вільчыку 8, 12. **3.** падоўжная трама ў курных хатах 118. **4.** шапка, перакладзіна, якая ляжыць на вушаках над дзвярыма 110, 170. **5.** прыстаранак, нізкі парканчык, які аддзяляе ток ад стараны ў гумне 2, 20, 28, 45.

**ПЕРАЛАЗ** п’ерала́з *м.* 114, 116, 148, 152, 190. п’ер’ела́з *м.* 128. п’ерыла́з *м.* 110. п’ерэла́з *м.* 161. пырала́з *м.* 136. пырыла́з *м.* 7–9, 12, 13, 16, 17, 25, 40, 45, 59, 64, 65, 68, 69, 70а, 72а, 73, 74–76, 77, 84, 87, 88, 89, 92, 93а, 101, 108. пэрэла́з *м.* 2, 35, 45, 60, 70, 91, 96, 112, 115, 128. **1.** прыстасаванне ў плоце (лавачка), дзе пералазяць 7, 8, 9, 12, 13, 16, 17, 25, 35, 68, 84, 87, 88, 110. **2.** месца ў плоце, дзе пералазяць 40, 92, 108, 112, 114, 115, 116, 136, 148, 152, 161. **3.** адгародка ў хляве 45, 128. **4.** плот з жэрдак 45, 59, 60, 64, 65, 69, 70, 70а, 72а, 73, 74–76, 77, 89, 91, 97. **5.**

пастаўнік для скаціны, агароджаны жэрдкамі 69. **6.** некалькі рухомых жэрдак на месцы варот у плоце 2, 92, 93а, 101. **7.** парог 190. // Ц'ераз п'ералаз с'ем раз сабаку п'ерагна́ц' 190.

**ПЕРАЛАЗІК** пырыла́зык *м.* 79. жэрдка замест варот у плоце.

**ПЕРАПЛЁТ** пäрапл'о́т *м.* 183. п'ерапл'о́т *м.* 136, 151. п'ерапл'у́т *м.* 191. **1.** плот з калочкаў, прасунутых паміж трох жэрдак 151, 191. **2.** аконны пераплёт 136. **3.** пераплёт на страсе – бярозавыя тычкі, пры дапамозе якіх кулі прымацоўваюцца да латаў.

**ПЕРАПЛЁЦІНА** пäрапл'о́ц'іна *ж.* 183. жэрдка, якая трымае кулі. // Пр'іўйазвайе пäрапл'оц'іну 183.

**ПЕРАСОЛЯ** пырысо́л'а *ж.* 82. пырысу̂л *м.* 70а. жэрдка пад столлю, на якую вешалі адзежу.

**ПЕРАСОЎ** п'ерасо́ў *м.* 134. п'ерасу́ў *м.* 154. п'êрасо̂ў *м.* 144. п'êр'есо́ў *м.* 121. пэрэсо́ў *м.* 139, 185. *гл.* **перасоля**.

**ПІЎШВЫ** п'і́ўшвы *мн.* 91. апоўзіны.

**ПЛАТВА** платва́ *ж.* 111а. ачэп пад бэлькамі.

**ПЛАШКА** пла́шка *ж.* 86, 173, 180—183. **1.** плашка; з яе робіцца плот "дыль" 173, 182, 183. **2.** плашка ў калодзежы 86, 180. **3.** плашкі, з якіх робіцца чорны пол 183.

**ПЛАШЧАК** плашча́к *м.* 20, 25, 44, 54, 59, 60, 64, 88, 93а, 112, 134. плашч'е́к *м.* 65. плошча́к *м.* 37, 50. плашка.

**ПЛЕЦЯНІК** пл'ет'аны́к *м.* 102, 125. пл'ет'е́н'ік *м.* 54. пл'ец'ен'і́к *м.* 36, 37, 55. пл'ац'о́н'ік *м.* 35а. пл'іт'аны́к *м.* 2, 5, 7. плот'ан'і́к *м.* 9, 12, 75, 91. плот'анэ́к *м.* 45. плôт'а́нык *м.* 16. плут'аны́к *м.* 13, 15, 60. плŷтны́к *м.* 92. плыт'аны́к *м.* 25, 28, 29, 38, 40, 64, 101. плыт'а́нэк *м.* 65, 66. плыт'у́х *м.* 77. плэт'а́нык *м.* 50, 60, 79. **1.** пляцень з лазы 7, 9, 12, 16, 25, 28, 36, 37, 38, 54, 55, 60, 64–66, 75, 77, 79, 91, 92, 101, 125. **2.** плот 25, 37, 38. **3.** хлеў з плятня 13, 15, 45, 50, 101. **4.** прыбудоўка да гумна, хлява для сена і інш. 29, 102. **5.** загата з плятня, аблепленая глінай 40.

**ПЛЕЦЯНЯ** пл'ац'ан'а́ *ж.* 112. пл'ет'ен'а́ *ж.* 111а, 128. пл'ец'ен'а́ *ж.* 111, 114, 115, 139. пл'êтн'а́ *ж.* 35, 84, 86. **1.** плот з трох жардзін і заплеценымі паміж імі галінамі 84, 111а, 112, 114, 128. **2.** пляцень з лазы, ядлоўцу 35, 84, 86, 111, 139. 3. хлеў з плоту 115.

**ПЛІНТУС** пл'і́нтус *м.* 20, 31, 36, 54, 65, 70, 148, 151, 173, 196, 202, 204. плінтус.

**ПЛОТ** пліт *м.* 11, 15, 17, 20, 29, 34, 45, 50, 65, 72а, 75, 80, 90, 99, 101, 110. пл'і́т *м.* 14, 28, 102, 117а. плот *м.* 6, 37, 49, 56, 59, 81, 82, 93а, 104, 119, 134, 153, 160, 163, 169, 170, 176, 180, 185, 188, 198, 204. плôт *м.* 9, 10, 12, 16, 25, 36, 37, 52, 54, 60, 93а, 98, 112, 136, 139, 144, 148, 151, 154, 158, 159, 162, 170, 180, 181, 186, 187, 188, 194, 195, 198, 201. плут *м.* 25, 35а, 60, 63, 68, 84, 86–88, 108, 111, 113–116, 118, 121, 125, 128, 129, 161, 164, 165, 168, 177, 182, 190, 191, 203. плуо́т *м.* 55, 103. плŷт *м.* 1, 2, 4, 5, 7, 8, 12, 13, 18, 35, 40, 69, 70а, 76, 78, 79, 92, 96, 171. плыт *м.* 38, 66, 70, 73, 74, 76, 77, 89. плэт *м.* 83. **1.** паркан 55, 83, 84, 170, 186, 187. **2.** агульная назва агароджы 2, 36, 38, 49, 56, 60, 63, 104, 158, 159, 168, 187. **3.** плот з трох жэрдак і заплеценых паміж імі галінамі 1, 2, 8, 9, 11, 12, 16, 17, 18, 20, 25, 44, 45, 50, 65, 70а, 72а, 73, 75, 79, 82, 98, 129. **4.** частакол 5, 77, 81, 82, 112. **5.** шчыльны плот з дошак 1, 121. **6.** плот штахетнік 5, 6, 37, 55, 88, 118. **7.** адгародка ў хляве 1, 36, 37, 55, 119, 180, 188, 194, 198, 201. **8.** прыстаранак, адгародка паміж токам і застаронкам 164, 165, 170. **9.** плот з жэрдак 1, 4, 35, 35а, 36, 52, 54, 60, 66, 86, 87, 92, 93а, 99, 108, 110, 111, 113, 114, 116, 119, 125, 128, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 153, 154, 158, 160, 161–165, 168, 169, 176, 177, 180, 181, 182, 185, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **10.** пляцень з лазы (гарызантальнае пляценне) 7, 8, 11, 12, 13, 15–18, 20, 25, 28, 29, 34, 40, 45, 50, 59, 65, 68, 69, 70, 70а, 73, 74, 76, 78, 89, 90, 93а, 96, 101, 102, 115, 117а, 204. **11.** пляцень 1, 2, 4, 5, 8, 18, 20, 44, 45, 49, 50, 70, 70а, 72, 76, 78, 98. // Пло́там заку́таў 195.

**ПЛЯНІЦА** пл'ен'і́ца *ж.* 128. прасла, адлегласць у плоце паміж двума слупамі.

**ПЛЯНТРА** пл'а́нтра *ж.* 92. падваліны.

**ПЛЯТНЯК** пл'етн'а́к *м.* 52. пляцень з лазы (гарызантальнае пляценне).

**ПЛЯЦ** пл'ац *м.* 2, 6, 14, 18, 20, 54, 59, 60, 64, 65, 68, 77, 88, 92, 98, 102, 112, 113, 117а, 119, 129, 134, 136, 148, 151. **1.** пляц (разам з соткамі) 2, 6, 14, 18, 54, 59, 60, 64, 65, 68, 77, 92, 98, 102, 112, 113, 117а, 119, 129, 134, 136, 148, 151. **2.** калгасны двор 88. **3.** зямля, участак пад забудаванні ў горадзе 20. // Гэтô муй пл'ац, а ц'êпэр уса́дз'бой зовуц' 144.

**ПЛЯЦЕНЬ** пл'ац'е́н' *м.* 113, 144, 159, 161, 163–165, 177, 180, 182, 188, 191, 194, 198. пл'е́т'ен' *м.* 80. пл'е́ц'ен' *м.* 110, 116, 118, 121, 158, 170, 185, 186. пл'êт'е́н' *м.* 2, 12. пл'êц'е́н' *м.* 148, 168. пл'іт'е́н' *м.* 5. плыт'і́н' *м.* 60. плэт'е̂н' *м.* 201. плэ́т'ін' *м.* 119. плэ́тэн' *м.* 108. **1.** пляцень з лазы (гарызантальнае пляценне) 108, 110, 116, 118, 119, 121, 144, 148, 158, 159, 161, 163–165, 168, 170, 177, 182, 185, 186, 188, 191, 194, 198, 201. **2.** плот з трох жэрдак і прасунутымі паміж імі галінамі 5, 108, 110, 168, 170, 177, 180, 182, 194, 198, 201. **3.** пастаўнік для скаціны 113. **4.**

прыбудовачка з плятня да сенцаў, да хлява для свіней, курэй 12, 60, 80. **5.** прызба 144. ◊ ***пл'ац'е́н' стайа́чы*** 195. плот з трох жардзін, паміж якімі прасунутыя вертыкальна галінью ◊ ***пл'ац'е́н' уйу́шчы*** 195. гарызантальна сплецены.

**ПЛЯЦЁНКА** пл'ет'о́нка *ж.* 6, 184. пл'ец'о́нка *ж.* 128, 136. пл'êц'о́нка *ж.* 169. **1.** пляцень з лазы (гарызантальнае пляценне) 128, 136, 169. **2.** паласа плеценай саломы, якая прыбіваецца на вушаках у дзвярах для ўцяплення 6, 184.

**ПОГРАБ** по́граб *м.* 77, 91, 104, 111, 125, 139, 151, 152, 154, 159, 160, 164, 165, 177, 180, 187, 188, 190, 191, 194, 198, 204. по́грêб *м.* 32, 134, 102, 147, 158, 169, 173, 182а, 184. по́гр'іб *м.* 65. по́грыб *м.* 1, 2, 4, 5, 7, 9, 10, 12, 13, 15, 16, 18, 20, 25, 28, 29, 40, 54, 55, 64, 70, 70а, 74, 76, 78, 79, 83, 88, 89, 93а, 98, 100, 108, 110, 111а, 115, 119, 121, 128, 144, 148, 161, 170. по́грып *м.* 11, 45, 101. по́грэб *м.* 14, 52, 72, 80, 90, 92, 96, 136, 153, 154, 171, 181, 182, 186, 195, 203. **1.** склеп у хаце пад падлогаю, пад печчу ці ў сенцах 1, 2, 4, 5, 7, 9, 10, 11, 12, 14, 16, 18, 20, 25, 28, 29, 32, 45, 49, 64, 65, 70, 70а, 72, 73, 74, 76, 77, 78, 79, 80, 83, 88, 89, 90, 91, 92, 99, 100, 104, 121. новае слова, новае значэнне – 134, 139, 151–153, 160, 170, 181, 182а, 191, 198, 203. **2.** склеп на двары, укапаны ў зямлю, абкладзены плашкамі 55, 78, 92, 93а, 96, 98, 101, 102, 104, 108, 110, 116, 117а, 119, 125, 136, 139, 147, 151, 152, 153, 154, 158, 159, 161, 173, 177, 184, 186, 187, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 204. новае значэнне 13, 15, 18, 29, 37, 38, 40, 44, 54. **3.** капец або яма для бульбы 104, 111, 111а, 115, 128, 144, 148, 161, 164, 165, 169, 171, 180, 181, 182. ◊ ***пахадз'у́шчы*** – 159, 169. ◊ ***пахадны погр'аб*** 158. склеп на двары (у хаце), з якога штодзённа бяруць бульбу.

**ПОД** пôд *м.* 59, 113, 121, 164, 165. пӱд *м.* 171. **1.** стажар'е (у лузе для сена, у полі, у гумне – для снапоў) 113, 121, 164, 165. 171. **2.** ніз, аснова печы, жорнаў. // П'іч на подо́вы стойіт' 59.

**ПОКУЦЬ** по́ку́т *м.* 163. по́кут' *ж.* 2, 8, 14, 27, 49, 55, 59, 60, 63–65, 79, 80, 83, 100, 111а, 125, 129, 162, 165, 173, 176, 184, 201. по́кут'т'е *н.* 35, 45, 65, 88, 90, 92, 101, 102, 112, 171. по́куц' *ж.* 103, 104, 121, 128, 134, 139, 154, 158, 160, 161, 163, 164, 168, 169, 170, 177, 180, 182, 185, 186, 191. по́куц'йе *н.* 118. по́куц'ц'е *н.* 115. покуць.

**ПОЛ** пол *м.* 142, 144, 154, 160, 170, 173, 176, 196, 202, 204. пôл *м.* 2, 125, 161, 168, 177, 194, 195. пул *м.* 86, 93а, 190. пӱл *м.* 101, 93а. пыл *м.* 82. **1.** запеч, нары ў хаце ці ў клеці, дзе спалі 82, 86, 93а, 101, 125, 142, 144, 160, 161, 170, 173, 176, 190, 194, 195. **2.** дно ў калодзежы 168, 177. **3.** падлога з гліны 2. ◊ ***т'о́мны пол*** 196, 202. падлога, на якую кладуць чыстую падлогу. ◊ ***чорны пол*** 32, 197, 204. ◊ ***гл'ін'а́ны пол*** 184.

**ПОЛАБ** по́лаб *м.* 2, 9, 10, 11, 13, 15. по́лап *м.* 3, 4, 5, 7, 12, 16, 17. столя. ◊ ***на по́лаб*** 13, ***на по́лап*** 16. гара (у хаце).

**ПОЛАГ** по́лог *м.* 113. будан з тканіны.

**ПОЧАП** по́чап *м.* 110, 158. вочап у студні з жураўлём.

**ПОЯС** по́йас *м.* 35–37, 44, 45, 50, 54, 59, 65, 70, 70а, 73, 74, 75, 76, 79, 82, 84, 91, 93а, 96, 104, 108, 110, 116, 118, 119, 121, 125, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 161, 162, 164, 165, 168–171, 176, 177, 180–182, 185–187, 190, 191, 194–198, 201, 202. **1.** пояс, які злучае дзве кроквы 35, 37, 44, 45, 50, 54, 59, 65, 70, 70а, 73, 74, 75, 79, 82, 84, 93а, 96, 104, 108, 110, 116, 118, 119, 121, 125, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 161, 162, 164, 165, 168, 169, 171, 176, 177, 180–182, 185, 186, 190, 191, 194–198, 201, 202. **2.** дзве жардзіны паміж слупамі ў плоце, да якіх прыбіваюць дошкі, калочкі 36, 76, 91, 148. **3.** папярочкі паміж слупамі ў калодзежы, каб слупы не стуліліся 170, 187.

**ПРАВІЛА** праві́ло *н.* 38, 71, 72, 72а, 73, 80. прав'і́ло *н.* 36, 37, 49, 52, 54, 55, 82, 110, 121, 139. правы́ло *н.* 1, 13, 20, 25, 26, 29, 35, 38, 40, 45, 49, 63, 64, 68, 69, 76, 77, 79, 80, 93а. правэ́ло *н.* 44, 45, 50, 66, 70. **1.** ачэп на бэльках 35–38, 40, 44, 52, 54, 55, 63, 66, 68, 69, 71, 73. **2.** апошняе бервяно ў сцяне, на якім ляжаць бэлькі 25, 26, 29, 49, 72, 72а, 76, 77, 80, 93а, 110. **3.** солам'е, перакладзіна на сохах 35, 38, 45, 49, 66, 68, 70, 72а, 76, 139. **4.** ачэп пад бэлькай у хлявах і гумнах 20, 45, 50, 64, 70, 76. **5.** капыл у шаўцоў, на які нацягваюць халявы ботаў 1, 13. **6.** лапатка, пры дапамозе якой выраўноўваюць тынк 82. **7.** у возе 121.

**ПРАГОН** прагóн *м.* 151, 194. прогóн *м.* 10, 54, 84, 129, 144, 154, 169, 170. прогӯн *м.* 44. **1.** апошняе бервяно ў сцяне пад бэлькамі 84, 129, 144, 154, 194. **2.** ачэп на бэльках 54, 151, 169, 170. **3.** солам'е 10, 44.

**ПРАЗОР** празóр *м.* 152. прозóр *м.* 4, 20. **1.** шчыліна, дырка ў страсе, у акне (шкло няшчыльна прыстае) 4, 20. **2.** адлегласць паміж лаўкай і ложкам 152.

**ПРАКЛАДКА** прокла́тка *ж.* 2. верхні вушак у дзвярах.

**ПРАМ** прам *м.* 112, 114. трама, тоўстая падоўжная бэлька.

**ПРАСЛА** пра́сла *н.* 35а, 152, 180, 185, 190, 194, 198. пра́сло *н.* 36, 52, 75, 82, 84, 86, 87, 90, 98, 102, 103, 104, 110–114, 116, 128, 129, 136, 139, 151, 154, 158, 159, 161, 164, 165, 168, 169, 177, 181,

185–188, 191, 195. пр’áсло *н.* 1, 2, 4–7, 10, 13, 14, 20, 25, 29, 35–38, 49, 54, 55, 59, 60, 68, 69, 74, 76, 88, 89, 92, 93а, 96, 100, 101, 108, 115, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 144, 148, 153, 163, 170, 171, 182, 201, 203. пр’éсло *н.* 8, 12, 16, 17, 50, 65, 66, 73, 78, 79, 99. **1.** адгародка ў хляве; у гумне – прыстаронак 8, 93а, 119, 171. **2.** жэрдка ў плоце; дзве жэрдкі, да якіх прыбіваюцца дошкі, калочкі 10, 13, 20, 36, 38, 52, 54, 73, 76, 110, 164. **3.** плот з жэрдак (2–9 штук) 5, 35, 49, 75, 78, 79, 80, 88, 96, 98, 100, 102, 104, 115, 118, 121, 125, 136, 148, 163–165, 169, 171, 181, 182, 186. **4.** частка плоту даўжынёю ў адну жэрдку 1, 2, 25, 38, 50, 55, 64, 74, 76, 84, 88, 99, 104, 108, 111, 112, 114, 116, 118, 125, 158, 161, 168, 169, 170, 177, 180, 186, 190, 191, 194, 195, 198. **5.** частка плоту ад слупа да слупа 1, 2, 4–7, 12, 14, 16, 24, 35а, 36, 37, 50, 59, 60, 65, 68, 69, 73, 82, 84, 86, 87, 90, 92, 103, 113, 115, 151–154, 158, 163, 168, 181, 185, 187, 188, 201, 203. **6.** ачэп, апошняе бервяно ў сцяне 17. **7.** жэрдка, на якой сядзяць куры; жэрдка на вышках 11, 29. жэрдка як кладка 12. **8.** прас 128, 129, 139. **9**. пералаз праз плот 144. **10.** звяно ў ланцугу 82. **11.** частка сцяны ад вугла да слупа 119. *гл.* **прасценак**. **12.** церніца, дзе мялі лён 159. **13.** катух, кучка для жывёл 101. **14.** паркан 13.

**ПРАСЦЕНАК** прост’éнок *м.* 196, 204. прост’е̂нок *м.* 31, 184, 197. просц’éнок *м.* 20, 144, 173. просц’е̂нок *м.* 169. рас’ц’е̂нок *м.* 162, 176. **1.** частка сцяны паміж вокнамі, паміж вуглом і акном 31, 144, 162, 169, 173, 176, 184, 196, 197, 204. **2.** сцяна ад вугла да шула (стаяна) 20.

**ПРАЎШНЯК** проўшн’áк *м.* 86. пруўшн’áк *м.* 87, 88. вушак у дзвярах.

**ПРАЦЯГАНКА** прот’агáнка *ж.* 45. доўгі капец (бульба).

**ПРУГІ** пруг’í *мн.* 186. дубовыя плашкі, пакладзеныя за слупы ў калодзежы.

**ПРЫБУДОЎКА** прыбудýвак *м.* 181. прыбудíвка *ж.* 16, 17, 20. прыбудóвка *ж.* 27. прыбудíўка *ж.* 59. прыбудóўка *ж.* 37, 65, 70, 84, 151, 163. прыбудо̂ўка *ж.* 1. прыбудýўка *ж.* 6. прыбуду̂ўка *ж.* 38. **1.** прыбудова з 2–3 сценамі да хаты ці да хлява для дроў, розных сельскагаспадарчых прылад 1, 6, 20, 27, 37, 38, 59, 65, 84, 163, 181. **2.** калідор з дошак ля хаты 17. **3.** трысцень ля гумна для саломы 151. **4.** прыбудаваная новая частка хаты (у адзін рад са старой часткай) 70. **5.** свінушнік 16.

**ПРЫБУДЫНАК** прыбуды́нок *м.* 5. прыбуды́ночок *м.* 9. прыбудова да хаты ці да хлява.

**ПРЫВЕТРАНІЦЫ** прыв’е̂трэн’іцы *мн.* 136. дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат ля франтона і перакрыжоўваюцца ў вільчаку.

**ПРЫГАНАК** прыѓанак *м.* 151, 152, 180. масток з некалькі пален (бярвенняў), якія ляжаць перад уваходам у хату.

**ПРЫГАРАД** пры́горoд *м.* 136, 139. загарадка ў хляве для скаціны.

**ПРЫГАРАДА** пры́города *ж.* 112. катух, хлеўчык, адгароджаны для адной жывёлы.

**ПРЫГУМЕННЕ** прогумэ́н’н’е *н.* 11. прыгума̂н’н’е *н.* 70. прыгум’éн’н’е *н.* 159, 162, 176, 204. прыгум’éн’н’ік *м.* 184, 191, 195, 203. прыгумэ́н’н’а *н.* 10. прыгумэ́н’н’е *н.* 4, 5, 12, 13, 18, 40. прыгум’éнак *м.* 180. прыгум’éнок *м.* 121, 148, 168, 170. прыгум’е̂нок *м.* 144. прыгýмн’ік *м.* 139. прыгýмнык *м.* 65. прыгумэ́н’н’ік *м.* 186. прыгýнык *м.* 27. прыгýннык *м.* 20, 25, 29, 44. прыгум’éн’н’е *н.* 188. прыгум’éнок *м.* 161. пругумэ́н’н’е *н.* 8. прумэ́н’н’е *н.* 15, 31. **1.** дарога ад хаты да хлява, частка двара (пераважна, ля хлявоў) 4, 5, 10, 11, 25. **2.** мякіннік, прыбудоўка да гумна для саломы, мякіны 121, 139, 148, 184. **3.** частка двара ля гумна, перад гумном 8, 12, 13, 15, 18, 20, 27, 29, 31, 40, 44, 70. **4.** агароджанае месца ля гумна, дзе малоцяць, дзе стаяць стагі са снапамі 159, 161, 162, 168, 170, 176, 180, 186, 188, 191, 195, 203, 204.

**ПРЫДАШАК** прідáшок *м.* 32. падстрэшак.

**ПРЫДАШНІК** прыдáшн’ік *м.* 54. падстрэшак.

**ПРЫДЗЕЛАК** прыдз’éлок *м.* 148, 158, 162, 170, 173, 176. **1.** новая частка хаты, прыбудаваная да старой 148, 162, 176. **2.** сені 158, 170, 173.

**ПРЫДОРАЖНЯ** прыдóрожн’а *ж.* 104. прыгуменне.

**ПРЫЖЫМКА** пры́жымка *ж.* 154. прыжы́мка *ж.* 196, 202. жэрдка, да якой прывязваецца дупцамі салома, калі крыюць "пад шчотку".

**ПРЫЗАГАРАДАК** прызáгарадак *м.* 158. пры́загородок *м.* 185, 186. **1.** загарадка ў хляве, катух 158, 185, 186. **2.** загарадзь на двары каля хлява 185.

**ПРЫЗБА** прíзба *ж.* 80, 102, 125, 139, 154, 171, 181, 196, 202, 204. прíз’ба *ж.* 5, 27, 75, 118, 121, 201. прíзва *ж.* 180, 182, 197. прíспа *ж.* 31, 32. пр’íзба *ж.* 35а, 162, 176. пр’íз’ба *ж.* 173, 184. пру̂зба *ж.* 96. пры́зба *ж.* 2, 4, 11, 14, 15, 26, 36, 40, 52, 56, 64, 76, 92, 93а, 98, 100, 101, 108, 115, 117а, 128, 134, 136, 148, 151, 153, 158, 159, 163, 164, 168, 177, 187, 188, 191, 195. пры́з’ба *ж.* 1, 6, 7–9, 12, 13, 18, 20, 25, 29, 35, 37, 38, 44, 49, 50, 54, 63, 68, 70а, 72а, 74, 77–79, 81, 83, 84, 87–91, 99, 104, 119, 129, 163. пры́зва *ж.* 36, 55, 82, 86, 103, 110–114, 116, 152, 161, 169, 170, 185, 186, 190, 194, 198, 203. пры́з’ва *ж.* 69. пры́спа *ж.* 17. прéзба *ж.* 71, 72. прэ́з’ба *ж.* 45, 65, 66, 70. прэ́спа *ж.* 16. **1.** прызба 1, 2, 4, 5, 6, 7–9, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 20, 25, 26, 27, 29, 31, 32, 35а, 35, 36, 37, 38, 40,

44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 56, 63, 64, 65, 66, 68, 69, 70а, 70, 71, 72а, 72, 74, 75, 76, 77–79, 80, 81, 82, 83, 84, 86, 87–91, 92, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 108, 110–114, 115, 116, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 148, 151, 152, 153, 154, 158, 159, 161, 162, 163, 164, 168, 169, 170, 171, 173, 176, 177, 180, 181, 182, 184, 185, 186, 187, 188, 190, 191, 194, 195, 196, 197, 198, 201, 202, 203, 204. **2.** высокая прызба – “загата” – вышэй акон 4, 7, 12, 54, 77.

**ПРЫЗБІНА** пры́збына *ж.* 60. прыстаранак, нізенькі паркан, які аддзяляе ток ад стараны.

**ПРЫЙМА** пры́йма *ж.* 92. жэрдка, да якой прывязваецца чарот пры пакрыцці будынкаў.

**ПРЫКЛАД** прыкла́д *м.* 66, 144. прыкла́дач *м.* 65. прыкла́дз’іна *ж.* 148. пры́кладка *ж.* 102. жардзіны, якія кладуцца на козлы, каб прыціскаць салому на вільчыку.

**ПРЫКЛЕТ** прыкл’е́т *м.* 161. прыбудоўка да варыўні.

**ПРЫКЛУНАК** прыклу́нок *м.* 60, 82, 83, 151. прыклу́ночок *м.* 70а. прыклу́ннык *м.* 28, 29, 68, 70, 72а, 90, 92. **1.** мякіннік, прыбудоўка да гумна для саломы (змалочанай), мякіны, сечкі 60, 68, 70, 82, 83, 90, 92, 151. **2.** месца ля гумна 28, 29.

**ПРЫКЛЮП** прыкл’у́п *м.* 91, 104. шопа на дровы, на мякіну.

**ПРЫКОЗЕЛКІ** прыко́зэлкі *мн.* 80, 102, 119. козлы, накрыж збітыя, пакладзеныя на салому на вільчыку.

**ПРЫМІЦА** пры́мн’іца *ж.* 128. прун’і́ца *ж.* 103, 113. пры́м’іца *ж.* 86, 87, 88, 108, 112, 114, 119. прын’іца *ж.* 110, 115, 136. жэрдка (арэшнік), да якой прывязваюць лазой салому, чарот, калі пакрываюць “пад шчотку”. *гл.* **прыйма**.

**ПРЫРОБАК** прыро́бок *м.* 102. прыро́бка *ж.* 110. прыру́бок *м.* 55. **1.** прыбудова да хаты ці хлява – для розных сельскагаспадарчых прылад 102, 110. **2.** прыбудова прырубак да гумна для сена 55.

**ПРЫСАФІТАК** прысаф’і́ток *м.* 93а. падстрэшак.

**ПРЫСЕДАК** прыс’е́дак *м.* 188. застаронак для снапоў, мякіны.

**ПРЫСТАНОЎКА** прыста́ва *ж.* 1. прыстано́вка *ж.* 8, 11. прыстано́ўка *ж.* 2. прыстану́ўка *ж.* 5. прыбудова да гаспадарчых будынкаў з дошак, бярвенняў для дроў, сена, мякіны, для сячкарні.

**ПРЫСТАРОНОК** прыстаро́нак *м.* 81. пры́сторонок *м.* 37, 52, 54, 68, 72а, 76, 87, 93а, 99, 101. прысторо́нок *м.* 55, 59, 69, 73, 75–77, 79, 83, 86, 88, 89, 91, 92, 104. прыстуро́нок *м.* 84. пры́старэнак *м.* 35а. прэ́сторонок *м.* 65, 66. **1.** прыстаронак, нізенькі плот, які аддзяляе ток ад застаронка 35а, 37, 52, 54, 55, 59, 65, 66, 68, 69, 72а, 73, 75–77, 79, 83, 84, 86, 87, 88, 89, 91, 92, 99, 101, 104. **2.** прыстаронак + старана 93а.

**ПРЫСТРОЙКА** прыстро́йка *ж.* 4, 32, 36, 136. трысцень, прыбудова да хаты ці хлява для дроў, сена.

**ПРЫСТУПКІ** пры́ступк’і *мн.* 31. масток, некалькі пален перад парогам.

**ПРЫСЦЕНАК** пріcц’і́нок *м.* 13, 71. прыст’і́нок *м.* 6. **1.** трохсценак, прыбудоўка да хаты, да сенцаў, дзе спалі ўлетку, дзе былі куры ноччу. **2.** стопка 13.

**ПРЫСЯЛЕННЕ** прысыл’ін’н’е *н.* 45. былая сядзіба, пакінутае селішча.

**ПРЫТАЛКА** пры́толка *ж.* 25. падаконнік (знізу).

**ПРЫТВОР** прытво́р *м.* 29, 102. прытво́рн’ік *м.* 9, 65. **1.** сенцы, ганак перад уваходам (хата, склеп) 29, 102. **2.** ганак у царкве 9, 65.

**ПРЫТОЧАК** прыто́чак *м.* 177, 182. **1.** стрэшка над дзвярыма ў гумне 182. **2.** падсцілка пад азяродам 177.

**ПРЫЎШАНЬ** про́ўшэн’ *м.* 84. пры́ўшэн’ *м.* 82, 83. вушак у дзвярах.

**ПРЫХІСЦЕ** прых’і́с’ц’е *н.* 128. часовы будан, шопа.

**ПРЫЧОЛАК** пріч’і́лок *м.* 10, 11. пріч́олок *м.* 59. пріч́улок *м.* 90, 118, 125. пріч́ӯлок *м.* 13, 35, 96. прыч’і́лок *м.* 3, 12, 16, 17, 18, 20, 25, 29, 38, 50, 65, 66, 70, 73, 76, 78, 101. прыч́олак *м.* 177, 191, 194, 195. прыч́олок *м.* 14, 18, 45, 54, 64, 116, 129, 136, 144, 170, 186, 201. прычо̂лак *м.* 180, 198. прычо̂лок *м.* 113, 144, 168. прыч́улок *м.* 6, 40, 55, 59, 60, 92, 108, 114, 115, 119, 121, 161, 164, 165, 185, 203. прыч́ӯлок *м.* 8, 44, 79. прычы́лок *м.* 49, 117а. **1.** саломенная вальма 6, 13, 14, 16–18, 20, 25, 35, 38, 40, 44, 45, 50, 59, 60, 65, 66, 68, 69, 70, 70а, 74–76а, 77, 78, 79, 96, 108, 112–115, 117а, 121, 125, 136, 144, 186, 194. **2.** навес над дзвярыма ў гумне або над ганкам 89, 191, 201. **3.** сцяна пад франтонам і месца ля яе 10, 11, 18а. **4.** старана, засек у гумне 116, 177, 191. **5.** камора ад вуліцы 12, 54. **6.** паветка – працяг страхі хлява 29. **7.** вышкі ў гумне 49. **8.** прыбудаваны да якога-небудзь будынку хлеўчык для жывёл і птушак, катух у хляве 168, прыбудова для валоў ля тока 92, 101, 118, 119, 129, 164, 165, 168, 170, 185, 203. **9.** мякіннік ля хаты ці гумна 3, 55, 64, 90, 92, 161, 186, 195. **10.** саламяны франтон з задняга боку 8. // Прычал’і́ў к хац’ê 170. прыбудаваў.

**ПРЫЧОЛНІК** прыч’ілнык *м.* 66. прычóл’н’ік *м.* 112. **1.** дзве дошкі, прыбітыя да лат ля франтона, якія перакрыжоўваючыся ў версе, утвараюць вільчак 66. **2.** саломенная вальма 112.

**ПРЫШОПАК** прышôпак *м.* 195. паветка, мякіннік.

**ПРЫШОПНІК** прышóпн’ік *м.* 198. адрына.

**ПРЫШЧЫТАК** прішчíток *м.* 27, 52. падстрэшак.

**ПУГА** пýга *ж.* 37. вочап у студні з жураўлём.

**ПУНЬКА** пýн’ка *ж.* 74, 75, 79, 89, 91, 92, 128, 165. **1.** мякіннік 74, 75, 79, 89, 91, 92. **2.** застаронак для мякіны 128. **3.** паветка, дзе рубаюць дровы 165. **4.** катух для цяляці, зроблены ў шопе ля гумна.

**ПУНЯ** пýн’а *ж.* 161, 169, 171, 181, 182, 185, 187, 188, 198. адрынка, будыначак для сена, саломы. // Л’а гумна к сц’ан’é прыстаўл’ена для саломы 182.

**ПУТА** пýто *н.* 79, 80, 182. пýтцэ *н.* 186. вяровачка, галёўка, якая завязваецца на слуп у варотах і закідваецца на слуп, да якога вароты прычыняюцца; пута выкарыстоўваецца там, дзе ў варотах няма засаўкі. // Пýто зак’ідáл’і на варóтцы 182. Пýто завйазаў на в’íшніці 79.

**ПУЧОК** пучóк *м.* 93а, 117а, 144, 148, 152, 159, 161, 163. кулікі, пучкі саломы, звязаныя ля коласа, якімі пакрываецца ніжні рад страхі.

**ПЫЖ** пыж *м.* 20. пыжч *м.* 4. невялікі шпянёк (клін), які забіваецца ў кань (у вугле) для замацавання вугла.

**ПЯЛА** пйáло *н.* 165. кроквы ў тымчасовых буданах. // Զруб’іц’ ў з’амл’і пйала, накрыйе іх з’амл’ойу і жыв’е 165.

**ПЯРЫЛА** пірíло *н.* 2. пыры́ло *н.* 4, 5, 7, 8, 12, 13, 101. пэры́ло *н.* 18. прыстаранак, нізкі парканчык, які аддзяляе ток ад стараны (засека).

**ПЯРЭВІЦЦЕ** парэ́в’іток *м.* 183. п’арэ́в’іц’ц’е *н.* 195. пэрэ́в’іцца *н.* 118. лазовыя дубцы, якімі перавіваліся прыміцы. // Парэпл’êтáц’ пар’э́в’іткам’і 183.

**ПЯРЭКЛЯТКА** пырэ́кл’атка *ж.* 83. пэрэ́кл’ат *м.* 98. пэрэ́кл’аток *м.* 86. прыбудовачка накшталт ганка, мастка або паветкі паміж дзвюма клецямі; зімою там могуць стаяць пчолы.

**ПЯРЭПАСКА** пырэ́паска *ж.* 38. пэрэ́паска *ж.* 55. пояс, які злучае дзве кроквы.

**ПЯРЭПУСТ** пэрэ́пуст *м.* 108. ачэп, які ляжыць на бэльках, і канцы яго выходзяць з-пад франтона.

**ПЯРЭРУБ** п’арэ́руб *м.* 195, 198. п’ерэ́руб *м.* 180. загарадка ў хляве або ў гумне для сена.

**ПЯСОК** на п’аскý 198. гара (у хаце).

**ПЯТЛЯ** петл’á *ж.* 72а. крутілька, галёўка.

**ПЯТРА** п’áтро *н.* 29, 154, 158. пйáтро *н.* 29, 110, 112, 114, 118, 121, 126, 139, 165, 176, 177, 180, 188. пл’áстро *н.* 29. пл’áтро *н.* 165. **1.** гара ў хаце 154, 165. **2.** вышкі ў хляве 29, 158, 176, 177, 180. **3.** старана, прастора ў гумне, дзе ляжаць снапы (убок ад тока) 110, 112, 114, 139. **4.** паліца пад бэлькай, дзе ставілі гаршкі 126. **5.** частка хлява для курэй 29. **6.** адлегласць паміж двума слупамі ў плоце 29. **7.** паветраная прастора паміж лёдам і вадою 118, 121. **8.** палонка на лёдзе 188. // Запйáтр’êла вода 121. высахла вада.

**РАБРЫНА** рабрíна *ж.* 27, 40. рабры́на *ж.* 25, 26, 38, 44, 49, 50. рабрэ́на *ж.* 45. ребрíна *ж.* 72. лесвіца, пастаўленая ля сцяны і пакладзеная на страсе да коміна.

**РАГАВІК** рогов’íк *м.* 36. рогові́к *м.* 35, 38, 89. роговэ́к *м.* 66, 76. саламяныя снапкі, звязаныя ля калосся, якімі пакрываліся рогі (перасячэнні схілаў страхі).

**РАГАТКА** рогáтка *ж.* 73. пастаўнік у полі.

**РАГУЛЬКІ** рагýл’к’і *мн.* 170. козлы на вільчыку.

**РАГУЛЯ** рогýл’а *ж.* 13. саха ў студні з жураўлём.

**РАГУШКА** рогýшка *ж.* 128. кулікі, саламяныя снапкі, звязаныя ля калосся, якімі пакрываецца першы рад (ніз страхі).

**РАД** ◊ ***под одын р’ад*** 16, ***ў одз’ін рáд*** 118, ***ў одын р’ад*** 6. будынкі, пастаўленыя ў адну лінію.

**РАЗСОХА** разсóха *ж.* 25, 103. розсóха *ж.* 5, 16, 17, 29, 50, 59, 69, 70, 73, 83, 86, 91, 101, 104, 108, 110, 118, 119, 128, 154. россóха *ж.* 50, 72а. рôзсóха *ж.* 10. русóха *ж.* 72. **1.** саха ў студні з жураўлём 10, 17, 69, 72. 72а, 83, 101, 108, 110, 118, 154. **2.** саха ў хлявах, у плоце (у полі) 17, 50, 73, 91, 103, 104, 128. **3.** разгалістае дрэва 5, 25, 29, 59, 70, 119, 128, 144. **4.** раґі ў сасе 16.

**РАМА** рáма *ж.* 5, 6, 11, 14–16, 27, 29, 32, 36, 37, 40, 44, 45, 49, 52, 54, 55, 60, 63, 68, 70, 72а, 74, 75, 76, 77, 81–84, 86, 88, 89, 90–93а, 96, 103, 108, 110–119, 121, 125, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 153, 161–165, 168–171, 173, 177, 180–182, 186, 187, 190, 191, 195, 198, 203. рáм’іна *ж.* 160. рáмка *ж.* 59, 71, 100, 128. р’áма *ж.* 7, 8, 13, 18, 20, 25, 28, 29, 31, 35, 38, 50, 69, 158. р’éма *ж.* 17, 65, 66,

70, 78, 79, 99. р’е́мка *ж.* 73. рама (у акне). ◊ ***зымо́ва рама*** 38. падвойныя вокны. ◊ ***подвуйна рама*** 6. падвойныя вокны.

**РАСПОРКА** розпо́ра *ж.* 136. розпо́рка *ж.* 17. **1.** пояс паміж дзвюма кроквамі 17. **2.** пояс паміж слупамі ў калодзежы 136.

**РАСПОРЫЧ** роспо́рыч *м.* 139. ачэп на папярочнай сцяне.

**РАШЭЦІНА** рашэ́ц’іна *ж.* 188. слуп, які разам з іншымі складае азярод; у дыркі рашэцін засоўвалі жэрдкі і за іх закладвалі снапы.

**РОГЕЛЬ** ро́г’êл’ *м.* 4. пояс паміж кроквамі.

**РОГІ** перасячэнне схілаў страхі з вальмай. ◊ ***на рага́х*** 195; ***на раг’і́*** 181, 198; ***на рôг’і́*** 201. хлеў, у якога страха зроблена на вальмах. // Хлеў на рагах 195.

**РОЎ** р’іў *м.* 50. доўгі капец на бульбу.

**РУДНЯ** ру́дн’а *ж.* 170. гута, дзе плавілі жалеза.

**РЫГАЛЬ** рыга́л’ *м.* 54. легар, падваліна пад падлогай.

**РЫГЕР** ры́ґ’ір *м.* 55. крокваа.

**РЫДЛЯ** ры́дл’а *ж.* 17. цагляная сцяна, асновай якой з’яўляюцца дыяганальна перакрыжаваныя бярвенні.

**РЫНВА** ры́нва *ж.* 144. паўкруглы вільчык на хлявах.

**РЫШТЫ** ры́шты *мн.* 121. вышкі ў хляве.

**РЭВЕНЬ** рэ́вын’ *м.* 45. малая студня на балоце.

**РЭЙКА** рэ́йка *ж.* 144, 176. плінтус.

**РЭЯ** рэ́йа *ж.* 1, 65, 66. **1.** бурт, доўгі капец 65, 66. **2.** тоўстыя бярвенні 1.

**САБАЧКА** соба́чка *ж.* 4, 20. вільчак.

**САД** сад *м.* 1, 2, 9, 13, 15—17, 29, 35—37, 44, 45, 49, 64, 65, 68, 69, 72а, 74, 75, 77, 79, 81, 90, 103, 115, 118, 121, 125, 136, 139, 144, 148, 151—154, 158, 161, 163, 164, 168—170, 177, 181, 182, 185—187, 190, 191, 194, 198, 203. садо́к *м.* 4, 5, 6, 14, 15, 20, 25, 37, 40, 50, 70а, 78, 92, 93а, 98, 100, 113, 114, 117а, 121, 129, 148, 171, 180, 195. сат *м.* 18. са́дзік *м.* 148. **1.** агародчык ля хаты для кветак 2, 4, 15, 37, 49, 50, 117а, 171. **2.** сад 1, 2, 5, 6, 9, 13—18, 20, 25, 29, 35—37, 40, 44, 45, 50, 64, 65, 68—70а, 74, 75, 77—79, 81, 90, 92, 93а, 98, 100, 103, 113—115, 121, 125, 129, 136, 139, 144, 151—154, 158, 161, 163, 164, 168, 169, 170, 177, 180—182, 185—187, 190, 191, 194, 198, 203. **3.** качыны сад, калі перад адлётам у вырай качкі збіраюцца на 1 дзень на пэўным азярцы 118, 121. **4.** садок, дзе разводзяць рыбу 144.

**САМІНЕЦ** сам’ін’ец *м.* 118. сом’ін’ец *м.* 121. кароткія бярвенні ў сцяне.

**САРОКІ** соро́к’і *мн.* 136. козлы на вільчыку.

**САХА** саха́ *ж.* 82, 116, 151–153, 158, 159, 163, 176, 177, 180–182, 187, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 203, 204. соха́ *ж.* 1, 2, 4–18, 20, 35–37, 38, 40, 44, 45, 54, 60, 66, 70, 71, 72а–78, 80, 83, 87, 88, 90–93а, 100, 101, 103, 108, 111, 111а, 112–115, 118, 121, 125, 128, 129, 136, 139, 144, 148, 154, 161, 162, 164, 165, 168–171, 184–187, 195, 201. сôха́ *ж.* 79, 84. со́шка *ж.* 70, 82, 121, 151, 161, 191, 180, 185, 182, 195. **1.** саха (араць) 1, 13, 15, 37, 45, 101, 169. **2.** сошка (акучваць бульбу) 15, 80. **3.** сохі ў хлявах (хлеў на сохах) 1, 2, 4–6, 8, 9–13, 15–18, 20, 35, 36, 38, 44, 45, 60, 66, 70, 71, 72а, 73, 79, 88, 91, 92, 100, 103, 111а, 113–115, 118, 121, 125, 129, 136, 139, 144, 148, 151–154, 158, 161–165, 168–171, 176, 177, 180–188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203, 204. **4.** саха ў студні з жураўлём 2, 4, 5–7, 9, 12, 13–16, 20, 40, 60, 70, 73–80, 82–84, 87, 88–93а, 103, 108, 111, 112–116, 121, 125, 128, 136, 139, 144, 152, 158, 161, 163, 168, 169, 170, 177, 180, 181, 182, 185–187, 190, 191, 195, 198, 201, 204. **5.** сохі ў буданах 60, 82, 88, 121, 136, 139, 151, 164, 165, 180, 181, 182, 185, 187, 191, 195. **6.** слуп-саха, але не ў калодзежы 54. **7.** сохі, убітыя ў зямлю на кросны 181. **8.** козлы на страсе 161.

**САШЧЭПА** сашчэ́па *ж.* 198. ачэп.

**СВІНАРНІК** с’в’іна́рн’ік *м.* 6, 136, 191. свін’а́рн’ік *м.* 70. свінарнік.

**СВІНІНЕЦ** свіні́нец *м.* 32, 59, 60, 80. свіні́нец’ *м.* 27, 29, 31. свіне́нец’ *м.* 72. свін’і́нец *м.* 84. с’в’ін’і́н’ец *м.* 110, 112. с’в’ін’і́нэц *м.* 36. свў́н’і́н’ец *м.* 82. свў́ны́нэц’ *м.* 69. свыны́ныц *м.* 12, 76, 89, 101. свыны́ныц’ *м.* 6, 15, 70а. свыны́нэц *м.* 17, 35, 38, 68, 79, 92, 93а. свыны́нэц’ *м.* 13, 18, 25, 44, 50, 78. свынэ́ныц *м.* 65, 73. свынэ́нэц *м.* 45. свінух, прыбудаваны да хлява або асобна стаіць.

**СВІНІНЧЫК** с’в’ін’і́н’чык *м.* 108. св’інэ́нчік *м.* 80. свыны́нчык *м.* 20, 59, 77. свінух.

**СВІНУХ** св’іну́х *м.* 103. свінух.

**СВІНУШНІК** с’в’іну́шн’ік *м.* 194. с’в’ін’у́шн’ік *м.* 152, 160, 161, 163, 169, 176, 177, 181, 183, 185, 187—188, 190, 191, 195. **1.** свінух, асобна пабудаваны або прыбудаваны да хлява 152, 160, 161, 163, 169, 176, 177, 181, 183, 185—188, 190, 191, 194, 195. **2.** загарадка ў хляве 186. **3.** цялятнік 183.

**СВІРАН** свíрон *м.* 54, 72, 72а. свірóнок *м.* 4, 5, 6, 7, 8, 27, 29, 59, 60, 93а. с’вíрон *м.* 84. с’в’íран *м.* 81, 142, 144, 147, 154, 185, 194, 203, 204. с’в’íран’ *м.* 111, 112, 151, 159, 163, 177, 187, 188, 190. с’в’íрен’ *м.* 116, 168–170, 176, 182, 184, 198. с’в’íр’ен’ *м.* 121, 128, 158, 164, 165, 171, 180, 191, 195. с’в’íр’êн’ *м.* 136, 148, 162, 173. св’íрн’і *мн.* 201. с’в’íрн’ік *м.* 110. св’íрон *м.* 2, 14, 38, 59, 64, 82, 115, 119, 129. св’ірóнок *м.* 49, 55, 113, 125. с’в’íрон’ *м.* 114, 153. с’в’íрэн’ *м.* 139, 186. свы́рон *м.* 50, 77, 87, 108. свырóнок *м.* 1, 3, 13, 25, 35, 40, 44, 45, 60, 68–70, 73–75, 77, 79, 89, 91, 96, 99, 100, 108. свырóночок *м.* 18, 65, 92. **1.** свіран для збожжа 5–8, 14, 29, 40, 55, 59, 60, 64, 65, 68–70, 70а, 72а, 73–75, 81, 89, 92, 93а, 96, 99, 100, 111, 113, 114, 121, 128, 129, 136, 148, 158, 159, 160, 173, 176, 195, 204. **2.** мякіннік ля гумна 8, 18, 38. **3.** свіран, адгароджаны ў старане ў гумне 4, 13, 44. **4.** кладоўка для харчоў, адзежы 1, 25, 27, 29, 40, 45, 49, 50, 54, 60, 72, 142, 144, 184. **5.** клецьь 54, 70, 78, 79, 82, 87, 108, 110, 112, 115, 119, 125, 116, 151, 153, 154, 162, 163, 165, 177, 182, 187, 188, 190, 191, 194, 198, 203. **6.** агульны амбар, дзе ўсе сяляне вёскі ссыпалі збожжа 2, 108, 169, 171. **7.** склад з рыбай у гандляроў 139. **8.** склад збожжа ў пана 84, 115, 169, 170, 182, 185, 186, 188, 190, 194. **9.** прыбудоўка (ганак) ля клеці 164. **10.** стопка 142, 168. **11.** будынак для сена 147. **12.** назва вёскі Свірні 201.

**СВОЛАК** свóлак *м.* 148, 163, 181, 187, 188, 194. свóлок *м.* 111а, 148, 201, 203. сýволок *м.* 65, 70а, 78, 87, 89, 101. сýволока *ж.* 75, 80. **1.** падушка ў возе 65, 70а, 87, 89. **2.** пырнік 75, 78, 80. **3.** “солам’е” 148, 163, 194, 201. **4.** трама, падоўжная бэлька ў хаце 111а, 181, 201, 203. // Вêлíкій свóлок чêрез хату 201. **5.** папярочныя бэлькі (новае значэнне) 203. **6.** своеасаблівыя латы, якія ляжаць на “закотах” (франтонах з паралельных пален) 187, 188. // Свалак’í клал’і да самага в’íл’чыка 187. **7.** частка плуга 101.

**СВЯТЛІЦА** св’ятл’íца *ж.* 170. прыгожая хата, чыстая – у процілегласць да "курніца".

**СЕДАЛА** с’êдало *н.* 144, 183. с’íдало *н.* 29, 31, 65, 101, 162. седала на вышках, дзе ноччу сядзяць куры.

**СЕЛІШЧА** ос’éл’ішча *н.* 164. с’éл’ішча *н.* 104, 114, 118, 151–153, 158, 163, 177, 180, 188, 190, 191, 194, 198, 204. с’éл’ішчэ *н.* 2, 84, 111–113, 125, 129, 136, 139, 148, 154, 159, 161, 162, 165, 168–170, 176, 181, 182, 184–186, 201, 203. сэ́лішчэ *н.* 17. сэ́лышчэ *н.* 16, 44, 99, 101. **1.** месца, дзе калісьці была сядзіба, дзе жылі раней, а цяпер запуставала 99, 139, 148, 153, 161, 163, 165, 169, 170, 177, 180–182, 185, 186, 190, 194, 198, 201, 203, 204. **2.** сядзіба 104, 111–114, 125, 129, 136, 151, 152, 154, 158, 159, 161, 162, 164, 168, 184, 186, 188, 194. **3.** назва ўрочышча 44, 118. **4.** сельбішча, вялікае сяло 2, 16, 17, 101.

**СЕЛЬБІШЧА** сэ́л’бышчэ *н.* 111а. сядзіба.

**СЕНАВАЛ** с’енавáл *м.* 151, 152. будынак для сена.

**СЕНІ** сíны *мн.* 8. с’íні *мн.* 29, 31, 59, 64, 108, 118. с’íн’і *мн.* 4, 32, 96. с’íнці *мн.* 80, 102. с’íнцы *мн.* 89. с’íны *мн.* 1, 2, 5–7, 9, 11–17, 20, 25, 28, 29, 35, 38, 40, 44, 49, 50, 68, 69, 72а–75, 77, 79, 84, 87, 88, 90–92, 98, 99, 100, 101, 111а, 119. с’íнэ *мн.* 26, 65, 70, 70а, 78. с’éн’і *мн.* 36, 37, 52, 54, 81–83, 104, 110, 113, 115, 116, 121, 129, 136, 144, 158, 161, 163, 168–170, 173, 176, 180–183, 185–188, 194, 197. с’éнцы *мн.* 148, 151–154, 160, 162, 177, 181, 190, 195, 198, 201, 204. с’éн’і *мн.* 93а, 103, 125, 128, 165, 171. с’êнцы *мн.* 139, 184. с’êны *мн.* 60, 84. с’ц’éн’і *мн.* 187. **1.** сенцы, прыбудаваныя трысценем або ў форме веранды (з дошак) 1, 2, 4, 5–7, 8, 9, 11–17, 20, 25, 26, 28, 29, 31, 32, 35, 36, 37, 38, 40, 44, 49, 50, 52, 54, 59, 60, 64, 65, 68, 69, 70, 70а, 72а–75, 77, 78, 79, 80, 81–83, 84, 87, 88, 89, 90–92, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 108, 110, 111а, 113, 115, 116, 118, 119, 121, 125, 128, 129, 136, 139, 144, 148, 151–154, 158, 160, 161, 162, 163, 165, 168–170, 171, 173, 176, 177, 180–183, 184, 185–188, 190, 194, 195, 197, 198, 201, 204. // Пр’ідз’êлвайуць с’êн’і 183. Пр’íстаўл’ац’ с’êн’і 197. **2.** варыўня 187. // Вáрыво ў с’ц’ан’óх 187.

**СКАПЕЦ** скап’éц *м.* 116, 151, 153, 158, 165. скоп’éц *м.* 81, 87, 96, 117а, 121, 125, 128, 129, 134, 139, 161, 163, 164, 168. скóпыц *м.* 11–13, 35, 38, 50, 73. скóпыц’ *м.* 1, 5, 8, 73. скопэ́ц *м.* 6, 14, 36, 37, 52, 54, 55, 59, 64, 65, 66, 72, 75, 77, 83, 86, 89, 90, 91, 101, 110, 112, 119. скопэ́ц’ *м.* 40, 44, 45, 69, 93а. скоўп’éц *м.* 82, 118, 154. скоўпэ́ц’ *м.* 76. шкóпыц *м.* 10. шкóпыц’ *м.* 7, 9. шкóпэц’ *м.* 18. **1.** плыткі прадаўгаваты капец для бульбы 1, 5, 6–14, 18, 35–38, 40, 44, 50, 52, 54, 56, 59, 64–66, 69, 70а, 73, 75–78, 81–83, 89, 90, 93а, 101, 112, 117а, 119, 121, 125, 128, 134, 139, 153, 154, 163–165, 168. **2.** плыткі круглы капец 13, 45, 73, 91. **3.** глыбокі капец для бульбы 118. **4.** насып з зямлі на капцы 86, 87, 96, 110. // Йамка зрóбл’ана скопцэ́м 110. **5.** насып вакол слупа, які стаіць на мяжы лясніцтваў 154, 158. // Дз’е камóрн’ік зв’éрн’е з’амл’ý на гран’і кал’а слупá 158.

**СКІРДА** ск’íрда *ж.* 203. доўгі капец бульбы.

**СКЛАДОЎКА** склад *м.* 115. склáдка *ж.* 6, 8, 115. склáдн’іца *ж.* 35. складóўка *ж.* 87, 114. камора (клець, стопка).

**СКЛЕП** скл’еп *м.* 1, 2. 3, 5–9, 12, 14, 25, 27, 31, 35–37, 38, 40, 44, 45, 54, 55, 56, 60, 63–65, 68, 69, 83, 103, 118, 139, 148, 151, 158, 161, 164, 168, 169, 170, 180, 186, 191, 194, 196, 198. скл’êп *м.* 159. скл’оп *м.* 154, 173. склэп *м.* 3, 10, 11, 13. **1.** склеп для бульбы і гародніны на двары 1, 2, 3, 5, 6, 7, 8, 9, 11, 12, 13, 25, 35–37, 38, 40, 44, 45, 56, 60, 63–65, 68, 69, 83, 148, 159, 169, 170, 198. **2.** склеп у хаце пад печчу, пад падлогай 5, 6, 7, 10, 11, 12, 35, 37, 38, 54, 55, 59, 69, 103, 151, 154, 198. **3.** сельмаг 3. **4.** скляпенне ў печы 27, 31, 173. 186. 196. **5.** склеп на могілках 118, 158, 164, 168, 194. **6.** труна 139, 161. **7.** збітае што-небудзь 180.

**СКРЫНЯ** скрін’а *ж.* 125. скры́н’а *ж.* 1, 2, 4, 5, 7, 8, 10–15, 17, 20, 25, 27, 29, 31, 35, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 64, 68, 69, 70а, 71, 72а–74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 81–84, 86, 88, 89, 90, 91, 92, 96, 98, 99, 100, 101, 104, 108, 110, 112–119, 121, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 154, 160, 161, 163, 165, 169, 170, 173, 177, 180–182, 188, 194, 204. скры́н’іна *ж.* 154. скры́н’ка *ж.* 29. скрэ́н’а *ж.* 65, 70. **1.** аконная шуфляда 1, 2, 5, 8, 10–15, 17, 20, 25, 27, 29, 31, 35, 40, 44, 45, 49, 52, 54, 55, 60, 63–65, 68, 69, 70а–79, 80, 82, 83, 84, 86, 88, 89, 90, 91, 92, 96, 100, 101, 108, 110, 112–119, 121, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 148, 154, 169, 173. **2.** дзвярныя вушакі 29, 100, 114, 119. **3.** скрыня для адзежы 29, 45, 160. **4.** дубовае днішча ў калодзежы 1, 5, 7, 12, 14, 29, 38, 49, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 64, 68, 70, 70а, 74, 75, 78, 79, 81, 83, 84, 86, 90, 98, 99, 104, 110, 112–114, 117а, 118, 125, 128, 134, 139, 144, 151, 154, 161, 163, 165, 170, 177, 180–182, 188, 194, 204. // Кало́дз’аз’ ду́бом зак’іда́йуц’ до скрын’і 113. На дн’і – скры́н’а, а по́том ст’інкі окладалі ты́ном 68.

**СЛЕЖ** сліж *м.* 16. сл’іж *м.* 49. падваліна пад падлогай.

**СЛЕЖЫК** слэ́жык *м.* 74. падклад, аснова печы. // П’іч стойа́ла на слэ́жыках 74.

**СЛОН** слôн *м.* 40, 191. **1.** тонкія жэрдкі, з якіх робяцца ключыны (у хлявах "на сохах") 191. **2.** услон 40.

**СЛЯСАК** сл’аса́к *м.* 161, 162, 188. сл’êса́к *м.* 151. слясак.

**СМЫК** смук *м.* 152, 188. вага ў студні з жураўлём.

**СНАПКІ** снапк’і *мн.* 188, 190, 191. сно́пікі *мн.* 2, 9. сно́пк’і *мн.* 13, 163—165, 169—171. снопкы́ *мн.* 7, 93а, 201. снопо́чкы *мн.* 16, 29, 84. снôпк’і *мн.* 139. кулікі, саламяныя снапкі, якімі пакрывалася страха (ніз страхі), калі крылі "пад шчотку".

**СОЛАМ’Е** со́ламйе *н.* 181, 188, 194. со́ломйа *н.* 176. со́ломйе *н.* 121, 139, 162, 171, 177, 180, 183, 184, 185, 195. со́лôмйе *н.* 182, 186, 203. со́лумйе *н.* 161. **1.** бервяно, якое клалі на сохі 171, 191. **2.** чалеснікі (у печы) і верхняе іх спалучэнне 161, 162, 176, 177, 180–186, 188, 194, 195, 203. // У со́ломйе бйе дым 185. **3.** вялікі агонь у печы 139. // Штоб менш со́ломйе кіда́лос’а ў ко́м’ін 139. **4.** назва ўрочышча 121, 180.

**СОЛАМЕННЕ** со́лом’ен’н’е *н.* 187. ямка для жару на прыпеку.

**СПІНА** спі́на *ж.* 59, 71, 78. спы́на *ж.* 89, 91, 96, 99. спэ́на *ж.* 73. хіб, накладзеная на вільчыку салома (кастрыца, леташняя трава) і прываленая козламі. // Спы́ну накрыва́йут’ суволокою 91.

**СПІЦА** с’п’іца *ж.* 116. заноза, частка скрыні ў акне.

**СТАВЕЦ** ставэ́ц’ *м.* 1, 5. шула, пастаўленае на падрубе ў вуглах. // У стаўц’і паза выдз’оўваў 1.

**СТАДОЛА** стадо́ла *ж.* 151, 194. стодо́л *м.* 32. стодо́ла *ж.* 1, 4, 5, 7, 8, 14, 16–18, 25, 29, 35, 37, 40, 44, 45, 60. 64–66, 70, 74, 82, 84, 86, 87, 104, 112, 113, 116, 129, 144, 170. стодо́л’а *ж.* 79, 89, 115, 125. **1.** вялікія гумны ў панскіх маёнтках 60, 79, 84, 87, 144. **2.** вялікая хата 125, 196. // Хату зроб’і́ў б’і стодол’у 125. **3.** гумно для сена, снапоў 4, 7, 14, 32, 45, 60, 64, 82, 89, 112, 129. **4.** прыбудоўка да гумна для саломы 151. **5.** гумно (па-польску) 1, 8, 16–18, 25, 29, 35, 37, 44, 66, 70, 74, 86, 104, 113, 115, 116. **6.** майстэрня, гарбарня 170.

**СТАЙНЯ** ста́н’а *ж.* 1. ста́йн’а *ж.* 2, 4–8, 10–18, 25, 29, 35, 37, 38, 44, 45, 54, 55, 65, 70, 73, 74, 75, 76, 77, 83, 88, 89, 92, 96, 99, 101, 104, 108, 110, 112–116, 118, 119, 121, 128, 139, 144, 148, 151–154, 159, 161, 164, 168–170, 177, 180, 181, 185–188, 190, 191, 194, 198, 203. **1.** вялікі хлеў, стайня для рабочых коней 1, 2, 4–8, 10–18, 25, 29, 35, 37, 38, 44, 45, 54, 55, 65, 70а, 73, 74, 75, 76, 77, 88, 89, 91, 92, 99, 101, 108, 110, 112–116, 118, 128, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 159, 164, 168, 170, 177, 180, 181, 185–188, 190, 191. **2.** стайня для стаенных (выязных) коней 83, 96, 104, 119, 121, 161, 169, 190, 194, 198, 203. **3.** хлеў для валоў, кароў, свіней 55, 153, 158.

**СТАЛЬНІЧЫНА** стал’ічы́на *ж.* 163. стал’н’іца *ж.* 151, 194. столні́чіна *ж.* 201. стол’н’і́чына *ж.* 118, 121, 139. столы́на *ж.* 100, 117а. адна дошка ў столі.

**СТАН** стан *м.* 1, 4–7, 11–18, 25, 29, 35, 36, 38, 40, 44, 45, 50, 55, 60, 70, 70а, 76, 79, 93а, 96, 101, 104, 108, 110, 112, 117а, 121, 125, 136, 139, 144, 151, 152, 154, 158, 159, 164, 168–171, 180, 181, 185, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **1.** стан (тулава) у чалавека 1, 4–7, 11–18, 25, 29, 35, 36, 38, 40, 44, 45, 50, 55, 60, 64, 65, 70, 70а, 76, 93а, 96, 101, 121, 125, 139, 144, 152, 154, 159, 164, 168, 169,

170, 180, 181, 185, 187, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **2.** хата, дзе быў станавы прыстаў 185, 190. **3.** пастаўнік для кароў, коней 55, 158. **4.** будан з адным схілам страхі 104, 107, 110, 112. **5.** будан для рыбакоў, пастухоў з двума схіламі страхі 121, 125, 136, 139, 171, 181, 198. **6.** месца, дзе размяшчаліся цыганы 151. **7.** плошча ў вёсцы, дзе збіраюцца людзі 152, 170. **8.** плошча ля млына 195. **9.** спрыт чалавека 117а. **10.** загарадка, дзе стаяў конь 181. **11.** шопа (без сцен) для дроў 105а.

**СТАНАВІСКА** станов'іско *н.* 112. высокае месца.

**СТАНОК** стано́к *м.* 103, 111, 111а, 113–119, 128, 129, 139, 144, 168, 177, 181, 185, 188. **1.** будан у полі, у лесе, зроблены з 4 сошак; у ім гарэў касцёр, спалі 103, 111, 113–119, 128, 129, 133а. **2.** буданчык з загнутай лазы 116. **3.** буданчык для дроў, для курэй 111а. **4.** загарадка ў канюшні, дзе стаялі выязныя коні 116 (новае), 139, 144, 168, 181, 188. **5.** загарадка ў хляве для каровы 185.

**СТАРАНА** старана́ *ж.* 151, 180, 188, 191. сторона́ *ж.* 2, 16, 35, 35а, 36, 38, 54, 55, 59, 60, 65, 66, 68—73, 75—78, 79, 80, 82, 84, 86—92, 96, 108, 113, 115, 125, 176, 177. старана ў гумне збоку ад тока, куды кладуць сена, снапы, салому; там могуць быць засекі для мякіны, сечкі.

**СТАРАСЕЛІШЧА** старас'е́л'ішча *н.* 195. пакінутая сядзіба, дзе калісьці жылі.

**СТАРЧАК** сторча́к *м.* 36. плот-штахетнік.

**СТАЎКА** ста́ўка *ж.* 75. рамы (акно).

**СТАЎНЯ** ста́вн'а *ж.* 202, 204. ста́ўн'а *ж.* 50, 176. **1.** аканіцы 176, 202, 204. **2.** слуп у калодзежы, за які закладаюцца дубовыя плашкі, каб зямля не асыпалася ў калодзеж 50.

**СТАЯ** ста́йа *ж.* 5, 7, 13, 15–18, 29, 37, 38, 70, 104, 148, 151, 168, 191. 203. ста́йі *мн.* 7. **1.** чарада птушак 5, 7, 13, 15–17, 29, 37, 38, 70, 104, 148, 151, 168, 191. **2.** шмат чаго-небудзь (каго-небудзь). **3.** чарада дзікіх гусей (толькі дзікіх, бо свойскіх – ста́до). **4.** загарадка, дзе стаяць коні 16. **5.** гоні (мера даўжыні загонаў у полі =150 м) 7.

**СТАЯК** стойа́к *м.* 2. шула, слуп у вугле ці ў сцяне, які стаіць на падрубе.

**СТАЯН** стойа́н *м.* 16, 49, 55, 63, 64, 92, 162. стойе́н *м.* 65, 66, 70а, 77, 80. **1.** шула, слуп у вугле ці ў сцяне, які стаіць на падрубе 49, 55, 63, 64, 65, 66, 77. **2.** стаячы комін 162. **3.** хата, зробленая з бярвенняў, пастаўленых вертыкальна 80. // Хата ў стойаны́ 80. **4.** вушак 16. **5.** плот-штахетнік 92.

**СТЛЕЦ** стлэ́ц' *м.* 49. адна дошка ў столі.

**СТОЙКА** сто́йка *ж.* 26, 163. слуп; падпора ў хляве для бэлек, ачэпаў.

**СТОЙЛА** ста́йло *н.* 165, 169, 171. сті́йало *н.* 29. сті́йло *н.* 10, 11, 16, 28, 50, 80, 99. сто́йла *н.* 116, 134, 151–153, 163. сто́йло *н.* 2, 6, 52, 154, 198. сто̂йла *н.* 194. сто̂йло *н.* 37, 158, 159, 164, 170, 180–182, 187, 190. сту́йло *н.* 38, 55, 64, 70а, 86, 108, 118, 121, 125, 128, 139, 161, 168, 177, 185, 188, 195, 201, 203. сту́йлышчэ *н.* 63. сту̂йло *н.* 5, 7, 8, 12, 18, 25, 35, 44, 79. сту̂йлыско *н.* 9. сты́гло *н.* 17. сты́йло *н.* 13, 17, 45, 82, 90. стэ́йло *н.* 83. **1.** неагароджанае месца ў полі або ля ракі (ля вады), дзе апоўдні адпачывае скаціна 5, 6, 11, 12, 18, 25, 28, 29, 35, 44, 45, 50, 52, 55, 70а, 76, 79, 80, 82, 83, 90, 99, 118, 125, 128, 134, 139, 153, 154, 158, 159, 161, 163–165, 169–171, 177, 180–182, 185, 187, 188, 190, 194, 195, 198, 201, 203. **2.** агароджанае месца ў полі, у лесе або месца ў хляве, дзе адпачывае апоўдні скаціна, летні лагер 2, 8, 9, 10, 13, 16, 17, 37, 38, 86, 108, 116, 151, 152. **3.** знаходжанне каровы ў хляве апоўдні 121.

**СТОЛІНА** сто́лына *ж.* 98. адна дошка ў столі.

**СТОЛЬ** ста́л'а *ж.* 73. стіл' *ж.* 8, 14. ст'іл' *ж.* 6, 18, 35. стол' *ж.* 64, 104, 153, 183, 184, 187. сто́л'а *ж.* 75, 83, 84, 86, 87, 89, 90, 92, 93а, 96, 98, 99, 100–102, 108, 116–117а, 119, 121, 125, 128, 134, 136, 144, 148, 160–165, 169–171, 173, 196, 202, 204. сто̂л' *ж.* 103, 139, 151, 152, 154, 158, 168, 177, 180–182, 185, 186, 188, 190, 191, 195, 201, 203. сто̂л'а *ж.* 176, 198. стул' *ж.* 159. стэ́л'а *ж.* 68, 69, 76–78, 111а. столь. ◊ **– *у накла́дку*** 196, 202, 204. **– *у разб'е́шку*** 162. столь, калі 2 дошкі прылягаюць не шчыльна адна да адной, а на іх і на гэтую шчыліну кладзецца трэцяя дошка. ◊ **– *саф'і́тавайа*** 184. тынкаваная. ◊ ***на сто́л'і*** 118, 121, 153, 154. гара, на гары. ◊ ***тынко́вана* –** 162, 173. ◊ ***накладна́йа* –** 176. ◊ ***звэд'о́на* –** 78. скляпеністая столь.

**СТОПКА** вс'ц'о́бка *ж.* 55. в'іс'ц'о́пка *ж.* 171. выс'ц'о́бка *ж.* 68, 69, 73, 75—77, 78, 90—93а, 108. здэ́пка *ж.* 15, 16. іс'ц'о́пка *ж.* 153. сто́бка *ж.* 104, 184. сто́пка *ж.* 151, 152, 159. сто̂бка *ж.* 35. стэ́пка *ж.* 8, 86. с'ц'е́бка *ж.* 164. сц'е̂пка *ж.* 35а. сц'о́бка *ж.* 52, 59, 63, 64, 72, 72а, 76а, 81—84, 103, 110, 112, 114, 115, 121, 129, 134, 144, 148, 160, 164, 169, 170, 177, 180—183, 185, 186, 188, 190, 194, 195, 198. с'ц'о́пка *ж.* 36, 37, 54, 56, 60, 65, 66, 113, 116, 118, 154, 158, 161—163, 173, 176, 187, 191, 201. с'ц'о̂пка *ж.* 168. ус'ц'опка *ж.* 74, 89, 171. **1.** памяшканне для гародніны і харчу 35, 35а, 37, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 68, 69, 72а, 73а—77, 81—91, 101, 105а, 108, 116, 125, 133а, 134, 139, 151—154, 158, 160, 164, 168, 169, 170, 171, 173, 176, 177, 180—182, 184—186, 188, 190—192а, 198, 201—204; а) цёплае памяшканне 36, 65, 66, 88, 113, 121. б) асобна збудаванае памяшканне 86, 103, 105а, 115, 118, 133а, 148, 153, 159, 160, 177, 187, 190. в) збудаванне перад хатай ад вуліцы 36, 111. **2.**

кладоўка 8, 56, 74, 78, 82, 93а, 115, 118, 144, 148, 168. **3.** клець (для збожжа) 8, 173. **4.** стопка, прыбудаваная да хаты 8, 52, 63, 84, 14, 121; да хлява 153. **5.** маленькая хатка (зімою – для квашанай гародніны, летам – месца, дзе можна спаць) 64. **6.** будан для рыбакоў (на 2—4 чалавека) 118. **7.** будыначак у полі для бульбы (асобна) 159, 187, 190. **8.** склеп са стрэшкай 87, 103, 104, 105, 110, 129, 163, 203. **9.** будынак над склепам 86, 87, 103, 112, 161, 162, 168—170, 194. **10.** маленькія пакойчыкі, дзе захоўваюцца рэчы, якія ўсім не паказваюцца 15, 16. // Наодгороджував стіл'к'і здэпок! 16.

**СТОПЧЫСКА** сто́пчыско *н.* 49. сядзіба, дзе калісьці жылі, а пасля пераехалі.

**СТОЎП** стовб *м.* 9, 54, 60. стовп *м.* 2, 6, 16, 60, 72. столб *м.* 151, 187. стоўб *м.* 1, 12, 18, 29, 35, 37, 38, 44, 45, 52, 55, 70а, 73, 79, 89, 92, 128, 139, 171, 182. стоўп *м.* 5, 8, 13, 17, 20, 28, 29, 35, 36, 40, 45, 52, 59, 63–65, 68, 69, 72а, 73–75, 76, 78, 79, 83, 90, 92, 93а, 100, 101, 117а, 125, 164, 180, 201. стôўб *м.* 154. стôўп *м.* 82, 169. **1.** шула, пераважна на вугле будынка, укапанае ў зямлю 2, 5, 9, 11, 12, 13, 16, 17, 25, 28, 29, 36–38, 40, 44, 45, 52, 54, 55, 60, 63, 68, 69, 70, 70а, 72–75, 76, 78, 82, 89, 90, 92, 93а, 100, 101, 117, 125, 128. **2.** шула, устаўленае ў падрубу 12, 20, 36, 38, 40, 44, 45, 52, 54, 55, 63, 69, 93а, 100, 101, 125. **3.** саха ў калодзежы з жураўлём 1, 6, 8, 18, 35, 37, 59, 64, 79. **4.** саха ў хляве з канструкцыяй "на сохах" 29, 35. **5.** вушак у дзвярах 59, 65, 70, 79. **6.** слуп у калодзежы, за які закладваюцца плашкі 55, 60, 83, 134, 139, 151, 154, 169, 171, 180, 182, 187. **7.** комін 164. **8.** "штымпаль" пад падрубай 52, 201. ◊ ***ў стоўбы*** 2, 11, 25, 37. збудаванне з вертыкальна пастаўленых бярвенняў. ◊ ***настаўны –*** 82. шула.

**СТОЧКА** сто́чка *ж.* 20, 65. сточка бярвенняў.

**СТОЯНКА** сто́йанка *ж.* 87. пастаўнік або неагароджанае месца (ля ракі), дзе скот адпачывае апоўдні.

**СТРАКАЧ** страка́ч *м.* 100. снапкі саломы, звязаныя ля калосся, якімі пакрываюць ніз страхі.

**СТРАЛА** страла́ *ж.* 180, 187, 190. стр'êла́ *ж.* 136. вага ў студні з жураўлём.

**СТРАМІНА** страб'і́на *ж.* 83, 84. страбы́на *ж.* 68, 128. страмі́на *ж.* 102. страм'і́на *ж.* 82, 87, 125. страмы́на *ж.* 69, 74–79, 88, 91, 93а, 101. страмэ́на *ж.* 65, 70, 73, 96. стремі́на *ж.* 80. стромі́на *ж.* 71. **1.** лесвіца прыстаўная; звычайныя прыстаўныя драбіны (без разрознівання відаў) 65, 68–71, 73–80, 82–84, 88, 91, 96, 101, 102, 125, 128. **2.** лесвіца ў кшталце слупа з пракручанымі дзіркамі, у якія прасунуты палкі; гэтая лесвіца стаіць ля сцяны, на яе абапіраецца другая частка лесвіцы, якая ляжыць на страсе і заканчваецца ля коміна 93а. **3.** драбіны ў возе 65, 71. **4.** лесвіца, якая ляжыць на страсе 87. **5.** ясла, кармушка, куды закладаюць сена для жывёлы 80.

**СТРАПІЛА** страп'і́ла *н.* 134. строп'і́ла *н.* 186. строп'і́ло *н.* 168, 197. **1.** кроква 186, 197. **2.** ачэп, на якім стаўляюцца кроквы 168. **3.** "солам'е" 134.

**СТРАХА** страха́ *ж.* 103, 104, 110, 111, 115, 116, 139, 148, 151, 153, 158–160, 163, 168, 170, 177, 180–182, 184, 185, 187, 188, 190, 191, 195, 197. стр'е́ха *ж.* 35а, 37, 55. стр'ếха *ж.* 36, 82, 112, 129, 144, 161, 165, 169, 171, 173, 194, 203. стр'êха́ *ж.* 104, 118, 162, 176, 196, 201, 202, 204. стр'і́ха *ж.* 1, 2, 4, 5–18, 20, 25–29, 31, 35, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 54, 60, 64, 66, 68–72а, 75, 77, 79–80, 86–88, 89, 91–93а. 96, 99, 100–102, 108, 111а, 117а, 125, 128, 164. стрых *м.* 119. стрэ́ха *ж.* 52, 63, 81, 83, 86, 90, 161, 198, 201. стрэха́ *ж.* 114. **1.** ніз страхі, які звісае над сцяной 1, 2, 5, 11, 12, 17, 26, 27, 29, 31, 35, 38, 40, 44, 50, 60, 64, 65, 66, 68, 70, 71, 72, 77, 79, 80, 84, 88–90, 91, 92, 93а, 96, 100, 103, 108, 110, 111, 111а, 112, 114, 116, 117а, 119, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 151, 152, 154, 160, 161–163, 165, 168–171, 173, 176, 177, 180–182, 184–188, 190, 191, 194–198, 201–204; толькі ў хляве 168. **2.** агульная назва страхі, даху (з любога матэрыялу) 9–14, 25, 28, 36–38, 52, 55, 63–66, 68, 69, 72а, 73, 75, 76, 78, 79, 81, 82, 86–88, 91, 99, 100, 103, 104, 118, 121, 144, 153. **3.** саламяная страха 2, 4, 6–8, 12, 15–18, 20, 25, 33, 35, 35а, 40, 44, 45, 49, 54, 59, 69, 70а, 77, 81, 83, 84, 148, 158, 159, 161, 169. **4.** страха з чароту 101, 102, 115, 139, 148, 161. **5.** падстрэшак 201. **6.** кроплі, вада, якая капае са страхі (з нізу страхі) 164, 182, 188. // Ка́пайе стр'êха 164. Ц'ачэ́ страха́ 188. **7.** …пуд в'іл'чык/ пуд стрэху… 161; пуд стріху / пуд дах 79; у самуйу стрêху / крышу 194. (накласці сена) пад самы вільчык/ строп.

**СТРОЙ** струй *м.* 165. будынкі, харомы.

**СТРОП** стр'іп *м.* 9, 29. строп *м.* 6, 144, 181, 198. стропо́к *м.* 18, 37, 40, 54, 64, 65, 66, 70, 75, 76, 89, 90, 92, 111. стропэ́ц' *м.* 80, 125. стрôп *м.* 6, 121, 154, 180, 187, 191, 201. стрôпо́к *м.* 18, 55, 59, 79. струбо́к *м.* 45. струп *м.* 11, 36, 72а, 111а, 139, 177, 185, 186, 203. струпо́к *м.* 70а. стру̂п *м.* 2, 4, 5, 8, 9, 13, 27, 31, 35, 38, 40, 44, 92, 171. стрып *м.* 49. **1.** вільчык 2, 5, 6, 9, 11, 13, 27, 29, 31, 35, 36, 40, 44, 45, 49, 59, 65, 70, 70а, 72а, 76, 77, 78, 79, 93а, 154, 181, 198, 203. **2.** верх страхі і кут ля гэтага верху (у выразе: "пад самы строп… наклаў жыта…") 6, 25, 37, 54, 64–66, 68, 73, 75, 89, 111, 144, 177, 185, 186, 187, 191, 201. // Пôд крышу / у самы струп 185. **3.** падстрэшша, ніз страхі 4, 8. **4.** хіб, салома,

накладзеная на вільчыку і прываленая козламі 18, 36, 38. // В’ітэр стропка зорваў 18. Нат’агнýў стропá 38. **5.** страха ў хляве 8, 139, 180. ◊ ***астрап’іц’*** – пакрыць. // Астрап’іў хл’авá 180. **6.** мэндлік з дзесяці снапоў 80, 101, 125. **7.** прастора над вышкамі пад страхой 144.

**СТРОЎ** строў *м.* 112. лесвіца, па якой лазяць па страсе да коміна.

**СТРУБ** струб *м.* 121, 128, 139, 194. струп *м.* 118. зруб у хаце ці іншай будыніне.

**СТРУЖКА** стрýжка *ж.* 151, 160, 196, 202, 204. стрýшка *ж.* 154, 173. драніца. // Стрýжка ножэ́м рэ́жацца а дран’ мóжно сок’éройу надрац’ 160.

**СТРЫХАЛКА** стр’іхáлка *ж.* 113. прыстасаванне (дошка), якім падбіваюць (падроўніваюць) салому, калі пакрываюць страху.

**СТРЫХОЎКА** стрыхóўка *ж.* 103. дошка, якой падбіваюць салому, калі пакрываюць страху.

**СТРЭНЦЫ** стрэ́нцы *мн.* 113, 114. апоўзіны на стозе.

**СТРЭХАВІКІ** стрыховыкы́ *мн.* 96. звязаныя снапкі саломы, якімі пакрываецца ніз страхі.

**СТРЭШАНКІ** стр’íшанкы *мн.* 12, 91. снапкі саломы, якімі пакрываецца ніз страхі.

**СТРЭШКА** стр’éшка *ж.* 128. стр’íшка *ж.* 60, 66, 68, 69, 70а, 71, 76, 78, 80, 87, 88, 89, 91, 92, 96, 99, 100, 110, 113. стры́шка *ж.* 75, 151. стрэ́шка *ж.* 90. **1.** падстрэшак 60, 66, 68, 69, 70а, 71, 75, 76, 78, 80, 88, 87, 90, 91, 92, 96, 99, 100, 110, 113, 128. **2.** ніз страхі 151.

**СТУДНЯ** стýдн’а *ж.* 6. калодзеж.

**СТУПЕНЬКІ** ступéн’кі *мн.* 29, 31, 92. ступ’éн’к’і *мн.* 37, 184. ступ’íн’к’і *мн.* 118. ступанóчк’і *мн.* 204. **1.** сходы 29, 31, 37, 184, 204. **2.** масток перад парогам 92, 118.

**СУТКІ** сýдочкы *мн.* 79. сýтк’і *мн.* 144. вузкі пралёт паміж будынкамі, паміж дзвюма садзібамі.

**СУФІТ** суп’íт *ж.* 89. сýф’іт *м.* 6. сýхв’іт *м.* 113. столь.

**СУШНЯ** сýшн’а *ж.* 83, 136, 169, 195. **1.** азярод 83, 136. **2.** *гл.* **абарог** (на канюшыну, сена, снапы) 169, 195.

**СХОДЫ** схóді *мн.* 60. схóды *мн.* 1, 2, 4, 5, 8, 13, 14, 25, 44, 136, 153, 163, 170. схóдк’і *мн.* 52. схóдкы *мн.* 29. сходóчкы *мн.* 40. схóдыкы *мн.* 18. схóдэ *мн.* 45, 70. схо̂дцы *мн.* 103. схýдкі *мн.* 108. схӯдцы *мн.* 83. схэ́дцы *мн.* 83. ўсхóды *мн.* 26. ўсхóдцы *мн.* 121. ўсхýдцы *мн.* 139, 194. **1.** масток перад парогам 4, 83, 103, 136, 139, 153, 194. **2.** сходы з мастка, з ганка 1, 2, 4, 5, 8, 13, 18, 25, 26, 29, 40, 44, 45, 52, 60, 108, 121, 163, 170.

**СЦЕЖКА** сц’éшка *ж.* 168. двор, падворак.

**СЦЕНКА** сц’éнка *ж.* 89, 128, 161, 181, 198. сц’е̂нка *ж.* 118, 121. **1.** паркан 118. **2.** прыстаранак, нізенькі барканчык, які аддзяляе ток ад стараны (засека) 121, 161, 181. **3.** адгародка ў хляве 198. **4.** сценка паміж вокнамі, ад вугла да акна 89. **5.** нізенькі барканчык у будане, які аддзяляе агонь ад месца, дзе спяць 128.

**СЦЁК** сц’ок *м.* 7, 80. **1.** ніз страхі 80. **2.** падстрэшак 7.

**СЦЭП** сцэп *м.* 164. вільчык на саламянай страсе (пераважна ў хлявах).

**СЦЯЖ** у оды́н ст’íэ́ж 70а. у одэ́н сц’éж 45. под оды́н сц’аж 76. будынкі, пастаўленыя ў адзін рад.

**СЦЯНА** стêнá *ж.* 27, 29, 31, 32, 71, 72, 80, 184, 186. ст’êнá *ж.* 54, 101, 196, 197, 202, 204. стінá *ж.* 18, 79, 108. ст’інá *ж.* 4, 16, 20. стынá *ж.* 1, 2, 5, 13, 35, 75, 100. сц’анá *ж.* 103, 110, 151, 152, 161, 164, 182, 185, 187, 191. сц’енá *ж.* 115, 162, 173, 176, 184. сц’êнá *ж.* 37, 83, 113, 118, 128, 136, 168–170, 180. сц’ін’á *ж.* 60. сцяна. ◊ ***ад вýл’іцы*** – 103, 181, 182; ***ад двара*** – 103. ◊ ***боковáйа*** – 13, 63. ◊ ***в’íднáйа*** – 168, 170, 186; ***в’ідовá*** – 118. ◊ ***глухá*** – 119, 125, 139, 164, 184, 201. бакавая сцяна, дзе ўваходныя дзверы. ***глухáйа*** – 12, 17, 26, 31, 32, 49, 52, 63, 72а, 79, 81, 151, 154, 158–163, 168–170, 173, 176, 177, 180, 185, 188, 194–197, 202–204, 182, 195 (калі нават і ёсць адно акно). ***гóла*** – 29. ◊ ***дваравáйа*** – 188. ***дворóвайа*** – 115. ***дз’в’éрнайа*** – 154, 170, 186. ◊ ***з óкнам’і*** – 151, 158, 203. ***зáдн’а*** – 2, 7, 13, 15, 26, 27, 31, 32, 118, 171, 176. ***зáпадн’а*** – 9, 17. ***зáп’ечнайа*** – 103. ***зáп’іч*** – 80. ***зáп’ічна*** – 40, 71, 99, 100, 104, 163. ***зáпычна*** – 45, 60, 70а, 74, 76, 78, 79, 96. ***зáпычнайа*** – 38. ***зáпычок*** 35. ***застӯлнайа*** – 96. ад вуліцы. ◊ ***кан’авáйа*** – 184, 196, 202, 204. перагародка ў хаце. ***кан’óва*** – 197. ***кýтн’а*** – 159. ◊ ***лабавáйа*** – 191. ***л’іцовáйа*** – 84, 104, 110. ***л’іцэвáйа*** – 81, 173, 176. ***лобовáйа*** – 52, 54, 163. ◊ ***м’éртвайа*** – 170. ◊ ***на двур*** – 164. ***на вуліцу*** – 164. ***на óкна*** – 201. ***надвýрна*** – 104, 114. ***н’êмáйа*** – 162, 173. ◊ ***од дворá*** – 136. ***од дорóг’і*** – 136. ***од подвýрйа*** – 31. ***од сóнц’а*** – 31. ***од сêлá*** – 114. ***од ýл’іцы*** – 115. ◊ ***падóўжнайа*** – 83, 101, 187, 190. ***падóўжн’а*** – 195. ***пап’арóчнайа*** – 190. ***пап’арэ́чн’а*** – 195. ***паўнóчнайа*** – 198. ***п’арэдн’айа*** – 151, 176. ***пераn’éчнайа*** – 103. ***передп’íчна*** – 71, 74. ***п’ер’едн’айа*** – 121. ***пер’íдн’а*** – 32. ***п’ерэдн’а*** – 118, 171. ***п’íлнайа*** – 117а. сцяна, дзе запечак. ***пл’ечавайа*** – 104, 181, 191. ***пл’ечовáйа*** – 110, 113, 115. ***пл’êчавáйа*** – 154. ***пл’êчовá*** – 118. ***поб’íчна*** – 45. ***побучна*** – 70а. ***подóвжн’а*** – 27, 29, 31, 72. ***подóўжна*** – 75, 91, 92, 117а, 125, 139, 165.

***подо́ўжн'а*** – 1, 55, 79, 119, 173, 196, 202. ***подо̂ўжн'а*** – 108. ***покут'*** 72а. ***покут'т'е*** 99. ***по́кут'н'а*** – 5, 12, 16, 25, 29, 31, 32, 40, 44, 49, 50, 54, 60, 70–76а, 78–80, 93а. 96, 113. // Дэ поку́туйут' покойн'ікы 16. ***полатн'а*** – 17. ***полудн'о́ва*** – 8, 17. ***попере́чна*** – 71, 72. ***попере́чн'а*** – 27, 29, 31. ***поп'еро́чна*** – 154, 182. ***поп'ерэ́чна*** – 165. ***поп'ерэ́шн'а*** – 176. ***поп'е̂ро́чна*** – 139, 173, 184. ***поп'е̂ро́шнайа*** – 162. ***попэро́чнайа*** – 55, 58. ***попэрэ́чна*** – 75, 79, 92, 101, 117а. 125. ***попэрэ́чн'а*** – 1, 44, 60, 91, 108, 119. ***посм'ітна*** – 28. ***посм'ітн'а*** – 27, 29, 31. каля выхаду, дзе стаіць венік (збіраецца смецце). ***пошал'аванайа*** – 187. ***поўдн'о́ва*** – 121. ***поўно́чнайа*** – 121. ***по̂вно́чна*** – 8. ***по̂до́ўжн'а*** – 44. ***по̂лнайа*** – 125, 173. ***прадо́л'на*** – 177. ***прадо́ўжн'айа*** – 152. ***прі́мусн'а*** – 26. 27. ад двара. ***прі́мусн'а*** – 29. ***прі́мушчэна*** – 31. ***пріч'ілко́ва*** – 11. ***прічулко́ва*** – 15. ***продол'на*** – 182. ***продо́л'найа*** – 4, 162, 176, 184. ***продо́ўжна*** – 161. ***прып'і́чнайа*** – 80. ***прычылко́ва*** – 17. дзе франтон. ***прышо́шчана*** – 28. ад дарогі, ад шашы. ***прэ́мустн'а*** – 49, 50. ад двара. ***пу̂лнайа*** – 96. дзе запечак. ***пыро́дн'а*** – 75. ***пырытп'і́чна*** – 35, 40, 70, 70а, 73, 76, 99, 100. ***пырэ́дн'а*** – 13. ***пэрэ́дн'а*** – 15, 79. ***пэрэп'і́чна*** – 50, 78, 79. ◊ ***с'ан'е́чнайа*** – 35, 158. дзе сені. ***св'е́тлайа*** – 194. ***св'е̂́тла*** – 139, 180. ***с'елова́йа*** – 113. ***с'е́н'ачнайа*** – 121. ***слыпа́йа*** – 12. ***со́нічна*** – 201. ◊ ***тыл'на*** – 84. ***тылова́йа*** – 20, 112, 114, 119, 148. ◊ ***усходн'айа*** – 198. ***у дз'веры*** – 164. ◊ ***ўп'арэ́чнайа*** – 152, 161, 177, 187. ***ўшал'о́вана*** – 92. ◊ ***фронто́вайа*** – 2, 7, 20. ◊ ***ц'о́мнайа*** – 151, 186. ◊ ***шал'о́вана*** – 5, 8, 11, 16, 17, 20, 36, 38, 40, 68, 70, 77, 93а, 101, 118, 121, 144, 139, 170, 182. ***шл'а́хавайа*** – 158. ***шчітова́йа*** – 11. ***шчытова́йа*** – 2, 4–6, 11. ◊ ***стац' пад сц'ану*** 118. 148. пад страхой.

**СЦЯНІНА** стэны́на *ж.* 117а. адно бервяно ў сцяне.

**СЭДЭС** сэ́дэс *м.* 125. сядзіба. // Это муй сэ́дэс 125.

**СЯДЗІБА** оса́д'ба *ж.* 100. о̂са́д'ба *ж.* 17. са́д'ба *ж.* 185. сады́ба *ж.* 1, 3, 4, 25, 29, 60, 69, 73. са́дз'ба *ж.* 168, 190. садз'і́ба *ж.* 129, 154, 158, 161, 163, 170, 177, 182, 185, 198, 201, 203. с'а́дз'ба *ж.* 187. с'а́дз'іба *ж.* 35а, 37, 121, 180, 181. с'едз'іба *ж.* 153. с'ідз'іба *ж.* 6. сыды́ба *ж.* 2, 5, 7, 8, 10–13, 18, 35, 38, 40, 44, 64, 68, 70а, 76, 78. сыдэ́ба *ж.* 73. сэдэ́ба *ж.* 65. **1.** сядзіба 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 10–13, 17, 18, 25, 29, 35а, 35, 37, 38, 40, 44, 60, 64, 65, 68, 69, 70а, 73, 76, 78, 121, 129, 153, 154, 161, 163, 168, 170, 177, 180, 181, 182, 187, 190, 198, 201, 203. **2.** сады, усё пасаджанае 158. **3.** … йак хорошо́ пчо́лы садз'аацца ў ву́л'л'і, то кажуц': от до́бра садз'і́ба! 185. **4.** дзе калісьці жылі 100.

**СЯДЗІМАСЦЬ** сыды́мо̂с'т' *ж.* 16. сядзіба.

**СЯДЛІСКА** сэдл'іско *н.* 84. // Зас'е́л'аны постройкамы ца́лы пл'ац 84.

**СЯЛІБА** с'ал'і́ба *ж.* 163, 188, 194. сядзіба.

**СЯЛІДЖБА** селі́т'ба *ж.* 84. с'ел'і́дба *ж.* 83, 136. с'ел'і́джба *ж.* 165. с'ел'і́дз'ба *ж.* 104. с'ел'і́доб *м.* 86. с'ел'і́жба *ж.* 118, 139, 152. с'ел'і́т'ба *ж.* 103, 125. с'елы́д'ба *ж.* 117а. сыл'і́джба *ж.* 75. сыл'і́доба *ж.* 82. сыл'і́т'ба *ж.* 89. сылы́д'ба *ж.* 99, 100. сылы́жба *ж.* 77, 79. сылэ́жба *ж.* 73. сылы́т'ба *ж.* 91, 92, 101, 119. сэлі́д'ба *ж.* 90. сэл'і́джба *ж.* 55. сэл'і́жба *ж.* 108. сэл'і́т'ба *ж.* 87. сэлы́т'ба *ж.* 96, 128. сядзіба.

**СЯЛЬНІК** с'ал'н'і́к *м.* 110, 115, 116, 158, 161, 170, 177, 181, 182, 185, 186, 188, 190, 194, 198. селні́к *м.* 60, 70а, 118. 125. с'ел'ні́к *м.* 36, 72. с'ел'н'і́к *м.* 104, 112, 113, 118, 121, 129, 144, 168, 169, 173, 180, 203, 204. с'ел'ну́к *м.* 171. с'е̂лні́к *м.* 102. с'е̂л'н'і́к *м.* 54, 184. сілні́к *м.* 27, 31, 75. с'ілны́к *м.* 15, 60, 91. с'іл'ны́к *м.* 64, 165. сылні́к *м.* 201. сыл'н'і́к *м.* 108. сылны́к *м.* 11, 18, 20, 25, 29, 40, 44, 49, 50, 59, 68, 72а, 73, 76, 77, 79, 93а, 119. сыл'ны́к *м.* 1, 14, 35, 163. сылнэ́к *м.* 45, 66, 70. сэлны́к *м.* 55, 74, 117а. сэл'н'і́к *м.* 55. **1.** асобны будынак або трысцень ля хлява ці частка хлява, дзе знаходзілася сена 1, 11, 14, 18, 20, 25, 27, 29, 31, 35, 40, 44, 45, 49, 50, 54, 55, 59, 60, 64, 66, 68, 70а, 72, 72а, 73, 74, 76, 77, 79, 93а, 102, 104, 108, 110, 112, 113, 115, 116, 117а, 118, 119, 121, 125, 129, 144, 158, 161, 163, 165, 168, 169, 170, 171, 173, 177, 180, 181, 182, 184, 185, 186, 188, 190, 194, 198, 201, 203, 204. **2.** сяннік 15, 36, 75, 91. **3.** паветка для дроў, торфу 70.

**СЯННІК** с'ан'н'і́к *м.* 151, 191, 195. с'ен'н'і́к *м.* 128. сын'а́нык *м.* 100. **1.** адрына 100, 128, 191, 195. **2.** сяннік 151.

**ТАМБАР** та́мбор *м.* 9. ганак.

**ТАЧОК** то̂чо́к *м.* 16. катух, загарадка ў хляве.

**ТОК** тачо́к *м.* 194. тік *м.* 10, 11. 15–17, 29, 45, 50, 65, 66, 70, 73, 75, 76, 77, 78, 80, 89, 99, 101, 117а. тік' *м.* 50. т'ік *м.* 20, 28, 32, 98. ток *м.* 9, 36, 52, 59, 71, 80, 81, 83, 100, 104, 111, 111а. 153, 163, 165, 169, 176, 204. то̂к *м.* 35а–37, 54, 55, 72а, 113, 114, 118, 125, 139, 144, 152, 158, 159, 162, 168, 170, 177, 180–188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. тук *м.* 3, 6, 60, 68, 84, 86, 87, 88, 93а. 108, 112, 115, 119, 128, 161, 164, 169, 196. туо́к *м.* 121. ту̂к *м.* 1, 2, 4, 5, 7, 8, 12, 13, 18, 25–27, 31, 35, 38, 40, 44, 69, 70а, 79, 91, 92, 96, 110, 171. тык *м.* 74, 82. **1.** зямля (падлога з гліны) у хаце 1, 5–8. 10–18, 25, 27–29, 31, 32, 35а–38, 40, 50, 59, 60, 68, 69, 70а, 71, 74, 75, 78, 79, 80, 87, 88, 92, 96, 104, 108, 117а, 119, 125, 139, 158, 159, 169, 171, 177, 180–186, 188, 190, 191, 194, 196. **2.** ток у гумне, дзе малоцяць

снапы 1, 2, 3, 4, 5–9, 11–18, 20, 25, 27–29, 35–38, 40, 44, 45, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 65, 66, 68, 69, 70а, 70, 72а, 73, 76, 77, 78, 79, 80–82, 83, 84, 86, 87, 88, 89, 91, 92, 93а, 96, 98, 99, 100, 101, 104, 108, 110, 111, 111а, 113, 114, 115, 117а, 118, 119, 121, 125, 128, 139, 144, 152, 153, 158, 159, 161–163, 168, 173, 176, 177, 180–188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203, 204. **3.** гумно 164, 165, 169–171, 201, 203. **4.** зямля (ток) на гары 70.

**ТОЧКА** то́чка *ж.* 187. вешка, якая стаіць на сенажаці і папярэджвае, што тут нельга пасці.

**ТРАМА** рам *м.* 165. трам *м.* 121, 144, 186, 194, 198. тра́ма *ж.* 7, 9, 54, 82. трамо́к *м.* 148, 185, 186. тран *м.* 89. тро́мба *ж.* 169. трон *м.* 139. **1.** трама, падоўжная бэлька, на якой ляжаць папярочныя бэлькі 7, 54, 82, 89, 121, 139, 144, 148, 165, 169, 186, 194, 198. **2.** бэлька (папярочная) 185, 186. **3.** бэлька ў млыне 9.

**ТРАП** трап *м.* 54, 70, 148. лесвіца, па якой лазяць да коміна.

**ТРАЦЯЧОК** трыт’ачо́к *м.* 79. падоўжныя шпугі ў дзвярах.

**ТРЫСЦЕННІК** трохсц’е́нка *ж.* 160, 173, 196, 202, 204. трохсц’е́н’н’ік *м.* 191. трохсц’е̂нок *м.* 148. трысц’е́н’н’ік *м.* 187. **1.** сенцы 160, 191. **2.** прыбудоўка да хаты, дзе жывуць, ёсць печ 148, 173, 187, 196, 202, 204.

**ТЫН** тін *м.* 184, 196, 202. 204. т’ін *м.* 91, 92. т’ін’ *м.* 74. тын *м.* 1, 2, 5, 6, 9, 10, 12, 14, 15, 20, 25, 36, 55, 59, 64, 68, 69, 73, 76, 77, 78, 87, 88, 90, 93а, 98, 99, 100, 115, 118, 121, 128, 129, 136, 139, 144, 151, 152, 158, 165, 168–171, 173, 181, 182, 186, 188, 195, 201, 203. тын’ *м.* 89. тыно́к *м.* 180, 198. тыно́чок *м.* 65. тэ́н *м.* 50. **1.** верхняя (над зямлёй) частка калодзежа 90, 91, 92, 100. **2.** драўляны зруб або сценкі ў калодзежы 14, 15, 20, 25, 55, 59, 68, 69, 73, 74, 76, 77, 88, 89, 92, 93а, 144. // Тыны: робы́лы з дубы́ны коло́д’азы і вкладалы ў яму 15. **3.** драўляны склеп 93а. **4.** балота, зарослае буйной травой, чаротам 77. // Зарōсло́ ты́ном 77.**5.** густы зараснік 12. **6.** пляцень з чароту 77а; пляцень 129, 173. шопа закрыта тыном 73. **7.** плот з драных са стрыжаню дошак (штахетнік) 1, 2, 5, 6, 136. плот з калочкаў 180, 190, 195, 202, 204. **8.** глухі плот з дошак 98, 99, 128, 181, 182. **9.** плот з вертыкальна ўкапаных (але не прыбітых) дубовых плах 115, 118, 121, 184, 201, 203. **10.** падлога ў адрах (з драных дошак) для пчол на дрэве 136. **11.** градкі ў гародзе 151, 188. **12.** плот, якім абгароджаны градкі 152. **13.** любая сцяна 73, 79, 144. **14.** паркан 73, 78, 87, 165, 168, 169, 171. плут з броўнуў, закіданы ў шула 169. **15.** плот з шулаў і прасунутых у іх 4–5 жэрдак 170, 173. **16.** цесная вуліца 80. **17.** тынк 10, 11, 144, 158. **18.** украінскае слова 4, 9, 16, 36, 44. **19.** дрэва, падобнае да ясеня 186. **20.** кмен 186. // Схадз’і ў тын і нарв’і маркоўк’і 151. Зел’л’е ў коўба́сы пôд м’асо 186. На дні ў колод’азы – скры́н’а. а потом ты́ном окладалы 68. Брэ’ўно пор’і́жыш і дырэ́ш на городжу 1. Пройшоў по-над тэ́ном, коб ніхто нэ бачыў 80. У колод’аз’і пуд т’іном трава ростэ́ 91.

**ТЫНКОЎКА** тынко́ўка *ж.* 176. тынкаванне.

**ТЫЧКА** тíчка *ж.* 38. ты́чка *ж.* 1, 8, 10, 14, 16, 18, 20, 29, 64, 74. ты́чк’і *мн.* 15, 88, 164, 165. тэ́чка *ж.* 65. **1.** вочап у студні з жураўлём 1, 8, 10, 14, 16, 18, 29, 38. **2.** жэрдкі на вышках паміж бэлькамі 20. **3.** плот, у якім паміж трыма жэрдкамі прасунуты тычкі, тонкія дручкі 15, 88, 164. **4.** вяха 64, 65, 74. **5.** жэрдкі на будане, якія выконваюць ролю лат 165.

**ТЫЧНІК** тычн’ík *м.* 187. ты́шн’ік *м.* 190. плот, які складаецца з трох жэрдак і прасунутых паміж імі галін або тонкіх бярозак. // Двор заку́таны тычн’іком 187.

**ТЭБЕЛЬ** та́б’ел *м.* 188. тíбел’ *м.* 27, 29, 31, 32. ты́бэл’ *м.* 4, 13. 20. тэ́бал’ *м.* 56. тэ́б’ел *м.* 96, 110, 115, 119, 128, 180, 182. тэ́б’ел’ *м.* 59, 81, 118, 153, 162, 163, 184, 195, 197. тэ́б’ê л’ *м.* 121, 125, 136, 139, 144, 148, 173. тэ́бйôл *м.* 112. тэ́б’іл’ *м.* 79. тэ́был’ *м.* 35, 54, 101. тэ́бэл’ *м.* 52, 63, 74, 75, 104. ц’е́б’ал *м.* 151. ц’е́б’ел *м.* 196, 202, 204. ц’е́б’ел’ *м.* 186. **1.** драўляны шып, які змацняе сцяну 13, 52, 59, 63, 79, 81, 96, 101, 104, 110, 112, 115, 119, 121, 125, 131, 136, 139, 144, 148, 151, 153, 163, 180, 182, 186, 188, 195–197, 202, 204. **2.** тэбель (якім пракручваюцца дзіркі ў бярвеннях) 20, 27, 29, 31, 32, 35, 54, 56, 74, 75, 162, 173, 184, 195.

**УЗГАЛОВІЧ** узгало́в’іч *м.* 194. шапка, верхні вушак у дзвярах і ў акне.

**УСАДЗЬБА** вса́д’ба *ж.* 2. уса́д’ба *ж.* 4, 5, 7, 9, 15, 18, 25, 29, 44, 49, 52, 79, 77, 81, 88, 90, 92, 117а, 119, 134, 163. уса́дз’ба *ж.* 37, 115, 116, 153, 180. ўса́д’ба *ж.* 12, 20, 38, 74, 80, 125, 136, 144, 177. ўса́дз’ба *ж.* 158, 159. ўсэ́д’ба *ж.* 65, 70. сядзіба.

**УХАСЦІЦЬ** ухасты́ты *зак.* 29. уцяпліць прызбу. // Ухасты́ты соломойу, в’іша ро́м прызбу 29.

**ФІГУРЫ** пыгу́ры *мн.* 35. ф’ігу́ры *мн.* 13, 40, 136, 144, 151, 187. ліштвы, шалёўкі знадворку, аздобленыя выразанымі ўзорамі.

**ФІШКА** ф’íшка *ж.* 169. вяха.

**ФОРТКА** кво́ртка *ж.* 182. квốртачка *ж.* 180, 194. кву́ртка *ж.* 190. 203. фо́ртачка *ж.* 151, 153. 191. фо́рточка *ж.* 27, 29, 31, 60, 69, 98, 116, 173, 176, 196, 202. фо́ртка *ж.* 9, 20, 160, 163. фốртучка *ж.* 162. 204. ф’у̂́ртка *ж.* 171. квуо́ртка *ж.* 176. хво́ртка *ж.* 144, 169, 181. 198. хво́рточка *ж.* 65.

хво́ртка *ж.* 148, 154, 158, 165, 195. хвў́ртка *ж.* 184. хву́ртка *ж.* 115, 144, 161, 165, 168, 177, 185, 201. хву́рточка *ж.* 186. хвы́ртка *ж.* 17. хо́рточка *ж.* 83. ху́рточка *ж.* 59. **1.** фортачка (у акне) 20, 27, 29, 31, 59, 60, 65, 69, 162, 173, 176, 184, 196, 202, 204. **2.** брамка (ля варот у плоце) 9, 17, 83, 98, 115, 116, 144, 148, 151, 153, 154, 158, 160, 161, 163, 165, 168, 169, 171, 173, 177, 180–182, 185, 186, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **3.** варотцы ў хляве ў загадку 148, 165, 182. **4.** лаз на гару (дзверцы). **5.** аканніцы 165.

**ФРАМУГА** праму́га *ж.* 204. фраму́га *ж.* 162, 196. фрамуга.

**ФРАНТОН** франто́н *м.* 170, 204. фрейто́н *м.* 196, 202. франтон.

**ФУНДАМЕНТ** фунда́м'ент *м.* 154, 162, 176, 196, 202, 204. фунда́м'êнт *м.* 7, 44, 144, 191. фунда́мынт *м.* 1, 2, 8, 9, 15, 18, 25, 29, 170. хвунда́м'ент *м.* 176, 197. хунда́мэнт *м.* 65, 80, 89, 139, 165, 183. **1.** фундамент (цэментаваны) 1, 2, 7, 8, 9, 15, 18, 25, 29, 44, 65, 80, 89, 139, 144, 154, 162, 165, 170, 176, 183, 191, 196, 197, 202, 204. **2.** чатырохвугольныя камяні пад падрубамі 1, 7, 9, 15.

**ФУТРЫНА** футры́на *ж.* 7, 16—18, 20, 36—38, 44, 93а, 104. хутры́на *ж.* 103. шуфляда ў акне або ў дзвярах (у цагляным доме).

**ФЭДАР** фе́дер *м.* 31. фэ́дыр *м.* 16. фэ́дэ́р *м.* 25. паз у адной дошцы ў дзвярах, у падлозе, у які заходзіць шып, выразаны ў другой дошцы. // Дво́ры на фэ́дыр 16. Падлога зробл'ана ў фэ́дэр 25.

**ХАВАЛКА** хава́лка *ж.* 159. будан з загнутага галля.

**ХАВІРА** хав'і́ра *ж.* 148. зямлянка, будан.

**ХАЛАБУДА** галабу́да *ж.* 187. халабу́да *ж.* 5, 14, 16, 17, 25, 29, 38, 44, 45, 49, 52, 63, 70а, 72а, 76, 77, 98, 110, 114, 115, 117а, 121, 139, 153, 159, 161, 163, 164, 169, 170, 181, 182, 185, 186, 188, 190, 191, 194, 195, 198, 201, 203. **1.** спехам зробленая малая або старая трухлявая хата, будыніна *(іраніч.)* 14, 16, 17, 29, 44, 45, 52, 70а, 72а, 76, 77, 98. // Зробыў н'аку халабуду 77. **2.** прымітыўны будан з галля 25, 38, 52, 63, 169. **3.** прымітыўная прыбудоўка да хлява для цяляці, сабакі 49, 121, 164, 190. **4.** калёсы з брэзентавымі буданамі ў цыган, анучнікаў 110, 114, 115, 159, 163, 169, 170, 181, 185, 186, 188, 191, 198, 203. **5.** буданы з радна на калочках (у садзе, ад сонца) 161, 182, 194, 201. **6.** шырокае адзенне 153. **7.** чалавек "ні рыба, ні мяса" 117а, 125. **8.** неахайны чалавек 139. **9.** крытая грузавая машына 187.

**ХАЛАСТАЙКА** халаста́йка *ж.* 197. кароткія бярвенні (напрыклад, паміж вокнамі).

**ХАЛАШ** хала́ч *м.* 188, 194. хала́ш *м.* 111, 114, 164, 168, 177, 180, 190, 191. **1.** сені, веранда з дошак 111. **2.** шопа з дошак (для торфа) 114. **3.** накідка, плашч ад дажджу 180, 191. **4.** жаночая цыганская адзежа 188, 194. **5.** цыганскі шацёр або будан на возе 164, 168, 177, 190.

**ХАЛУПА** хайлу́па *ж.* 158. халу́па *ж.* 2, 5, 6, 16, 35, 50, 50а, 52, 55, 69, 77, 80, 81, 88, 104, 110, 112, 116, 119, 134, 148, 151, 153, 163, 180, 185, 194. халу́пка *ж.* 84, 89, 136, 171, 186, 190. **1.** дрэнная або трухлявая малая хата 2, 5, 6, 16, 35, 50, 50а, 52, 55, 69, 77, 80, 81, 84, 88, 89, 104, 110, 112, 116, 119, 134, 136, 148, 151, 153, 158, 163, 171, 180, 185, 186, 190, 194. **2.** хата 50а, 69.

**ХАРОМЫ** харо́м'іна *ж.* 117а. 195. харо́ма *ж.* 159, 163, 180, 188, 190, 194. харо́мы *мн.* 35а, 81, 136, 151–153, 158, 177, 198, 204. харо́мы *мн.* 187, 191. хоро́м *м.* 100, 110, 112–114, 171. хоро́ма *ж.* 4, 154, 164, 186, 203. хоро́м'і *мн.* 118, 125. хоро́м'іна *ж.* 134. харо́му *мн.* 187, 191. хоро́мы *мн.* 1, 2, 6–8, 12–18, 20, 25, 29, 35–38, 40, 44, 49, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 64, 68, 69, 70, 72а, 73–75, 77, 79, 81, 82–84, 86–89, 90–93а, 96, 98, 99, 101, 104, 108, 111, 115, 116, 119, 128, 129, 139, 144, 161, 163, 165, 168–170, 185. хоро́му *мн.* 121, 148, 182. хоро́мэ *мн.* 45, 50, 65, 66, 70, 80. **1.** усе будынкі (хата + хлеў + гумно) 12, 14, 18, 20, 35, 35а, 37, 38, 40, 45, 49, 52, 54, 55, 59, 60, 65, 66, 68, 69, 70, 70а, 72а, 73–75, 76, 77–80, 82–84, 86–89, 91, 92, 96, 98, 101, 103, 108, 116, 118, 139, 151, 152, 165, 168, 170, 180, 181, 185–188, 190, 191, 194, 198, 204. **2.** хлявы 50, 69, 100, 114, 121, 125, 136, 148, 161, 163, 164, 182, 195, 203. **3.** хлеў + гумно 25, 29, 36, 44, 93а, 99, 104, 110–113, 119, 128, 171. **4.** гумно 159. **5.** прыгожая хата, з выгодамі, аздобленная 2, 13, 16, 17, 153. **6.** багатыя, вялікія, доўгія панскія дамы 7, 8, 129, **7.** вялікая багатая хата 4, 63. **8.** прыгожыя будынкі 8. **9.** вялікія памяшканні (хаты) 81, 153. **10.** хата 158. **11.** страха 154. **12.** самая вялікая хата ў вёсцы *(іраніч.)* 134. **13.** хата + сені + клець (прыбудоўкі да хаты) 144. **14.** кладоўка 15, 117а, 203. **15.** склеп 1. **16.** клець 1. **17.** хлявы для кароў 169.

**ХАТА** ха́та *ж.* 1, 2, 4, 5–18, 20, 25–29, 31, 35, 35а–38,40, 44, 49, 50, 52, 55, 59, 60, 63–65, 69, 70–93а, 96, 98, 99, 100, 101, 103, 104, 110–119, 121, 125, 128, 129, 134, 136, 139, 144, 148, 151–154, 158, 159–165, 168–171, 173, 176, 177, 180–182, 184–188, 190, 191, 194–197, 201–204. драўляная хата, пераважна пабудаваная ў вуглы (а не ў замкі). ◊ ***блага́йа*** – 36. дрэнная. ◊ ***б'і курн'і́ца*** – 128. ***бы бу́да*** – 18. гл'ін'а́найа 74. ◊ ***вэлы́ка*** – 26. пакой, хата (у адрозненне ад кухні). ◊ ***дра́хла*** – 13. ***дра́хлайа*** – 100, 159. старая, трухлявая. ◊ ***друга́йа*** – 162. святліца. ◊ ***вэлы́ка*** –. ◊ ***ды́мна*** – 10. курная. ◊ ***за́дн'а*** – 31. кухня, дзе гатуюць ежу і ядуць. ◊ ***к'ірп'і́чна*** – 29. ***к'ірп'і́чнайа*** – 173.

цагляны дом. ◊ ***ныго́дна*** – 165. старая трухлявая. ◊ ***п'ершайа*** – 162, 173. кухня. ◊ ***стара́йа*** – 40, 93а. ***старэ́н'к*** – 75, 86, 101. ◊ ***пере́дн'а*** – 32. ***перíдн'а*** – 31. кухня. ◊ ***цігл'а́найа*** – 32. цагляны дом. ◊ ***чорна*** – 7. курная хата. ◊ ***на ха́ту*** 35, 59, 60, 65, 68, 69, 70а, 74, 100, 115, 148, 153, 163, 165, 201. на гару.

**ХАТКА** ха́тка *ж.* 64. стопка, дзе зімою знаходзілася варыва, а ўлетку – спалі.

**ХАЦІНА** хатэ́на *ж.* 17. хац'íна *ж.* 164. **1.** будан ля пастаўніка, дзе жыў пастух 17. **2.** *іраніч.* хатка 164.

**ХАЦІШЧА** ха́тн'ішчэ *н.* 184. хатíс'ко *н.* 27. ха́тышчэ *н.* 117а. **1.** месца, дзе раней стаяла хата 27, 117а, 184. **2.** месца, дзе зараз стаіць хата 27, 184.

**ХВАРТУХ** хварту́х *м.* 65, 70. **1.** падстрэшак 65. **2.** маленькі, зрэзаны франтон 70.

**ХВАСТАЧ** хвоста́ч *м.* 45, 49, 50, 55, 64, 65, 70, 70а, 72, 80, 89, 90. звязаныя ля калосся снапкі саломы, чароту, якімі пакрываюць ніз страхі – 1 рад 45, 50, 55, 64, 70а, 80, 90, або верх страхі 49, 70, 72.

**ХІБ** х'êб *м.* 55. х'іб *м.* 63, 81. хэб *м.* 66. салома на вільчыку, якую прыціскаюць козлы.

**ХІБІНА** х'íб'іна *ж.* 195. старая трухлявая хата, хаціна.

**ХІЖА** х'íжа *ж.* 55, 118, 121, 125, 128, 139, 148, 152–153, 158, 163, 171, 177, 181, 187, 191. х'íжка *ж.* 152, 186. х'іжо́к *м.* 144, 168. х'íжына *ж.* 168, 170, 181, 182, 188, 191, 198, 203. хы́жа *ж.* 96. хы́жа *прым.* 77. хэ́жа *прым.* 73. **1.** камора, клець асобная або ў сенцах – для збожжа, там таксама спалі маладыя 118, 125, 144, 152, 186, 187. **2.** маленькая, дрэнная хатка 103, 125, 153, 163, 168, 181. **3.** недабудаваная будыніна 170. **4.** старая трухлявая хата 96, 118, 158, 168, 181, 182, 188, 191, 198, 203. **5.** паветка 125, 177. **6.** стопка 128, 170. **7.** мякіннік у гумне 177. **8.** будан на балоце 187. **9.** страха склепа 177. **10.** назва ўрочышча 73. **11.** дрэннае надвор'е (дождж, снег з ветрам) 139. **12.** хцівая жанчына 55, 77. // От нашэ дз'іц'а́тко зах'іжа́в'іла. Н'е здыха́ ін'е жыва́ 113.

**ХІЗОК** к'ізо́к *м.* 110. х'ізо́к *м.* 111—115, 134, 136, 165, 171. **1.** вышкі (у хляве) 111—115, 134, 136. // С'е́но положыл'і на х'ізо́к 113. **2.** прыбудоўка паміж стопкай і клеццю для дроў (2 сцяны) 165, 171. // Х'ізо́к прібудоўвал'і на в'íс'ц'о́пку 171.

**ХІСТ** хв'íст *м.* 103, 110. х'íст *м.* 104, 116, 151, 169. х'íс'ц' *ж.* 168. хл'ўст *м.* 182. вяха на сенажаці (тычка або закручаная высокая галіна лазняку, бярэзніку), якая папярэджвае, што ў гэтым месцы нельга пасці.

**ХЛЕЎ** хл'еў *м.* 35а, 36, 52, 82, 83, 90, 110, 112–116, 128, 129, 147, 151–153, 158, 159, 163, 168, 180, 181, 188, 194, 195. 204. хл'êў *м.* 37, 60, 63, 81, 87, 88, 118, 121, 144, 162, 185–187, 203. хл'ів *м.* 13–17, 27, 29, 31, 38, 50, 72, 75, 77, 80. хл'іў *м.* 4, 5–9, 12, 18, 20, 25, 26, 28, 29, 32, 40, 44, 49, 54, 59, 64, 65, 69, 70, 70а, 73, 74, 76, 78, 84, 89, 92, 93а, 99, 101, 119, 125. хл'оў *м.* 55, 134, 170, 173, 176. хл'ôў *м.* 104, 139, 148, 177, 182, 183, 201. хл'уў *м.* 128, 136, 148, 154, 165, 191. хл'ўв *м.* 1. хл'ўў *м.* 2, 7, 79, 96, 164. хлыў *м.* 20. **1.** хлеў (увогуле) 1, 2, 4, 5–9, 12–18, 20, 25, 27, 29, 31, 36–38, 40, 44, 50, 52, 59, 60, 63–65, 69, 70, 70а, 72–75, 76, 78, 80, 82, 84, 87–89, 92, 96, 101, 104, 112–116, 117а, 119, 125, 128, 129, 134, 136, 151, 159, 162, 168, 170, 176, 177, 182, 186, 188, 191, 195, 203. **2.** хлеў для кароў 49, 55, 76, 77, 78, 81, 90, 93а, 99, 110, 128, 148, 152, 153, 180, 183, 185, 187, 194, 204. **3.** валоўнік 44, 55, 79, 180, 199. **4.** хлеў для цялят 28, 32, 93а. **5.** хлеўчык для свіней 26, 28, 77, 83, 110, 139, 144, 148, 165, 173. **6.** хлеў для коней 81, 83, 93а, 118, 121, 128, 152, 164, 185. **7.** хлеўчык для авечак 32, 144, 153. **8.** *іраніч.* старая цесная хата 164, 201. **9.** загарадка ў хляве 148, 154, 185, 195. **10.** загарадка для каровы 147.

**ХЛЕЎЧЫК** хл'ав'е́ц *м.* 118, 168, 180, 183. хл'аво́к *м.* 159. хл'аву́шн'ік *м.* 158, 168. хл'аўчу́к *м.* 165, 170, 173. хл'е́ўчык *м.* 194, 198. хл'êвушо́к *м.* 153. хл'êўчу́к *м.* 184. хл'ếўчык *м.* 203. хл'івчык *м.* 15–17. хл'íўчык *м.* 4, 20, 70, 111а, 119. хл'оўча́к *м.* 171. хл'ốўчык *м.* 183, 203. хл'уўчу́к *м.* 164. хл'ў́ўчык *м.* 96, 201. хлывэ́ц *м.* 100. **1.** *іраніч.* цесная, малая хата 170. **2.** камора 100. **3.** куратнік 96, 168, 183. **4.** будка для сабакі 171, 201. **5.** паветка для дроў, дрывотнік 4, 15, 17, 20. **6.** загарадзь ля хлява для свіней 164, 203. **7.** свінушнік 16, 118, 153, 158, 184, 198. **8.** загародка для цялят 118, 159, 198; для авец 70, 184. **9.** загарадкі ў хляве 111а, 118, 119, 164, 165, 168, 173, 180, 194, 201, 203. **10.** мякіннік 15.

**ХЛУДЗІНА** хлу́дз'іна *ж.* 152. прыміца, жэрдка, якая прыціскае салому на страсе.

**ХРЭБЕСТ** хрэ́б'êст *м.* 201. рашотка, зробленая з галля на ключынах.

**ЦАБРЫНЫ** цабрíні *мн.* 201. ца́брыны *мн.* 111а. цыбрыны́ *мн.* 28. плашкі (дубовыя), закладзеныя за слупы ў калодзежы.

**ЦАЦКІ** ца́цкі *мн.* 136, 148. аздобленныя шалёўкі з узорамі ў акне знадворку.

**ЦВЯТНІК** цв'атн'íк *м.* 161, 177. цв'аты́ *м.* 191. цв'êто́чнік *м.* 2, 9. цв'êто́шн'ік *м.* 144. цв'ітнíк *м.* 64, 92. агародчык.

**ЦЕРАМ** ц’éрам *м.* 194. ц’éрэм *м.* 139, 180. **1.** чаромха 139. **2.** кудлатая галіна на хваіне, куды ставяцца вуллі 180. **3.** …з’ал’óны ц’éрам, на йôлку пахóжы 194.

**ЦЫБАНТ** цыбáнт *м.* 13. пояс, які злучае дзве кроквіны.

**ЦЯЛЕШ** ц’ал’éш *м.* 160. кавалак дуба, кароткае бервяно з дуба.

**ЦЯЛЯТНІК** т’êл’áтн’ік *м.* 184. ц’ал’áтн’ік *м.* 186. ц’ел’áтн’ік *м.* 183. катух, загарадка ў хляве для цялят.

**ЦЯНЁК** ц’ен’óк *м.* 118. накрыццё, паветка.

**ЧАЛО** чолó *н.* 55, 76. чôлó *н.* 65. **1.** падстрэшак 55. **2.** вільчак 65. **3.** вальма 76.

**ЧАРДАК** чардáк *м.* 154, 158, 159, 162, 170, 204. гара (хата).

**ЧАСТАКОЛ** частакóл *м.* 103, 116, 136, 151, 153, 173, 181. частакốл *м.* 195. частокóл *м.* 9, 52, 74, 76, 82, 86, 88, 89, 90, 92, 93а, 101, 110, 113, 114, 144, 154, 162, 163, 165, 170, 198. частакốл *м.* 148, 169, 186, 203. частокýл *м.* 84, 108, 118, 128, 168. частокў́л *м.* 91, 112, 185. частôкóл *м.* 115. чустокóл *м.* 119. чыстакóл *м.* 158. чысток’íл *м.* 50. чыстокóл *м.* 66, 73. шастакóл *м.* 177, 188, 190. шастакốл *м.* 191. шастокóл *м.* 121, 125, 164, 176. шастокýл *м.* 161. шыстакóл *м.* 187. шэсток’ў́л *м.* 171. **1.** плот, які складаецца з трох жэрдак і прасунутых паміж імі калочкаў 50, 121, 158, 176. **2.** частакол, плот з калочкаў 9, 52, 73, 74, 76, 82, 84, 86, 90, 91, 92, 93а, 101, 103, 108, 110, 112–116, 118, 119, 125, 128, 144, 154, 161, 163, 164, 165, 168, 169, 170, 171, 185, 186, 188, 191, 195, 198, 203. **3.** плот (глухі) з дошак 66, 89, 125. **4.** плот-штахетнік 82, 84, 136, 148, 151, 153, 162, 170, 173, 177, 181, 187, 190.

**ЧАШКА** чáшка *ж.* 154, 196, 197. **1.** верхні канец вушака, вуха 196. **2.** жолаб у бервяне, каб яно шчыльней прылягала да ніжняга бервяна ў сцяне 154. **3.** …чáшка, дз’е лóжыцца браўнó на вугл’ê… 197.

**ЧУБОК** чубóк *м.* 54. верх страхі.

**ШАЛАБАНЧЫК** шалабáнчык *м.* 5. **1.** страха на двары і на сенажаці ў выглядзе будана (абарог). **2.** прыбудоўка да хлява, катух для курэй, сабакі.

**ШАЛАБУДА** шалабýда *ж.* 6, 8, 44, 69, 76. шалабýда і шалапýта *м.* і *ж.* 6, 9, 12, 72а. шалапýда *ж.* 1. **1.** паветка для дроў, прыбудаваная да хлява 6. **2.** дрэнная хата 8, 44, 72а. **3.** гусятнік ля хлява. // Прышалабýдыў на гусэ 76. **4.** лёгкі буданчык на сенажаці 1. **5.** няцямлівы чалавек 6. **6.** балбатун 9, 12.

**ШАЛАШ** салáш *м.* 55, 60, 68, 87, 99, 121, 139. шалác *м.* 70, 86. шалáш *м.* 1, 2, 5–18, 20, 25, 28, 35, 37, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 52, 54, 55, 65, 66, 73, 75–77, 79, 81, 83, 84, 88, 89, 91, 92, 96, 100, 110, 111а, 114–118, 125, 136, 144, 148, 152, 153, 159–161, 163–165, 170, 182, 186, 187, 190, 194, 195, 201, 203. шалáшык *м.* 16, 37, 113, 185. **1.** прыбудоўка з дошак ля хаты для дроў; прыбудоўка да хлява для воза, паветка для сена, для сушэння снапоў 1, 5, 6, 8, 10, 11, 12, 14, 15, 17, 35, 37, 45, 52, 73, 79, 88, 89. **2.** шопа для дроў, для курэй 111а. **3.** страха на слупах для галля, для дроў, сена 2, 16, 18. **4.** круглы будан з чатырох сошак, з агнём у сярэдзіне 7, 84, 115, 116, 118, 125, 153. **5.** будан больш прымітыўны, чым курэнь 4, 20, 38, 40, 44, 50, 52, 54, 55, 68, 73, 76, 79, 86, 87, 170, 185, 194. **6.** будан з бярэзніка ля пастаўніка 114. **7.** будан для паляўнічых на цецерукоў 164, 165, 203. **8.** калідорчык (сенцы) ля хаты з дошак 113. **9.** барак з дошак 110. **10.** прыбудоўка ля хлява на розныя гаспадарчыя прылады 66, 100, 121; пасярод двара для прылад 70. **11.** страха, без сцен ля хлява (павець), дзе могуць адпачываць каровы ўлетку 96. **12.** будан з адным схілам страхі 13, 148. **13.** невялікі хлеўчык для жывёлы, часам для дроў 9, 49, 55, 66, 99, 163. **14.** напоўразбураныя будынкі, свінушнікі, як буданы, штосьці старое, непрыдатнае 28, 60, 74, 91, 92. **15.** хата, як хлеў *(іраніч.)* 8, 25, 37, 91. **16.** цыганскі шацёр 83, 117а, 136, 139, 144, 152, 159, 161, 187, 190, 195. **17.** накідка-шацёр з брэзенту 160, 182, 186, 201. **18.** ілгун 28.

**ШАЛЁЎКА** шал’íвка *ж.* 15, 16, 17, 27, 29, 45, 102. шал’íўка *ж.* 20, 28, 44, 50, 59, 70–75, 76, 89, 90, 99, 100, 117а. шал’óўка *ж.* 6, 25, 36, 52, 54, 60, 63, 80, 101, 173, 180, 185, 187, 194, 196, 197, 202, 204. шал’ốўка *ж.* 31, 37, 55, 103, 104, 201. шал’ýўка *ж.* 35, 68, 79, 82, 84, 86–88, 110, 112, 113, 118, 128, 165. шал’ў́вка *ж.* 44. шал’ў́ўка *ж.* 2, 13, 38, 83, 91. шыл’óўка *ж.* 116. **1.** шалёўка ў акне 15–17, 20, 25, 27, 29, 31, 36, 38, 44, 45, 54, 55, 59, 60, 63, 68, 70, 70а, 71–72а, 73–80, 82, 84, 86, 88, 89, 91, 99, 101, 102–104, 112, 113, 116, 117а, 118, 128, 165, 185, 187, 197. **2.** шалёўка ў дзвярах ля вушакоў 27, 29, 80, 87, 99, 100, 173, 195, 196, 202, 204. **3.** шаляваныя дошкі ў вугле 80, 91. **4.** шаляваны франтон 180. **5.** плот-штахетнік 188. **6.** ветраніцы – дошкі ля франтона 194. **7.** шаляваная сцяна 2, 6, 13, 15, 25, 37, 44, 70.

**ШАЛЯВАННЕ** ошал’овáн’н’е *н.* 121. ўшал’овáн’н’а *н.* 185. ўшал’увáн’н’а *н.* 125. шал’авáн’н’е *н.* 152, 154, 158, 159, 160, 163, 164, 168, 177, 181, 187, 188, 190, 194, 195, 203. шал’óван’н’е *н.* 92, 93а. шал’овáн’н’е *н.* 63, 75, 80, 117а, 161, 162, 169, 176, 182, 184, 186, 197.

шал’ôва́н’н’е *н.* 65, 139, 148, 170, 191. шал’ува́н’н’е *н.* 96, 101, 144. шал’ува́н’н’а *н.* 59, 60, 119. шыл’ава́н’н’е *н.* 153. **1.** шалёўка ў акне 59, 63, 75, 80, 92, 93, 96, 121, 125, 139, 152–154, 158, 160–164, 168, 169, 170, 176, 177, 181, 182, 184, 186–188, 190, 191, 195, 197, 203. **2.** шалёўка ў дзвярах ля вушака 60, 80, 92, 101, 144, 162, 163, 176, 184, 197. **3.** шаляваныя дошкі ў вугле 60, 80, 92. **4.** шаляваная сцяна 65, 148. **5.** франтон 152, 159, 185, 188, 203. **6.** шаляваныя дошкі – "каробка" – пад страхой 194.

**ШАПКА** ч’е́пка *ж.* 70. ша́пка *ж.* 11, 13–15, 20, 25–29, 31, 35–37, 44, 52, 54, 55, 59, 60, 63, 69, 73, 77, 80, 93а, 108, 115, 118, 121, 136, 139, 144, 151–154, 158–165, 169–171, 173, 176, 177, 180–182, 184–188, 190, 191, 195, 196, 198, 201, 203. ш’апка *ж.* 5, 38. ш’е́пка *ж.* 12, 16, 50, 64, 65, 71, 72, 80, 78, 99. **1.** верхні вушак у дзвярах 5, 11–13, 15, 16, 20, 25, 26, 29, 31, 35–38, 44, 50, 52, 54, 55, 59, 60, 63–65, 69, 71, 72, 73, 77, 78, 80, 93а, 99, 108, 115, 118, 121, 136, 139, 151–153, 158, 159, 161–165, 170–171, 173, 176, 177, 180–187, 195, 196, 201. **2.** верхні вушак у акне 25, 70, 139, 144, 151–154, 159–164, 169–171, 176, 177, 180–182, 184–188, 190, 191, 198, 203. **3.** верхні дзесяты сноп у мэндліку 80. **4.** вылётны дыль над дзвярыма 44.

**ШАР** шар *м.* 25, 29, 126, 186, 191, 194, 203. шар’е̂нга *ж.* 139. шаро́нок *м.* 29. шарэ́нак *м.* 151. ш’ерэ́нок 78. шэрэ́ног *м.* 20. рад. // Харому ў адз’ін шар 191. С’ало́ ў адз’ін шар будуйем 194. Ц’ілый шар згор’іло 29. Стр’е́ха – … н’іжн’і шар з соло́мы або дран’і 203. Хата і клуня под одным шэрэ́нгом 20.

**ШАРАБАН** шараба́н *м.* 8. буданчык у форме страхі.

**ШАРАБАНКА** шараба́нка *ж.* 8. *параўн.* **шарабан**.

**ШАТРО** шатро́ *н.* 29, 96, 99, 125, 171, 201. шац’о́р *м.* 182, 190. шацёр (у цыган), распяты на зямлі, або на возе паўкруглы будан з брэзенту 99, 201.

**ШІПКА** *гл.* **шопа**.

**ШКЛО** скло́ *н.* 29. шкло́ *н.* 2, 59, 60, 64, 148, 186. шыба ў акне.

**ШОПА** шіпа *ж.* 80. шіпка *ж.* 20, 90. ш’іпка *ж.* 6, 17, 20, 64–66, 73–76, 77, 80, 100, 101. ш’іпочка *ж.* 15, 89. шо́па *ж.* 1, 5–16, 25, 27, 29, 36–38, 44, 45, 49, 50, 54, 60, 69, 72а–76а, 78, 79, 81, 86–91, 93, 96, 103, 104, 108, 110, 112–117а, 119, 128, 129, 134, 136, 139, 142, 144, 148, 151–153, 158–165, 168–171, 173, 176, 177, 180, 182, 185–188, 191, 194, 195, 198. шо́пка *ж.* 36, 37, 60. шо̂пка *ж.* 54, 201. шу́пка *ж.* 35, 68, 144. шу̂пка *ж.* 4, 35, 40, 44, 70а, 79, 92. шы́пка *ж.* 49, 69, 99. **1.** прыбудоўка да хлява 5, 12, 27, 29, 35–38, 40, 64, 65, 69, 70, 72, 73, 80, 82, 88, 91, 96, 103, 104, 128, 136, 144. **2.** прыбудоўка, у якой сцены з пляцяня (або з калочкаў), каб снег не замятаў дровы 43, 73, 76, 77, 80. **3.** павець паміж будынкамі, прыбудоўка, каб сцены не згнілі 20, 74, 79, 119. **4.** паветка на слупах 49, 50, 60, 68, 70, 75, 76, 87, 88, 89, 108, 110, 112–115, 117а, 121, 139, 148, 151, 152, 158, 159, 160–163, 180, 182, 185, 186, 195. **5.** пакрыццё над склепам з бульбяніка 194. **6.** стрэшка над уваходам у склеп 134, 173, 176. **7.** пакрыццё паміж сенцамі і хлявом 188. **8.** хлеўчык 142. **9.** хлеўчык, павець на сенажаці для сена 1, 6, 37, 38. **10.** прыбудоўка ці павець для: а) дроў 5, 17, 20, 35, 36, 45, 68, 70, 72а–73, 76, 77, 79, 80, 82, 87, 88, 89, 90, 91, 96, 99, 100, 104, 110, 114, 115, 116, 119, 142, 144, 151, 153, 159, 168, 169, 173, 177, 182, 185, 188; б) для гаспадарчых прылад 8, 12, 25, 44, 45, 49, 65, 70а, 77, 80, 86, 91, 92, 188; в) мякіннік 7, 15, 65, 76; г) для сена 1, 6, 9, 13, 15, 16, 17, 25, 27, 29, 36–38, 44, 45, 69, 73, 78, 81, 117а, 164, 201; д) для калёс 5, 12, 36, 50, 69, 70а, 74, 77, 79, 82–84, 86, 89, 91, 92, 96, 103, 104, 108, 113, 114, 117а, 119, 139, 151, 158, 164, 165, 169, 170, 171, 185, 186, 188, 191, 198; е) абарог для сушэння снапоў 60, 158, 187; ё) месца, куды заганялі ўлетку скаціну 162; ж) дзе зімой у бедных сялян знаходзілася скаціна 45; з) майстэрні 96; і) лён цёрлі 101. **11.** куратнік 54. **12.** батлейка 4.

**ШПАР** шпал’ар’іўка *ж.* 70. шпар *м.* 70а, 76, 92, 110–114, 118, 121, 129, 148, 154, 160, 162, 173, 184, 203. шпа́ра *ж.* 65, 79, 104, 121, 125. шпарова́н’н’е *н.* 87. шпаро́ванка *ж.* 65. шпару́ўка *ж.* 88. шпароўны́к *м.* 84. **1.** шпуга, ліштва паміж дзвюма дошкамі ў падлозе, у дзвярах і г. д., каб было шчыльней 52, 65, 70, 70а, 84, 87, 88, 104, 113, 114, 118, 125. **2.** паз у вушаку, у дошках падлогі, у гонтах, у сцяне (дзе ў вакне ўстаўляюцца занозы) 79, 110, 112, 121, 129, 148, 154, 160, 162, 173, 184, 203. // Мы вы́паз’êм шу́ло 154. Ґо́нта шпа́рыцца мару́дно 160. Шпар прадз’о́ўбаў 203. Выб’іра́йецца шпар 184. Зац’о́свал’і, каб зайшоў у шпар 148.

**ШПЕНЬ** шп’е́н’ *м.* 112. шп’ін’ *м.* 7. шпы́н’ *м.* 83. **1.** шпень, на якім круцяцца "вешніцы" – вароты ў канцы вёскі 83, 112. **2.** саха ў студні з жураўлём 7.

**ШПІХЕРЫК** шп’іх’е́рік *м.* 15. шпыхэ́рок *м.* 17. **1.** кладоўка 17. **2.** свіран для збожжа 15.

**ШПУГА** шпа́га *ж.* 68, 75. шпу́га *ж.* 1, 15, 17, 20, 25, 35, 44, 45, 50, 52, 64, 65, 69, 70, 72а, 73, 74, 76, 82, 80, 91, 93а, 96, 116, 118, 125, 128, 136, 139, 151, 154, 158, 161, 163, 165, 169, 170, 177, 181, 182–184, 185, 187, 188, 190, 191, 194, 195–197, 202–204. шпу́ґа *ж.* 4, 6, 7, 13, 27, 29, 31, 36, 38,

40, 55, 77, 79, 84, 89, 112, 115, 168, 173, 176. шпу́жка *ж.* 186. **1.** тонкая ліства, якая запускаецца ў пазы дзвюх дошак падлогі, столі, стала 4, 7, 13, 15–17, 25, 27, 31, 35–39, 40, 44, 45, 50, 52, 55, 68, 69, 70, 72а, 73, 74, 75, 77, 78, 91, 93а, 96, 115, 116, 136, 162, 183, 190. **2.** дзве шырокія планкі, якія змацоўваюць (зверху і знізу) простыя дзверы (з дошак) 1, 2, 5, 6, 20, 29, 32, 36, 65, 76, 78, 79, 82, 84, 88–90, 92, 103, 104, 112–114, 118, 119, 121, 128, 139, 151, 154, 158, 161, 163, 165, 168–170, 173, 176, 177, 181, 182–184, 186–188, 191,. 194–197, 202–204. **3.** *параўн.* "лісіцы" 6.

**ШПУНТ** шпунт *м.* 2, 5, 20, 32, 148, 184, 195, 196, 201, 202, 204. **1.** шпугі, тонкія ліштвы, якія заганяюцца ў пазы для таго, каб дошкі падлогі, дзвярэй шчыльна прылягалі адна да адной 2, 5, 20, 32, 184, 197. **2.** паз, у які заходзяць шпугі паміж дошкамі падлогі, дзвярэй 195, 196, 197, 201, 202, 204. **3.** палец (бервяна), які ўстаўляецца ў паз 148.

**ШТАНДАР** шк'інда́р *м.* 187. штанда́л *м.* 152. штанда́р *м.* 60, 75, 104, 108, 110–112, 115, 116, 118, 121, 128, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 153, 159, 161, 162–165, 168, 169, 173, 177, 180–186, 188, 190, 191, 194, 195, 196–198, 202–204. штында́р *м.* 113, 171. штэнда́р *м.* 114, 160. шчында́р *м.* 154. **1.** закапаныя ў зямлю дубовыя калоды, на якія кладуць падрубы 60, 75, 104, 108, 110–112, 113, 114, 115, 116, 118, 121, 128, 134, 136, 139, 144, 148, 151, 152, 153, 154, 159, 160, 161, 162–165, 168, 169, 171, 173, 177, 180–186, 187, 188, 190, 191, 194, 195, 196–198, 202–204. // Обштандаріў хату 118. падставіў штандары. **2.** калоды, на якіх ляжаць падваліны 159, 165, 168, 187.

**ШТАХЕТЫ** штак'е́т *м.* 18, 101, 151, 191. штак'е́та *ж.* 114. штак'е́ты *мн.* 88, 91, 93а, 144, 148, 151, 204. штакэ́ты *мн.* 118. штафэ́т *м.* 29. штафэ́ты *мн.* 136. штахвэ́т *м.* 186. штаха̂́тэ *мн.* 73, 76. штах'е́т *м.* 8, 64, 154, 160, 161, 169, 176, 177, 185. штах'е́тн'ік *м.* 9, 72а, 195. штах'е́ты *мн.* 2, 6, 36, 54, 63, 77, 86, 89, 92, 116, 170. штахэ́т *м.* 8, 25, 65, 99. штахэ́та *ж.* 44. штахэ́ткы *мн.* 68. штахэ́тн'ік *м.* 16, 17. штахэ́тнык *м.* 49. штахэ́ты *мн.* 11–13, 20, 35а, 38, 40, 50, 69, 76, 78. штахэ́тэ *мн.* 45, 66. штоф'е́ты *мн.* 164. шчык'е́т *м.* 104, 194. шчэк'е́т *м.* 115. **1.** плот з яловых галін, прасунутых паміж трыма жэрдкамі 2. **2.** высокі, шчыльны плот з дошак 164. **3.** штахетнік 6, 8, 9, 11–13, 16, 17,18, 20, 25, 29, 35а, 36, 38, 40, 44, 45, 49, 50, 54, 63, 64, 65, 66, 68, 69, 72а, 73, 76, 77, 78, 86, 88, 89, 91, 92, 93а, 99, 101, 104, 114, 115, 116, 118, 136, 144, 148, 151, 154, 160, 161, 169, 170, 176, 177, 185, 186, 191, 194, 195, 204; на магіле 136. // Заку́таў ад вул'іцы шчык'е́там 194. **4.** плот з калочкаў 104, 148.

**ШТРЫХОЎКА** штрыхо́ўка *ж.* 104. дошка, пад якую пакрывалі страху. ◊ *гл.* ***пôд штрахо́ўку*** 136.

**ШТЫЛЬ** штыл' *м.* 148. **1.** кароткі коло́чак на адз'о́ры 148. **2.** вочап у студні з жураўлём.

**ШТЫМПАЛЬ** штімпа́л' *м.* 59. штінпа́л' *м.* 84. штымпа́л' *м.* 54, 59, 65, 68, 70а, 72а, 73, 75, 77, 82, 86, 88, 91, 93а, 96, 99, 100, 102, 103, 117а, 119, 125, 158. штынпа́л' *м.* 65, 70, 74, 76, 78, 79, 83, 89, 92, 101. штынфа́л' *м.* 98. штэмпа́л' *м.* 63, 64, 80, 90, 129. **1.** закапаныя ў зямлю на вуглах дубовыя калоды, на якія кладуцца падрубы 54, 59, 63, 64, 65, 68, 70а, 72а, 73, 74, 75, 76, 77, 78, 79, 80, 84, 86, 88, 89, 90, 91, 92, 93а, 96, 99, 100, 101, 102, 103, 117а, 119, 125, 129, 158. // Штанда́ры ста́вылы, а штынпа́л'і пудбыва́лы 75. **2.** паль пад мост 70, 82. **3.** слупкі, якімі абшываюць каналы 83.

**ШУЛА** аўшу́ла *н.* 204. аўшу́ло *н.* 190. вошу́лдык *м.* 70. вушы́ло *н.* 110, 153. оўшу́ло *н.* 182. ошу́лок *м.* 73. уўшы́ло *н.* 186. ушу́ло *н.* 115, 162, 169. ушу́л'цэ *н.* 163. ушы́ло *н.* 93а. ушыло́ *н.* 159. ўушы́ла *н.* 108, 161, 188, 201. ўушы́ло *н.* 113. ўшу́ла *н.* 116, 118, 148, 180, 182, 187, 194, 195. ўшу́лка *н.* 195. ўшу́лко *н.* 121. ўшу́ло *н.* 55, 115, 151, 152, 168. ўшуло́ *н.* 8. ўшы́ло *н.* 158. ўшыло́ *н.* 111. шул *м.* 75, 76, 78, 90. шу́ла *н.* 81, 136, 170, 176, 177, 181, 191, 198. шу́лка *н.* 203. шу́л'іц *м.* 7, 17, 31. шу́л'с *м.* 2. шу́ло *н.* 4, 35, 59, 60, 69, 70а, 77, 78, 84, 86, 89, 103, 104, 112, 129, 139, 144, 148, 154, 164, 170, 171, 173, 183, 185. шу́лык *м.* 70, 76. шу́лыц' *м.* 11, 16, 17, 20. шул'ц *м.* 5, 9, 12–14, 18, 25, 74, 79, 80. шу́лэц *м.* 15. **1.** шула пасярод сцяны на падрубе (калі яно выкарыстоўваецца, як сточка бярвенняў, якія не выцягваюць даўжынёй на ўсю сцяну) 2, 4, 9, 12–18, 20, 25, 35, 69, 70, 70а, 75–79, 81, 84, 86, 89, 103, 110, 111, 118, 121, 136, 139, 144, 153, 154, 158, 163, 164, 168, 170, 177, 180–185, 186, 190, 191, 195, 198, 204. **2.** шула, укапанае ў зямлю 12, 18, 74, 80, 113, 129, 151, 158, 161, 168, 185–187, 195, 198. **3.** слуп з пазамі ў плоце 103, 148, 170. **4.** "лісіцы" 5. **5.** паз у сцяне 35. **6.** паз у шуле 55, 59, 60, 154 (новае). **7.** ачэп на бэльках, на якім кроквы 171. **8.** вушак у дзвярах, пераважна ў хляве 31, 73, 77, 93а, 104, 112, 115, 116, 118, 144, 148, 162, 169, 170, 173, 176, 194, 201, 203. **9.** у акне "заноза" – ля футрыны 17. **10.** слуп у плоце з дзіркамі, а не з пазамі 170. **11.** высокія слупы ў варотах 108. **12.** высокія вароты (на вуліцу) 152.

**ШУР** шур *м.* 1, 4, 5, 9, 16, 16а, 37, 54, 65, 73, 76. шу́ра *ж.* 69, 148. шу́рка *ж.* 69, 176, 184. шу́рік *м.* 7, 38. шу́рык *м.* 1, 6, 8, 12, 13, 40, 44, 45, 66, 70, 70а, 76, 93а. шчу́рык *м.* 20. **1.** прыбудоўка ля хлява ці хаты са сценамі, або толькі адна страха на слупах для: а) для дроў 1, 4–9, 12, 13, 16, 37, 38, 40, 45, 65, 69, 70, 70а, 76, 93а; б) для калёс 5, 8, 39, 54, 65, 76; в) для розных гаспадарчых

прылад, для барон, плугоў, бочак 44, 45, 66, 73, 78. **2.** абарог для сушэння снапоў 9, 69. **3.** штабель дроў 148, 176, 184. **4.** дах, пакрыццё над ямай (з бульбай) 16а.

**ШУФЛЯДА** шупл'е́да *ж.* 73. шуфл'а́да *ж.* 69. шухл'а́да *ж.* 68. шуфляда ў акне.

**ШЧАБЛІ** шчабл'і *мн.* 7, 20. шчыбл'і *мн.* 4, 15. **1.** плот-штахетнік. **2.** фасоль 20.

**ШЧАБЯЛЁК** шчыбыл'о́к *м.* 93а. шчэбэл'о́к *м.* 93а. прыкладзеная козламі на вільчыку салома.

**ШЧАКА** шчака́ *ж.* 118. чалеснік.

**ШЧОТКА** шчо́тка *ж.* 139, 162, 170, 176. шч'о́тка *ж.* 196, 202. шчо̂тка *ж.* 112, 184. шч'ітка *ж.* 29. прылада, пры дапамозе каторай выраўноўваецца салома пры пакрываннi страхі (першы знізу рад страхі крыш кулікамі, а вышэй – саломай ***пад шчотку***).

**ШЧЫК** шчык *м.* 153. салома на вільчыку, прыкладзеная козламі.

**ШЧЫТ** ўшч' іт *м.* 128. шчіт *м.* 2, 6, 10, 14, 15, 59, 64, 71, 72, 84, 102, 118, 162, 171, 173. шчыт *м.* 1, 5, 7–9, 11–13, 16, 18, 25, 35–38, 40, 50, 52, 81, 83, 99, 103, 110, 116, 117а, 119, 121, 129, 136, 144, 153, 163–165, 169. шч'іт' *ж.* 26–29, 70а. шчыт' *ж.* 44, 45, 65. **1.** франтон 1, 2, 5, 6, 7–9, 10, 11–13, 14, 16, 15, 18, 25, 26–29, 35–38, 40, 44, 45, 50, 52, 59, 64, 65, 70а, 71, 72, 81, 83, 84, 99, 102, 103, 110, 116, 117а, 118, 119, 121, 128, 129, 136, 144, 153, 162, 163–165, 169, 171, 173. **2.** салома на вільчыку, прыкладзеная козламі 35а–37, 128. // Нашчытува́л'і з мйатойê сало́мы 36. **3.** саламяная вальма 2, 164; саламяны франтон 99.

**ШЧЫТОК** шчыто́к *м.* 35, 35а, 54, 60, 74, 82, 91, 134. шчыто́чок *м.* 93а. **1.** франтон 82, 134. **2.** падстрэшак 35, 35а, 93а. **3.** вільчак 60, 74. **4.** шчэбет (салома на вільчыку). // Наклаў жыта ў клу́н'і пуд са́мы шчыто́к 91, 54.

**ШЧЭБЕТ** шче́бет *м.* 72. шчыбыто́к *м.* 76, 100. шчэ́бык *м.* 48. шчэ́быт *м.* 50, 64, 65, 66а, 69, 76. салома (або іншы матэрыял) на вільчыку, прыкладзеная козламі. // Шчэ́быт хыбу́йімо соло́мыйу 65. Шчэ́быта накрыў 50.

**ШЫБА** ші́ба *ж.* 27, 29, 31, 60. ші́бка *ж.* 80, 125, 164, 176, 196, 202, 204. ші́пка *ж.* 59, 162, 173. шы́ба *ж.* 1, 2, 4–6, 14–16, 18, 25, 28, 29, 40, 44, 45, 54, 52, 63, 64, 68, 69, 72, 72а, 74, 76, 78, 81, 88, 89, 90, 91, 99, 101, 108, 112, 116, 121, 129, 134, 136, 139, 148, 152, 153, 163, 165, 203. шы́бка *ж.* 36, 55, 70а, 79, 114, 119, 128, 144, 161, 168–170, 180, 181, 184–186, 194, 195, 198. шы́пка *ж.* 113, 117а, 118, 154, 163, 177, 187. шэ́ба *ж.* 65, 70, 71. шыба (у акне).

**ШЫП** ші́п *м.* 181. шып *м.* 4, 20, 54, 70, 74, 79, 82, 84, 91, 110, 114–116, 136, 139, 151, 152, 154, 161, 162, 169, 170, 177, 180, 182, 184, 186, 187, 190, 191, 194, 195, 198, 201. 203. шыф *м.* 103. **1.** шып наверсе вушака, на які надзяваецца вуха ачэпу 110, 121, 136, 152, 162, 170, 180, 182, 195, 198, 201. **2.** сцяна "ў каню" 190. **3.** шып, якім змацоўваюцца бярвенні ў сцяне або дошкі ў падлозе 54, 79, 136, 139, 148, 151, 152, 154, 169, 177, 181, 184, 186, 187, 194, 203. **4.** шып у вугле 20, 52, 70, 74, 82, 84, 91, 103, 110, 114, 115, 116, 152, 161. **5.** шпуга ў падлозе 144, 148. **6.** сточка двух бярвенняў 20, 148, 152. **7.** "лісіцы". // Хату бырут' в шыпы (або ў прасы) 4.

**ЯГАДНІК** йаго́днік *м.* 158. агародчык.

**ЯЗЫЧОК** йазічо́к *м.* 29, 80, 184. йазычо́к *м.* 17, 154, 163. йазэ́чок *м.* 50, 70. частка клямкі, на якую націскаюць пальцам.

**ЯМА** йа́ма *ж.* 2, 4—6, 8, 9, 13, 14, 15, 34, 36, 37, 54, 55, 59, 60, 69, 70а, 72, 74, 75, 76, 77, 81, 83, 88, 89, 90, 91, 98, 99, 104, 116, 118, 119, 121, 128, 136, 139, 144, 152, 163, 183, 185, 188, 190, 191, 201, 203, 204. йе́ма *ж.* 12, 50, 65, 66, 73, 78. глыбока выкапаная круглая яма на агародзе ля хаты ці ў полі на высокім месцы для бульбы і іншай гародніны 2, 4—6, 8, 9, 12, 13, 14, 15, 34, 36, 37, 50, 54, 55, 59, 60, 65, 66, 69, 70а, 72, 73, 74, 75, 76, 77, 78, 81, 83, 88, 89, 90, 91, 98, 99, 104, 116, 118, 119, 121, 128, 136, 139, 144, 152, 163, 183, 185, 188, 190, 191, 201, 203, 204.

**ЯМКА** йа́мка *ж.* 1, 7, 11, 16–18, 20, 25, 28, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 63, 64, 72, 79, 80, 82, 86, 87, 92, 93а, 96, 101, 108, 110–115, 125, 128, 129, 148, 159, 162, 163, 176, 187, 194, 195, 196, 202, 204. йе́мка *ж.* 28, 45, 80. **1.** ямка, глыбокая і круглая, выкапаная ў полі або ля хаты для бульбы ці для іншай гародніны 1, 7, 11, 16–18, 20, 25, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 63, 64, 72, 79, 82, 86, 87, 92, 93а, 96, 101, 108, 110–113, 115, 125, 128, 129, 148, 159, 187, 194, 195. **2.** склеп у зямлі для бульбы 114; для гародніны 163. **3.** ямка на прыпечку ці ў печы для жару і попелу 162, 176, 196, 202, 204. ◊ ***походз'у́шча йамка*** 113. ◊ ***походна́йа йамка*** 13. ◊ ***походу́шча йамка*** 38. пахадунка.

**ЯРУС** йа́рус *м.* 1, 2, 5, 6, 8, 9, 13, 15–18, 29, 37, 38, 44, 74, 75, 77, 79, 83, 86–91, 96, 98, 100, 104, 108, 110, 112–116, 128, 134, 163, 170. йа́рус' *м.* 7. йе́рус *м.* 12, 45, 76. **1.** вялікі штабель бярвенняў у некалькі кубаметраў 1, 9, 16, 17, 29, 37. **2.** вялікая грамада чаго-небудзь зложанага, зсыпанага: жыта, бульбы 12; снапы, дровы 2, 18. **3.** складзеныя ў штабель пад сцяной колатыя

дровы 5–8, 13, 15, 37, 38, 44, 45, 170. **4.** доўгі плыткі капец бульбы 74–77, 79, 83, 86–91, 96, 98, 108, 110, 112–116, 128, 134. **5.** склеп у хаце пад падлогай 163. **6.** склеп на двары для бульбы 100, 104.

## ЗЕМЛЯРОБЧАЯ ЛЕКСІКА

**АБАГНАЦЬ** обогна́ц’ *зак*. 144. обогна́т’ *зак*. 184. убугна́ты *зак*. 4а. **1.** акучваць бульбу 4а, 144. **2.** збіраць з зерня шалупінне 184.

**АБАРОНАК** оборо́нок *м*. 95. частка бараны; прут, які абгінае барану з трох бакоў.

**АБАРОНІЧ** абаро́ніч *м*. 83, 83а. *гл*. **абаронак**.

**АБГОР** обго́р *м*. 79а. обг’у́р *м*. 79. выпадкова не ўзараны ўчастачак зямлі. // Обг’у́р – то не захваты́в ту́йу зэмл’у́ 79.

**АБГОРТВАЦЬ** обго́ртваты *незак*. 71. акучваць.

**АБДЗІРАЦЬ** ободра́т’ *зак*. 80. обдіра́ц’ *незак*. 120, 137. рабіць крупы. // Обдіра́йуц’ на крупу́ йачме́н’, про́са 137.

**АБЕЧАЙ** обеча́й *м*. 135. *гл*. **абаронак**.

**АБЖЫНКІ** обжы́нкі *мн*. 31, 32. апошні дзень жніва.

**АБІВАЦЬ** абіва́ц’ *незак*. 184, 186, 197. обыва́ты *незак*. 65. малаціць.

**АБІЎКА** абі́ўка *ж*. 184, 186, 197. малацьба.

**АБКАЛАСАВАЦЬ** опколосова́ц’ *зак*. 124. абмалаціць сноп зверху па каласах, каб аддзяліліся асцюкі.

**АБКАЛОТ** обколо́т *м*. 65. вымалачаны, але не разбіты сноп.

**АБЛАГАВАЦЬ** облогва́ц’ *незак*. 31. облогова́ты *незак*. 7а. (пра зямлю) пуставаць.

**АБЛАГАВІНА** облогові́на *ж*. 7а. абложная зямля.

**АБЛОГ** обло́г *м*. 20, 31, 121, 122, 122а, 123, 152, 165а, 169, 171а, 183, 186. абло́г *м*. 156а, 161, 174, 183, 190. облы́г *м*. 7а. **1.** зямля, якая працяглы час не апрацоўваецца. // Обло́г там не рабо́тайет нічого́ 20. Обло́жна земл’а́ облога́йеца леса́мі, было́ по́ле, а бугор не зоро́с – то обло́г 161. **2.** папар. 121, 122а, 165а, 171а. // Обло́г о́сенн’у го́рут’ на зіму́, весно́йў чэрэз го́д сі́йут’ 122а.

**АБЛОГА** абло́га *ж*. 183. *гл*. **аблог**. // Абло́га не ўзо́рвайецца, пачына́йе зараста́ц’ куста́мі 183.

**АБЛУК** облу́к *м*. 157. *гл*. **абаронак**.

**АБМАЛОТ** абмало́т *м*. 186а. змятая пры малацьбе салома.

**АБМЁТВАЦЬ** обме́тваты *незак*. 29, 93а, 98, 103, 112, 134а, 135, 142. граблямі або мятлою змятаць калоссе з намалочанага зерня перад веяннем.

**АБМЁТЫ** обмэ́ты *мн*. 29, 98, 105. обме́ті *мн*. 79, 93а, 103, 112, 134а, 171а. абме́ці *мн*. 142, 156. самая дробная салома, якая застаецца пасля малацьбы. // У абме́ц’ах све́т зерна́ 142.

**АБМІНАК** обмі́нок *м*. 35, 36. прапушчаны пры ворыве або сяўбе ўчастачак зямлі. // Сійучы́ зробы́в обмы́нка 35.

**АБРУС** обру́с *м*. 35, 122. брусок для вастрэння гаспадарчых прылад.

**АБРУСОК** обрусо́к *м*. 22, 46. *гл*. **абрус**.

**АБРУЧ** обру́ч *м*. 146, 147. прут з лазы, які прывязваюць да касы для касьбы збожжавых.

**АБСЕВАК** абсе́вак *м*. 192. опсе́вок *м*. 132. *гл*. **абсеў.** // Опсе́вок – колы́ не ва́тыт’ насе́нн’а 132.

**АБСЕЎ** обсе́ў *м*. 20, 120, 122, 132, 135, 144, 183. абсэ́ў *м*. 95а, 99, 112, 134а, 146, 147, 149, 156, 167, 178, 183, 186а. обсі́ў *м*. 22, 24, 29, 46, 55, 67, 78, 79а, 83, 83а, 85, 91, 98, 105, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121а, 133. прапушчаны пры сяўбе ўчастачак зямлі. // Йак йе ла́тка ме́жду жы́там, то опсі́ў 29. Се́йе, заго́н – два забу́дэ, не́хта ўмрэ́, бо апсі́ў зробі́ў 105. Ко́лі обсі́ў, то бу́дэ неўро́да 135.

**АБСЕЎКІ** абсе́ўкі *мн*. 133. *гл*. **абсеў**.

**АБСЕЯЦЬ** обсе́йац’ *зак*. 120, 157. засеяць. // Йалові́ло по́ле не мо́г обсе́йац’ 157.

**АБТАЎЧЫ** обтоўкты́ *зак*. 27, 80, 120. *гл*. **абдзіраць.** // Йачме́н’ на куцц’у́ абтоўкла́ 137.

**АБУРЫНЫ** абу́рыны *мн*. 152. шалупінне, якое застаецца пры абдзірцы аўса.

**АБУШОК** обушо́к *м*. 80. прылада для адбіўкі касы.

**АБШУЛАК** обшу́лок *м*. 184. левая ручка сахі.

**АВЁС** ов’о́с *м*. 71, 105, 120, 196, 202, 204. ове́с *м*. 26, 29, 184. увэ́с *м*. 4а, 42. аўйо́с *м*. 192а. ава́с *м*. 51. ов’йо́с *м*. 65, 98, 105, 124, 126, 132, 133. авёс. // Чо́рны ове́с йа́дра і квіткі чо́рны, а у бі́лэго оўса́ рассы́пчаста квітка 98.

**АВТУР** авту́р *м*. 103. невялікая палоска зямлі каля мяжы. // Авту́р, пры межы́, мале́н’кі, буйа́йе, ка́ліва нэма́ нічо́га на йім, бу́чно ростэ́ 103.

**АГРЭХ** огрэ́х *м*. 121а, 122, 123, 135, 137, 144, 146, 147, 157, 161, 178, 183. огрі́х *м*. 56, 57, 58, 59, 60, 61, 78, 105, 115. агрэ́х *м*. 133, 134, 142, 156, 156а, 167, 183, 186а, 192а, 196, 202, 204. огры́х *м*. 60. выпадкова не ўзараны ўчастачак зямлі. // Огрі́ха покі́нуў, трава́ на н’о́м ростэ́ 105.

**АДАРАЦЬ** адара́ц’ *зак.* 183. у другі раз узараць і засеяць поле, пасля таго, як насенне не ўзышло.

**АДБЕРЭЖАК** одбере́жак *м.* 124. граніца паміж дзвюма вёскамі. // Одбере́шкі рома́цкійа зро́блены 124.

**АДГУЗКІ** одгу́зкі *мн.* 7а. ніжняя частка снапа.

**АДДЫХЛЯ** оддыхл’а́ *ж.* 75, 75а, 79. нізкае поле без усходаў. // Оддыхл’а́ – вы́мокла нізі́на, вы́кішло там 79.

**АДЗЁНАК** од’о́нок *м.* 31, 120, 183. оде́нок *м.* 184, 197. одзе́нок *м.* 186. салома, на якую кладуць стог.

**АДЗЁНКА** од’о́нка *ж.* 137. драўляная падлога на чатырох слупках, на якую кладзецца стог 137.

**АДНАВОР** аднаво́р *м.* 156а. *гл.* **аднораль**.

**АДНОРАЛЬ** одно́рол’ *ж.* 103, 112, 132, 134а, 197. поле, узаранае перад сяўбой адзін раз. // Одно́рол’ не подо́рванайе по́ле 112. Одно́рол’ – то на йі́м да́ўні гно́й 103.

**АДОНАК** адо́нак *м.* 120 *гл.* **адзёнак**.

**АДОРА** одо́ра *ж.* 119, 183, 186, 187. частка загона, якая ўзарана асобна.

**АДСЕЎ** адсе́ў *м.* 156а. поле, засеянае ў другі раз пасля загінуўшай першай сяўбы. // Про́са адсе́йаў грэ́чкайу і грэ́чка на адсе́ве вы́йшла 156а.

**АДУЗАК** оду́зок *м.* 20. *гл.* **адгузкі**.

**АЗАДАК** оза́док *м.* 123. дробнае зерне, якое застаецца пасля веяння.

**АЗАДДЗЕ** оза́дйе *зборны* 93а, 95, 98, 99, 105, 112, 113, 115а, 121, 122, 123, 124, 126, 132, 165а, 171а. оза́дд’е *зборны* 26, 32, 35, 36, 56, 57, 58, 59, 60, 65, 67, 71, 72, 75, 75а, 79, 79а, 80, 83, 83а, 85, 87, 103, 167, 178, 186. *гл.* **азадак.** // Оза́дйе – одбо́рнэ жы́то, а йакэ́ важне́йшэ, то леці́ц’ пода́л’шэ 126. Оза́дде – пэрэ́дне зэрно́ 132.

**АЗАДКІ** оза́ткі *мн.* 26, 32, 35. аза́дкі *мн.* 134а, 142, 156, 169, 174. *гл.* **азадак.** // Оза́ткі – дрібне́н’койе жы́то, кукі́л’, кірза́ 32.

**АЗАРОД** оз’аро́т *м.* 137. аз’аро́д *м.* 152. з’аро́д *м.* 192. прыстасаванне для сушкі снапоў. // Оз’аро́т – рэшэ́тына дл’а снопо́ў, кол’а́ ха́ты стойа́ла 137.

**АЗАРОДЗІЦЬ** оз’аро́дзіц’ *незак.* 138. сушыць.

**АЗІМКА** озы́мка *ж.* 67. азімая пшаніца.

**АЗІМУХА** озі́муха *ж.* 95. *гл.* **азімка**.

**АКАЛАЦІЦЬ** околоты́ты *зак.* 67, 75, 75а, 79, 79а, 93а, 95, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119. абмалаціць неразвязаны сноп (аб бочку або цэпам).

**АКАЛОТ** около́т *м.* 7а, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 32, 35, 36, 39, 98, 103, 105, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 120, 122, 124, 126, 132, 133, 137, 144, 147, 157, 167, 168, 178, 183, 186, 196, 202, 204. акало́т *м.* 46, 56, 142, 146, 156, 192, 192а. **1.** вымалачаны неразвязаны сноп. // Около́т з жы́та, з йачме́н’у не на около́та, а на соло́му б’йу́т 105. **2.** сноп з роўнай выбранай саломы 46, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 65, 67, 71, 72, 75, 75а, 78, 79, 79а, 80, 83, 83а, 85, 87, 95, 97, 98, 99, 109, 119, 128, 130.

**АКАЛОТА** акало́та *ж.* 49. *гл.* **акалот**.

**АКАЛОТАК** околы́так *м.* 51. околу́так *м.* 65. акало́так *м.* 156а, 167. *гл.* **абкалот**.

**АКАЛОТКІ** акалоткі *мн.* 186а. каленцы ў збожжавых раслін.

**АКОЛІЦА** око́лыц’а *ж.* 67. знешнія пласты сена ў капе.

**АКОПКІ** око́пкі *мн.* 32. час заканчэння ўборкі бульбы.

**АМЁТЫ** омэ́ці *мн.* 36, 57, 109, 147. омэ́ты *мн.* 59, 62, 75, 75а, 99, 126. умэ́ты *мн.* 32. оме́ті *мн.* 83, 83а, 121, 122а, 137, 165а. ома́тэ *мн.* 65. каласкі і дробная памятая салома, якія застаюцца пасля малацьбы. // Умэ́ты – дро́бні колосо́чкі бел’онко́ві, коро́ві дасі 32.

**АМЁЦІНЫ** аме́ціны *мн.* 154, 156а. *гл.* **амёты**.

**АПАЛАЦЬ** опала́ты *незак.* 46, 65, 75, 75а, 79, 79а, 93а, 95, 103, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121, 121а, 134а, 135, 165а, 171а. чысціць крупу з дапамогай драўляных карытцаў.

**АПАЛІНЫ** опа́ліны *мн.* 121, 122, 122а, 165а, 171а. шалупінне, якое адлятае, калі «палаюць» крупы. // Не россыпа́й опа́лін, у по́йло ўкі́неш 122.

**АПАСЛЕД** опосл’а́д *м.* 7а. *гл.* **азадак**.

**АПРОНУВАЦЬ** опро́нуваты *незак.* 31. веяць зерне.

**АРАТАЙ** ората́й *м.* 137. араты.

**АРАТАР** арата́р *м.* 147. араты.

**АРАТНІК** оратні́к *м.* 120, 124. оратн’а́к *м.* 120. араты. // Мой му́ж бу́ў оратн’а́к до́бры 120.

**АРАЦЦЕ** гораттé *н.* 67. ворыва. // Шэ горат’т’á хвáтыт’ на д’óн два 67.

**АРАЦЬ** орáт’ *незак.* 29, 124. орáц’ *незак.* 36, 120, 122, 137. орáц *незак.* 157. орáты *незак.* 26, 29, 32, 57, 60, 98, 105, 126, 196, 202, 204. урáты *незак.* 4а. ворáты *незак.* 29. горáты *незак.* 29, 56, 67. взрáты *незак.* 26. горэ́ты *незак.* 71. араць. // Мужыкóва жы́тте лэ́хко: оры́, мелы́ і йíш 32. ◊ *– у склад* 29, 31, 32, 80, 98, 120, 184, 197. ***– на склáт*** 67, 123, 126, 204. спосаб ворыва, пры якім адзін узараны пласт зямлі закрывае другі. // Горáты на склáд – гэ́то йак однý борозн’ý прóйдыш, а посл’á другý прохóдыш, і вонá кладэ́цц’а на пэ́ршу, посл’á трэ́т’а на пэ́ршу онó з другóго бóку, чытв’óрта на другý, пйáта на трэ́т’у 67. ◊ ***– у обыгýн*** 105. у склад. ***– у рóскід*** 67. спосаб ворыва, пры якім пачынаюць араць ад цэнтра загона. ◊ ***– у рóскідку*** 80, 98, 132, 183, 184. у роскід. ◊ ***– у роскіднýйу*** 71. у роскід. ◊ ***– на рóзміт*** 29, 71. у роскід. ◊ ***– на размéтку*** 32. у роскід. // Хóдіт по крýгу, на размéтку орэ́, покýл’ не застанéцца орíх 32.

**АРЭХ** орíх *м.* 7а, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 41, 46, 79. горíх *м.* 65, 75, 75а, 78, 79а, 83, 83а, 91, 95, 99, 103. **1.** *гл.* **агрэх** 7а, 22, 46, 67. // Господáр орáв і нáвыт’ орíхув ны повыймáв, ну й господáр з йогó 22. **2.** выпадкова не ўзараная баразна 41. **3.** шырокі загон (у два разы шырэйшы, чым звычайны) 67. // Два горіхы́ нагорáв, горíх – шырóкы загы́н, йак кы́л’ка загóнув 67.

**АРЭХВА** арэ́хва *ж.* 138. жалезнае кальцо ў касы.

**АРЭШАК** орíшак *м.* 46. *гл.* **арэх 1.** // Вы́кын’ оры́шка, гл’адзí, наробíў 46.

**АСЕЛІЦА** осэ́лыца *ж.* 35. частка зямлі, заросшая травой, якая знаходзіцца за прысядзібнымі ўчасткамі. // Іды́ в осэ́ліцы нажны́ травы́ 35.

**АСНЫ** осны́ *мн.* 103. осцюкі.

**АСТРАВОК** островок *м.* 32, 115, 119. стровóк *м.* 174. **1.** невялікі ўчастачак зжатага поля 32. // Островóк вýжала 32. **2.** невялікі ўчастак апрацаванай зямлі ў лесе 115, 119, 174. // Островóк – то пóле мéжду лесóх, меж пáшамі 119.

**АСЦЕ** осцé *зборны* 36, 46, 75. асцюкі.

**АСЦЮК** ос’ц’ýк *м.* 67, 119, 120, 122, 124, 132, 135, 137, 144, 157, 192а, 196, 202, 204. ос’ц’ýх *м.* 98, 121, 122, 126, 165а, 171а. с’т’ук *м.* 105, 112, 134а. ас’ц’ýк *м.* 156а. ос’т’ýг *м.* 91. **1.** осцюк жыта або ячменю. // У йачмéні ос’ц’укí злы́дныйа, кол’ýчыйа 157. **2.** осцюк у зжатага жыта. // Ос’ц’ýх тóл’кі йак опалáйе зернó, а тó – вýсы 126.

**АСЦЯЖАРАК** ос’ц’ажáрок *м.* 124. хмызняк, салома і да т. п. пад стог. // Секýц’ гóлл’е, да поткладáйуц’ пот сéна, то ос’ц’ажáрок 124.

**АСЦЯК** ост’áк *м.* 22, 26, 27, 35, 103, 123. ас’ц’áк *м.* 26, 32, 186. гост’áк *м.* 95. уст’áк *м.* 32. асцюк. // Йак жнэ́ш і ост’акóм по окóвы дасы́, óй і болы́т’ 22.

**АСЯЛОК** аселóк *м.* 156. ус’óлáк *м.* 4а. брус, якім вострацъ касу. // Ус’óлкам пут’агны́ кóсу 4а.

**АТКЛАДНІЦА** уткладныц’а *ж.* 4а. частка плуга.

**АТКЛАДНЯ** аткладн’а *ж.* 7а. частка плуга.

**АТОР** атóр *м.* 156а. отýр *м.* 126. частка загона, узараная асобна. // На лéшку не хватíло, то рóбіц’ малéн’кі загóнец, отýр 126.

**АТОРА** атóра *ж.* 151, 152, 154, 156а, 158, 161, 177, 191. отóра *ж.* 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121а, 122, 134а, 144, 146, 147, 156, 167, 169, 178, 183. **1.** *гл.* **атор.** // На гэ́той отóрцы, а тóл’ко картóпл’оў булó 122. **2.** папярочныя барозны ў канцы ўчастка 144, 178. **3.** крайні вузкі загон 156а, 183.

**АТОРКА** атóрка *ж.* 151, 186а. *гл.* **атора 2**.

**АТОРЫЧ** атóрыч *м.* 133. *гл.* **атор.** // Две половíны загóна, отóрычы, а колí загóна не получáйецца, отóрыч остайéцца 133.

**АЎСІСКА** оўсíско *н.* 60, 61, 120. гóўсíско *н.* 75, 75а, 79, 99. íвсіско *н.* 79а, 95. вóўсíско *н.* 105. вíвсыска *н.* 29, 80, 119. ýўсіско *н.* 91, 98, 103. говсэ́ныско *н.* 71. *гл.* **аўсянішча.** // На вíвсыске вóрэм на жы́то 72.

**АЎСІШЧА** оўсíшчэ *н.* 120, 123, 126, 132, 186, 197, 204. óўсішча *н.* 112, 121, 134а, 165а, 171а. вóўсішча *н.* 137, 138, 196. óвсішчэ *н.* 124. овэ́сішш’о *н.* 31. вíвсішчэ *н.* 72. ýўсішчэ *н.* 133. *гл.* **аўсянішча**.

**АЎСЯК** аўс’áк *м.* 178. чорнае вялікае зерне, якое часам вырастае на аўсе.

**АЎСЯНІСКА** аўс’áніска *н.* 83, 83а, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121. *гл.* **аўсянішча**.

**АЎСЯНІЦА** аўс’аніца *ж.* 105, 120, 186. оўс’анíца *ж.* 98. увсéныцы *мн.* 49. *гл.* **аўсянка.** // Воз’мі оўс’анíцы, солóмы, тáйе 105.

**АЎСЯНІШЧА** оўс’áнішча *н.* 122, 157, 184. поле, на якім рос авёс.

**АЎСЯНКА** аўс’áнка *ж.* 26. овс’áнка *ж.* 7а, 178. оўс’áнка *ж.* 36. аўсяная салома.

**АХЛАПАК** охла́пок *м.* 65, 67. маленькі ўчастачак поля ў канцы асноўнага масіву. // Охла́пок – то малэ́й кусо́чак по́л’а остайе́цца 65.

**БАНЬКА** ба́н’ка *ж.* 178, 183. *гл.* **арэхва**.

**БАПКА** ба́пка *ж.* 26, 27, 29, 31, 32, 51, 71, 72, 98, 105, 120, 124, 126, 132, 133, 144, 146, 147, 156, 178, 183, 186. **1.** прылада, на якой адбіваюць касу 26, 27, 31, 32, 51, 67, 71, 72, 98, 105, 120, 124, 126, 133, 156, 178, 186. // Коса́ кладе́цца на ба́пку, бйу́т’ молотко́м, вона́ ро́біцца во́стройу 31. **2.** вузкі круглы раменьчык для прымацавання рухомай часткі цэпа 126. **3.** малая ўкладка снапоў (з 10) у полі 144, 146, 147, 183. // Дзе́в’ац’ снапо́ў, а дзес’а́ты зв’е́рху, во́т і ста́ла ба́пка.

**БАРАВАЯ ЖЫЦІНА** борова́йа жыты́на *ж.* 67. *гл.* **баравое жыта**.

**БАРАВАЯ ЗЯМЛЯ** барава́йа земл’а́ *ж.* 183. борова́йа зымн’а́ *ж.* 67. борова́йа земл’а́ *ж.* 157, 196, 204. **1.** глеба, тыповая для мясцін, дзе растуць хвоі 67, 183, 196. **2.** узараная ў лесе зямля 157, 204. // Борова́йа зымн’а́ дэ росту́т’ чы колы́с’ рослы́ хвойі́на, вэ́рос, вона́ така́йа сывы́н’ка 67.

**БАРАВОЕ ЖЫТА** борово́йе жэ́то *н.* 65. буйное чорнае зерне, якое часам вырастае ў коласе жыта. // Борово́йе жэ́то бо ростэ́ на высокому мі́сці 65.

**БАРАДА** борода́ *ж.* 32, 98, 120, 124, 132, 133, 204. **1.** неўзараная частка поля, пакінутая сярод раллі нядбайным аратым 124. // Борода́ то оста́лас’ борозна́, не доора́ў 124. **2.** апошняя жменя нязжатага жыта 98, 120, 132, 133. // Бороду́ трэ отрі́зац’ 132. ◊ ***спа́сова борода́*** *ж.* 32, 204. // Колі́ ус’о́ сожну́т’, трі колоска́ перев’а́звайут’ чырво́най ні́ткай, то спа́сова борода́ дл’а пті́цы 204.

**БАРАЗНА** борозна́ *ж.* 4а, 20, 22, 29, 31, 32, 35, 36, 51, 60, 61, 71, 72, 80, 98, 105, 120, 124, 126, 132, 133, 144, 157, 192, 196, 204. баразна́ *ж.* 146, 178, 192а. бурузна́ *ж.* 4а. борозн’а́ *ж.* 67. борозн’е́ *ж.* 65. баразна. // Борозну прывалі́ў себэ шыро́ко бы пла́ху 98.

**БАРАНА** борона́ *ж.* 22, 26, 29, 31, 32, 35, 36, 46, 49, 51, 59, 60, 67, 71, 72, 80, 97, 98, 109, 120, 124, 126, 132, 133, 137, 138, 146, 196, 202, 204. барана́ *ж.* 122, 178, 186, 192а. буруна́ *ж.* 4а. // Буруно́йу завулучы́в карто́плі 4а.

**БАРАНАВАЛЬНІК** бороноваˊл’нік *м.* 36. чалавек, які баранує.

**БАРАНАВАЦЬ** баранава́ц’ *незак*. 142, 146, 156, 183. борона́ц’ *незак*. 105, 109, 120, 124, 137, 144, 147. борона́ты *незак*. 60, 120а, 196, 202, 204. баранаваць. // Йе́слі грэ́чку до дожд’а́ посі́йаў, бороно́йі, а то́ пропадэ́ 120а.

**БАРАНТРЭС** боронтрэ́с *м.* 78. *гл.* **абаронак**.

**БЕРАЦЕНЬ** бэрэце́н’ *м.* 59. частка ўзаранага поля, шырынёй каля дзесяці метраў. // Ці́лы бэрэце́н’ узораў 59.

**БІЧ** біч *м.* 36, 59, 60, 80, 105, 108, 109, 113, 115а, 116, 116а, 120, 121а, 124, 126, 132, 133, 144, 146, 147, 149, 156, 178, 183, 184, 186, 196, 197, 202, 204. бэч *м.* 98. частка цэпа – біч.

**БІЦЬ** біц’ *незак*. 112, 134а. малаціць лён.

**БІЯК** быйа́к *м.* 7а, 27, 29, 31, 72. бійе́к *м.* 26, 32, 49, 71. быйо́к *м.* 46. *гл.* **біч**.

**БЛАГАВАЦЬ** благава́ц’ *незак*. 144, 183, 190, 191. пра зямлю, якую не аруць. // Благу́йе з’амл’а́, не мо́х апсе́йац’ 144.

**БЛАГАЯ ЗЯМЛЯ** блага́йа зымл’а́ *ж.* 35. абложная зямля. // У на́с ус’о́ бул’ш благэ́йі, ныж до́брыйі зымлі́ 35.

**БЛІЗНЮКІ** бліз’н’укі́ *мн.* 7а, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 35, 39, 41, 43, 45, 49, 51, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 71, 75, 75а, 79, 79а, 80, 83, 83а, 85, 87, 95, 97, 99, 103, 109, 112, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121а, 134а, 144, 147. блызн’укэ́ *мн.* 20, 65, 67. два каласы на адным сцябле. // У на́шым жы́це бліз’н’учко́ў мно́го 71. Блізн’укі́ – двойча́сты ко́лос, з’есі́ дво́йны ді́ты бу́дут’ 79.

**БЛІЗНЯТЫ** блізн’а́та *мн.* 21, 147, 174. блізн’а́ты *мн.* 147. блізне́та *мн.* 174 // Блізне́та – то шш’аслі́ва та́йа ні́ва 21.

**БОР** бор *м.* 152, 154, 157. быр *м.* 49. **1.** вялікае поле ў лесе 49 // Кулы́с’ був лі́с, а за́рас вэ́рубыўс’а, в’алі́кі ўча́стак зымлі́ 49. **2.** гатунак дзікарослага проса 152, 154, 157. // Бор бы про́со ў йаго́ кійа́х, росце́ йак про́са але кійахо́м, таўкачо́м, роне́й се́йалі 154.

**БРАКАВАЦЬ** бракава́ц’ *незак.* 59, 60, 98, 120, 124. не ўрадзіцца. // Кан’ушы́на ме́сцамі чуц’ забракава́ла, а хле́п харо́шы 59.

**БРОЎКА** бро́ўка *ж.* 147, 156а, 186а, 192а. край загона або вузкая палоска зямлі каля яго. // Запле́шчы бро́ўкі, зого́н бу́дзе хорошэ́йшы 147.

**БРУС** брус *м.* 36, 49, 80, 146, 192а, 196, 202, 204. *памянш*. брусо́к *м.* 80, 98, 105, 120, 124, 126, 132, 192а, 196, 202, 204. тачыльны камень, ужываецца для адбіўкі касы.

**БУГОР** буго́р *м.* 78. высокі неўрадлівы ўчастак. // Буго́р – то ны́ц нэ́, йак віц’о́р бугры́ поната́скваје 78.

**БУЗЬДЫР** буз’ды́р *м.* 58. ніжняя частка снапа. // Накры́й дзіс’а́так буз’дыро́м увí́рх 58.

**БУІЦЬ** буйі́ц’ *незак.* 36. буйна расці. // Йачме́н’ наш буі́т 36.

**БУЛЁВІСКА** бул’о́выско *н.* 60, 61. *гл.* **бульбянішча**.

**БУЛЬБІННІК** бул’бі́ннік *м.* 103. *гл.* **бульбянішча**.

**БУЛЬБОВІСКА** бул’бо́выско *н.* 103. *гл.* **бульбянішча**.

**БУЛЬБОВІШЧА** бул’бо́вішчэ *н.* 72, 121, 122а, 165а, 176а. *гл.* **бульбянішча**.

**БУЛЬБЯНІШЧА** бул’б’а́нішча *н.* 20, 21, 22, 144, 202, 204. поле, на якім расла бульба.

**БУРДЗЮГА** бурд’уга́ *ж.* 79а, 91, 95а, 99. **1.** пустая неўрадлівая зямля 79а, 95а, 99. **2.** зелле 91 // Бурд’уга́ то зе́лле вісокова́тойе, бол’шы́мі корча́мі по доро́гах бува́йе 91.

**БУСНЯВА ЖЫТА** бу́сн’ава жы́та *ж.* 26. бу́сн’авэ жы́то 22. *гл.* **баравое жыта**.

**БУЧНЫ** бу́чны 79, 112, 134а. (пра расліны) вялікі ў даўжыню, але без пладоў.

**БЫЛКА** бы́лка *ж.* 35. сцябло жыта. // Жнучы́ нашла́ бы́лку з блізн’а́тамы 35.

**БЯЛЕЦЬ** біле́ты *незак.* 7а, 98, 157, 204. беле́ты *незак.* 134а, 144, 146, 178, 183. білі́ты *незак.* 41, 186а. б’але́ці *незак.* 156а. перыяд паспявання аўса. // Ов’о́с ужо побіле́ў, жа́ты трэ 157.

**ВАЗВАРОТ** вузворо́т *м.* 158, 197. візворо́т *м.* 186. канец паласы, дзе разварочваюць плуг.

**ВАЙЕ** войе́ *н.* 49. вуйе́ *н.* 27, 29, 31. **1.** галоўная частка сахі, якая ідзе ад ручак да ярма 27, 29, 31, 49. **2.** частка плуга 27. // За то́йе вуйе́ волы́ зачэпл’а́т’ 27.

**ВАЛАКА** валака́ *ж.* 174. нізкае месца, дзе вясной бяжыць вада, а летам расце добрая трава.

**ВАЛАКУША** волоку́ша *ж.* 67. барана, зробленая з жалеза. // Волоку́ша ў іме́нн’ах ране́й была́ 67.

**ВАЛАЦІСТАЕ ПРОСА** волоты́стойе про́со *н.* 119. добрае проса.

**ВАЛАЧЫЛЬНІК** волочы́лнык *м.* 67. частка бараны для вытрасання зелля і зямлі.

**ВАЛАЧЫННЕ** волочэ́нн’а *н.* 80. волочі́нн’а *н.* 67. працэс баранавання.

**ВАЛАЧЫЦЬ** волочы́ты *незак.* 7а, 20, 26, 27, 29, 31, 32, 67, 72, 196, 202, 204. волочы́ц’ *незак.* 157, 183. вулучы́ты *незак.* 4а. **1.** баранаваць 4а, 7а, 20, 67. // Пры концу́ йу́н’а трэ́ба заволочы́ты на́ зіму 72. **2.** баранаваць пар. 183.

**ВАЛОВАЯ СІЛА** воло́вайа сы́ла *ж.* 97, 98, 119. *гл.* **баравое жыта**.

**ВАЛОК** вало́к *м.* 183. частка грабляў, у якую ўстаўляюць зуб’е.

**ВАЛОКА** вало́ка *ж.* 21, 29, 41, 49. воло́ка *ж.* 121, 122а, 165а, 171а. **1.** невялікае поле 21, 29, 41, 49. **2.** старажытная зямельная мера 121, 122а, 165а, 171а. // Воло́ка – швыца́рска да́вн’а мі́ра діс’аты́ны 122а.

**ВАЛОТКА** воло́тка *ж.* 79, 79а, 80, 95, 97, 98, 119, 126. колас проса 79, 79а, 80, 95, 97, 98, 119, 126. // Воло́ткі ў про́са до́брыйе, про́со волоты́стойе, аж погну́лос’ 95.

**ВАЛЬЦОЎКА** вал’цо́ўка *ж.* 67, 80, 98. гатунак мукі. // Вал’цо́ўка – м’а́ккайа мука́, м’а́тайа у вал’ца́х 80.

**ВАРАТА** ворота́ *ж.* 138. *гл.* **вазварот.** // Ворота́ де ко́ней с плу́гом повора́чвайуц’ 138.

**ВАРАТЫ** вараты́ *мн.* 135. *гл.* **вазварот**.

**ВАРОНІНА ЖЫТА** воро́нынэ жыто *н.* 35. *гл.* **баравое жыта**.

**ВАРОННЕ ЖЫТА** варо́нн’е жыта *н.* 7а, 21, 62. *гл.* **баравое жыта**.

**ВАРАНОВАЕ ЖЫТА** вороно́вэ жыта *н.* 46. *гл.* **баравое жыта**.

**ВАРОНІН ЗУБ** воро́нін зуб *м.* 36, 83, 85. *гл.* **баравое жыта**.

**ВАСЬМУХА** вос’му́ха *ж.* 36, 46, 67. восьмая частка ранейшага надзела.

**ВЕЙКА** ві́йка *ж.* 29. *гл.* **веялка**.

**ВЕРАЦЕНЬ** вэрэце́н’ *м.* 109. верэце́н’ *м.* частка ўзаранага поля, шырокая паласа.

**ВЕРАЦЯНО** вэрэтно́ *н.* 36. верэтено́ *н.* 46. металічны прут, які служыць для падымання і апускання верхняга камня ў жорнах.

**ВЕРХАВЫЯ ВІЛЫ** верховы́йа вілы *мн.* 122. вялікія вілы, якімі вяршаць стог.

**ВЕСНІНА** вэсніна́ *ж.* 79а, 80, 132. **1.** веснавое ворыва 80, 132. // Ус’о́ што весно́йу ўзробо́талі – то вэсніна́ 132. **2.** яравое збожжа 79а.

**ВЕТКА** ве́тка *ж.* 71, 80, 93, 98, 103, 105, 109, 115, 120, 121, 122, 123, 124, 126, 133, 135, 142, 144, 146, 147, 152, 154, 156, 156а, 158, 165а, 167, 169, 171, 174, 178, 183, 186, 186а, 190, 191, 196, 202, 204. ві́тка *ж.* 75, 75а, 79, 79а, 83, 83а, 85, 87, 93а, 95, 97, 99, 107, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 134а, 134б, 190а. **1.** колас проса 142, 144, 147, 156, 183. **2.** колас аўса 79, 79а, 95, 97, 98, 113, 119, 126, 167. **3.** колас проса і аўса 71, 75, 75а, 83, 83а, 85, 87, 93а, 99, 15, 107, 108, 113, 115, 15а, 116, 116а, 120, 121, 122, 123, 124, 133, 146, 147, 156а, 165а, 169, 171а, 186, 202, 204. **4.** колас проса, аўса і грэчкі 109, 112, 134а, 152, 154, 158, 183, 190, 191. // Ве́ткі до́брыйе на грэ́чкі 183.

**ВЕТРАННЕ** ві́трын’е *н.* 67. працэс ачысткі збожжа з дапамогай ветра.

**ВЕТРЫЦЬ** ві́трыты *незак.* 67, 183. ачышчаць збожжа з дапамогай ветра. // Ві́трыты трэ́ пусл’а́ путсіва́нн’а 67.

**ВЕЯЛКА** ве́йалка *ж.* 112, 121, 123, 134а, 135, 146, 147, 149, 156, 165а, 171а, 178, 183, 184, 196, 202, 204. ві́йалка *ж.* 65, 67, 71, 79, 80, 109, 144. драўляны савок, якім веюць збожжа. // Ві́йалочка дерэ́ўл’а́на, ві́йаты, пото́м рэ́шэтом подчын’а́йут’ 71.

**ВЕЯННЕ** ве́йанн’е *н.* 49, 57, 147, 192а. ві́йанн’е *н.* 35, 36, 49, 67. ві́йенн’е *н.* 36. ачыстка зерня ад мякіны. // Йак мне надоку́чыла гэ́та ве́йанн’е 57.

**ВЕЯЦЬ** ве́йаты *незак.* 57, 80, 123, 146, 147, 149, 156, 178, 183, 184, 192а, 196, 202, 204. ві́йаты *незак.* 27, 29, 32, 35, 36, 49, 59, 65, 67, 71, 80, 109, 144. веяць. // Пока́ не помало́т’ат не ві́йат 27.

**ВІЛКАВІННЕ** вілкові́нн’е *н.* 144. *гл.* **вілковішча**.

**ВІЛКІ** ві́лкі́ *мн.* 26, 27, 29, 31, 32, 146, 178, 183, 192а. вілкі́ *мн.* 71, 80, 109, 123. вы́лкы́ *мн.* 22, 49. вылкы́ *мн.* 4а, 36, 67, 97. вілы. // Вы́лкы гну́ій трасты́, сіно закы́нуты на вышкы́ 22.

**ВІЛКОВІСКА** вілко́выска *н.* 60, 61, 98, 126. *гл.* **вілковішча.** // Залі́зны вілкі́ набіва́йуц’ на вілко́выска 98.

**ВІЛКОВІШЧА** вылко́вішча *н.* 105, 133. драўляная ручка, на якую насаджваюцца жалезныя вілы.

**ВІЛОЧНІК** віло́чнык *м.* 123. *гл.* **вілковішча**.

**ВІХАРКА** выхо́рка *ж.* 95. *гл.* **выдма.** // Далы́ мэні́ таку́ выхо́рку, на што́ мэні́ вона́ 95.

**ВІХРОВЫНА** віхро́вына *ж.* 56, 57, 58, 59, 60, 61, 75, 75а, 79, 83, 83а, 85, 87, 91, 93а, 97, 98, 103, 126. пясчанае поле, на якім вецер выдзімае пясок. // Віхро́вына, одна́ зры́жа йака́, а не з’амл’а́ 75.

**ВОРАХ** во́рох *м.* 121, 121а, 134а, 135, 142, 144, 146, 147, 156, 165а, 171а, 178, 183, 184, 186а, 196, 197, 202, 204. куча (гною, зерня, бульбы). // Куды́ ты ссы́паў ус’у́ карто́пл’у ў адзі́н во́рох 146. Во́рох – зэрно́ йак намоло́цец’, ворошо́чэк йак ма́ло 135. Во́рох глі́ны, се́на, чого́ нако́п’ац’ 135.

**ВОТКІДКА** о́ткідка *ж.* 186а. папярочныя баразны.

**ВУЗГАЛАВЕНЬ** ву́згалавен’ *м.* 158. папярочная мяжа.

**ВУЗДЗІР** вуздзі́р *м.* 98. ніжняя частка снапа.

**ВУКА** ву́ка *ж.* 27. савок для веяння зерня.

**ВУС** ус *м.* 32, 202. гус *м.* 31, 65, 67. вус *м.* 71, 126, 156а. **1.** асцюкі на яшчэ не зжатых збожжавых раслінах 126. // Вус дэ́ржыцца на ко́лосе 126, 156а. **2.** асцюк 31, 32, 65, 67, 71. **3.** трохвугольны ўчастак 126. // По́ле вы́шло на ву́с, на кліно́к 126.

**ВУХА** у́хо *н.* 124. *гл.* **банька.** // Забі́ў кліно́к у у́ха, кап касі́ц’ лоўчэ́й було́ 124.

**ВЫАПАЛАЦЬ** выопала́ты *зак.* 67. ачысціць зерне ў драўляных карытцах.

**ВЫБІРАЦЬ** выбыра́ты *незак.* 67. жаць гарох, пасеяны па бульбе. ◊ – ***розору*** 67. жаць на разоры. *гл.* **разора**.

**ВЫБІЦЦА Ў КАЛАСКІ** выбыцца ў колоскы *зак.* 46. (пра жыта) пачаць каласіцца.

**ВЫВЕЙ** ву́вей *м.* 95, 97, 98, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121а, 126, 134а. вы́вой *м.* 115. месца, дзе пасевы заносяцца пяском.

**ВЫГНАІЦЬ** ву́гнаіц’ *зак.* 122, 192а. угнаіць.

**ВЫДЕРЦЬ** вы́дерт’ *ж.* 119. упершыню распрацаваная ў лесе зямля. // Вітерэбілі, вы́дралі по́ле, на вы́дерте сі́йут’ про́со, овэ́с, на вы́дерте йачме́н’ згорыт’ 119.

**ВЫДЗЁР** выдз’о́р *м.* 59, 95а, 99, 109, 112, 115, 115а, 116, 116а, 121а, 123, 130, 134а. раскарчаваны і ўпершыню апрацаваны ўчастак зямлі. // Пасе́йаў на выдз’о́рах, на ні́скым ме́сце ав’о́с 59.

**ВЫДЗЁРА** выдз’о́ра *ж.* 130. *гл.* **выдзёр**.

**ВЫДЗІРАК** выдзі́рак *м.* 98, 123, 130. *гл.* **выдзёр.** // Выдзі́рок го́руц’ і одра́зу се́йуц’ 98.

**ВЫДЗІРАЦЬ** вы́дэрты *зак.* 26, 32, 59, 60, 67, 91, 132, 133, 157. упершыню апрацаваць зямлю. // Вы́дэрлі по́ле – пе́рвы раз погора́лы 71. Кава́лочек ад корчі́в вы́драв 67.

**ВЫДЗІРКА** вы́дзірка *ж.* 167. *гл.* **выдзёр.** // Вы́дзірка – вы́дранайе по́ле, спача́тку росц’арэ́блівайецца ад кусто́ў, а по́тым па́шацца 167.

**ВЫДЗІРКІ** вы́дзіркі *мн.* 112, 134а. *гл.* **выдзёр**.

**ВЫДМА** вы́дма *ж.* 20, 21, 22, 24, 26, 27, 29, 30, 31, 32, 36, 39, 41, 43, 46, 49, 51, 79, 79а, 80, 95, 99. ві́дма *ж.* 78, 121, 165а, 171а. вэ́дма *ж.* 36, 65, 66, 67. **1.** пясчаны ўчастак. // Вы́дма – то выдува́йе ві́тром, ныц не ро́дыц’ 46. **2.** участак, які заносіцца пяском 31.

**ВЫДРАНКА** вы́дранка *ж.* 98, 103, 109, 119, 130, 135, 174, 178. ві́дранка *ж.* 121, 121а, 165а, 171а. *гл.* **выдзёр.** // Вы́дранка – то ўспа́ханайа навіна́ 174. Проо́рвайем под про́са, йак пу́стыт’ зіма́, йак дэ́ на вы́дранцы, а то́ порхово́й земл’а́ стано́віцца, не злэ́жвайецца 119.

**КВІЦЕНЬ** квíтын’ *ж.* 22. перыяд красавання жыта. // Квíтын’ – то кулы́ жы́то закулусы́лос’а 22.

**КВІЦЕЦЬ** квíтэты *незак.* 30, 31, 32, 33, 34, 41, 46, 49, 51, 71, 72, 80, 95, 99, 126. квы́тыты *незак.* 20, 24, 28. красавацца. // Дзве недéлі жы́то квітýйе, дымóк ідэ́ 72. Зрáзу квітýйе бы м’акíнка на йíм вісíц’ 126. Хорошó жы́то квы́тыло повíнно йадрэ́нойе бýті 20.

**КІДАЛЬНІК** кíдыл’нік *м.* 124, 147. кы́дал’нік *м.* 98. кíдыўнік *м.* 192а. чалавек, які складае стог. // Кíдыл’ніка нанімáц’ не трэ́, сáмі под’óм 124.

**КІДАЛЬШЧЫК** кíдыл’шчык *м.* 122. *гл.* **кідальнік.** // Коб шчэ́ одзíн кíдал’шчык то і стóга склáлі б 122.

**КІДАННІК** кíдыннік *м.* 142, 156. *гл.* **кідальнік.** // Дудýн пастайáны кíдыннік і так ужэ́ налаўчы́ўс’а 156.

**КІЗЛЫ** кы́злы *мн.* 71. вілы для гною. // Рострэсáйемо гній кíзламі, а тó рукáмі 71.

**КІРКА** кіркá *ж.* 146. цяпка для рыхлення глебы. // Так нічóго ты не зрóбіш, тóл’кі лапáту палóміш, беры́ кíркай разбывáй 146.

**КІСЦЬ** кісц’ *ж.* 167. колас проса.

**КІТКА** кíтка *ж.* 30, 31. кы́тка *ж.* 32, 49, 51. **1.** колас проса 30, 31, 32, 51. // Кіткí ўжó, доспівáйе прóсо 32. **2.** колас проса і аўса 49.

**КІТЫЦА** кэ́тыц’а *ж.* 49. колас проса, аўса.

**КІЯХ** кійáх *м.* 137, 183, 190, 191. кійéх *м.* 152, 154. пачатак кукурузы.

**КІЯХАВІННЕ** кійахавíнне 137. сцябло кукурузы.

**КІЯХІ** кійахí *мн.* 137, 157.

**КІЯШНІК** кійáшнік *м.* 137, 158. **1.** *гл.* **кіяхавінне** 137. **2.** пачатак кукурузы 158.

**КЛАДЗЕЛЬНІК** кладéл’нік *м.* 108, 113, 115а, 116, 116а, 121а. чалавек, які складае стагі.

**КЛАТКА** клáтка *ж.* 80. куча. // В’алíкойа клáтка гнóйу на пóлі стойіц’ 80.

**КЛІНОК** клінóк *м.* 7а, 29, 41, 67, 98, 109, 122, 126, 134, 142, 146, 147, 156, 156а, 183, 186. **1.** *гл.* **забояч.** // Побíўс’а клінóк 120. **2.** клінаваты ўчастак 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 36, 39, 51, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 75, 91, 98, 99, 105, 124, 126, 133, 174, 196, 202, 204. // Клінóк – пóле небол’шóйе 124.

**КЛОПАТ** клóпут *м.* 49. планка з дзіркай, у якую ўстаўляюць верхні канец млына. *гл.* **млын**.

**КЛЫЧАНКА** клы́чанка *ж.* 165а. змятая ў малацьбе салома. // Тры капы́ клы́чанкі склаў 156а.

**КЛЮЧКА** кл’ýчка *ж.* 4а, 22, 24, 26, 29. **1.** вілы з маленькай ручкай для копкі бульбы 22, 24, 26, 29. // Кл’ýчкай сéд’а купайемо 29. **2.** востры кіёчак, якім капаюць бульбу 4а.

**КЛЮЧЫЦЦА** кл’ýчыцца *незак.* 41, 144. узыходзіць. // Покл’ýчылос жы́то, узышлó 144.

**КЛЯВЕЦ** клевéц *м.* 105, 120, 124, 132, 133, 184. клявец. // Клевéц з обóйіх бокóў малотóк.

**КЛЯКАЦЬ** кл’áкац’ *незак.* 72, 132. кл’áкаты *незак.* 22, 36, 75, 75а, 78, 79, 79а, 83, 83а, 85, 91, 93а, 95, 103, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 121, 121а, 124. клéкнуты *незак.* 46, 49, 134а, 135, 165а, 171а. (пра збожжа) палягаць. // Жы́та кл’áкайе, нагнéцца до зэмлí 72. Дóбрэйе жы́то, ўродлíвойе, важкэ́йе, у одíн бок скл’áкло 112.

**КЛЯПАЦЬ** клепáц’ *незак.* 120, 124, 133. клэпáты *незак.* 22, 67, 72, 80, 126, 132. кляпаць касу. // Клэпáты молоткóм кóсу 72.

**КНЕБЕЛЬ** кнéбэл’ *ж.* 26. кны́был’ *ж.* 7а, 79. *гл.* **дзераво.** // Кнéбэл’ згубы́ла 26. Колы́ не кны́бэлем в’áжуц’ – то снóп рассмыкáйецца 79.

**КОЛАС** кóлос *м.* 26, 29, 31, 32, 36, 41, 59, 60, 71, 72, 80, 98, 105, 120, 126, 132, 133, 137, 144, 147, 154, 158, 161, 167, 169, 174, 177, 183, 184, 186, 191, 196, 197, 204. **1.** колас жыта, ячменю, пшаніцы 20, 31, 32, 35, 36, 59, 60, 67, 71, 80, 98, 105, 124, 126, 132, 133, 137, 144, 146, 147, 156а, 167, 169, 174, 178, 183, 186а, 192а, 196, 202. **2.** колас жыта, ячменю, пшаніцы і проса 157, 184, 197. **3.** колас аўса, ячменю, пшаніцы і жыта 29, 120, 204. **4.** адходы пры малацьбе 154, 156а, 158, 161, 169, 177, 191.

**КОПАЧКА** кóпочка *ж.* 46. копа сена. // Кóпочка – нéскол’ко віéзок сéна на лугý 46.

**КОПАЧКА** копáчка *ж.* 35, 46, 56. *гл.* **капаніца.** // Бýл’ву копáла копáчкайу 36.

**КОПКА** кóпка *ж.* 56. *гл.* **капаніца**.

**КОРАК** кóрак *м.* 49. калодачка з дзіркай, пры верхнім жарнаку, у якую ўстаўляюць ніжні канец млына. *гл.* **млын**.

**КОШЭНКА** кóшэнка *ж.* 26, 120, 132. кóшунка *ж.* 26. **1.** поле пасля збожжа 26, 29. // Кóшунка жы́то скóшанайа звéрху 26. **2.** поле, дзе скошана трава 120, 132. // Кóшэнка, травá скóшэна 132.

**КРАСА** красá *ж.* 59, 60, 67, 71, 103. кветка жыта. // Красá ідэ́ йак ды́м 103.

**КРАСАВАЦЦА** красава́цца *незак*. 46, 65, 67, 83, 83а, 85, 91, 93а, 103, 105, 108, 109, 112, 113, 115, 116, 116а, 119, 120, 122, 124, 126, 132, 133, 134а, 135, 142, 144, 146, 147, 156, 156а, 165а, 171а, 174, 178, 183, 186а. красува́цца *незак*. 60, 80, 184, 197. кросува́цца *незак*. 157, 196, 202, 204. **1.** красавацць. **2.** апыльвацца 109, 126. // Красу́йе жы́то, йак краскі-жучкі на йім ла́з'ац', курыц', йак краскі на йім, а бес красо́к квіту́йе 126.

**КРАСКА** кра́ска *ж.* 120, 133, 157, 186, 204. *гл.* **краса.** // Кра́ска з жы́та йе лэка́рство 157.

**КРАСКІ** краскі *мн.* 167, 174. *гл.* **краса**.

**КРАСНЕЦЬ** красне́ц' *незак*. 156а, 167. **1.** узыходзіць 167. **2.** паспяваць (пра авёс) 156а.

**КРУЖОК** кружо́к *м.* 178. невялікае поле.

**КРУК** крук *м.* 157, 186, 197. прылада для скідвання гною. // Крук з загну́тымі рого́мі 157.

**КРЫЖЫКІ** кры́жыкі *мн*. 85. *гл.* **крэсты**.

**КРЫША** кры́ша *ж.* 186, 197. верхнія снапы ў вялікай укладцы снапоў.

**КРЭСТОВІНА** крэсто́віны *ж.* 85. малая ўкладка снапоў, у якой снапы перакрыжоўваюцца калоссем.

**КРЭСТЫ** крэсты́ *мн.* 121, 122, 144, 145, 146, 147, 148. маленькая ўкладка снапоў, у якой снапы перакрыжоўваюцца калоссем.

**КУЛІ** кулі́ *мн.* 22, 35, 112, 134а. куле́ *мн.* 115, 135, 146. *гл.* **куль.** // В мынэ́ стріха́ зусім оборва́лас, трэ́ба накры́ты, кулі вжэ гото́вы 35.

**КУЛІК** кулі́к *м.* 80. *гл.* **куль**.

**КУЛЬ** кул' *м.* 22, 31, 46, 51, 56, 58, 62, 65, 67, 105, 120, 122, 123, 124, 126, 132, 133, 137, 141, 156а, 167, 183, 184, 186а, 192а, 196, 197, 204. вялікі сноп роўнай саломы.

**КУЛЬКА** ку́л'ка *ж.* 7а, 31, 32, 36, 49, 60, 72, 79, 79а, 95, 99, 103, 109, 119, 178. кул'ка́ *ж.* 98, 124. ручка. // Гн'о́найа у сохі ку́л'а 71. Кул'ка́ ў косе́ вдо́лблена 124.

**КУЛЬКІ** кул'кы́ *мн*. 46. *гл.* **кулька**.

**КУЛЬША** ку́л'ша *ж.* 46. сена, пакладзенае на воз уперады або ззаду, толькі на адной старане. // Ны обсу́н' ку́л'шу 46.

**КУНА** ку́на *ж.* 46. вузел у перавясле.

**КУПА** ку́па *ж.* 26, 29. куча.

**КУПКА** ку́пка *ж.* 32, 72. ку́бка *ж.* 72. *гл.* **куча.** // Роскідаў у купкі гной 72.

**КУРГАН** курга́н *м.* 83, 85, 87, 103. пясчаны неўрадлівы ўчастак. // У на́с з пол'а́ курга́н поды́лавс'а, скургане́ла по́ле, віхро́вына 103. Курга́н на йо́м, жоўклі́нец 85.

**КУРЫВА** ку́рыва *н.* 144. пылок. // Ку́рыво з жы́та ідз'о́т йак кра́ска зл'ата́йе 144.

**КУРЫЦЬ** куры́ты *незак*. 21, 22, 24, 26, 45, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 71, 75а, 78, 79, 83, 83а, 87, 95, 97, 98, 99, 103, 105, 108, 109, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 126. куры́ц' *незак*. 21, 144, 174, 186. апыльвацца. // Кура́йе жы́та, дымо́к ідэ́ 105. Жы́то куры́т', пора́ грэ́чку сі́йат' 115.

**КУТ** кут 41. *гл.* **клінок 2**.

**КУЧА** ку́ча *ж.* 46, 108, 112, 178. куча зямлі, гною.

**КУЧКА** ку́чка *ж.* 4а, 21, 26, 29, 31, 32, 35, 36, 49, 51, 59, 60, 65, 67, 71, 72, 122, 132, 133, 134а, 137, 146, 147, 157, 167, 184, 186а, 196, 197, 204. **1.** грэчка (як на сноп, або менш), пастаўленая для сушкі 72, 156а, 157. **2.** сноп усіх збожжавых раслін, акрамя жыта 4а, 21, 26, 29, 31, 32, 36, 49, 51, 132, 133, 134, 147, 167, 186а. **3.** сноп ільну 65, 67, 122. **4.** маленькая ўкладка з 10 снапоў 26, 29, 31, 32, 35, 51, 132, 133, 146, 147, 156а, 183. // Йа́к сыро́йе жы́то, то ў кучкі ста́вл'ац', снопу́ў де́с'ац' і ша́пку де́лайуц' 133.

**ЛАВА** ла́ва *ж.* 79, 113, 115, 126, 130. **1.** участак зямлі, які належыць аднаму гаспадару 126. // Часц' землі́ па́хотной ці сеноко́су, йак одного́ хоз'а́йіна, то у ла́ва, другі́йа л'у́дзі – друга́йа ла́ва 79, 113, 115, 126. **2.** вялікі кусок зямлі 130.

**ЛАГАВІЛА** логові́ло *н.* 27. поле, на якім сцелюць лён.

**ЛАМІЦЬ** ломы́ты *незак*. 46. араць другі раз восенню або вясной.

**ЛАН** лан *м.* 49. **1.** вялікі ўчастак 49. // Лан – вылэ́кый кусо́к по́л'а 49. **2.** мікратапонім, назва поля 95, 119.

**ЛАНО** лано́ *н.* 156а. зжатае або скошанае і згрэбленае, але яшчэ незвязанае жыта, ячмень і г. д. // Ячме́н' жа́ла і пакі́нула ў ло́нах сушы́ц' 156а.

**ЛАПАТА** лопа́та *ж.* 35, 149, 156. драўляная лапата. // Іды́ лопа́тойу сніг откы́н' 35.

**ЛАПАТКА** лапа́тка *ж.* 49, 183. лопа́тка *ж.* 26, 29, 120, 132. **1.** драўляная лапатачка для вастрэння касы 26, 29, 49, 120, 132. **2.** драўляная лапатачка для веяння. // Ве́йалка – лапа́тка важка́йа 183.

**ЛАПАТКАВАЦЬ** лапаткава́ц' *незак*. 183. спускаць ваду з загонаў у канаву.

**ЛАПАТЫ** лопаты́ *мн.* 72. невялікі ўчастак. // Лопаты́ бу́дэ бороздʼо́н дзе́вʼацʼ – двана́ццацʼ 72.

**ЛАПАЦЕНЬ** ло́потэнʼ *м.* 46. *гл.* **клопат**.

**ЛАПІК** лэ́пік *м.* 108, 113, 115, 116, 116а, 121, 122, 165, 171а. участачак поля. // Ла́пік – малы́ кова́лочэк по́лʼа 122а.

**ЛАПІЧОК** ла́пічок *м.* 123. невялікі ўчастачак зямлі.

**ЛАТКА** ла́тка *ж.* 29, 41, 67, 130, 156а, 186а. *гл.* **лапік.** // В його́ в йа́тылʼцах була́ ла́тка зымні́. Ны да́сʼцʼ ны оте́ц ны ма́тка шо зымні́ ла́тка 67. Латка нэ зішла жыта 29.

**ЛЕНІШЧА** лʼо́нішча *н.* 31, 32, 33, 186, 197. *гл.* **льнішча**.

**ЛЕТКА** лі́шка *ж.* 98, 126. некалькі радкоў узаранай зямлі. // На ні́скіх ме́сцах бу́лʼба повыкіса́ла, дэ пот со́ху да у лішкі, то лу́чшэйе 126. О́руцʼ чаты́ры-пʼацʼ борозʼо́н, то лі́шка 98.

**ЛОНКА** ло́нка *ж.* 183. зямля, якая знаходзіцца між радамі садовых дрэў.

**ЛУБІН** лʼу́бін *м.* 29, 31, 32, 120. лу́бын *м.* 4а, 35. лубін. // Лу́бын сі́йут на подо́рку пуд жы́то 35.

**ЛУЖНА** лу́жна *ж.* 192. невялікі ўчастак поля, які зарос травой (звычайна знаходзіцца ў сярэдзіне ўзаранага ўчастка).

**ЛУК** лук *м.* 120, 124, 156, 156а, 157, 166, 173, 180, 186, 196, 197, 202, 204. *гл.* **каблук.** // Лук загне́ на борону́ 124.

**ЛУКА** лука́ *ж.* 108, 115а, 116, 116а, 121а. *гл.* **каблук**.

**ЛУПЫ** лу́пы *мн.* 122. лушпіны з пшаніцы, ячменю. // Лу́пы памеша́й з карто́плʼамі до́брэ ку́ры едзʼа́цʼ 122.

**ЛУЧОК** лучо́к *м.* 120, 124, 132, 147, 197. **1.** ручка касы, якая не ўдоўблена, а абгінае касільна 124, 132. // Лучо́к обогнʼо́ны 124. **2.** пруток, які прымацоўваецца да касы для жатвы збожжа 120, 147, 197. // Лучо́к – то ду́жка і тры́ зубы́ прывʼа́зваеца з косо́йу 120.

**ЛЬНІСКА** лʼні́ско *ж.* 29, 105. лны́ско *ж.* 60, 67, 71, 80. *гл.* **льнішча**.

**ЛЬНІШЧА** лʼні́шчэ *н.* 29, 98, 122, 123, 124, 132, 133. ілны́шчэ *н.* 26, 126, 137, 138. ілʼні́шчэ *н.* 120. лны́шчэ *н.* 72, 157, 196, 202, 204. поле, на якім рос лён. // По лны́шчэ се́йут жы́то 72.

**ЛЫСА** лы́са *ж.* 32, 130. пясчаны ўчастак.

**ЛЫСІНА** лы́сіна *ж.* 85, 120, 123, 130, 135, 137, 183. **1.** абложная пясчаная зямля 120, 123, 137, 183. // Лы́сіна не ва́ртайа землʼа́, пешча́найа 137. **2.** прапушчаны пры сяўбе ўчастак поля 120. // Лы́сіну зробі́ў на по́ле 120. **3**. пустое месца на поле ці на лузе 130.

**ЛЫСІЦА** лы́сіца *ж.* 192. поле, дзе нічога не расце.

**ЛЫСУХА** лы́суха *ж.* 26, 31, 32, 33, 35, 60, 75, 75а, 83, 112, 130, 132, 134а. лысу́ха *ж.* 156а. лі́суха *ж.* 121, 122а, 165а, 171а. *гл.* **лысіна 1.** // На лы́сусі ныц ны хо́ча росты́ 35.

**ЛЯДА** лʼа́до *н.* 167, 174. лʼа́да *ж.* 156а. **1.** поле ў лесе на ўзвышаным месцы 174. **2.** абложная зямля, якая зарасла лесам 167. **3.** вялікае ўрадлівае поле. // Лʼа́да – дзе зʼамлʼа́ до́брайа усʼо́ засе́йана пшані́цай 156а.

**ЛЯЖАЛАЕ ПОЛЕ** лʼежа́вэ по́лэ *н.* 169. абложная земля. // Лежа́вэ по́лэ – то кото́рэ лэжы́цʼ год дэ́сатʼ 169.

**ЛЯЖАЦЬ** лежа́тʼ *незак*. 22, 32, 59, 60, 72, 132, 169. *гл.* **гуляць.** // Па́стбішча лежы́цʼ, пусту́йе 60. Неха́й перэлежы́цʼ 132.

**ЛЯТУЧКА** лету́чка *ж.* 59. пясчаная глеба. // Жо́ўты пісо́к, лету́чка 59. Вы́брошэна за́ра лету́чка 59.

**ЛЯХА** лʼаха́ *ж.* 36. загон, засеяны ільном.

**ЛЯШКА** лʼа́шка *ж.* 4а, 20, 22, 65. ле́шка *ж.* 41, 46, 51. *гл.* **ляшок.** // Поносы́ты снупы́ в лʼашкы́ 4а.

**ЛЯШОК** лешо́к *м.* 7а, 32. лʼашо́к *м.* 21, 24, 27, 29, 31, 39, 43, 45, 62, 72, 124, 132. невялікая ўкладка снапоў. // Лʼашо́к – дзе́сʼацʼ снапо́ў, пакры́тых ша́пкай з снапа́ 62.

**МАІЦЬ** майі́ты *незак*. 7а. красаваць. // Жы́то майі́т 7а.

**МАЛАТАРНІК** молота́рнік *м.* 32, 59, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121а. малатэ́рнык *м.* 46. малацьбіт.

**МАЛАЦЕБНІК** молотэ́бнык *м.* 4а, 49. молоті́бнік *м.* 27, 29. *гл.* **малатарнік.** // А кі́лʼко у тібэ́ молотэ́бныкоў 29.

**МАЛАЦЕЛЬНІК** молоце́лʼнік *м.* 36, 124, 132. молоті́лнык *м.* 67. *гл.* **малатарнік.** // Пʼацʼ молоце́лʼнікоў змолоці́лы за́ дэнʼ тры копы́ жы́та 36.

**МАЛАЦІННЕ** молоті́нне *н.* 49, 65, 67. малацьба. // Бува́ло молоті́нне хвата́йе на цэ́лу зыму́ 67.

**МАЛАЦІЦЬ** молотíты *незак*. 27, 29, 75, 75а, 79а, 85, 91, 95, 112, 115, 121а, 134а, 135, 165а, 171а, 196, 202, 204. молотíц’ *незак*. 98, 105, 120, 124, 126, 132, 197. молоты́ц’ *незак*. 32. малаціць. // Молóце-то вытрасáйе солóму што б зэрнó засталóс’а 122.

**МАЛАЦЬБА** молот’бá *ж.* 22, 26, 27, 32, 35, 80. молоц’бá *ж.* 186, 197. молод’бá *ж.* 49. малацьба. // Молот’бá ід’é сначáла снопі, пóтым йаровóйе 32.

**МАЛАЦЬБІТ** малац’бíт *м.* 192а. малацьбіт. // Йóн старáны малац’бíт 192а.

**МАРДАЧ** мордáч *м.* 204. від цэпа.

**МАР’ЯНКА** мар’йáнка *ж.* 156а. *гл.* **ляшок**.

**МАТКА** мáтка *ж.* 56, 57, 58, 59, 60, 75, 75а, 79, 91, 95, 99. *гл.* **баравое жыта**.

**МАТЫКА** маты́ка *ж.* 35, 144, 146, 147, 149, 156. матыка. // У нáс моты́койу сáд’ат бýл’ву 35.

**МАТЫЧЫЦЬ** муты́чытэ *незак*. 4а. абкапваць. // Муты́чылы буракí 4а.

**МАЧ** мач *м.* 105, 109, 132, 146, 148, 178, 183. **1.** прылада для накладання гною на колы ў выглядзе вясла з выцягнутай авальнай лопасцю 105, 109, 112, 132, 134а. // Мач крывы́, загóстрэны, ужэ́й дэ дэ́ржат’ 105. Колíс’ гнуой на вуоз накідáлы тóл’кі мачэ́м, бо вілóк не былó жылéзных 105. **2.** драўляныя вілы для гною з двума зубамі 178, 183. // Мач – крывýл’ длíннай з бы лопáтой на концы́ 183. **3.** жалезныя вілы для гною 146, 148. // Мачóм раскідáй гной, скарэ́й бýдэ 146.

**МАЧЫ** мачы́ *мн.* 184, 186, 197. мачэ́ *мн.* 105, 119, 120, 124. вілы для гною. // Мачэ́ з дéрава зрóблены жалéзом скóваны, йíмі гной зрывáйуц’ 124.

**МЕДАВАЦЬ** медавáты *незак*. 78. працэс налівання зерня (самы пачатак). // Йак медýйе жы́то, на нíм прáма йак росá, на йíм стоíц’ водá, клéйчата бо кáпл’а м’óду 78.

**МЕДЛІК** мéдлік *м.* 62. дзесяць снапоў жыта.

**МЕЖ** між *м.* 31, 59, 72. *гл.* **мяжа.** // Між собí прочы́сціў каб завернýцца бикáма 72.

**МЕНТАВАЦЬ** ментавáты *незак*. 120. ментавáц’ *незак*. 137, 157. вастрыць касу менташкай. *гл.* **мянташка.** // Трэ́ба паментовáц’ кóсу 157.

**МЕТЛІК** мэ́тлік *м.* 105. *гл.* **бапка**.

**МЕШАНІНА** мешанíна *ж.* 156а. узараны, але не пабаранаваны пад пасеў папар.

**МЕШАНЬ** мéшан’ *ж.* 123, 167. мíшан’ *ж.* 65. **1.** у другі раз узараная зямля 123, 167. // Мéшан’ – то на веснé похáем тóйе, што орáлі нá зіму 123. **2.** сена з саломай 65.

**МІНЕРАЛКА** мінерáлка *ж.* 80. від глебы (?). // Мінерáлка – жóвта зэмл’а прокідáйецца 80.

**МІТА** мíта *ж.* 156. малая куча бульбы або іншай гародніны. // Ты ў мíту ўсы́п, буракóў на веснý.

**МЛЁНЫЧ** мл’óныч *ж.* 4а. *гл.* **млын**.

**МЛЫН** млын *м.* 26, 31, 32, 33, 72. млін *м.* 29, 31, 120. мл’он *м.* 124. мл’ун *м.* 59, 60, 105. мл’уон *м.* 36, 62. кій, пры дапамозе якога прыводзяць у рух верхні камень у жорнах.

**МОРГ** морг *м.* 27, 36, 62, 109, 120, 178. старая мера плошчы. // Морг – гэ́то пóл’ска мíра, нíшшо мэ́нчый за дыс’аты́ну 67.

**МУРАВА** мýрова *ж.* 59. мýрава *ж.* 65. **1.** неапрацаваная зямля 59. // Мýрова нікóлы не пахáлы, мýровой зарасló, змурóўл’áло, карóвы пасýт 59. **2.** сенажаць 65.

**МЫДЛІ** мы́длі *мн*. 36. *гл.* **бапка**.

**МЫЛ** мыл *м.* 124, 156а. занесены кусок поля, сенажаці. // Мыл де засéйано, де сенакóс занесló 124.

**МЫЛІЦА** мýліца *ж.* 137, 184. мы́ліц’а *ж.* 80. ручка сахі.

**МЭНТА** мэ́нта *ж.* 35. мэ́н’ц’а *ж.* 62. *гл.* **мянташка.** // Дай Сц’апáн свайý мэ́н’ц’у навастрý касý 62.

**МЯЖА** межá *ж.* 21, 29, 41, 59, 80, 105, 120, 123, 124, 126, 130, 133, 146, 147, 149, 156, 184, 186, 192а, 197. мажá *ж.* 31, 105. мыж’é *н.* 49, 65. мэжá *ж.* 36, 109. міжá *ж.* 71. міежá *ж.* 20. мыжá *ж.* 35, 41, 67. мыж’á *ж.* 22. м’ажá *ж.* 156а, 167, 183, 186. мяжа. // Межý дéлайут тáк: не доóрвайе тóй і тóй не доóрвайе 133.

**МЯКІНА** м’акíна *ж.* 62, 109, 121, 122, 123, 134а, 146, 147, 151, 152, 154, 156а, 158, 161, 167, 169, 174, 177, 178, 183, 186а, 191, 196, 202. мекíна *ж.* 146. мн’акы́на *ж.* 43, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 67, 75, 75а, 79, 79а, 83, 83а, 85, 87, 91, 93а, 95, 99, 103, 108, 109, 112, 115, 115а, 116, 116а, 119ў. мэкíнна *ж.* 36. мн’акэ́на *ж.* 65. мякіна. // Бо не брэшý, што не рáз довóдзілос’о мешáц’ у хлéб мекíну 144.

**МЯНТАЦЬ** ментáты *незак*. 126, 132, 133. мянціць. // Вы́ментыў Гаўры́ло дэ напрáво дэ налíво 126.

**МЯНТАЧКА** ментáчка *ж.* 26, 32, 98, 196, 197, 202, 204. ментэ́чка *ж.* 79а, 95, 99, 121, 126, 165а, 171а. мэнтэ́чка *ж.* 49, 60, 80. мантáчка *ж.* 184, 196. мянташка.

**МЯНТАШКА** мента́шка *ж.* 146, 178, 192а. м’анта́шка *ж.* 56, 183. мэнтэ́шка *ж.* 46, 71, 79. менты́шка *ж.* 75, 75а, 83, 83а. мянташка.

**МЯНТАШЫЦЬ** м’анта́шыц’ *незак*. 146. мянціць.

**МЯНТУШКА** менту́шка *ж.* 91, 103, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 120, 121а, 122, 124, 137, 147, 149, 157. мэнту́шка *ж.* 109. мынт’у́шка *ж.* 22. мянташка // М’анта́шка і мынт’у́шка і обрусо́к, коп мынты́ты ко́су, алэ́ ж мынт’у́шка. Ны та́к зган’а́йе клыпы́ло, бо вона́ дырыв’а́на 22.

**МЯНЦІЛА** менті́ло *н.* 108, 115а, 121а. мянташка.

**МЯТНІЦА** м’а́тніца *ж.* 115, 115а, 116, 116а, 121, 165а, 167, 171а, 183, 186, 196, 202, 204. змятая пры малацьбе салома.

**МЯЦЁЛКА** м’ац’о́лка *ж.* 156а. пладовая частка аўса і проса. // Ц’ажкі́йа м’ац’о́лкі ў аўса́, аж сало́ма не трыма́йе 156а.

**МЯЦЕНЬКА** меце́н’ка *ж.* 105. мытэ́н’ка *ж.* 4а, 7а. мэнтэ́н’ка *ж.* 36, 119. мянташка.

**МЯШАЦЬ** меша́ты *незак*. 122, 123, 147. міша́ты *незак*. 144. не глыбока араць зямлю. // Поба́ч йакэ́ добро́ расце́: йо́н помешаў пе́рад во́рывам 147.

**НАБОЙ** набо́й *м.* 119. колькасць зерня, якое змалочана за адзін раз. // Намолоці́лі до́бра – набо́й бо́л’шы 119.

**НАВАЛАЧЫВАЦЬ** навало́чываты *незак*. 71. баранаваць пасля сяўбы.

**НАВІНА** новіна́ *ж.* 21, 41, 98, 105, 120, 122, 123, 124, 126, 132, 133, 154, 158, 161, 167, 177. но́вына *ж.* 20, 26, 29, 32. новына́ *ж.* 7а, 27, 29, 65, 72, 79, 80, 83, 83а, 85, 93а, 95, 95а, 98, 99, 103, 105, 115, 121, 121а, 126, 137, 138, 157, 165а, 169, 171а, 184. навіна́ *ж.* 149, 156, 174. **1.** упершыню апрацаваная зямля. // Дзерв’а́к знічто́жа, прыдэрэ́, новыну́ вы́робіц’ 137. Новына́, колі́ зд’ор пол’а́ну і посі́йаў 120. До годо́ў трох воно́ новы́на 132. На новіне́ не хо́чэ л’о́н росці́ 122. **2.** мікратапонім, назва поля 126.

**НАДЗЕЛ** надзе́л *м.* 120, 123, 133, 137, 138, 192а, 196. надзі́л *м.* 46, 67, 80, 97, 105, 124, 132, 157. зямельны ўчастак, які належаў аднаму гаспадару *(старое)*. // Ко́жні маў надíл, с’уды́ вході́лі сеноко́с, па́ша, па́хот’ і лíс 80.

**НАДОЎЖЫВАЦЬ** надо́ўжывац’ *незак*. 65, 67. баранаваць перад сяўбой. // Надоўжу́йе то рувн’а́іт, каб зірно́ ны запада́ло, бороно́йу просу́ныш 65.

**НАДРАЗОРАК** надрозо́рок *м.* 65. надразо́рак *м.* 156а, 167, 186а. надрозуо́рок *м.* 36. **1.** *гл.* **надразорка** 65, 167. **2.** край загона, засеяны чым-небудзь 36, 186а.

**НАДРАЗОР’Е** надрозí́р’е *н.* 75, 75а, 83, 83а, 91, 95. зямля над разораю. // Надрозí́р’е нэ ро́дыц’ до́брэ 75.

**НАДРАЗОРКА** надрозуо́рка *ж.* 36. апошняя неглыбокая баразна над разорай.

**НАДРАЦЬ** надэ́рты *зак*. 71. наде́рті *зак*. 120. надра́т’ *зак*. 29. зрабіць крупу з зерня.

**НАЗІМКА** назы́мка *ж.* 65, 67. азімая пшаніца.

**НАЗУБІЦЦА** назубі́цца *зак*. 186а. узысці. // Жы́та назубі́лас’а ужо́ 186а.

**НАЗУБІЦЬ** назубі́ты *зак*. 71, 80, 120, 124, 196, 202, 204. назубí́т’ *зак*. 137. назубэ́ты *зак*. 72. назуба́ты *зак*. 105, 132. назубл’а́ты *зак*. 126. // Назубі́ты – то зробі́т’ сэ́рпу зупкí 80. Серп не го́стрыцца а назу́блівайецца 124.

**НАЛІВАЦЦА** наліва́цца *зак*. 20, 21, 26, 31, 33, 36, 98, 105, 109, 120, 121, 122, 123, 124, 126, 132, 133, 134а, 137, 144, 147, 149, 156а, 157, 167, 174, 178, 183, 184, 186, 196а, 196, 197, 202, 204. наліваца. // Ху́тка хлíп но́вы бу́дэ, жы́то налíва́йеца 26. Ужэ́ зерн’у́к налíва́йеца 126.

**НАПЁРСТАК** напе́рсток *м.* 59, 60, 71. напэ́рсток *м.* 35, 36, 49, 75, 75а, 83, 83а, 79, 79а, 91, 95, 98, 99, 103, 105, 109, 119, 120, 124, 126, 132, 133, 134а. напе́стак *м.* 46, 123. *гл.* **банька.** // Напе́рсток, штоп коса́ не вы́пала 59.

**НАПЛЫВАЦЬ** наплыва́ты *незак*. 98, 174. *гл.* **наліваца.** // Наплыва́йе жы́то 98.

**НАРАСЦІ** наросці́ *зак.* 120, 132, 196. вырасці. // Зэ́л’е звóнец сто́л’кі йаго́ ў жы́те нарос’це́ бога́то 196.

**НАРЭЗАК** нары́зок *м.* 79. вузенькая доўгая паласа зямлі.

**НАРЭЗКА** нарэ́зка *ж.* 79. *гл.* **нарэзак**.

**НАСЕКЧЫ** насе́кчы *зак*. 137. *гл.* **назубіць**.

**НАСЕННЕ** насе́нне *н.* 26, 29, 31, 32, 51, 72, 73, 98, 105, 120, 124, 126, 132, 133. насі́нне *н.* 67, 70, 186, 197, 202, 204. насенне.

**НАСІЛА** насі́ла *ж.* 56. гладкая абструганая жэрдка, якая ўжываецца для пераноскі сена.

**НАСІЛКА** насі́лка *ж.* 62. маленькая капа сена.

**НАСІЛКІ** носíлкі *мн.* 35, 36, 146. насíлкі *мн.* 62, 192а. нусíлкы *мн.* 24. **1.** *гл.* **насілы.** // Трэ́бо насíлкі накарацíц' трóхі 62. **2.** дзве жэрдачкі, на якія набіты дошчачкі, гэтая прылада служыць для пераноскі гною і інш. 146. // Ты насíлкамі разнóс' гной, то хутчэй бýдзе 146.

**НАСІЛЫ** носíлы *мн.* 109. насíлы *мн.* 56. дзве выструганыя жэрдкі, з дапамогай якіх пераносяць сена. // Насíлы падбівáйуц' пад капý, адзíн станóвіца ўпéрадзі, другí ззáду 56.

**НАСІЛЬНІЦА** насíл'ніца *ж.* 29, 124, 132. доўгая абструганая жэрдка для пераноскі сена. // Насíл'ніца – то дрýчэ хорошэ́н'ко загóстр'ат 29.

**НАСІЛЬНІЦЫ** носíлныцы *мн.* 22, 49. нусíл'ныцы *мн.* 24. *гл.* **насілы**.

**НАСОК** носóк *м.* 98, 126, 132, 133. *гл.* **нос**.

**НАСТАЛАК** настáлок *м.* 67, 80. тапорык, на якім адбіваюць касу.

**НАЧЫНАЛЬНЫЯ** начынáл'ныйе вíлы *мн.* 122. самыя кароткія вілы, якімі пачынаюць класці стог.

**НЕДАСАД** недосáд *м.* 95. прапушчаны пры сяўбе ўчастак зямлі на бульбяным полі.

**НЕДАСЕВАК** ныдосíвок *м.* 20, 60. *гл.* **недасеў**.

**НЕДАСЕЎ** недосéў *м.* 183. нідосéў *м.* 75, 75а, 121, 165а, 171а. нэдосíв *м.* 7а, 79, 91, 95, 103. нідосíў *м.* 126. участак поля, які выпадкова не засеялі. // Нідосíў то пры слýчайе бýл'бу борознý кідáйеш 126. Колы́ нэдосíв зрóбыш, то кáжуц': нэ дождэ́ш другí раз доорáты, не дожывэ́ш 79.

**НЕДОСЕЎКІ** недосéўкі *мн*. 147. *гл.* **недасеў.** // Вот севáло: недосéвак наробíў 147.

**НЕРХ** нерх *м.* 122. лёгкая неўрадлівая глеба. // На нéрху нічóго не расцé 122.

**НЕЎДОПСТВІЕ** неўдóпствійе *н.* 79а. абложная зямля.

**НІВА** нíва *ж.* 20, 21, 120, 122, 123, 130, 142, 156, 156а, 167, 174. ны́ва *ж.* 22, 33, 41, 46, 60, 67, 71, 137. нэ́ва *ж.* 65. ны́ва *ж.* 49. **1.** невялікае поле ў лесе 20, 27, 49, 60, 71, 123, 126, 133, 137, 142, 156. // Нíва – малáйа кругл'áвіна, небол'шá пол'áна ў лéсі 123. **2.** маленькае поле, кусок поля 41, 67, 120. // Нíва – загóн, два у хоз'áйіна 120. **3.** участак апрацаванай зямлі ў лесе розных памераў 174. **4.** зямельны ўчастак аднаго гаспадара. // Нэ́ва – пóлэ одногó чоловíка 65. **5.** вялікая плошча апрацаванай зямлі 122. **6.** засеянае поле 156а, 167.

**НІЎЕ** ніўé *н.* 183. *гл.* **ніўка 3**.

**НІЎКА** нíўка *ж.* 27, 29, 79, 79а, 83, 83а, 91, 93а, 95, 99, 103, 108, 109, 112, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121а, 126, 132, 134а, 135, 157. ны́ўка *ж.* 32, 72, 80, 98, 105. ны́вка *ж.* 22, 46. нíвка *ж.* 130. **1.** *гл.* **ніва 1** 29, 32, 46, 79, 79а, 83, 83а, 91, 93а, 95, 99, 103, 105, 108, 109, 112, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121а, 126. // Нíвочка лежы́т' у лéсе, островóчэк, покá не вы́гнійе 133. **2.** *гл.* **ніва 2** 22, 80, 120. // Ны́ўка і пóле аднó і другóйе – то однó, на мéншэйе скáжут' ны́ўка, а на бóл'шэйе – пóле 80. **3.** тапонім, назва поля 116, 132, 157. // Йé ў нáс сычóўскайа ны́ўка, малá ны́ўка, дóўга ны́ўка 157.

**НОЖ** нож *м.* 120, 132, 133, 204. вострая частка плуга, якая разразае зямлю. // Нож прорэзáйе, што б лéгчэ былó пахáц' 120.

**НОС** нос *м.* 105, 120. загнутая частка касы. // Нóсом у зéмл'у кóсыц' 133.

**НОШЫ** нóшы *мн.* 36. *гл.* **насілы**.

**НЯЎГОДЗІНА** неўгóдзіна *ж.* 20. абложная зямля. // Няўгóдзіна – то і багнó, і песóк, і вы́дма 20.

**НЯЎДОБІЦА** неўдóбіца *ж.* 144, 156а. *гл.* **няўгодзіна**

**НЯЎДОБКА** неўдóпка *ж.* 59, 61. неўдóбка *ж.* 146. ныўдóбка *ж.* 65. нывдóбка *ж.* 67. зямля, якая не выкарыстоўваецца ў сельскай гаспадарцы. // Неўдóпку не сéйуц', нічóга не рóдыц' на нéй 59. Ныўдóбка – гíрша зымн'á публісна 65. Йа за тóй кавáлок зымні́ ны платы́в подáтку мы́ні йогó булы́ вшчытáлы в нывдóбку 67.

**НЯЎДОБСТВА** неўдóпство *н.* 79, 79а, 83, 83а. *гл.* **няўгодзіна**.

**НЯЎДОПШЧЫНА** неўдóпшчына *ж.* 36, 79, 83, 83а, 91, 93а, 95, 98, 119, 122, 130, 156а. невдóпшчына *ж.* 20. *гл.* **няўдобка.** // У нас неўдопшчына бул'ш, чым удопшчыны 98.

**НЯЎЖЫТАК** няўжы́ток *м.* 133. *гл.* **няўдобка.** // Неўжы́ток не рóдзіца, на йім песóк 133.

**НЯЎЖЫТКІ** ніўжы́ткі *мн.* 20, 72, 126. неўжы́ткі *мн.* 21, 120. *гл.* **няўдобка.** // Ніўжы́ткі нікто́ нэ сéйе, парынýйе зэмн'á 72. // Невжы́ткі – то горá, то ны́ц нэ жывэ́ 20.

**НЯЎПРАЎКА** неўпрáўка *ж.* 135. нястача (пра зерне). // Óсенн'у неупрáвка зернá – ціпóм не тáк бы́стро, то вýбіў аб бóчку 135.

**ПАВАДЫР** поводáр *м.* 27, 29, 31. той, хто пераганяе валоў. // Поводáр той ш'ó вэдуў вóлы 29.

**ПАВАРОТ** поворóт *м.* 147. *гл.* **вазварот**.

**ПАВЯЗНІК** пов'áз'нік *м.* 98. пов'йáзнік *м.* 126. чалавек, які звязвае снапы. // Пов'áзнік туóл'кі снопы́ в'áжэ 98. Пов'áзнік што кóпы кладэ́ нав'áжэ снопýў і кладэ́ 126.

**ПАВЯЗЧЫК** повйáшчык *м.* 192а. *гл.* **павязнік**.

**ПАГАЛОВАЧ** поголо́вач *м.* 124. барозны, якія размешчаны ў канцы ўчастка і ўзораны ўпоперак. // Поголо́вач ро́б'ат дэ не до́рвайут' 124.

**ПАГАРЫШЧА** погоры́шча *н.* 7а. месца, дзе згарэў лес; поле на гэтым месцы.

**ПАГАРЭЛІШЧА** пагарэ́лішча *н.* 156. *гл.* **пажарышча**.

**ПАГНОЙ** пагно́й *м.* 133, 184, 196, 204. погно́й *м.* 156а, 167, 174, 178, 183. **1.** поле, якое некалькі гадоў не апрацоўвалася 167, 178, 183, 184, 196, 204. // Пагно́й засе́йалі жы́том 183. Погно́й топіла весно́й 196. **2.** угноенае поле 133, 156а. // Старопо́ліца без гно́йу се́йеца, а гдé наво́з во́з'ац', то погно́й 133. **3.** зямля, дзе размяшчаўся летні лагер ската 114.

**ПАГНОЙНАЯ ЗЯМЛЯ** пагно́йнайа з'амл'а́ *ж.* 121, 165а, 171а. угноены, добры ўчастак.

**ПАГОНЫ** паго́ны *мн.* 156а. тое месца, праз якое ганяюць на пашу жывёлу.

**ПАДАВАЛЬНІК** падава́л'нік *м.* 36. чалавек, які падае снапы, калі складваюць капу.

**ПАДБІРАЦЬ** пудбыра́ты *незак.* 67. памалу зразаць збожжа сярпом.

**ПАДВОЙ** подво́й *м.* 184. пудвы́й *м.* 27. частка сахі, якая падтрымлівае плаху. *гл.* **плаха.** // Пудвы́й вс'у́ со́ху дэ́ржыт' 27.

**ПАДГАНЯЦЬ** подгон'а́ты *незак.* 124. подгон'а́ті *незак.* подгон'а́ц' *незак.* 122. узараць зямлю неглыбока. // По́ле – ра́но подгон'а́ц' – то до́бра 124.

**ПАДГАРАЦЬ** падгора́ц' *незак.* 71, 120. сохнуць. // Л'он подгара́йе 71. Зра́зу было́ засушы́ло, жы́то мо́цно подгорэ́ла, повы́л'агала, по нíзе не в'адо́ма йакэ́ йадро́ 132.

**ПАДГОН** падго́н *м.* 120. неглыбокае, папярэчнае ворыва. // Подго́н трэ́ба злома́ты 120.

**ПАДЗЯБ** падз'а́б *м.* 146. поле, якое ўзарана восенню для веснавой сяўбы.

**ПАДКАЧВАЦЬ** пудкачува́ты *незак.* 67. накладваць нязжатае збожжа на руку перад тым, як жыта будзе зрэзана сярпом. // Йак жнэ́ш, то св'ого́ зра́зу в жмэні́ ны вдэ́ржыш, то пудкыда́йіш на руку́, пудкачу́йіш, покы́л' до́бру жмэ́н'у ны нажнэ́ш 67.

**ПАДКІДАЦЬ** пудкыда́ты *незак.* 67. *гл.* **падкачваць**.

**ПАДКІДКА** подкíдка *ж.* 7а. поле, узаранае ў другі раз перад сяўбой.

**ПАДКРУЖОЎВАЦЬ** подкружо́ваты *незак.* 7а. чысціць зерне ў рэшаце (рэшата рухаецца па кругу).

**ПАДЛАМАЦЬ** подлома́ты *незак.* 98. узараць упоперак у другі раз. // Подлома́ты трэ́ба на́ зіму, на веснí лучш заро́дыт' 98.

**ПАДМЕШАЦЬ** подмеша́ц' *зак.* 146. араць зямлю пасля баранавання другі раз.

**ПАДОК** подо́к *м.* 71, 98, 105, 120, 126. пудо́к *м.* 31. падо́к *м.* 56. **1.** насціл, на якім ставіцца стог сена 31, 56, 71, 98, 105, 120, 126. // До стошка́ ро́бл'ат потка́ так: чоты́ры сто́ўпчыкы две попэрэ́чнійе ба́лечкі, а по йíх по́стыл 71. **2.** частка луга, сена з якой будзе складзена ў цэнтры на падку 56.

**ПАДОШВА** подо́шва *ж.* 186. частка сахі. // Подо́шва – ду́бчак под сохо́йу 186.

**ПАДПАЛОК** подпа́лок *м.* 71, 105, 137. пудпа́лок *м.* 80. частка сахі. // Подпа́лок подв'а́звац' пла́ху 137.

**ПАДПАР** падпа́р *м.* 157, 204. путпа́р *м.* 72, 133. падпа́р *м.* 142, 146, 156, 174. пітпа́р *м.* 32, 72, 184. *гл.* **зяб.** // Потпа́р со́кі сабэрэ́, пло́д лепш дайé 32.

**ПАДПАРАК** потпа́рэк *м.* 26. путпа́рэк *м.* 196, 202. *гл.* **зяб**.

**ПАДПАРВАЦЬ** потпа́раваты *незак.* 32, 49, 142, 146, 156, 183. пудпа́рваты *незак.* 72. узорваць восенню для веснавой сяўбы. // Стэрн'у́ жы́тн'у потпа́руйуц', а пато́м сíйут' озíмыйе 49.

**ПАДПАРЭЦ** потпа́рэц *м.* 204. *гл.* **зяб**.

**ПАДРЫЗОЎВАЦЬ** пудрызо́вуваты *незак.* 67. падграбаць лапатай зерне, бульбу і інш.

**ПАДСЕЙВАЦЬ** пудсíйуватэ *незак.* 65. путсе́йіваты *незак.* 126. *гл.* **падсяваць**.

**ПАДСЕЎ** падсе́ў *м.* 156а. сяўба якой-небудзь сельскагаспадарчай культуры па раней пасеянай на корм жывёле.

**ПАДСЦІЛ** потс'ц'о́л *м.* 120. подс'ц'у́л *м.* 35. салома, якую падсцілаюць пад стог. // Потс'ц'о́л пот снопы́ з соло́мы 120.

**ПАДСЯВАЦЬ** путсіва́ты *незак.* 35, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 57, 78, 83, 83а, 85, 87, 97, 98, 103, 105, 108, 109, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а. падсева́ц' *незак.* 142, 144, 145, 146, 147, 148, 149, 156, 165, 171а. подсэва́ці *незак.* 36, 167, 169. подсева́т' *незак.* 183, 186, 196, 202, 204. веяць зерне рэшатам.

**ПАДХАЙВАЦЬ** потха́івац' *незак.* 93а, 124. путха́іваты *незак.* 119, 120, 124, 126, 128, 130, 131, 132, 133, 165а, 171а. *гл.* **падсяваць.** // Потха́івац' трэ́ба рэ́шэтом: зерно́ остайе́цца, а песо́к ідэ́, выпада́йе 124.

**ПАДЦЕНІЦА** подте́ніца *ж.* 178. поле, якое дрэнна асвятляецца.

**ПАДЧЫНЯЦЬ** потчын’áц’ *незак.* 32, 71, 165а, 171а. подчын’áты *незак.* 7а, 46. путчын’áті *незак.* 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 41, 49, 51, 75, 65а, 79, 79а, 93а, 95, 99, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 122, 124, 126. пучынéт’ *незак.* 31. *гл.* **падсяваць.** // Вíйут, пóтом рэшэтóм потчын’áйут’ 71. Слáба потчынíла, а чы́стайе зернó 32.

**ПАЖАРЫШЧА** пожары́ше *н.* 29. пожары́шча *н.* 120, 124, 126, 142, 146, 156, 157, 178, 186, 197, 204. *гл.* **пагарэлішча**.

**ПАЖЭННЕ** пожэ́н’не *н.* 137, 138, 204. поле, з якога зжата збожжа. // На пожэ́ні дóбра пáс’віц’ 204.

**ПАЗАДАК** позáдок *м.* 135, 144. *гл.* **пазаддзе**.

**ПАЗАДДЗЕ** позáдз’дзе *н.* 122, 124, 183, 197. адходы пры веянні. // Позáдз’дзе одгóртывайеш скрóз’ кап зернó чысцéйшайе былó 124.

**ПАЗАДКІ** позáткі *мн.* 103, 112, 134а, 151, 152, 154, 158, 161, 177, 178, 186, 191. позáдкі *мн.* 156а. пузáткі *мн.* 32. *гл.* **пазаддзе.** // Пузáткі пузáднійа засталіс’а, дл’а кабанá дасí 32.

**ПАЗУБІЦЦА** позубы́цца *зак.* 36, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 65, 67, 75, 75а, 79, 79а, 83, 83а, 85, 87, 106, 107, 109, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 11, 134а, 137, 142, 144, 149, 156, 156а, 165а, 171а, 174, 178, 186, 192а. толькі што ўзысці. // Л’он схóдыт і жы́та позубíлас’ 59.

**ПАЗЯБЛІЦЬ** поз’абліты *незак.* 72. узараць на зіму. // Поз’аблíў на підпáрэ 72.

**ПАКЛАД** поклáд *м.* 65. зжаты і разасланы на поле ячмень. // Йачмíн’ кладýт’ на пóклад, а пóтом ў снопэ́ 65.

**ПАКЛЮЧЫЦЦА** покл’ýчыца *незак.* 119. (пра ўсходы) палегчы. // Йак в’алíкойе ўрýно полеглó, йак віт’óр йогó положы́ў, то кáжут’ покл’ýчылас’а 119.

**ПАКЛЯКНУЦЬ** поклекнýты *зак.* 46. палегчы (пра збожжа).

**ПАКОПІШЧА** покóпішча *н.* 126. *гл.* **бульбянішча.** // Пустэ́йе покóпішча засталóс’а, йак покопáлы бýл’бу 126.

**ПАКОС** покóс *м.* 109, 146, 147, 183, 186. пакоша.

**ПАЛАВЕЦЬ** половíты *незак.* 21, 79, 79а, 91, 95, 99, 109, 144, 178. палавéты *незак.* 135, 156а, 167, 186а. (пра авёс) пасняваць. // Овэ́с половíйе, спíты пачынáйе, волóтка спéла, волóтка нé 98.

**ПАЛАВІНКА** полову́нка *ж.* 46, 67. палова ўчастка *(старое).* // Мев полову́нку з’емлí 67.

**ПАЛАЗОК** полозóк *м.* 36, 49, 67. полузóк *м.* 46. частка плуга. // Полозóк на котóром сýнэц’а плуг 49.

**ПАЛАСА** полосá *ж.* 30, 32, 36, 130. паласá *ж.* 156а. доўгі вузкі ўчастак поля або сенажаці.

**ПАЛАЦЬ** полáц’ *незак.* 122, 124. палаць. // Полáйуц’ коры́том, коры́то подбівáйе, пыл ідэ́, кóлос л’óхкэ зéле 124.

**ПАЛЕГЛІЦА** полéгліца *ж.* 79, 79а, 112, 115, 134а. палеглае збожжа. // Жы́то або йарóвіна бýчно ростэ́ йак жы́рнэ пóлэ ды л’áжэ, з той полéгліцы то кул’á вы́берэш 79.

**ПАЛЕТАК** полéтак *м.* 21, 120, 122, 123, 124, 126, 130, 133, 134. палéтак *м.* 108, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121, 122а, 156, 156а, 165а, 171а, 174. полíток *м.* 41, 61, 65, 67, 71, 75, 75а, 78, 79а, 80, 83, 83а, 85, 91, 95а, 98, 99, 103, 105. **1.** абложная зямля 21, 41, 61, 65, 67, 71, 75, 75а, 80, 91, 108, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 121, 122, 123, 126, 133, 137, 165а, 171а, 174. // У полíток заклáдівайемо пóлэ на трэ́ті год, дайéцца óддых, пáрімо і жы́то сíйецца ў полíтку 71. Полíток на высні покэ́нут лыжэ́т’ до гóсынэ, тройéт’, на Ілл’ý волóчат’ і сíйут’ 65. **2.** агульны ўчастак двух гаспадароў 120. // Полéток косíлі з п’áтого гóду, адзíн год – одзíн хоз’áйін, одзíн год – другí 120. **3.** вялікае поле 79, 79а, 95, 95а, 99, 103, 135, 156. **4.** засеянае поле 156а. **5.** мікратапонім, назва ўчастка 98, 157.

**ПАЛІЦА** полíца *ж.* 26, 31, 36, 109, 120, 132, 133, 147, 184, 186, 197, 204. палíца *ж.* 146, 149, 156, 183. поль́ц’а *ж.* 46, 49, 67. адвал плуга, сахі. // Дэрэв’áна полíца з доскí вы́гнута лопáткойу 120.

**ПАЛОВА** полóва *ж.* 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 41, 45, 46, 49, 51, 62, 71, 80, 98, 126, 137, 158, 161, 169, 174, 183, 204. пулóва *ж.* 49. мякіна. // Хорóшэ жы́то булó, то і полóвы нымнóго навíйалос’ 22. Полóву пáрымо і дайемó скоты́не 29.

**ПАЛОСКА** палóска *ж.* 80, 157, 184. прысядзібны ўчастак.

**ПАЛЬ** пал’ *м.* 31, 46, 120, 124, 126. межавы слупок. // Пал’ раздел’áйе двух хоз’айéў 124. Пал’ захопáйе ў однíм концэ́ пóл’а і ў другíм 120.

**ПАЛЯ** пáл’а *ж.* 56, 62. *гл.* **паль**.

**ПАЛЯГЛЕЦ** полыглéц’ *м.* 95. палеглае збожжа.

**ПАЛЯГЛЯ** полегл’á *ж.* 75, 75а. *гл.* **паляглец**.

**ПАЛЯНКА** пол’áнка *ж.* 41, 59, 71, 78, 79, 93а, 98, 103, 105, 108, 112, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 121а, 124, 126, 130, 132, 133, 134а, 137, 138, 146, 147, 156а, 157, 165а, 171а, 174, 183, 196, 202.

пал’а́нка *ж.* 142, 148, 149, 156, 165, 183, 184, 192а. **1.** маленькае поле ў лесе 41, 59, 71, 98, 105, 120, 132, 133, 134, 137, 138, 142, 148, 156, 156а, 157, 196, 202. // Пол’а́нка – не чы́стэ по́лэ, бу́л’ш чым ні́вочка 133. Пол’а́нка адде́л’но вона́ от поле́й пры ле́се 120. **2.** участак ў лесе 146, 147, 183. **3.** невялікае поле 123, 124, 167, 184, 186, 192а. // Пол’а́нка – кава́лачак по́л’а 124. **4.** невялікае поле сярод лесу або сенажаці 122. // Пол’а́нку трэ́ба круго́м загородзі́ц’ 122.

**ПАМЕНТАВАЦЬ** поментова́ц’ *зак.* 120, 137. намянціць.

**ПАМЁТ** кла́сці на помі́т 75, 75а, 79, 79а, 95. расцяліць зжатае збожжа на поле, каб яно прасохла. // Трэ́ зэрно́ положы́т’ на помі́т 79а.

**ПАНАСІЛКІ** поносі́лкы *мн.* 46. *гл.* **насілы**.

**ПАПАР** попа́р *м.* 20, 22, 29, 35, 36, 41, 46, 60, 65, 75, 75а, 78, 79а, 83, 83а, 85, 91, 93а, 95, 98, 103, 105, 108, 109, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121, 121а, 130, 132, 134а, 135, 142, 144, 156, 156а, 165а, 171а. по́пар *м.* 7а, 22, 122. папа́р *м.* 21, 80, 137, 138, 146, 152, 183, 190. **1.** папар. // Подогна́ў на попа́р, трава́ по о́рануму по́л’у попробіва́ла, поро́стай попа́р 132. Жы́то посі́йалі, овэ́с посі́йалі, а тэпэ́р бу́дэ попа́рэм, овэчкы́ бу́дут ходы́ты 35. **2.** пустазелле 7а, 65, 80, 112, 115, 121а, 122, 123, 130, 134а, 165а, 171а. // Попа́р нарі́с на по́лэ йе́к воно́ начына́йе дымі́тэ, уроста́йе 65. Заросло́ по́ле попа́ром 130. Попа́р – така́ рэ́ден’ка па гул’а́шчэм по́ле поросло́ 112.

**ПАПАРАСТАЦЬ** папараста́т’ *зак.* 32. вырасці. // Ос’ц’акі́ папаро́сталі на жы́ті 32.

**ПАПАРЫЦЬ** попа́рыт’ *зак.* 71. узараць восенню для веснавой сяўбы. // Полі́ток лі́том пого́рут’, то ка́жут’: попа́рылі полі́так 71.

**ПАПЕРЧАНЯК** паперачн’а́к *м.* 21. попырычн’а́к *м.* 41. попырычне́к *м.* 65. попэрэчны́к *м.* 7а. попэрэчн’а́к *м.* 36. поперэчне́к *м.* 75, 75а, 79а, 83, 91. *гл.* **папярочкі**.

**ПАПРЫЦА** попры́ца *ж.* 36, 120. попры́ц’а *ж.* 31, 49. пупры́ц’а *ж.* 46. поўпры́ца *ж.* 62. драўляная ці жалезная планачка ў верхнім камені з упадзінай, якая ўздзяецца на шпянёк ніжняга каменя жорнаў. // Попры́та – довго́йе зелі́за подніма́йет ка́мен’ 31.

**ПАПЯРОЎКА** попэрэ́чка *ж.* 85, 105, 121а, 130, 165а, 171а. попере́чка *ж.* 79, 103, 135. **1.** папярочны загон (у канцы поля). **2.** папярочная баразна 79, 135.

**ПАПЯРОЧКІ** пап’аро́чкі *мн.* 134а, 156, 167, 169. папярочныя барозны.

**ПАР** пар *м.* 20, 26, 31, 51, 72, 78, 79а, 112, 115, 132, 134, 134а, 146, 151, 157, 158, 161, 167, 169, 174, 183, 186. папар. // Пар, йак ро́л’ац’ ле́там, а во́сенн’у го́руц’ 20. Парі́ – то у перэ́дышку зе́мл’у пуска́йуц’ 79а.

**ПАРАНІНА** пароні́на *ж.* 108, 112, 115, 115а, 116, 116а, 121, 121а, 122а, 123, 134, 156а, 158, 165а, 171а, 177, 178, 183. парэні́на *ж.* 122, 126, 144, 161, 184, 191. парані́на *ж.* 147. парі́ні́на *ж.* 32. парыны́на *ж.* 49. **1.** папар. // Кро́хі полежы́ц’ па́рыніна, год лэжа́ла, по́тым обра́тно се́йуц’ 59. **2.** участак, узараны восенню для веснавой сяўбы 126. **3.** поле, якое ўзорана вясной для асенняй сяўбы 49, 123, 178. // Па́рынины – то пусту́йе по́лэ ці́ло лі́то, а осэ́н’у сі́йут жы́то по́лэ йак бы́ оддыха́йе ці́ле лі́то 49.

**ПАРАХА** па́роха *ж.* 31, 33. *гл.* **параніна 3**.

**ПАРАЦІНА** па́рацiна *ж.* 124, 126. пара́цiна *ж.* 174. *гл.* **параніна 2**.

**ПАРУБКА** пору́бка *ж.* 22. поле на месцы высечанага лесу.

**ПАРХАВАЯ ЗЯМЛЯ** порхава́йа земл’а́ 119. балотная глеба.

**ПАРХОЦІНА** пурхо́тына *ж.* 59, 75, 75а, 95, 99. порхо́тына *ж.* 119. **1.** пясчаны неапрацаваны ўчастак. // На пурхо́тыне ні́чо́га не хо́ча радзі́ц’, н’а с’е́йуц’ на пурхо́тыне 59. **2.** тарфяная глеба 75, 75а, 95, 99. // Пурхо́тына йак м’а́кайа, до́брайа, пу́хлайа з’амл’а́ торп’а́найа 75.

**ПАРЫНА** парына́ *ж.* 59, 65, 72, 186. парэн’а́ *ж.* 122. абложная зямля.

**ПАСЕКА** па́сека *ж.* 156а, 158, 177, 178, 183, 192, 196, 197. пасе́ка *ж.* 190. поле ў лесе (на месцы леса). // На па́секе пасе́йаў, у ле́се 196. Пасе́ка – дзе ле́с зрубі́лі, а пні́ засталі́с’а і та́м о́руц’ 190.

**ПАСЕЎ** посе́ў *м.* 21, 32, 36, 108, 109, 113, 115а, 116, 116а, 121а. пасе́ў *м.* 156а, 178. посі́ў *м.* 31, 41. засеянае поле. // На посе́ві ўжо́ молоды́ ов’о́с 36.

**ПАСЛЕД** пасле́д *м.* 21, 146, 186а. после́д *м.* 146, 147, 183, 186, 186а, 196, 202, 204. послі́д *м.* 20, 21, 22, 24, 27, 29, 30, 31, 41, 45, 51, 79а, 186. посл’а́д *м.* 27. *гл.* **пазаддзе.** // Са́мі оста́ток назва́йецца посл’а́дэм 27.

**ПАСЛЕДДЗЕ** после́дд’е *н.* 79а. *гл.* **паслед**.

**ПАСПЯВАЦЬ** поспева́ты *незак.* 133, 184, 186. поспіва́ты *незак.* 72, 80. пуспіва́ты *незак.* 60, 196, 202, 204. паспяваць. // Пуспі́ў увэ́с трэ́ба жэ́ты 72.

**ПАСЦЕЛЬ** пас’це́л’ *ж.* 58. посте́л’а *ж.* 29. **1.** салома, якую падкладаюць пад вялікія ўкладкі снапоў 29. **2.** укладка снапоў у клуні 58. // Зала́з’ на пасце́л’ і кіда́й снапы́ 58.

**ПАСЦІКАЦЬ** постіка́ты *зак.* 67. вырасці ў вышыню. // Цыбу́лі ны ополо́ла, то постіка́ло 67.

**ПАТАЛАЧЫЦЬ** потолочы́ц' *зак.* 144. памяць усходы, траву.

**ПАХАР** па́хар *м.* 105, 124. араты.

**ПАХАТА** па́хата *ж.* 22, 124, 134, 183, 186а. па́хот' *ж.* 21, 123, 186. узаранае поле. // Па́хата – успа́хана по́ле 124.

**ПАХАЦЬ** паха́ты *незак.* 20, 31, 32, 33, 59, 60, 95, 98, 105, 112, 120, 124, 126, 132, 133, 134а. паха́ц' *незак.* 122, 156а, 167, 174, 186а, 196, 202, 204. **1.** араць. **2.** неглыбока араць 167, 186а. **3.** баранаваць 186а. **4.** вырошчваць збожжа 95, 112, 122, 126, 134а. // Там дале́й пшэні́цу паха́лы, а мы́ йарыны́ ма́ло паха́лы 126. Йек вы́гноіш земл'у́, то і хле́ба запаха́йеш 122. **5.** сеяць 126.

**ПАХАЦЬ** паха́ц' *ж.* 98, 120, 124, 126, 156а, 196, 204. па́хот' *ж.* 21, 123, 186. ворная зямля. // Ліе́с на по́ле ус'о́ зробы́лы ус'о́ пошло́ к па́хоце 196.

**ПАЦЯРУХА** потыру́ха *ж.* 41, 46, 49, 51, 59, 60, 61, 65. потэру́ха *ж.* 7а, 22, 26, 27, 29, 32, 34, 35, 36, 75, 75а, 79, 79а, 80, 95, 98, 109, 112, 126, 132, 134а. поц'ару́ха *ж.* 109, 121, 122, 134а, 144, 146, 147, 156а, 165а, 171а, 174, 178. поцеру́ха *ж.* 109, 147, 156а. поціру́ха *ж.* 21, 178. пабітая дробная салома. // Са́майа дро́бна соло́ма – потыру́ха 59. Потэру́ха – то, што́ по двору́ натрэбу́шылос' 132.

**ПАШНЯ** па́шн'а *ж.* 196. пашн'а́ *ж.* 21, 41, 75, 75а, 78, 79, 79а, 83, 85, 91, 93а, 95, 98, 103, 108, 112, 113, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 121, 124, 134а, 135, 137, 138, 142, 144, 147, 152, 156, 157, 165а, 167, 171, 174, 183, 186, 186а. **1.** узаранае і засеянае поле 137, 138, 186а. **2.** узараны ўчастак 21, 41. **3.** вымалачанае зерне 75, 75а, 78, 79, 79а, 91, 93а, 95, 98, 108, 112, 13, 115, 115а, 116, 116а, 119, 120, 121, 124, 137, 138, 142, 144, 147, 156, 157, 165, 167, 171а, 183, 186. // Насы́паў пашн'у́ – жы́та, про́са, йачме́н' у бо́чку 157. **4.** ярына 83, 83а, 85, 87, 103, 134а, 135, 152. // Пашн'а – то посе́ў ве́шні 134а. Перэмоло́чаш пашн'у́, а по́том жы́то 103.

**ПЕРААБЛОГ** пэрэобло́г *м.* 186. *гл.* **аблог**.

**ПЕРАБІВАЦЬ** пэрэбіва́ты *незак.* 186. баранаваць перад сяўбой. // Пэрэбіва́ты з'аб' – боронова́ты по па́ру пэрэд се́вам 186.

**ПЕРАВЯСЛА** пэрэв'а́сло *н.* 60. п'арэв'а́сло *н.* 21, 174, 186а. перэве́сло *н.* 62. пэрэв'а́сло *н.* 126, 156а. пэрэве́сло *н.* 122, 137, 157. пэрэвэ́сло *н.* 26, 29, 31, 32, 71. парава́сло *н.* 51. перевэ́сло *н.* 46. перав'а́сло *н.* 58. парэве́сло *н.* 146. пырывы́сло *н.* 49, 67. пырывэ́сло *н.* 22, 35, 41. пэрэўйа́сло *н.* 36. перавясла.

**ПЕРАГОН** пэрэго́н *м.* 75, 75а, 91, 95. глыбокая разора для спуску вады.

**ПЕРАДКОВАЕ ЖЫТА** передко́вайе жы́та 156а. буйнейшае, лепшае, чыстае жыта, што ляціць пры веянні далей, уперад.

**ПЕРАДОК** пырудо́к *м.* 35. *гл.* **передковае жыта.** // Там по пырудка́ одбыры́, а оза́дкы вжэ осо́бынно 35.

**ПЕРАЛАМАЦЬ** пэрэлома́ц' *зак.* 109. узараць у другі раз перад сяўбой.

**ПЕРАЛОГ** перэлы́г *м.* 7а, 41, 121, 122а, 192а. перало́г *м.* 151, 156а, 158, 165а, 171а. пэрэло́г *м.* 79, 95. перalу́г *м.* 154. **1.** абложная зямля. **2.** участак, які заліваецца вадой і таму пустуе 41. **3.** папар 156а.

**ПЕРАМЯШАЦЬ** пэрэмеша́т' *зак.* 197. перэміша́ты *зак.* 133. *гл.* **пераламаць.** // Пэрэмеша́т' пар в'асно́й на з'а́б 197. Пока́ ні́ўка вы́гнійе, перэміша́йут' 133.

**ПЕРАОРА** пэрэо́ра *м.* 115. паглыбленая баразна, праведзеная ў сярэдзіне ўчастка для спуску вады.

**ПЕРАСТАЯЦЬ** перастайа́ц' *зак.* 32, 120, 122, 124, 133. (пра збожжа) перастаяць, быць не зжатым.

**ПЕРАСТОЙ** пэрэсто́й *м.* 32, 120, 122, 124, 133. пересто́й *м.* 79а, 123. своечасова нязжатае жыта. // Пэрэсто́й: паспе́ла жы́та і па́дайе 32. Йак пэрэсто́й, то скл'а́кло жы́то, зла́мывайецца 124.

**ПЕРАЯЛАВАЦЬ** перэйа́лыват' *незак.* 196. *гл.* **гуляць.** // Перэйа́лывало мойе́ по́ле 196.

**ПЕРВАЕ ЖЫТА** пе́рвае жы́та *н.* 192. *гл.* **передок**.

**ПЕРСЦЕНЬ** пе́рсен' *м.* 31. *гл.* **банька**.

**ПЕРХАВІНА** пэрховы́на *ж.* 27, 29. тарфяная глеба. // Посі́йеш добро́ на перховы́ны 29.

**ПЕРШАЕ ЗЯРНО** пэ́ршэ зерно́ *н.* 20, 183. *гл.* **перадок**.

**ПЕСЧУГА** пішш'у́га *ж.* 27, 31. пэшчуга́ *ж.* 20, 21, 75, 78, 79, 95, 103, 108, 115, 115а, 116, 116а, 119, 121а, 122, 123, 130, 135, 146, 165а, 171а. пешчуга́ *ж.* 147. пішчуга́ *ж.* 65. пышчуга́ *ж.* 67. пясчаны ўчастак. // Шо там заро́дыт' – там одна́ пышчуга́ 67. Пэшчуга́ – го́ры такі́йе, вы́гоны, оді́н песо́к да каме́нне 126.

**ПЕСЧУРА** пешчура́ *ж.* 144. *гл.* **песчуга**.

**ПІР'Е** пíрйе *н.* 31, 65, 71. лісце ў збожжа. // Пíрйе – лэст на корчы́ ростэ́ 65.

**ПЛАЗЬМО** плаз'мó *н.* 184. частка сахі.

**ПЛАХА** плáха *ж.* 121, 122а, 124, 133, 137, 156а, 165а, 171а. **1.** частка ўзаранага поля 124. // Плáха – однэ́ што загóн 124. **2.** вялікі ўчастак ворнай зямлі або сенажаці 156а. // Такý плáху скосíлі 156а. **3.** частка сахі, на якую насаджваюцца сашнікі 133, 137.

**ПЛАХТА** плáхта *ж.* 196, 202, 204. *гл.* **плаха 3**.

**ПЛАХЦІНА** плахты́на *ж.* 71, 80. *гл.* **плаха 3**.

**ПЛЕХ** плех *м.* 130. *гл.* **абсеў**.

**ПЛЕШ** плеш *м.* 113, 115, 115а, 116, 116а, 121а, 120, 122, 123, 124, 130, 133, 149, 156, 156а, 158, 174, 183. пліш *м.* 51, 65, 75, 75а, 95а, 99, 103, 132. **1.** участак, на якім няма ўсходаў. // Плеш колí не ўзышло́, або́ водá затопíла 124. Плеш получы́ўс'а мéжду пóлем, тýчка стучы́ла 120. **2.** неапрацаваны пясчаны ўчастак 51, 95а, 99, 132, 156а. // Плішы́ на піскý на рэ́ткам 51. На плішы́ нічóга нэ растэ́ 132. **3.** поле, якое заносіцца пяском 149, 156. // А тóй плеш і засевáц' не трэ́ба 149.

**ПЛЯНТА** пл'áнта *ж.* 32. мяжа. // Ішóў по пл'áнте 32.

**ПЛЯЦ** пляц *м.* 146. вялікае поле. // Увéс' пл'ац засéйалі пшанíцайу 146.

**ПОВАЛІЦЬ** повалíц' *зак.* 196. зжаць. // Повáл'ац' жы́та, пóтым збірáйуц' 196.

**ПОД** под *м.* 71. під *м.* 32, 46, 51, 71. пуд *м.* 26, 36. *гл.* **падок**.

**ПОДЖАР** пóджар *м.* 120, 156а. пы́джар *м.* 124. неапрацаваны пясчаны ўчастак. // Пы́джар, котóрэ вонэ́ неўродлíвэ, дэ клóк пóл'а, сáма плохáйа земл'á, горá, песóк 124.

**ПОЖНЯ** пóжн'а *ж.* 91, 124, 142, 147, 156, 156а, 165а, 171а, 183, 186, 197. пы́шн'а *ж.* 65, 83, 83а, 92, 109. пýжн'а *ж.* 59, 61, 93а, 105, 108, 113, 115, 115а, 116, 116а, 121, 126, 132, 157, 196. піжн'а *ж.* 71, 75, 75а, 79а, 80, 95, 99. п'ýжн'а *ж.* 79. **1.** *гл.* **пажэнне**. **2.** рэшткі збожжа, якія застаюцца пасля жніва. // Трэ́ба пýжні накосíц' 105.

**ПОЛЕ** пóле *н.* 80, 105, 120, 122, 123, 124, 126, 130, 132, 133, 144, 146, 147, 149, 156, 174, 183, 184, 186, 196, 197, 204. пóлэ *н.* 22, 26, 29, 31, 32, 33, 41, 46, 49, 59, 60, 67. **1.** зямля, якая апрацоўваецца 22, 26, 29, 31, 32, 33, 80, 105, 120, 122, 124, 126, 130, 132, 133, 144, 146, 147, 149, 156, 183, 184, 186, 196, 197, 204. **2.** вялікі ўчастак апрацаванай зямлі 41, 80, 123, 156а, 174, 186, 196, 202. // Пóле – в'алíкі кавáлак не л'асíстай не балóтнай з'амлí 174. На мéн'шэйе скáжут' – ны́вка, на бóл'шойе – пóле 80.

**ПОЛКА** пóлка *ж.* 67. сельскагаспадарчая прылада ў выглядзе сошкі, у якой некалькі сашнікоў; з дапамогай полкі акучваюць бульбу, кукурузу.

**ПОПЛЯСКЫ** попл'аскы́ *мн.* 46. вілы з двума зубамі для перавозкі сена.

**ПОСТАЦЬ** пóстац' *ж.* 123, 156а, 167, 186. участак, які займае адна жняя.

**ПОСУШЫ** пóсушы *мн.* 186. хвароба збожжавых раслін.

**ПОТРА** пóтра *ж.* 156а. *гл.* **пацяруха**.

**ПОЎНІЦЦА** пóўніцца *незак.* 49, 72, 144, 156а. налівацца (пра зерне). // Жы́та пóўніцца, з'орнэ́шка зав'áзвайецца 72.

**ПОЦЕРАБ** пóтэріб *м.* 71, 75, 75а. пóтерэб *м.* 115, 122. пóцерэб *м.* 156а, 167. ачышчаны ад хмызняку ўчастак.

**ПРАВАЯ САЛОМА** правáйа салóма *ж.* 20, 36. незмятая салома. // У кулí пов'азáлі правýйу солóму 36.

**ПРАВЕТРЫВАЦЬ** провíтрывац' *незак.* 49. веяць зерне на ветры. *гл.* **ветрыць**.

**ПРАВІЦА** прáвіца *ж.* 32, 115, 120, 121, 123, 124, 126, 132, 135, 146, 165а, 171а. правíца *ж.* 186. *гл.* **правая салома.** // Прáвіца выбірáйем шыц' хáту 32. Прáвіца – вонá йе провáйа ў кул'áх 124.

**ПРАСАВІНА** просовíна *ж.* 79. поле пасля проса.

**ПРАСАВІННЕ** прасавíнн'е *н.* 95. *гл.* **прасавіна**.

**ПРАСЕНІК** просéнік *м.* 147. прасяная салома, звязаная ў сноп.

**ПРАСЕЎ** просíў *м.* 124. *гл.* **абсеў**.

**ПРАСЯНІЦА** прос'анíца *ж.* 26, 27, 71, 109, 144, 146. прос'аны́ц'а *ж.* 49, 67. прус'анэ́ца *ж.* 51. прас'анíца *ж.* 142, 156. **1.** прасяная салома. // Абамні прóсо, а прас'анíцу расц'алí, нехáй вýсахне 142. **2.** поле, дзе расло проса 71.

**ПРАСЯНІЦЫ** просенíцы *мн.* 147. дробныя рэшткі прасяной саломы.

**ПРАСЯНІШЧА** прос'анíшча *н.* 83, 83а, 157. поле, на якім расло проса.

**ПРАСЯНКА** прос'áнка *ж.* 7а, 26, 120, 122, 124, 132, 137, 138, 178, 183. *гл.* **прасяніца.** // Прос'áнку корóвы дóбра йедз'áц' 137.

малако 52, 132, 143, 145, 152, 154, 160, 168, 170, 177, 179, 185—187, 196, 198а, 199, 203. // Рулі́ – то ў сол’о́нуйу во́ду пота́пцы кры́шац’ 132. Рулі́ тры бо́хона згулі́ 185. **2**. чышчаная вараная бульба 113, 115. **3**. рэдкая страва, прыгатаваная з сухой рыбы, цыбулі і кавалачкаў хлеба 143. // Сухі́йе уйуны́ ілі ры́бку да цыбу́лі накры́ша і воды́, со́лі, лі́сту мо́жна накі́дац’, на́дто до́бра руле́ 143.

**РУЛЯДА** рул’а́да *ж.* 185. тоўстая каўбаса з унутранасцей.

**РУНДЗЮХ** рундз’у́х *м.* 83. **1.** начынены свіны страўнік. **2**. свіны, цялячы страўнік.

**РЭДКАЕ** рэ́дкайе *н.* 2. рэдкае ў страве.

**РЭДКІ** рі́дкі 71, 72, 91. рэ́дкі 166, 170. нятлусты (пра малако).

**РЭДКІ** ре́дкі *мн.* 36. рэ́дкі 52. суп з бульбы. // Йос’ц’ с’о́йе-то́йе на в’ачэ́ру, таўкані́ца ды рэ́дкі 52.

**РЭЗАНКА** раза́нка *ж.* 112. рэ́занка *ж.* 133. рыза́нка *ж.* 158. ры́занка *ж.* 161. кавалачак пакрышанай бульбы.

**РЭЗАНКІ** рі́зныке *мн.* 71. рэзанкі́ *мн.* 114а, 116а, 116, 133, 164, 171. рэ́занкі *мн.* 136. рэзункі́ *мн.* 166. ре́занкі *мн.* 148, 148а, 161, 162, 165, 169. рыза́кі *мн.* 170. **1**. бульба ў лупінах, звараная палавінкамі 71, 136, 148, 148а, 161, 162, 166, 169, 170. **2**. суп з бульбы 114а; 116, 116а, 133, 164, 165, 171. // З бу́л’бы ва́рімо рэзанкі́, з йу́шкой. С хле́бом йемо́ 133. На крыша́нчыкі рэ́жуц’ карто́плі, ва́рац’ ре́занкі, бул’о́н 165.

**РЭЗАЦЬ** ры́заты 1, 4, 8, 18, 25, 98, 102. рэ́заты 47. рэ́зац’ 52, 59, 80, 112, 115, 120, 124, 128, 131—133, 135, 136, 145, 148, 157, 161, 166, 172, 177—179, 187, 196, 199, 200, 202—204. рі́заты 78, 79**. 1**. рэзаць (пра хлеб). // Йак куды́ трэ́ба то лу́сту рэ́жамо, йак обе́дайем да рэ́жамо то скі́пка 120. **2**. драць на тарку (бульбу) 47, 190.

**РЭЗКА** рэ́зка *ж.* 144. *гл.* **рэзанка**.

**РЭЗКІ** рэ́зкі *мн.* 123. суп з бульбы.

**РЭЗНІК** рі́знік *м.* 5, 12, 16, 19, 20, 25: 29, 71, 72. кавалачак пакрышанай бульбы.

**САЛА** са́ло *н.* **1**. свіное сала, верхняе і нутраное 1, 2, 4—13, 18—20, 25, 35, 37, 38, 47, 59, 60, 71, 75, 78—80, 83, 85, 92, 112, 116, 116а, 119, 119а, 120, 124, 126, 128, 132, 133, 185, 136, 139, 143, 144, 145, 148, 152, 154, 157, 158, 160, 161, 164—166, 168, 169, 171, 172, 177—179, 181, 182, 185—187, 190, 191, 196, 198а, 199, 203. // М’ахко́йе са́ло, кышко́войе сало 2. Кышэ́чне са́ло отде́л’но перэтопл’а́йут бо оно́ не такэ́ чі́сто 4. Вэрх знімá́йуц’ – са́ло, са́ло – с сэрэ́дыны, с кышк’у́ф са́ло 8. Са́ло з букó́ў 182. Кішко́войе са́ло 190. Зраза́йем са́ло по саме́н’ке м’а́со 199. **2.** нутраное свіное сала 15—17, 26, 32, 34, 50, 72. **3**. птушыны тлушч 25, 35, 37, 47, 79, 83, 103, 112, 115, 116, 120, 124, 126, 131, 132, 139, 144, 148, 151, 152, 154, 157—162, 166, 168, 169, 172, 177—179, 185, 190, 196, 198а, 199. // Гус’а́чэ, кура́чэ – са́ло 79. **4**. тлушч з печанага сала 85, 91, 116, 123, 145. // Полі́ва́йем са́лом 83. **5**. сала з кішак 124, 126, 128, 151, 152, 154, 159, 162, 165, 171, 176, 178, 179, 190, 198а.

**САЛАДУХА** солоду́ха *ж.* 4, 6—8, 12, 13, 16—18, 25, 29, 32, 34, 36, 40, 44, 47, 52, 54, 59, 85, 95, 103, 112—116а, 120, 123, 124, 131, 132, 143, 145, 161, 162, 168, 170, 177, 182, 185, 186, 200. саладу́ха *ж.* 113. 190. **1**. кісла-салодкая негустая страва з заквашанага цеста 4, 6—8, 12, 13–16—18, 25, 29, 32, 34, 36, 44, 47, 52, 54, 59, 85, 95, 103, 112—116а, 131, 145, 162, 186. // Озме́ш рошчы́неш жы́тн’у муку́, золл’о́ш жэ́шкойу водо́йу, скó́рку кы́неш, она́ укы́сне, а путо́м ішчо́ ва́р’ат 8. Расчы́н’ат хлеб да вы́нут те́сто да взва́рат да подсоло́д’ат да ка́жут солоду́ха 162. **2**. *гл.* **путра 1** 120, 123, 124, 132. **3**. пойла для свіней 143, 161, 166, 168, 170, 177, 182, 185, 90, 200. **4**. гарчыца 45.

**САЛАМАХА** солома́ха *ж.* 2, 7, 12, 59, 71, 78, 93, 124, 133, 182, 185, 186. салма́ха *ж.* 8. салумэ́ха *ж.* 15. салама́ха *ж.* 44, 164, 169–173, 198а. **1**. страва з запаранай раскалочанай мукі 15, 124, 169, 172, 173, 185, 186, 198а. // Муку́ расколо́ц’ац’, окро́п кі́піц" і туды́ муку́ расколо́чану і солома́ха 186. **2**. зацірка 44, 59, 71, 78, 170. // Так солома́ху вары́лі: б’аремо́ ці́сто, мі́сімо, а по́тым на дрі́бнен’кі кусо́чкі 59. **3.** смажаныя з мукой ягады 133, 164, 171, 182. // Калі́н насобі́райем, мукó́й засы́плем, усало́дайе, у л’о́хкі дух стано́вл’ац’ штоб ужа́рылас’а, ц’апе́р с чарні́ц ро́б’ац’ 171. **4**. пра густа звараную мучную страву 2, 7, 8, 12. // Солома́хі навары́ла, йак гу́ста чаго́ навары́ла 2. **5**. яешня з мукой, на малацэ 8, 93. // Салма́ха йе́с’лі она́ ужэ́ сме́шана с молоко́м, мукó́й, тры дуба́ўкі йест’ 8. **6**. *гл.* **верашчака** 185.

**САЛАНІНА** солоны́на *ж.* 2, 10, 12, 15, 19, 20, 52. солоны́на *ж.* 5, 6, 7. слоні́на *ж.* 38, 59, 60. солоні́на *ж.* 91. **1.** тоўстае свіное сала 2, 5, 7, 19, 20, 59, 60. // По вэ́рху солоны́на, по хрэбце́, на дало́н’у 2. Солоны́на то́ўшча, шпы́рка то́н’ша; солоны́ну оде́л’но со́л’ац, ма́ло, сыл’ йийе́ пэрэгрызе́ 20. **2**. сала (верхняе) 6, 15, 38, 52, 91. **3**. салёнае сала (верхняе) 10–12.

**САЛЁНІКІ** соло́ныкы *мн.* 59, 60, 79а, 98. сол’о́нікі *мн.* 123, 143, 165, 202, 203. соло́днікі *мн.* 83, 198а. **1**. чышчаная вараная бульба 59, 79а, 83, 98, 123, 165, 198, 202, 203. **2**. бульба ў лупінах,

перарэзаная напалам і звараная з соллю 143. // Сал’óнікі – онó помýтайа, попэрарэ́зуйеш, пасóліш іх 148.

**САЛЁНКІ** сол’óнкы *мн.* 2. сол’óнкі *мн.* 161, 162, 166. *гл.* **салёнікі 1** 2, 161, 162, 166. // Сол’óнок звáрыш, крýшку квáсу 2.

**САЛОДКІ** солóдкы 1, 2, 4—13, 15—20, 25, 29, 34, 44, 47, 59, 60, 71, 72, 79, 91, 95, 99, 103, 120, 124. солóткі 85, 112, 115, 116, 119, 131, 132, 133, 135, 144, 202, 204. солóдкі 123, 152, 161, 168, 171, 182, 186, 190, 198а, 199. **1.** свежы, салодкі (не кіслы, не салёны). // Напáрыла буракíв солóдків 71. **2**. няўкіслы (пра хлеб) 116, 120, 123, 124, 131—133, 144; 152, 154, 161, 165, 168, 171, 182, 187, 190, 198а, 199, 202, 204. // Солóдкі хліб, трэ́ба коб пудкíс, пудчын’ýйогó 171.

**САЛОНЦЫ** солóнцэ *мн.* 45. сол’óнцэ *мн.* 65, 75. сóленцы *мн.* 68. солóнци *мн.* 71, 78,91, 93а. солонцú *мн.* 80. солонцí *мн.* 99. **1**. *гл.* **салёнікі** 45, 68, 71, 75, 78, 90, 91, 93а, 99. **2**. бульба ў лупінах, перарэзаная папалам і звараная з соллю 65.

**САПЁРКІ** соп’óркі *мн.* 10. страва з дробна пасечаных і адвараных свіных унутранасцей (лёгкае, пячонка, страўнік).

**САРОКІ** сорокí *мн.* 115, 116. 116а, 126, 154. сорóкі *мн.* 95. **1**. маленькія булачкі, якія пякуцца на Саракі 95, 126. **2**. маленькія блінцы 115, 116, 116а, 154.

**СВЕЖАНІНА** свэжанíна *ж.* 144. *гл.* **свежына.** // Свэжанíна йак кабанá закóліш 144.

**СВЕЖЫНА** свыжынá *ж.* 2, 4, 12, 29, 34, 37, 59, 60, 71. свіжынá *ж.* 6, 19, 20, 75, 85, 120, 157, 179, 199. свежынá *ж.* 72, 102, 103, 133, 136, 139, 148, 160, 162, 166, 173. свеіжынá *ж.* 80. свэжынá *ж.* 124, 126. свежае мяса, сала. // Цепéр у менé свэжынá — овэ́чку зарэ́заў, свін’ý заколóў 124. Ужо кабанá убілі, наробілі с’вежыны́ 166. С’віжынá — с’вéжо сáло, мн’áсо з йакóе йе жыв’óлы 199. Ходэ́ла на свыжынý до брáта 34.

**СВЕЧКА** свéчка *ж.* 52. кропля тлустасці на паверхні вадкай стравы.

**СВЯЖАЦІНА** свіжáтына *ж.* 15. *гл.* **свежына**.

**СЕЛЬЦІСОН** сал’цісóн *м.* 1, 20, 44, 52, 60, 71, 80, 98, 144, 158, 198а. салцісóн *м.* 2, 4, 7, 10, 11, 12, 13, 16, 17, 29, 37, 38, 40, 45, 126, 143, 145. сал’сісóн *м.* 19, 131. сел’цесóн *м.* 34, 72, 124, 154, 171, 185, 186. салцосóн *м.* 102. солцісóн *м.* 75, 115. сэлцісóн *м.* 95. сел’кісóн *м.* 103. салтысóн *м.* 128. сэл’сóн *м.* 169, 203. сал’ц’асóн *м.* 179. начынены варанымі ўнутранасцямі свіны страўнік або тоўстая кішка, спрасаваныя пад грузам. // Сел’цесóны рóб’ац’ з л’óгкайе, п’ачóнкы 34. Сал’цісóн тэпэ́р рóб’ац’ – ýшка, пахвэ́, запрáва – чіснэ́к, пэ́рэц – вáрымо 2 часá, бэрэ́м под прэс 20.

**СЕЛЯДЗЕЦ** сэл’едэ́ц *м.* 8. селядзец.

**СЕМЯ** сы́м’а *н.* 8. заправа з точанага канаплянага семя.

**СЕМЯНУХА** сэмэнýха *ж.* 15. прасяная каша з ільняным семем.

**СЕРА** сíра *ж.* 1, 60. сéра *ж.* 113, 120, 124, 132, 136. сéра *ж.* 116а, 135. малодзіва. // Оз’м’óм вы́дойемо сíру, на пытэ́л’н’у, спычэ́м і йімó. Пóсле ц’óлу тры дн’а дóйімо сíру 60. Млінцэ́ с сéры бы гýжавыйа, не пухкíйа, бы цупкíйа. Некотóры бйуц’ мáсло с сéры 124.

**СЕРКА** сíрка *ж.* 115. сéрка *ж.* 128, 131. *гл.* **сера.** // Курýў бугáзно булó, усé цéл’ацца то сíрка булá 115.

**СЕЧАНКА** сéчанка *ж.* 109, 200. квашаная капуста.

**СІНІ** сíні 160, 199. нятлусты. // Сíне молокó 199.

**СІТНІК** сы́тнык *м.* 11, 19, 44. сэ́тнік *м.* 16, 20. сíтнік *м.* 37. хлеб з жытняй пытляванай мукі. // Йак рáзово намэ́лено і на сы́то просы́йано, пыклы́ сы́тнык 19.

**СІТНЯК** сытн’áк *м.* 15. *гл.* **сітнік**.

**СКАБЛІЦЬ** скоблы́ты *незак.* 2, 4, 7, 8, 11, 12, 13, 17, 18, 19, 20, 25, 29, 35, 40, 47. скублíты *незак.* 5, 6. скоблэ́ты *незак.* 44. склобíц’ *незак.* 133. **1**. чысціць (абразаць нажом) старую бульбу 2, 4, 5, 6, 8, 11–13, 19, 25, 35. // Бýл’ба з лупы́намы, не схотéла скоблы́ты 35. Молодýйу нáдо скр’áбаты, а йак не скр’áбайецЎ‘а то скóблімо 4. **2.** чысціць (скрэбці) маладую бульбу 2, 5–8, 11–13, 17-20, 25, 29, 35, 40, 44, 47,133.

**СКАВАРОДНІК** сковорýдных *м.* 85, 87, 93а, 103. сковорóдных *м.* 93, 98. сковорíдных *м.* 101, 102, 109, 119. скаварóднік *м.* 83, 113, 139, 152, 161, 162, 165, 176, 178, 198а, 199. скоўрóднік *м.* 126, 157, 182, 185, 187. скуворóднік *м.* 131, 135, 144, 148, 150. скуворóнн’ік *м.* 131, 135, 144, 148, 150. скуворóн’ік *м.* 136, 191. скоровóднік *м.* 116, 143, 187, 190. скаравóннік *м.* 151, 154, 158–160, 177, 179. блін з хлебнага цеста, які пячэцца перад полымем на скаварадзе. // Покá хліб, п’акýц’ сковорíднік шчоб скорíй 102.

**СКАВАРОДНІЦА** сковорóдніца *ж.* 123. *гл.* **скавароднік**.

**СКАЛКІ** скалкы́ *мн.* 2, 5–13, 15, 16, 59, 60, 71, 72, 91, 136, 187, 190. скалкí *мн.* 75, 78, 79, 83, 85, 109, 112, 116, 128, 131–133, 135, 144, 171, 191, 199, 198а. скалкэ́ *мн.* 79а, 80, 95, 99, 126. скіл’кí

*мн*. 93, 102, 119, 120, 124. шка́л’кі *мн*. 116а. ска́лкі *мн*. 123, 139, 143, 145, 148, 152, 154, 162, 164, 165, 166, 168, 169, 170, 172, 173, 176–179, 182, 185, 186, 203; шка́л’кі 157. кроплі тлустасці на паверхні рэдкай стравы. // Сы́тэ вэ́л’мо, скал’о́к бога́то 124. Скало́к бога́то, до́бра боршч насмачы́ла 126. Ска́лкі стойа́ц’ 148. От навары́ла, хоц’ го́лаў мый, ні адно́й ска́лкі н’ама́ 154.

**СКАРАЛЮШЧА** скорол’у́шча *ж*. 5, 13. *гл*. **каралюшча**.

**СКАРОМНЕ** скуро́мнэ 17, 29, 45. скоро́мнэ 2, 19, 20, 44, 95, 103, 112, 115, 116, 119, 120, 124, 126, 131, 154, 164. скоро́мнайе 60, 143, 179, 190. скоро́мнэйе 136. **1**. страва мясная або малочная. // Скаро́мнайе йе, а не йасі у пост 179. **2**. сала, тлушч 17, 29, 45, 60.

**СКАРЫНКА** скоры́нка *ж*. 59, 60, 79, 83, 103, 139, 157, 161, 166, 179, 191, 198а, 199. скорі́нка *ж*. 75, 95, 148, 173, 176. шкары́нка *ж*. 85, 114а. скарынка на хлебе. // Хліб сыры́, на скоры́нку сеў 59. Скоры́нка ве́рхн’а і спо́дн’а 157. Скоры́нка подо́дн’а 166.

**СКВАРКІ** скваркі́ *мн*. 2, 4, 7, 10, 12, 37, 187, 190, 198а. скварки́ *мн*. 9, 13, 16, 18, 25, 35, 40, 45, 179. скваркэ́ *мн*. 19, 20. сква́ркі *мн*. 34, 152. шкварки́ *мн*. 38. шква́ркі *мн*. 44, 52, 59, 71, 103, 109, 126, 131, 157, 161, 169, 172, 177, 178, 185, 186, 199, 202—204. шкваркэ́ *мн*. 72, 79а, 80, 91. шкваркі́ *мн*. 75, 79, 85. шушва́ркэ *мн*. 93, 102, 109. сквоуркі́ *мн*. 96. **1**. шкваркі печанага сала. **2**. адрэзаны кавалачак сырога сала 7, 12, 199. // Са́ло шкваро́чкамі рэ́жаш 199.

**СКВАРЫЦЬ** сква́рэты *незак*. 9, 13. пячы, скварыць (сала).

**СКІБА** скі́ба *ж*. 139, 145. вялікі адрэзаны кавалак хлеба.

**СКІБАНІЦА** скы́баныца *ж.* 60. вялікая скіба.

**СКІБКА** скі́бка *ж*. 1, 6, 19, 20, 35, 52, 75, 79, 83, 85, 91, 93, 95, 99, 102, 103, 109, 123, 131, 133, 139, 144, 150, 151, 152, 154, 157—161, 164, 166, 170—173, 176—179, 182, 185—187, 190, 191, 198а, 199, 200, 203. скы́пка *ж*. 2, 4, 7, 9—13, 25, 29, 38, 45, 101, 135. скі́пка *ж*. 5, 8, 15—18, 37, 54, 112, 115, 116, 119, 120, 124, 136, 143, 148, 202, 204. ске́бка *ж*. 34, 72. скы́бка *ж*. 44, 57, 59, 60, 78, 79а, 80, 126. скэ́пка *ж*. 65. скэ́бка *ж*. 70, 71. **1.** адрэзаны кавалак хлеба 1, 2, 4—13, 15—18, 25, 29, 34, 45, 65, 70—72, 78, 109, 112, 115, 116, 123, 135, 136, 143, 150, 157, 158, 161, 168–173, 176—179, 185, 186, 191, 198а, 199, 200, 202—204. // Скі́бка хлі́ба – і вэлі́ка і мала́. Скі́бку на цы́лу бу́лку одры́залі 1. Урі́ж ске́бку хле́ба 34. **2.** невялікі адрэзаны кавалак хлеба 19, 20, 35, 37, 38, 44, 47, 79, 79а, 80, 83, 85, 91, 93, 95, 99, 101—103, 120, 124, 131–132, 144, 148, 151, 152, 154, 160, 166, 182, 187, 190. // Йак куды́ трэ́ба то лу́сту рэ́жмо, йак обе́дайем да рэ́жамо то скі́пка 120. **3**. тонка адрэзаны кавалак хлеба 54, 59, 60, 63, 133, 164. // Скы́бка – йак то́нко кра́йимо хл’еб 59. Скі́бку то́нен’ко рэ́жом 133. **4**. Кавалак хлеба, адрэзаны на адзін бок буханкі 75, 119, 126, 139.

**СКІДЭЛАЧАК** скыдэ́лочок *м*. 6. кавалачак пакрышанай бульбы.

**СКОБЛЯНКА** ско́бл’анка *ж*. 35. чышчаная вараная бульба.

**СКОРАМ** ско́ром *м*. 132, 166. *гл*. **скаромнае.** // Ско́ром – это ко́ліс’ було́. Скоро́много не мо́жно йе́с’ці ў пост 132.

**СКРАБАЦЬ** скр’а́баты *незак.* 4, 9, 12. шкр’а́баты *незак.* 15, 45. шкро́баты *незак.* 71. скрэбці маладую бульбу. // Молоду́йу на́до скр’а́баты, а йак не скр’а́байецЎа то ско́блімо 4.

**СКРАБЛЁНІКІ** скрэбл’о́нікі *мн*. 144. суп з бульбы.

**СКРАБЛЮНКІ** скрэбл’у́нкі *мн*. 162, 166. чышчаная вараная бульба 162, 166.

**СКРАБТАЦЬ** скрэбта́ты *незак*. 11, 59, 60, 65, 72, 80. шкрэпта́ты *незак.* 16, 34. *гл.* **скрабаць**.

**СКРАЕЦ** скра́йіц *м*. 78. *гл.* **акраец 1, 2.**

**СКРАЙЧЫК** скра́йчык *м*. 15, 29, 49, 70, 71. *гл.* **акрайчык 1.**

**СКРАЮШКА** скрайу́шка *ж*. 37, 54. *гл.* **скрайчык 1.**

**СКРУШАК** скру́шок *м*. 37. хлябец, булка з пшанічнай мукі, які даецца таму, хто прыходзіць у адведкі да парадзіхі і нованароджанага.

**СКРУШЧЫК** скру́шчык *м*. 36. *гл.* **акрушак**.

**СКРЫГАЛІК** скрыга́лік *м.* 98. скрагла́чок *м.* 34. скрыга́лачак *м.* 203. скры́глік *м.* 198а. кавалачак пакрышанай бульбы. // Парэ́ж бу́л’бу на скрыга́лачкі 203.

**СКРЫДЗЁЛАК** скры́длік *м*. 8. скрідэ́лок *м*. 6. скрідз’о́лок *м.* 136. кавалачак пакрышанай бульбы, сала.

**СКРЫЛЁК** скрыл’о́к *м*. 52. *гл*. **скрыдзёлак**.

**СКРЫЛЬ** скрыл’ *м*. 15. палавіна капуснага качана. // Наварыла капусты скрыл’а́мы 15.

**СКРЭБЦІ** скрэ́бці *незак*. 52, 113, 120, 124, 152, 154, 158, 164, 165, 178. шкрэбты́ *незак*. 78, 79а, 83. скрыбты́ *незак*. 98. шкрэ́бці *незак*. 93, 109, 182, 187, 190, 191, 198а. шкрэ́бты *незак*. 95, 126. шкрабці́ *незак*. 75, 103, 128, 131, 199. шкрыпты́ *незак*. 102. скрэ́бці *незак*. 115, 116, 123, 135, 136, 139, 143, 144, 148, 157, 160, 166, 172, 177, 179, 199, 203. скрэпты́ *незак*. 196, 202, 204. **1**. скрэбці (маладую бульбу). // Гэ́ту бу́льбу мо́жна скрэ́бці, йана́ йашчэ́ малада́ 199. **2**. абразаць старую

бульбу 93, 115, 116, 120, 124, 135, 143, 158. // Йак скрэбóм то лупáйку знімáйем, а йак тóхайем, го ту молодзéн’ку бýл’бу 120. Нашкрэ́бла картóплі 93.

**СКУЛЫ** скýлы *мн.* 71. сухія вырасты па краі буханкі хлеба.

**СКУРКА** скýрка *ж.* 1, 2, 19, 20, 45. скóрка *ж.* 4, 8, 93. скоýрка *ж.* 35, 37, 80, 115, 133, 144, 171, 187. скíрка *ж.* 38, 102. шкíрка *ж.* 16, 25, 29, 78, 99, 119. скóрка *ж.* 112, 120, 123, 126, 136. шкýрка *ж.* 13, 29, 131. скарынка на хлебе. // Сырэ́й хліб, на скы́рцы впаў 19. Скíрку чоснакóм помáзаты 38. Хлеб на нíжн’у скýрку сеў 37. Шкýрка вэ́рхн’а і спýдн’а 131.

**СЛЕДЗІ** с’лéдзі *мн.* 1, 4, 6, 19, 44, 59, 71. слэд’ *ж.* 13, 18. с’ледз’ *ж.* 179, 199. селядцы.

**СЛЯДЗІЎКА** с’ледзíвка *ж.* 44. селядзечны расол.

**СМАГЛОНІКІ** смаглóнікі *мн.* 80, 203. смажаная бульба.

**СМАЖОНІКІ** смажóнікы *мн.* 83. смажóнікі *мн.* 143, 151, 159, 187, 190, 191. смажаная ў тлушчы бульба.

**СМАЖОНКА** смажóнка *ж.* 119; 124, 152, 162. смажóнкі *мн.* 123. вараная бульба, падсмажаная ў тлушчы. // Смажóнкі рóбім – лýплены, а картóплі смáжым 123.

**СМАЖОНЦЫ** смажóнцы *мн.* 75, 78, 85. *гл.* **смажонка**.

**СМАЖЫЦЬ** смáжэты *незак.* 13, 17. смáжыты *незак.* 32, 34, 60, 102. смáжыц’ *незак.* 124, 126, 199. **1**. тушыць без вады (гародніну, ягады і г.д.) 17, 32, 34. // З лупéкамі намы́йут’ мóркву і смáжат’ 32. Смáжац’ капýсту свíжайу у чыгунé, у пéчы йак на хлеб 34. **2.** смажыць на сале, тлушчы 9, 13, 34, 60, 75, 78, 80, 83, 85, 119, 124, 143, 151, 152, 159, 162, 177, 187, 190, 191, 203. // Галýшкі у жырý усмáжвайуц’ 159. **3**. скварыць (сала) 34, 119. // Смáжац’ шпéрку 34. **4**. тапіць, смажыць (сала) 102, 124, 126. // У гóршку смáжым затóўку 124.

**СМАКУТКІ** смакýткі *мн.* 131. ласункі.

**СМАЛЁНІКІ** смал’óнікі *мн.* 8, 13, 45. **1.** падгарэўшая зверху бульба 8, 45. **2**. смажаная бульба 45.

**СМАЛЕЦ** шмáлэц’ *м.* 1, 2, 15—17, 19, 20, 25, 29, 37, 38, 44, 47, 78, 99. смáліц’ *м.* 4, 8, 60, 70. смáлец *м.* 7, 9—13, 35, 59, 80, 123. шмáлец *м.* 6, 18, 37, 52, 95, 98, 124, 128, 203. шмал’ц *м.* 91, 120, 126. шмáл’ац *м.* 131, 132, 187. смал’ц *м.* 166. шмéл’ац *м.* 179. **1**. launch ператоплены тлушч, сала 1, 2, 4, 6, 15—18, 25, 29, 37, 44, 47, 52, 80, 91, 95, 123, 124, 126, 128, 131, 132, 166, 179, 187, 203. // Шмáліц’ – йак бэс шквáрок 4. Сáло тóпім на шмáлец 6. Путчэрэ́віну, сáло з бокóў рэ́жом, пэратóпвайем, то э́то шмал’ц 126. Отóчыны обірáйуц’ с кішóк, той чэпэ́ц, ус’ó на смáл’ац рóб’ац’ 132. **2**. птушыны тлушч 1, 2, 4, 6, 8, 19, 20, 37, 38, 44, 52, 59, 60, 71, 72, 78, 80, 98, 99, 120, 128. // Смáліц’ с кáчок, с далікáтного жівóтного 8. Йак пeратóпайуц’ гусíнэ, кýрычэ сáло,говóрац’ шмал’ц 120. **3**. ператоплены гусіны тлушч 35. // Йак сырóйе то сáло гусíнэ, пэратóпанэ – смáлец 35.

**СМАЛКІ** смáл’кы *мн.* 16. смáлкы *мн.* 29. *гл.* **смалёнікі 1.** // На смáл’кы бýл’ба посмалíлас’а 16.

**СМАЛЮХ** смол’ýх *м.* 6. смал’ýх *м.* 12, 13, 17—20, 44. *гл.* **смалёнікі 1.**

**СМЕЦЮХ** смэт’ýх *м.* 45. хлябец з хлебнага цеста і мятай бульбы, які пячэцца перад полымем.

**СМЯТАНА** смытáна *ж.* 1, 2, 4, 5, 13, 15, 16, 18, 19, 29, 35, 40, 45, 65, 78, 79, 79а, 83, 85, 87, 91, 98, 101, 112, 115, 119, 126, 131, 132. смітáна *ж.* 6—12, 20, 44, 54, 59, 70, 75, 152. сметáна *ж.* 34, 37, 38, 60, 68, 71, 72, 80, 93, 95, 102, 103, 116, 119а, 120, 123, 124, 133, 135, 143—145, 148, 157, 162, 164, 166, 169—173, 176, 177, 182, 185—187, 190, 196, 198а, 199, 202, 204. см’атáна *ж.* 52, 109, 113, 128, 139, 151, 154, 158—160, 168, 178, 179, 181, 191. **1**. смятана кіслая і салодкая 1, 2, 4, 7—13, 15—20, 25, 29, 34, 35, 37, 38, 40, 45, 52, 54, 60, 68, 71, 72, 75, 78, 79, 79а, 80, 83, 85, 87, 91, 93, 95, 98, 103, 109, 112–116, 120, 124, 126, 128, 131, 132, 143, 145, 148, 151, 152, 154, 157—159, 164: 168—170, 172, 176—179, 181, 182, 185, 187, 190, 191, 196, 198а, 199, 202, 204. // Йак хорóша корóва, то бýдэ мнóго смытáны 4. Смітáну злывáйемо у слóйік, йанá скысáйецЎа, у бйáнку і б’йеш йейé, колóтімо на мáсло 20. С кíслай сметáны не так дóбра мáла 199. **2**. кіслая смятана 6, 65, 102, 160, 162, 166, 173, 182, 186, 198а. // Смітáну скы́нуц’, вэршóк слілá 6. **3**. салодкая смятана 59. // Вэршóк з гладышóк, з кы́слого молокá, а з солóдкого то э́то ужó смітáна 59. **4**. заправа, звараная з канаплянага семені 1, 45, 52, 80, 120, 123, 124, 126, 133, 139, 157, 161, 170, 171, 182, 186, 187. // Смэтáну вары́лі с конопл’áного сéм’а 1. Разомнýц’ конóплі з водóйу, вóду тýйу спýсц’ац, вáрац’, звэ́рху збэгáйе смэтáна 120. **5.** тварог, расцерты з малаком 101, 119, 119а, 144. **6.** ражанка 124, 148. // Самóго молокá спáрац’, смэтáну кідáйуц’, бы молодзéн’ка смэтáна рóбіцца. Робíла смэтáну кáжуц’ 124.

**СНЕДАННЕ** снíданне *н.* 1, 5—13, 15, 16, 18, 32, 38, 44, 45, 47, 59, 72, 75, 79. сныдáне *н.* 4, 34, 60, 80. сны́данне *н.* 19, 20. снéданне *н.* 37, 52, 85, 109, 112, 115, 116, 120, 123, 124, 126, 128, 131–

133, 135, 136, 139, 145, 151, 152, 154, 157, 158, 160, 161, 164, 166, 169—172, 177—179, 186, 198а, 199. снíдане *н.* 91, 95, 98, 102, 119, 144. снéдане *н.* 168. першы ранішні прыём ежы – усе п/п, апрача 126. // Пэ́ршайа пíшча, бувáло удóсвітк – снéдане 120. Урáно на снéдане вáрац' бул'óны, крýпнік л'бо сырóватку 132. **2**. снеданне ў нядзелю 126.

**СОВЫ** сóвы *мн.* 7. ляпёшкі з грэцкай або пшанічнай мукі, якія варацца парам. // Сóвы моложáво замíшвайут, йак óчен' загнэсі то бýдуц' ц'в'óрдыйа 7.

**СОДНІК** сóдных *м.* 16. сóднік *м.* 34, 200. булачка, пернік на содзе.

**СОК** сок *м.* 112, 113, 123, 131, 132, 181. сік *м.* 71, 75, 95, 116, 199. с'ук *м.* 79, 91. суок *м.* 103. сук *м.* 182. **1**. сок (з фруктаў, гародніны, дрэва) 71, 75, 79, 91, 95, 103, 112, 113, 116, 123, 131, 132. **2**. квас з бярозавага, кляновага соку 112, 113, 116, 123, 131, 132. // Мо сóку йе, то дай 132. **3**. *гл.* **тук** 181, 182, 199. // У сок памачáла 181.

**СОЛАД** сóлот *м.* 2, 78. сóлод *м.* 6, 29, 171, 186. сóлад *м.* 165. солóд *м.* 152. **1.** рошчанае жыта, солад. // Сóлод рóс'ц'ац' 6. **2**. корм парасяці з запаранай мукі 165, 171, 186.

**СОЛЕНКА** сóл'анка *ж.* 36. сóленка *ж.* 37, 40. (па)сóленка *ж.* 52. сол'óнка *ж.* 54, 87. **1.** чышчаная, вараная з соллю бульба 36, 40, 52, 54, 87. // Сóленка – скоблíц'і бýл'вы, воды́, сóлі 37.

**СПАЛЕНКІ** спáленкі *мн.* 1. прыгарэўшая зверху бульба.

**СПУШЧАНКІ** спушчáнкі *мн.* 191. клёцкі з дранай бульбы.

**СТРАВА** стрáва *ж.* 1, 2, 4, 6—13, 15—20, 25, 29, 34, 40, 47, 54, 65, 68, 70—72, 78, 79, 79а, 83, 93а, 95, 99, 101, 102, 109, 112, 115, 120, 124, 126, 131—133, 135, 136, 139, 143—145, 148, 151, 152, 154, 158–161, 164-166, 169, 177, 178, 179, 182, 185, 186, 187, 190, 191, 198а, 199. **1**. гатаваная ежа, страва. // На кóладу готóвіцца дванáціц' страв у пол'áкыв 34. Стрáва то назывáйецца на гэ́то рáзнойа, што вáрыш, боршч, кáша 120. **2.** агульная назва для квашанай гародніны 136. // У сц'óпцы стрáва стоíц'. У менé йішчэ стрáва 136.

**СТРУГАЦЬ** стругáты 25, 72. драць бульбу на тарцы. // Стружэ́ бул'бу на кóржікэ 72.

**СТРУДЛІ** стрýдлі *мн.* 200. мядовыя пернікі.

**СТРУЖКА** стрýшка *ж.* 25. рэдкая страва з дранай бульбы.

**СТРУЦЭНЬ** стрýцын' *м.* 38. страўнік, начынены мясам з заправамі 38. // Ковдунá напхáлы, стрýцын' січáс назывáйут 38.

**СТУДЗЕНЬ** стýдзен' *м.* 18, 37, 179. квашаніна, халоднае са свіных ног і г.д.

**СТУДЗЯНЕЦ** студэнэ́т' *м.* 17. *гл.* **студзень**.

**СТУДНЯ** стýдн'а *ж.* 196. *гл.* **студзень**.

**СУХАРЫ** сухары́ *мн.* 59, 75, 83, 91, 93, 103, 116, 119, 120, 124, 131, 135. сухары́ *мн.* 152, 154, 172. **1**. сухія вырасты па краях буханкі хлеба 59, 75, 83, 91, 93, 103, 119, 120. **2.** коржыкі 116, 124, 131, 135.

**СУХАРЫКІ** сухáрыкы *мн.* 10, 59, 60, 80, 120, 126. сухáрыкі *мн.* 102, 132, 136, 139, 143, 148, 164, 166, 179, 191. **1**. *гл.* **сухары 1** 10, 60, 80, 179. // Дай одломн'ý сухáрыка от хлíба 60. **2**. *гл.* **сухары 2** 59, 102, 120, 132, 136, 139, 148, 152, 154, 164, 166, 172, 191. // У сухáрыкі йийéц наб'йýц' богáто і сметáніны нал'йéцца 120. Сухáрыкы зэчáс п'акýц', бо йос'ц' с чогó, йе мукá, сáхор 126.

**СУХОПАРКА** сухóпарка *ж.* 36, 37, 119. **1**. нячышчаная бульба, вараная без солі. // Водóй налí бýл'ву і сухóпарка, бэс сóлі, йасí і солí 37. **2**. чышчаная вараная бульба 119.

**СУХОПАРКАМ** сухóпорком *прысл.* 78, 85. сухэ́пэрком *прысл.* 85. сухýпарком *прысл.* 103. з невялікай колькасцю вады, якая выпарваецца (варыць бульбу, гарох, фасоль і г.д.).

**СЦЯГНО** стыгнó *н.* 1, 2, 4—13, 15—18, 20, 84, 38, 45, 71, 75, 80. стогнó *н.* 19, 20. с'ц'огнó *н.* 59, 60, 112, 115, 120, 123, 124, 131—133, 136, 139, 173. стэгнó *н.* 72, 83, 126. с'цегнó *н.* 144, 162, 164, 199. с'ц'агнó *н.* 157, 158, 160, 161, 166, 179, 196, 204. **1**. сцягно свіной тушы і шынка з яго. // Стэ́гна сóл'ац', а посл'á вíшайуц' 34. Сц'óгна папéкала у пéчы 166. **2.** сцягно 6, 16, 19, 29, 139. **3**. лапатка і сцягно 136.

**СЦЯГНЯК** сц'агн'á *м.* 6, 44. *гл.* **сцягно 1.**

**СЫР** сыр *м.* 1, 4—13, 15—20, 25, 29, 35—38, 40, 44, 45, 47, 52, 54, 59, 60, 65, 68, 75, 79, 83, 85, 91—93а, 98, 101–103, 109, 112, 113, 115, 116, 119, 119а, 120, 124, 126, 128, 131—133, 135, 136, 139, 143—145, 148, 150—152, 154, 157—162, 164—166, 168—173, 176—179, 181, 182, 185—187, 190, 191, 198а, 199, 203. сэы́р *м.* 2, 71, 72, 79а, 80, 95. сэр *м.* 34, 70, 78. **1**. тварожны сыр. // Сы́ра навэрнýла 2. Сы́ра налужы́ты трэ́ба кáменем 5. З тогó творогý зноў рóбл'ац' сы́ра 71. **2**. тварожная маса 16, 17, 29, 34, 72, 79, 79а, 80, 98, 101, 102, 109, 119, 119а, 126, 128, 133, 135, 139, 143—145, 150—152, 154; 157—162, 164—166, 168–173, 176—179, 181, 182, 185—187, 190, 191, 198а, 199. // І сыр і творóг кáжуц', а сыр справедлíвей 144. Варэ́нікы с сы́ром 166. Сырóвадка аддз'алáйецца сабé, а сыр сабé 177.

**СЫРАДОЙ** сырадо́й *м.* 112, 113, 123, 139, 145, 148, 151, 152, 154, 158—160, 164, 165, 168—170, 172, 173, 176, 178, 179, 190, 191, 203. сыроду́й *м.* 116, 120, 133, 135, 136, 143, 144, 150, 157, 166, 171, 177, 181, 182, 185—187, 191, 198а. сіродо́й *м.* 165, 196, 202, 204. **1.** свежае, толькі што выдаенае малако**. 2**. салодкае малако 171.

**СЫРНІК** сэ́рнык *м.* 2, 5, 7, 9—12, 20, 44, 95. сы́рнык *м.* 35, 38, 79, 91, 98, 126. сы́рнік *м.* 4, 6, 8, 18, 19, 25, 40, 45, 59, 60, 93, 103, 131—133, 136, 144, 154, 157, 158, 161, 166, 178, 182, 187, 198а. **1.** ляпёшка з тварагу і мукі 103, 126, 131—133, 136, 144, 157, 161, 166, 198а. // С’ле́піц’ галу́шачку с сы́ра – говóрыц’ сы́рнік 166. Заме́с’ат’ с сы́ром, выка́чвайут’, пэку́т’ сы́рнік. 131. **2**. палатняная торбачка для прыгатавання тварагу, сыру 2, 4—12, 18—20, 25, 35, 38, 40, 44, 45, 59, 60, 79, 91, 93, 95, 98, 154, 158, 178, 182, 187. // Сы́рнік с полотна́ пошэ́ты штоб дзе́лац’ сыр 59.

**СЫРОВАТКА** сыро́вотка *ж.* 1, 2, 15, 10, 25, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 47. сыро́ватка *ж.* 4, 5—13, 19, 37, 59, 75, 79, 80, 83, 93, 95, 102, 103, 112, 115, 116, 119, 120, 123, 124, 126, 131—133, 135, 136, 139, 143—145, 148, 154, 157, 160—162, 164, 166—170, 172, 173, 176, 179, 196, 199, 202—204. соро́ветка *ж.* 16, 34. соро́влетка *ж.* 17. сэыро́ватка *ж.* 60, 71, 72. соро́вадка *ж.* 151, 190. сыро́ведка *ж.* 152, 158, 165, 179, 182, 185—187, 191, 198а. **1**. малочная сыро́ватка. // Сэыро́ватка йак тэ молоко́ отто́пыш на твору́г 60. Йак сэро́ватка вы́ц’ачэ, астайе́цца густо́йе молоко́ 59. **2.** крупнік, звараны на сыроватцы 116, 123, 126, 132, 133, 136, 139, 148, 150, 158, 166, 170, 179, 185, 186, 191, 196, 202—204. // Вары́лі сыро́ватку, куле́ш на сыро́ваццы 139. Прыста́вімо сыро́вадкі 185. ◊ – ***сколо́тнайа*** 154. – ***сколу́тна*** 160, 161. **–** ***сколо́чна*** 162. **–** ***скуло́тна*** 199. маслянка. // Йак ма́сло б’йе, сколо́чна сыро́ватка остайе́цца 162.

**СЫРОВАТНІК** сыро́ватнік *м.* 120. крупнік на сыроватцы. // Сыро́ватнік бува́ло вары́лі, то кідайем крупу́ у сыро́ватку120.

**СЫРОВЫ** сыро́вы 112. салодкі; несолены, не кзашаны. // Сыро́выйа агуркі. Сыро́вайа капу́ста.

**СЫРЫ** сыры́ 20, 29, 37, 75, 79, 80, 83, 85, 91, 96, 98, 109, 112, 113, 115, 116, 120, 124, 126, 131—133, 135, 136, 144, 148, 166, 172. сырэ́й 4, 71, 72, 78, 79а, 119. сыры́й 8, 9, 12, 19, 19, 44, 45, 102, 103, 173, 196, 202, 204. сэры́ 123. недапечаны (пра хлеб). // От ву́ц’агла хлеб да сэры́ 123.

**СЫТА** сыта́ *ж.* 108, 112, 115, 116, 120, 123, 126, 131—133, 136, 139, 143, 144, 148, 151, 152, 157, 158, 160, 161, 164—173, 177, 179, 182, 185, 191, 196, 199, 198а, 202, 204. сіта́ *ж.* 72, 80. **1**. вада, рассалоджаная мёдам. // По́с’ц’ац’ от чэц’верга́ до субо́ты, нічо́га не ку́шайуц’, то́л’кі ту́йу сыту́, у ц’о́плен’кой водзе́ расколо́ц’ац’ мэд і п’йуц’ 120. Сыту́ с ме́ду робілі йак пос’ц’ілі 132. **2.** памінальная страва, канун 103, 116, 123, 151, 152, 158, 165, 166, 168—170, 177, 182, 185, 187, 191, 199. // Сыта́ ты́йа са́мыйа рулí, калí на дз’ады́ 199. У во́ду холо́днуйу хлеб жы́тні кры́шац’; да́ўно ме́дом саладзілі 187.

**СЫТЫ** сы́тэй 1, 5. сы́ты 5, 19, 25, 29, 35, 37, 38, 45, 47, 60, 79, 83, 85, 91, 93, 103, 112, 115, 116, 116а, 119, 120, 123, 124, 126, 131, 132, 133, 135, 136, 143, 144, 148, 151, 152, 154, 157, 160, 165, 166, 168, 169, 171, 173, 177, 179, 185, 186, 187, 190, 196, 198а, 199. сэы́ты 20, 95. **1**. тлусты, з салам (пра страву) 45, 83, 85, 91, 93, 95, 103, 112, 115, 116а, 119, 120, 123, 124, 126, 131—133, 135, 136, 143, 144, 148, 151, 152, 154, 157, 160, 165, 166, 168, 169, 171, 177, 179, 187, 188, 190, 198а, 199. // Йак зва́рыш з до́брага м’а́са то сы́ты боршч 120. Йакí боршч сы́ты, ска́лкі пла́вайуц’ 171. Ты́йе што с са́лом, ка́жуц’ сы́тэ 199. **2**. тлусты (пра малако) 103, 119, 120. **3**. тлусты (пра мяса) 83, 85, 103, 115, 116а, 116, 120, 132, 148, 151, 152, 154, 166, 173, 179, 185, 196, 199**. 4**. тоўсты, сыты (пра жывёлу) 1, 5, 19, 20, 25, 29, 35, 37, 38, 45, 47, 79, 83, 91, 95, 103, 112, 119, 120, 123, 124, 126, 132, 133, 144, 151, 152, 154, 166, 179, 198а. // Сы́ты кін’ чы овэ́чка сы́тайа, са́ла мно́го на йій 25. Сы́ты паршу́к 37. **5**. тоўсты (пра сала) 124, 151, 154.

**СЫЦІЦЬ** сытíт’ *незак*. 25. запраўляць салам страву. // Ко́лыс’ так не сытíлі йак січа́с 25.

**СЯДРО** с’адро́ *н*. 13. нутраное свіное сала. // С’адро́ упэро́т скру́чвалы, пэрэтыра́лы чосноко́м, у сэрэ́дыну са́ло рíзалы кусо́чкамы і вíшалы. Бу́лка с’адра́ 13.

**СЯЛЁДКА** сел’о́тка *ж.* 144, 196, 202, 204. оселе́дка *ж.* 148. ос’ал’о́дка *ж.* 152, 154, 161, 182, 187. с’ал’о́дка *ж.* 158. осел’о́дка *ж.* 185. селядзец.

**СЯЛЕНЕЦ** сэлэ́нэц *м.* 2, 16. сэлэ́йэц *м.* 15. осэлэ́нэц *м.* 20, 71, 75, 79, 80, 83, 91, 93, 119, 126, 133. осэлэ́нэц’ *м.* 29, 72, 95, 99. селе́нец *м.* 103, 112, 115, 132. оселе́нец *м.* 116, 120, 124, 131, 136, 139, 157, 160, 166. аселе́нец *м.* 162. селядзец.

**СЯМЯНКА** сем’а́нка *ж.* 11. заправа з тоўчанага льнянога семені.

**СЯЧОНІКІ** с’ачо́нікі *мн.* 187. се́чанікі *мн.* 199. тушаная бульба.

**ТАКМАЧЫ** тумачí *мн.* 25. токмачí *мн.* 45, 50. томачí *мн.* 70. тукмачí *мн.* 29, 71, 72. *гл.* **таўканіца**.

**ТАЛАКНО** толокно́ *н.* 2, 12, 29, 36, 59, 60, 71, 75, 78, 79, 83, 91, 93, 95, 99, 103, 112—116а, 120, 124, 126, 128, 131—133, 135, 136, 139, 148, 161, 164—166, 168—171, 182, 185, 186, 199. талакно́ *н.* 85, 151, 152, 158, 159, 172, 179, 187, 190, 191. страва з аўсянай мукі, змеленай з папярэдне паранага, сушанага і абтоўчанага аўса, разведзеная вадой. // Толокно́ до хле́ба йак са́ло 71. Зе́рне сы́пем на чары́н, йано́ пасхне́, патоўко́м, абчы́с'цім, зме́лем. Талакно́ с тэй мукі́ ро́б'ац' 179. Оўйо́с у пе́чку усмыка́лі, сушы́лі, тоўклі́ на толокно́ 60. Толокно́ йак це́сто ме́с'ац' гу́сто, у гру́дках і сыро́йе йадз'а́ц' 116. **2.** страва з патоўчанага канаплянага семені 29, 158, 182.

**ТАПТУХА** тапту́ха 152, 154, 159, 172, 178, 186, 187, 191. страва з варанай памятай бульбы. // З бу́л'бы зрабілі тапту́ху 178.

**ТАРКАВАННЕ** тарко́ванне *н.* 115. бабка з дранай бульбы.

**ТАРКАВАЦЬ** таркова́ц' 85, 93, 103, 112, 113, 115, 116, 135, 136, 139, 148, 154, 160, 166. драць бульбу на тарку. // Таркова́ц' ла́дзі 154.

**ТАРКОВАНКА** тарко́ванка *ж.* 139. сырая драная бульба. // Тарко́ванку ва́рац' ды ка́уц' ба́бка 139.

**ТАРКОВАНЦЫ** тарко́ванцы *мн.* 139. бліны з дранай бульбы.

**ТАРЧЫЦЬ** та́рчыц' *незак.* 179. драць бульбу. // Лупіц' да та́рчыц' на бліны́ 179.

**ТАЎКАНІЦА** тоўканы́ц'а *ж.* 1, 2, 4—13, 18—20, 35, 37, 38, 44, 47, 68, 70, 75, 78, 79, 79а, 95, 119. тоўкеніца *ж.* 39. тоўкане́ца *ж.* 71. тоўканíца *ж.* 36, 52, 54, 80, 92, 98а, 94, 112, 115, 126, 131, 145, 160, 162, 190, 199. страва з патоўчанай варанай бульбы. // Тоўканы́ц'у мн'а́лі 4. Тоўканы́цы помн'а́ла с са́лом 44.

**ТАЎКЕНЯ** тоўкэ́н'а *ж.* 59, 60, 68. тоўпэ́н'а *ж.* 128, 131. *гл.* **таўканіца.** // Сі́м'а намнэ́ да ў тоўке́н'у укы́не 60.

**ТАЎКУН** тоўку́н *м.* 172, 182, 185, 186. тоўку́н *м.* 199. тоўкуны́ *мн.* 6, 196, 202. **1.** пакрышаная цыбуля, перамешаная з соллю, залітая квасам або кіслым малаком 172, 182, 185, 186, 199. **2**. *гл.* **таўканіца** 186, 196, 202. **3**. прэсныя ляпёшкі з прасеянай мукі 6.

**ТАЎЧАНКА** таўча́нка *ж.* 203. *гл.* **таўканіца**.

**ТАЎЧЭНІК** тоўчэ́нік *м.* 132. *гл.* **таўканіца**.

**ТВАРОГ** творі́х *м.* 1, 2, 5, 6, 8, 13, 15, 18—20, 35, 44, 78, 95. твору́г *м.* 4, 7, 9—12, 36, 37, 40, 45, 59, 60, 65, 85, 92, 93а, 103, 112, 113, 123, 131, 132, 139, 154, 157, 161, 168, 182, 187. твор'уі́х *м.* 38. творо́г *м.* 52, 54, 68, 93, 136, 151, 158, 160, 176, 191. творі́г *м.* 70, 71, 75, 83. отворо́г *м.* 109. отворо́х *м.* 115, 116, 120, 124. отвору́г *м.* 148. атваро́г *м.* 158, 190. **1**. тварог 1, 2, 4—13, 18—20, 29, 36—38, 40, 44, 45, 47, 52, 54, 59, 60, 65, 68, 70, 71, 75, 78, 83, 85, 92, 93, 93а, 95, 102, 109, 113, 115, 116, 120, 123, 124, 131, 132, 136, 148, 151, 152, 154, 187, 190, 191. // Отча́ўвайуц' отвору́г на сы́ра 120. Отто́плено молоко́ на труфл'а́к сцэ́дз'ац', ка́жуц' отворо́х 124. Йак пыд гн'от не б'арэ́ш, то твору́г 131. **2**. страва з тварагу, размешанага з малаком або смятанай 139, 157, 160, 161, 168, 176, 182. // Нам'аша́ла творогу́ 160.

**ТЛУСТАСЦЬ** тлу́стос'ц' *ж.* 5—3, 12, 16, 19, 20. тлу́стос'т' *ж.* 29. плу́стос'т' *ж.* 17, 25. клу́стос'ц' *ж.* 60. *гл.* **тлушч.** // Гус'а́ча тлу́стос'ц' 5. Пошмарова́ты тлу́стос'ц'у 8.

**ТЛУСТЫ** тлу́сты 1, 2, 5, 6, 8, 12, 13, 17, 19, 20, 29, 35, 37, 38, 45, 47, 59, 71, 72, 78—80, 91, 102, 115, 124, 131, 154, 199. клу́сты 7, 60. плу́сты 16, 25. тлу́сны 136. **1**. тлусты (пра страву) 1, 2, 5—8, 12, 13, 16—20, 25, 29, 35, 37, 38, 45, 47, 60, 71, 72, 78—80, 91, 102, 115, 124, 131, 136, 154. // Те́ты стойет, занадто тлусты боршч 45. **2**. тлусты (пра малако) 2, 6, 12, 18, 38, 79, 131. **3**. тлусты (пра мяса) 34, 60, 71, 72, 79, 91. **4**. тлусты (пра жывёлу) 8, 12, 13, 16, 17, 20, 35, 37, 59, 60, 71, 72, 91, 154, 199. // Тлусты вэпру́к 12.

**ТЛУШЧ** тлушч *м.* 1, 6, 13, 52, 71, 80, 102, 124, 131. тлу́шча *ж.* 126. тлушч у стравах (ператоплены, застылы і г.д.). // Йі́сты хоч што було́, хлі́ба, тлушчу 102. Облі́ва́йуц' тлу́шчом сыр 124.

**ТОПТАНКА** то́птанка *ж.* 123. страва з мятай варанай бульбы.

**ТОРБАЧКА** то́рбачка *ж.* 126, 132, 133. палатняная торбачка для прыгатавання тварагу, сыру.

**ТОЎЧ** тоўч *м.* 120. корж з тоўчанага канаплянага семені.

**ТОЎЧА** то́ўча *ж.* 65, 115, 116, 116а. **1.** *гл.* **таўканіца** 65, 116, 116а. **2**. корм для свіней з сечанай бульбы 115.

**ТРУШАНКА** тру́шанка *ж.* 160, 166. **1**. зацірка 160. **2**. суп, звараны з сумесі розных круп 166.

**ТРЫБУХ** трыбу́х *м.* 75, 79, 79а, 85, 91, 93, 95, 99, 103, 110, 112, 115, 116а, 119, 128, 131—133, 171. требу́х *м.* 102**. 1**. страўнік, начынены мясам 79а, 85, 99, 102, 103, 110, 116а, 119, 128, 132, 171. // М'а́са с требуха́ 102. **2**. страўнік, начынены ўнутранасцямі 128. **3**. страўнік жывёлы 79, 79а, 85, 91, 93, 95, 99, 102, 103, 116а, 126, 131, 133. **4**. цялячы страўнік 115. **5**. унутранасці 75, 112.

**ТУК** тук *м.* 1, 2, 4–7, 9—13, 15—20, 25, 29, 34, 37, 38, 40, 45, 47, 60, 71, 75, 78, 79а, 80, 85, 95, 98, 99, 103, 109, 112, 115, 116, 128, 136, 139, 148, 151, 152, 154, 157, 160, 166, 179, 191. т'уік *м.* 8. ток *м.* 79, 113, 158, 161, 162, 165, 168—170, 172, 176—178, 185—187, 190, 198а, 199, 203. тук. // Тук — та́йа вода́, што з са́ла нац'ачэ́, йак п'ачэ́цца са́ло 60. Дра́нікі то́ком обол'йе́ 166. Сы́тэ са́ло, ту́ку бога́то набе́гло 151. Хлеб у ток помоча́ў 199. ◊ ***чуты тук*** 126. чуць тук; чутно тлушч (пра тлустую страву).

**ТУЧНЫ** ту́чны 34, 126, 179. то́чны 190. **1**. тлусты, з салам (пра мяса) 34, 126. **2.** які пры смажанні дае многа туку (пра сала) 179, 190.

**ТУШАКІ** туша́кі *мн.* 7. галушкі з дранай бульбы, начыненыя мясам.

**ТУШАНІ** тушэні́ *мн.* 8. адвараныя унутранасці свінні.

**ТУШОНІКІ** туша́нікі *мн.* 139, 196. тушо́нікі *мн.* 144, 158. *гл.* **тушонка.** // Тушо́нікі – налу́п'ац карто́пл'аў, накры́шац, с са́лом ілі олі́вой ту́шац 144.

**ТУШОНКА** ту́шанка *ж.* 168, 182. тушо́нка *ж.* 131, 199. тушо́нкі *мн.* 136, 148, 157. туша́нкі *мн.* 165. смажаная бульба. // Тушо́нкі – поре́жом скрыдз'о́лкамі бу́л'бу, ту́шом без воды́ 136.

**ТУШОНКІ** тушо́нік *м.* 145. тушэні́к *м.* 196. кавалачак пакрышанай бульбы. // Рэ$^{ы}$ж карто́плі на малы́йе тушо́нікі 145.

**УКРОП** укрі́п *м.* 16. окро́п *м.* 71, 80, 120, 169, 186, 200. кріп *м.* 72. окрі́п *м.* 95, 119. укру́п *м.* 103, 116, 143, 182. укро́п *м.* 112, 128, 139, 144, 145, 148, 150, 154, 160, 162, 164, 170, 171, 172, 173, 176. выкро́п *м.* 124. кроп *м.* 123, 132, 136, 161, 177. круп *м.* 133, 135. окроу́п *м.* 157, 166, 168, 185. вар, кіпецень. // Нагрэ́ла кро́пу, покрышы́ла пота́пцаў 123. Хоц'а́б укро́пам не абл'і́лі 139. Окру́п закіпе́ў 157. Приста́ў окро́пу, мо вы́пілі п по стака́ну 185.

**УЛОМАК** уло́мок *м.* 17. кавалак хлеба адламаны.

**УТОПЛЕНІКІ** уто́плэнікы *мн.* 102. варэнікі з пшанічнага цеста.

**УХА** уха́ *ж.* 1, 113, 131, 157, 203. рыбная юшка.

**УЧЫНІЦЬ** учыні́ц' *зак.* 150, 178, 179, 198, 199. *гл.* **рашчыніць.** // Учыні́ц' блі́ны́. Ра́но учын'а́йеш, за дзен' укіса́йе 199.

**ХАЛАДЗЕЦ** холоде́ц *м.* 4. холодэ́ц' *м.* 7, 9, 18, 29, 44, 45, 47, 71, 80, 126. холода́ц' *м.* 34. халадзе́ц *м.* 52, 154, 158, 177, 178. холодзе́ц *м.* 112, 120, 128, 132, 133, 187, 190, 168, 172, 173, 182, 186, 191. хо$^{у}$ло$^{у}$де́ц' *м.* 196. **1**. квашаніна, халоднае са свіных ног і г.д. 29, 34, 52, 71, 80, 112, 120, 126, 132, 133, 172, 173, 186, 191, 196. // Холодэ́ц' ужо чышчэ́й гово́рац', ра́ншэ то квашэлы́на 126. Холода́ц' з мне́са, рэ́бы 34. Хо$^{у}$ло$^{у}$де́ц з нуг 196. **2**. страва з квасу і цыбулі 4, 7, 9, 18, 45, 44, 47, 52, 128, 132, 154, 158, 187, 190, 168, 177, 178, 182, 191, 198а. // Холодзе́ц с ква́су де́лайут, с цыбу́л'ай 4. Холодзе́ц холо́дны, на ско́рым коне́ покрышы́ да йеш 132. Халадзе́ц с карто́'пл'амі йадз'а́ц' 177.

**ХАЛАДЗІЛА** холодзі́ло *н.* 124, 128, 131. *гл.* **халадзец 1.** // Холодзі́ло з ног, вушэ́й, головы́ 124.

**ХАЛАДЗІНА** холоды́на *ж.* 59. *гл.* **халадзец 1.**

**ХАЛАДНІК** холодны́к *м.* 5, 11, 19, 20, 29, 60, 68, 75, 79, 95, 98, 101, 103, 119, 126. хулудны́к *м.* 13, 15. холоднэ́к *м.* 16, 72, 99. холодні́к *м.* 113, 115, 116, 131, 133, 139, 143—145, 157, 166, 169, 171, 173, 179, 196, 202. холонні́к *м.* 136. халадні́к *м.* 152, 181, 203. **1**. *гл.* **халадзец 1** 72, 113, 115, 119, 171. **2**. *гл.* **халадзец 2** 5, 11, 13, 15, 16, 29, 54, 60, 75, 79, 95, 98, 101, 103, 109, 116, 119, 126, 131, 133, 136, 139, 143—145, 152, 157, 169, 171, 173, 179, 181, 196, 202, 203. **3.** халодны боршч з бацвіння 19, 20, 99, 126, 166. // Холодны́к — накры́шац' ботвы́нн'а, зва́рыцца, у гу́шчу накры́шац' цыбачко́ў да рэды́скі, квас хле́бны лл'уц' 126. Гі́чку ва́рац', адцы́джвайуц', цыбу́лі туды́, ква́су і холоднэ́к 99.

**ХАЛАДОК** холодо́к *м.* 148. *гл.* **халадзец 2**.

**ХАЛОДНАЕ** холо́дно *н.* 54, 145, 203. *гл.* **халадзец 1.**

**ХАЛУПЕНІКІ** халу́пенікі *мн.* 171. коржыкі з дранай бульбы, засмажаныя ў сале.

**ХАРАШЫЦЬ** хорошы́ты *незак.* 75, 79, 91, 92, 119, 126. хорошы́ц' *незак.* 166, 176. чысціць, абіраць бульбу. // Хорошо́ны карто́плі 92.

**ХАРЧА** харча́ *ж.* 166, 199. *гл.* **харчы 1**.

**ХАРЧОЎКА** харчу́вка *ж.* 71. харчі́вка *ж.* 72. харчо́ўка *ж.* 139, 160, 173. *гл.* **харчы 1.** // Харчо́ўкі хапа́йе 160.

**ХАРЧЫ** харчі́ *мн.* 1, 4—8, 12, 13, 18—20, 29, 35, 38, 44, 45, 79, 91, 136, 161, 162. харчы́ *мн.* 34, 59, 112, 126, 131, 157. харчэ́ *мн.* 37, 120, 124. харч *м.* 60, 85, 115, 132, 144, 177, 179. **1**. харчы, прадукты. // Чі вз'ав харчі́ в доро́гу 44. Харчу́ў мало у войну́ было́ 59. Каб харчэ́ до́брыйа, са́ло ды ма́сло, дай попра́віца 120. Харчэ́ — усе́ уйе́жныйа 124. **2.** корм скаціне 7, 12, 13, 18, 29, 38, 45, 60, 79, 91, 112, 120, 144, 161, 179. **3**. стол, харчаванне 35. // На його́ харча́х 35.

**ХЛЕБ** хліп *м.* 1, 2, 8, 13, 18, 38, 40, 44, 70, 196, 202, 204. хліб *м.* 4—7, 9—12, 15—17, 19, 20,

25, 29, 35, 36, 45, 47, 54, 59, 60, 65, 71, 72, 78, 79, 80, 91, 95, 98, 102, 115, 116, 124, 126, 131, 135, 136, 139, 148, 157, 164, 165, 171, 179, 187. хлеб *м.* 37, 75, 103, 120, 132, 143—145, 151, 154, 158—161, 166, 168, 170, 172, 177, 182, 185, 198а, 199. хліе́б *м.* 83, 85. хлыб *м.* 93. хлеп *м.* 183. хлеб. // Сі́тні хлеб на во́ду пуска́йуц’ 120. Жы́тні хлеп на лісту́ пэчэ́цца, а пшоні́чны на ско́вородах 133. ◊ – ***пуцытко́вы*** 60. сітны хлеб.

**ХРАПА** хра́па *ж.* 133, 159, 165, 166, 168, 170, 171, 182. храпка з капуснага качана.

**ХРУЛІ** хруле́ *мн.* 126. суп з галушкамі з дранай бульбы.

**ХРУСТЫ** хрусты́ *мн.* 2, 80, 93, 131. сухое пячэнне, якое пячэцца ў тлушчы.

**ХРУШЧЫ** хрушчы́ *мн.* 124, 157, 160, 170, 196, 199, 202, 204. хрушчэ́ *мн.* 152. *гл.* **хрусты.** // Хрушчы́ ме́с’ац’ на жы́рэ, йа́йца, са́хар. Пэку́ц’ на по́сном ма́сле 124.

**ЦАЛКІ** ц’алкы́ *мн.* 32. бульба, звараная ў лушпінах 32.

**ЦАЦКІ** цацкі́ *мн.* 132. галушкі з грэцкай мукі. // Кру́пніку с цацка́мі навыры́ла. Цацо́к з грэ́цкай мукі́ наробі́ла 132.

**ЦЕЛЬБУХ** цел’бу́х *м.* 190. страўнік свінні. // Печо́нка, л’о́хко, йазы́к, отва́руйуц’, пас’ачэ́м, да ў цел’бу́х кладо́м 190.

**ЦЕРЦІ** тэ́рты *незак.* 1, 2, 4, 7, 11—13, 15—17, 19, 35, 38, 44, 45, 47, 60, 72, 75, 78—80, 83, 91, 95, 119а, 102, 126. та́рты *незак.* 18, 29, 34. тэ́рці *незак.* 37. це́рці *незак.* 123, 124, 139, 143, 158, 160, 168, 171. те́рті *незак.* 131. драць бульбу на тарку. // Тэ́рты карто́плі на ба́бку чы на млінцы́ 60. Сыру́ бу́л’бу це́рці да млінцэ́ пычы́ 124. Тэ́рты на тэ́ртку бу́л’бу 126.

**ЦУРА** цура́ *ж.* 52, 83. страва з кавалачкаў хлеба, пакрышаных у ваду.

**ЦЫГАНКІ** цыга́нкі *мн.* 151, 160, 164, 169, 170, 190. **1**. галушкі з грэцкай мукі, укачаныя ў канаплянае семя 160, 154, 169, 170, 190. // Кано́плі посма́жыц’, замесі́ц’ це́ста, мача́ц’ у коно́плі і п’ачы́ – то цыга́нкі 169. **2**. параная бульба, памачаная ў канапляным семені 151.

**ЦЫЛЯКІ** цыл’акі́ *мн.* 75, 143, 144. *гл.* **цалкі**.

**ЦЫМІС** цы́міс *м.* 71. яўрэйская страва з морквы.

**ЦЭД** цід *м.* 99. цэд *м.* 112, 123. цэж *м.* 132. вадкая рошчына з аўсянай мукі, з якой варыцца, кісель. // Оу́с’а́ны кісе́л’ рошчын’а́йем, на сі́то процэ́дзім, йон сстоі́цца, зліва́йуц’ во́ду, та вода́ квас’лі́ны, а остайе́цца цэж, с цэжу ва́рац’ кісе́л’ 132. Пі́ц’ цэд, то рыбако́ў не бу́дзе 112.

**ЦЯРТУН** тэрту́н *м.* 15, 16. **1**. картапляная бабка, спечаная ў блясе 15. **2**. блін з дранай бульбы 16.

**ЦЯРТУХА** т’арту́ха *ж.* 80. тэрту́ха *ж.* 83, 92. **1**. рэдкая страва з дранай бульбы 80. **2**. бабка з дранай бульбы 92. **3**. мятая бульба, залітая малаком 83.

**ЦЯТЫ** т’а́ты *мн.* 1, 5, 6, 18, 29, 35, 38, 44, 47. те́ты *мн.* 45. кроплі тлустасці на паверхні рэдкай стравы. // Те́ты стойе́т’, зана́дто тлу́сты боршч 45.

**ЧАПЕЦ** чэпэ́ц’ *м.* 4, 6, 18, 29. чэпэ́ц *м.* 19, 60, 83, 109, 120, 124, 126, 131, 132, 139, 150. чапэ́ц *м.* 59, 128, 133. ч’апе́ц *м.* 136, 169. чепэ́ц *м.* 144, 148. чопе́ц *м.* 145. чапе́ц *м.* 123, 151, 154, 157, 158, 162, 164, 165, 166, 172, 178, I79, 182, 199, 203. нутраны свіны тлушч вакол страўніка. // Жолу́док укру́чаны ў чэпэ́ц 124. Ч’апе́ц круго́м кіндз’уха́ 136. Чапе́ц с ко́ўбіка, то́піцца на шме́л’ац 179.

**ЧОХАЦЬ** чо́хац’ *незак.* 120. скрэбці (маладую бульбу).

**ЧОХРЫЦЬ** чухра́ты *незак.* 71, 79а, 80. чо́хрыц’ *незак.* 120. **1**. абдзіраць (маладую бульбу) 71, 79а, 80. **2**. драць бульбу на тарцы 120.

**ЧУСТРАНІК** чустра́нык *м.* 20. блін з дранай бульбы.

**ЧУСТРЫЦЬ** чустры́ты *незак.* 18, 20, 29. драць бульбу на тарцы.

**ЧУХМОРЫЦЬ** чухмо́рыц’ *незак.* 124. дзерці бульбу на тарцы.

**ЧУЧАРАПОК** чу́черэпок *м.* 59, 60, 78. вылівак. // Чу́черэпка вы́лыла 78.

**ЧЫНІЦЬ** чэнэ́ты *незак.* 72. чыні́ц *незак.* 144. чыні́ц’ *незак.* 160. **1**. начыняць мясам 72, 160. // Чэ́н’ац’ то́нкы ке́шкы 72. **2**. трыбушыць (рыбу) 144.

**ЧЭРЭЗЛОЖКУ** чэрэ́зложку *прысл.* 75. радкавата.

**ШАЛУПІННЕ** шалупі́нне *н.* 3б. 52. *гл.* **лупіна** 52.

**ШАР** шар *м.* 198а. пласт, слой сала (у дзежцы, скрынцы).

**ШАТКОВАНКА** шатко́ванка *ж.* 136, 151, 158, 191. шаткаваная квашаная капуста.

**ШАТКОЎКА** шатко́ўка *ж.* 139, 154, 169, 170, 173, 187, 190. *гл.* **шаткованка**.

**ШВЕДЫ** швэ́ды *мн.* 83, 91, 98, 119, 120. шве́ды *мн.* 102. **1**. шкваркі сала 83, 91, 98, 119, 120. **2**. кавалачкі вытапленага сала. // Шмал’ц – тук без шве́доў 102.

**ШКАБУРАЦІНКА** шкабура́тінка *ж.* 173. хлебная скарынка.

**ШКАРАЛЮШЧА** скорол’у́шча *ж.* 13, 112. шкорол’у́шча *ж.* 95, 98, 135. *гл.* **шкарлупа**.

**ШКАРЛУПА** шкорлу́па *ж.* 1, 6, 12, 16, 17, 44, 79а, 113, 115, 144, 148. шкорол'у́па *ж.* 4, 18-20, 47, 72, 80, 168. шкаралу́па *ж.* 34, 60. шкару́па *ж.* 91, 99, 131, 139. скорлу́па *ж.* 124. шкарлу́па *ж.* 178, 198а, 199. шкарлу́пка *ж.* 191. лушпіны на яйцы.

**ШКЛЕНДА** шкле́нда *ж.* 1, 4, 7, 38. шклэ́нда *ж.* 2. **1.** род мясной каўбасы, напханай ў тоўстую кішку 1, 2, 4, 7. // Шкле́нду у гру́быйа кы́шкы папыха́йут м'а́сом, жы́ром 4. **2.** крывяная каўбаса 38.

**ШКУРКА** шку́рка *ж.* 11, 19, 20, 29, 124, 126, 128, 131, 132. ску́рка *ж.* 171. пенка на параным малацэ. // Шку́рка ужэ́ йест на молоку́ 126. Знімі́ з молока́ шку́рку 128.

**ШМАГАРЫЛЬЧЫК** шмагоры́л'чык *м.* 102. прыгарэўшая зверху бульбіна.

**ШНЕКІ** шне́кі *мн.* 123. аладкі на содзе.

**ШПЕРКА** шпы́рка *ж.* 4, 6, 7, 8, 12, 13, 15, 17, 20, 25, 29, 35, 38, 40, 44, 45, 47, 50. шпэ́рка *ж.* 16, 19, 65. шпі́рка *ж.* 26, 32, 34, 80. шпе́рка *ж.* 72, 99. **1**. верхняе свіное сала 15–17, 25, 26, 29, 32, 34, 44, 45, 47, 50, 72. // Шпы́рка на п'ад' 15. Шпе́рку сма́жац', ва́рац', жа́рацьʼ 34. То́ўстайа шпы́рка, то́нкайа шпы́рка 44. **2**. тонкае, худое верхняе сала 8, 19, 20, 40, 65, 80. // Бока́, подчіры́в'йе на шпы́ркы склада́йуц' 20. **3.** адрэзаны кавалак тонкага сала 4, 35, 38, 99. // Йак коро́вы пожану́т' па́с'віт', то гово́р'ат от до́бру шпы́рку покла́ла, то́нкого са́ла 35. Укы́нут шпы́рку у боршш ', у , капу́сту 4. Одрі́ж шпе́рку са́ла 99. **4**. кавалак сала, звычайна варанага або печанага 7, 8, 12, 13, 18.

**ШТЫБЛІК** шты́блік *м.* 193а. адрэзаны кавалачак сала.

**ШЧАВЕЛЬ** шчавэ́л' *м.* 52. шча́вэл' *м.* 112, 116а. шча́вел' *м.* 159, 177, 190, 191. *гл.* **шчавэй.** // Шчаўл'у́ навары́ла 190.

**ШЧАВЕР** шча́вер *м.* 116, 139, 143. шча́вэр *м.* 133. шчаве́р *м.* 164, 171. *гл.* **шчавэй**.

**ШЧАВЕЦЬ** шчаве́ц' *незак.* 112. шчаўле́ц' *незак.* 115. пракіснуць (пра малако).

**ШЧАВУХ** шчаву́х *м.* 34, 144. шчаўйу́х *м.* 71. *гл.* **шчавэй**.

**ШЧАВЭЙ** шчавэ́й *м.* 60, 75, 79, 91, 95, 98, 131. шчаве́й *м.* 126, 128. квасная страва з варанага шчаўю. // Чут' не забу́ла, шчо шчавэ́й шчэ ны посолы́ла 98.

**ШЧАЎЕ** шча́ўйе *н.* 109, 113, 203. шча́в'йе *н.* 115. *гл.* **шчавэй**.

**ШЧОЛАК** шчо́лок *м.* 1, 2, 4, 8, 12, 37, 38, 52. шчі́лок *м.* 5. **1.** рэдкае ў страве 1, 2, 4, 5, 8, 37, 52. // Шчо́локу само́га навары́ла. Абы ф су́пе, то шчо́лок 2. Навары́ла ры́дко, шчо́лку мны́го 4. Слі шчо́лок, а гу́шчу собі́ оста́в 5. **2**. сок 2. // Рэ́д'ка постоі́ц', шчо́лок пу́с'ціц' 2. **3**. кампот з груш, яблыкаў 2, 5. **4**. малако, пераваранае з вадой 8. // Моло́чны шчо́лок до́бре пріхлі́стуваты 8. **5**. булён, мясны адвар 8, 12, 38. // Кусо́к м'а́са укі́нула і навары́ла шчо́лку 12. Шчо́лок – шос' ва́рыш і зліва́йеш його́ і йе́с'лі загу́сто, то, надлі́й шчо́лку 8. **6.** суп з бульбы 2, 4, 5, 7.

**ШЫНКА** шы́нка *ж.* 6, 18, 29, 102, 120, 131, 144, 157. шэ́нка *ж.* 16. **1**. вэнджанае сцягно, лапатка 6, 16, 18, 29, 38, 102, 144. **2**. сцягно (свежае) 16, 120, 131, 157.

**ШЫШКІ** шышкы́ *мн.* 7, 60, 91. шышкэ́ *мн.* 71, 99. шышкі́ *мн.* 75, 115, 131. шы́шкі *мн.* 79, 93, 116, 120, 121, 123, 124, 133, 135, 139, 148, 157, 164, 165, 166, 168, 169; 179, 198, 199. **1**. упрыгожванне на каравай 7, 60, 75, 79, 91, 93, 99, 115, 116, 120, 124, 131, 132, 133, 139, 157, 165, 169, 166, 168. // Шы́шкі і ро́зкі саджа́лі на корова́й 120. Шы́шкі, калачэ́ п'аку́ц' ды на корова́й ве́шайуц' 133. **2**. вясельная булачка з каравайнага цеста 71, 123, 148, 164, 179. // Молода́йа н'асе́ шы́шку ў ту́йу ха́ту 148. Шы́шак накача́йуц' з карава́йнага це́ста 179. **3**. сухія вырасты на краях буханкі хлеба 116, 121а, 124, 132, 148, 152, 157, 165, 166, 168, 170, 198а, 199. // Шы́шкі ву́скочылі у бу́лцы 116. Йак шы́шкі повыгон'а́йе то до́бры хлеб 124. Хлеб уда́чны, такі́йе шы́шкі павыпіра́ло 166. **4**. булачка з пшанічнага цеста 60.

**ЮРДА** йурда́ *ж.* 151. заправа з тоўчанага канаплянага семені, разведзенага вадой. // Йўрду́ у пост робі́лі. Натаўку́ц' се́мені, ц'о́плой воды́ перава́раной, перамеша́йуц', посо́л'ац'. Моча́йуц' хле́бом, ла́дкамі 151.

**ЮРОК** йуро́к *м.* 72. булачка, якая пячэцца на Юр'я. // Йуркі́ кладу́ц' у жы́та, калі віднó іх, то бу́дзе плохі́ уража́й 72.

**ЮХА** йу́ха *ж.* 35, 36, 60, 80, 91, 98, 112, 113, 115, 116а, 119, 120, 123, 126, 131, 132, 135, 136, 139, 145, 257, 159, 160, 165, 171, 177, 178, 187, 190, 191. йуха́ *ж.* 196. **1.** *гл.* **юшка 2** 35, 36. // Йу́ху з крыві́ ва́рац' 36. Йу́ху рі́дко ва́рым, кры́шку хлі́ба кіда́йут', каб была́ кісле́йша 35. **2**. *гл.* **юшка 1** 60, 79а, 120, 123, 132, 135. // Йу́ху вы́іла, а крышаны́ оста́ліс' 60. І́ншы сса́джвайе, ато́ з йу́хойу налілá і йеж 123. **3**. квашаніна, халоднае са свіных ног і г.д. 91, 98, 116а, 135, 136, 157, 159, 165, 177, 178, 190. // Йу́ху ва́рац' у л'у́дскас'ц' 187. **4**. *гл.* **юшка 4** 79а, 91, 112, 113, 115, 116а, 119, 119а. // Йу́ху с карто́пол' отц'у́ і дз'уемо 79а. **5**. рыбная юшка; халадзец з рыбы 91, 98, 119а, 119, 120, 126, 131, 136, 139, 145, 160, 171, 178, 187, 190, 196. // От бога́то ры́бу налові́лі. Бу́дзе й на йу́ху 145. Йу́ха йак нава́рымо уйуно́ў 171. **6**. *гл.* **юшка 9** 101, 191. **7**. *гл.* **юшка 11** 91, 93. ◊ ***йу́хойу карто́плі*** 187.

